





*Людзі Беларусі*
КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 6*

*1992–1993*

Мінск, «Кнігазбор», 2019

УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова і тэксталагічная падрыхтоўка
Наталлі Давыдзенка

Заўвагі
Наталлі Давыдзенка і Ірыны Сляповіч

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Укладальнік і выдавецтва выказваюць шчырую падзяку
Уладзіміру Сіротку, Генеральнаму дырэктару ООО «SoftClub»,
і Ліне Каўрус
за дапамогу ў выданні кнігі.

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 6. 1992–1993 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 284 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7207-75-6.

Чарговы том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў. 1992–1993» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна раскажа чытачам пра напружанае грамадскае жыццё творцы, новыя тэмы і накірункі ягонай паэзіі. У кнізе змешчаны болей за сто недрукаваных раней вершаў, накідаў, сяброўскіх эпіграм, віншаванняў і прысвячэнняў. Вялікая колькасць зносак на ўпамянутых асоб і творы паэта дапамогуць магчымым даследчыкам у вывучэнні жыцця і творчасці паэта.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7207-75-6**

# Ад укладальніка

*Чарговы том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў. 1992–1993» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ахоплівае два гады напружанага творчага, працоўнага і грамадскага жыцця паэта. Новы час — і новы статус краіны прынёс і пэўныя цяжкасці. Інфляцыя з'ядала заробкі, выдавецкая справа прабуксоўвала, уздым грамадскай актыўнасці прынёс новыя трывогі, хваляванні і спадзяванні. І паэт не заставаўся ўбаку ад бурлівай плыні жыцця: удзельнічаў у соймах БНФ, рупіўся пра ўладкаванне ПЭН-цэнтра. Ён, загадчык рэдакцыі збораў твораў і выбраных твораў, член Савета працоўнага калектыву і рэдкалегій выдавецкіх серый, не спыняў працу шарагоВага рэдактара, рупіўся пра памяць і выданне твораў рэпрэсаваных творцаў і пісьменнікаў старэйшага пакалення — Л. Генію ш, У. Дубоўкі, А. Звонака, І. Харыка, П. Панчанкі, Р. Рэлеса, У. Караткевіча, В. Быкава.*

*Прыпыніліся паездкі за межы рэспублікі, але ж не падала цікаўнасць і ўвага да самых розных падзей культурнага жыцця. Абмеркаванне выбару тэксту новага гімна, мерапрыемствы, прысвечаныя памяці ахвяр Мінскага гета, прыём у гонар міністра замежных спраў Ізраіля Ш. Перэса, ураджэнца Валожыншчыны, а таксама з'езд беларусаў свету. Сустрэчы і паездкі з беларусамі замежжа ў Хатынь і Курапаты. Адкрыццё помніка У. Караткевічу ў Оршы, надмагілля Л. Баразне ў Талачыне, помніка Я. Драздовічу ў Мінску, Дні М. Шагала і Міжнародная канферэнцыя, прысвечаная творчасці мастака, у Віцебску. Выставы беларускіх мастакоў. І з не меншай цікавасцю — паходы на тую ж Камароўку — гэты «мікрасвет з усімі ягонымі праблемамі і страсцямі», дзе віруе народнае жыццё.*

*Паэт, па-сапраўднаму чалавек веруючы, марыў пабачыць Іерусалім: «Адзінае вандраванне, куды імкнецца душа мая». І паездка нарэшце спраўдзілася ў чэрвені 1993 г. Яна сталася ці не самай важкай і важнай у ягоным жыцці. І там ён сустракаўся з землякамі і роднымі М. Кульбака, І. Платнера, А. Скіра. І не мог не заўважыць спачувальна сум іх вачэй.*

*У верасні 1992 г. Рыгору Барадуліну было нададзена званне народнага паэта. І шчырая ягоная заўвага: «Нейкая трывога і адчуванне сораму. Я ўсё той жа ўшацкі малец, які баяўся ісці вуліцай пад позіркамі местачкоўцаў». І Паэт не пераставаў прыслухоўвацца да сябе і чужых ацэнак і меркаванняў і сталых творцаў, і зусім маладых. «Мне цікава, каму прыемна маё пісанне. Ці не ў паветра страляў усё жыццё?»*

*Пабачылі свет зборнік новых вершаў «Міласэрнасць плахі» (1992), «Трэба дома бываць часцей...: Выбраныя старонкі лірыкі» (1993) і «Беларусь мяне збеларушвае»(1993) — зборнік вершаў 77-мі (!) паэтаў свету пра Беларусь у перакладзе Р. Барадуліна. Па просьбе Купалаўскага тэатра ён перакладае п'есы Мальера і К. Гоццы. Але самы важкі паэтычны набытак — гэта вялікія і без перабольшання геніяльныя цыклы вершаў, якія ўвабралі ў сябе дух, мудрасць і векапомнасць Бібліі: «Следам Эклезіяста», «Следам Прыпавесцяў Саламонавых», «Следам Апостала Паўла» і «Стане Віфліемам сэрца...»*

*Паэт не шкадуе часу і на ўвагу да творчасці сяброў і калег па пяру: уважліва перачытвае зборнікі, каб напісаць прадмову, артыкул, і паступова распачынае ўспаміны. І не быў бы то Рыгор Барадулін, каб ён забыўся на свой улюбёны гарэзлівы жанр — сатыру і гумар, прыдумляючы і новыя паджанры: катастрофы, дурноты, цвялілкі. Да сяброўскіх шаржаў Ф. Варанецкага піша эпіграмы на актораў. Сумесная праца была выдадзена Купалаўскім тэатрам асобнай кніжачкай пад назвай «Неакадэмічная калода» (1993). А яшчэ ён з асалодай, чуйна прыслухоўваючыся, назірае за любай унучкай, як яна ўваходзіць у свет роднага беларускага слова. «Гэта апошні вузялок, які звязвае мяне з днямі наступнымі. Гэта ўцеха мая, чыстая радасць, святое шчасце».*

*У гэтыя гады Рыгор Іванавіч уцягваецца ў новую творчую галіну — працу над дакументальнымі фільмамі. Не пералічыць усіх мясцін Беларусі, якія ён аб'ездзіў са здымачнай групай відэацэнтра. З яго ўдзелам ці па яго сцэнарыях ствараюцца стужкі: «Белая вежа — цемра густая» (пра паляванні ў Белавежскай пушчы кіроўчых асоб розных часоў), «Ушацкія вяселлі», «Ой, ляцела шэра перапёлка...» (пра родзічку Марыю Рыгораўну і народныя песні ў яе выкананні), «Ля берага човен чакае мяне...» (пра У. Дубоўку), «У чым жа існасць існавання», «Дзівосная Дзвіна», «Зялёны ўспамін» (пра Налібоцкую пушчу). І канечне, у том увайшлі болей за сто новых тэкстаў — вершаў, якія не друкаваліся ў ягоных зборніках, а таксама сяброўскіх эпіграм, прысвячэнняў, віншаванняў. Тэксты, якія не былі змешчаны ў томе, упамінаюцца наступным чынам: падаецца назва і першы радок з пазнакай: [у блакноце; ці: у дзённіку]. Ці, напрыклад, сатырычныя цыклы: «Катастрофы. Строфы ката: Да гаспадыні; Да кошкі; Да мышкі. Строфы ка́та: Да пятлі; Да сякеры; Да плахі» [у дзённіку]. Дадатковыя запісы з дакладнай датай пазначаны адной зорачкай, толькі годам — трыма ці з дадаткам «Без даты». Курсівам выдзелены назвы гарадоў і вёсак, дзе пабываў паэт.*

*Праца над наступнымі тамамі дзённікаў плённа працягваецца.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1992

*1 студзеня, серада*

Дзень добры, Новы год! Спагадлівы будзь, асабліва да ўнучачкі мае Домначкі[1]. Гэта апошні вузялок, які звязвае мяне з днямі наступнымі. Гэта ўцеха мая, чыстая радасць, святое шчасце. Божа, дай ёй долю добрую ў гэтай вар'яцкай імперыі, з якой Беларусь не можа выкараскацца! Да Тараса[2] ў клініку хуткай дапамогі. Яму зрабілі цяжкую аперацыю. Выразалі такі камень, які адразу папрасілі ў музей. Усе сябры пастарэлі. Толькі па сябрах адчуваеш, як ты сам астарэў[3]. Навум[4] сумаваў, што не так пражыў жыццё. Гэта жорсткі самавывад. Наогул, відаць, кожнаму здаецца, што жыццё пражыта не так, як хацелася б, у канцы яго. Паехалі з Валяй[5] да Ілоны[6] карміць ката. Такое самотнае стварэнне — кот без гаспадароў. І лашчыўся, і муркаў, як чалавек выказваў сваю радасць і сум свой. [...] У аўтобусах дэкласаваная публіка. Напаўп'яная, напаўблатная, выплоддзе сістэмы заклятага савецкага ладу. Для камуністаў трэба было вывесці статак быдла русскомычащего, і вывелі.

Віншаванняў з Новым годам мала, званкоў таксама, каго няма ўжо, хто хворы, а хто заняты праблемай кавалка хлеба. Людзі чарсцвеюць хутчэй, чымся чарсцвее хлеб. Чэрствы хлеб — усё той жа хлеб, а чэрствы чалавек — няпоўны чалавек, нейкая часціна ягоная.

*2 студзеня, чацвер*

Захворваю. І не хачу паддавацца хваробе, хвароба на яе галаву. Унучачка дурэе, балбоча, называе сябе мартышка-тышка.

«Зямля і маці»[7], «Пасля»[8], «Засланяйма ад ворага!»[9]

---

[1] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[2] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[3] Гл.: «Мы заўважаем па сябрах...» (4.01.92) // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 142.

[4] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

[5] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), беларускі філолаг; жонка. У 1967–1994 гг. ст. рэдактар выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі («БелЭ»).

[6] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), дачка; мастачка.

[7] Гл.: Зямля і маці (2.01.92) // Трэба дома бываць часцей... Мінск, 1993. С. 330.

[8] Гл.: Пасля (2.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 221.

[9] Гл.: Засланяйма ад ворага! (2.01.92) // Барадулін Р. Слаўлю чысты абрус: Выбранае. Мінск: «Беларусь», 1996. С. 169.

*3 студзеня, пятніца*

Думаў, што сканаю, так блага мне было. Вечарам званіў Васіль[1], сказаў, што сёння ведзьмін дзень. Адкуль ён ведае заўсягды гэтыя дні?

*4 студзеня, субота*

Па горадзе скрозь чэргі. Усё мятуць, што толькі льга. Дамінічка ў нас. Валя з ёй умее ладзіць. Хораша!

*5 студзеня, нядзеля*

Сядзеў дома. Пісаў віншаванні з Калядамі. Снег быў злез. А пад ноч завіруха. Мароз калядны бярэцца за сваё. Хіба што часіны года не ўдалося […] камуністам змяніць.

*Леаніду Дранько-Майсюку[2]*

З Калядамі віншую Вас,
Мой малады шаноўны дружа,
Няхай ні халады, ні сцюжа
Не праймуць у нядобры час.
Настрою Вашага блакіт
Хай ясніць Васілёк[3] ласкавы,
Хай прыбывае Вашай славы,
А сум хай пашукае скіт.
Хай княжыць з ціхай дабрынёй
Княгіня Вольга[4] ў сэрцы мужа.
Вам не адмовіцца ад гужа,
Што Вас яднае з вышынёй!

---

[1] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986). Гл.: Трыпціх: Апостал нацыі; Космас Васіля Быкава (1993) // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 61; 65.

[2] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. 1982–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Дранько-Майсюк Васіль Леанідавіч (н. 1981), сын Л. Дранько-Майсюка; будучы тэатральны рэжысёр, драматург.

[4] Шчадрына Вольга Анатольеўна (н. 1958), беларуская журналістка. Супрацоўніца газ. «Культура». Жонка Л. Дранько-Майсюка.

*Уладзімеру Арлову*[1]

*На пачатку было Слова,*
*І Слова было ў Бога…*

Хай жа вернецца й слова Арлова,
Хай ягонага мёду густога
Стане ўдосыць крывіцкаму роду
На трыванне і на нязгоду,
На ўсхлын супроць здзекаў
На векі векаў!

*6 студзеня, панядзелак*

Камароўка. Базар — гэта мікрасвет з усімі ягонымі праблемамі і страсцямі. Жыццё і кірмаш, дзе сябе паказваюць і іншых глядзяць, і торг — нешта купляеш, а плоціш здароўем, скарачаеш сам жа дні свае.

Калядны вечар. Палілі свечкі.

«Чайнік з забінтаваным носам…»[2]

*7 студзеня, аўторак*

Прыехаў з Межава, што на Аршаншчыне, мой сябра школьных гадоў Алесь Лобкіс[3]. Прывёз свае вершы. Ён выкладае ў школе геаметрыю, жонка беларусістка. Як і ва ўсяе Беларусі, беларусізацыя ў школе не йдзе. ТБМ[4] — гэта чарговая канторка з пасадамі, з правам падачы кандыдатам пры выбарах. Усівярэлы, з рэзка парэзаным маршчакамі аблiччам, увесь ад зямлі і ад клопатаў на прысядзібным участку настаўнік. Сам кажа: жыццё йдзе па трохкутніку: хата (сам будаваў і камяні цягаў на падмурак, а за тое, што пісаў за завочнікаў курсавыя, памагалі тэхнікай — трактарам, машынай і г. д.), школа, крама (а ў ёй не заўсёды ёсць першанеабходнае). Трымае курэй, парсючка. Калі і трымаў карову і здаваў малако, меў бы і камбікорм для парсючка і што іншае. А так цяжка карміць. А хлебам не можа — душа баліць, помніць, як пасля вайны ў Вушачы цяжка было данесці цэлую буханку ад магазіна да хаты. Яна так і прасілася ўшчыкнуць яе. Як дзяўчына пазней, калі вёў з вечарынкі[5]. Успамінаў, як дзядзьку, калгаснаму здаравілу — кавалю (у палоне быў, але дзякуючы выключнаму здароўю, выжыў) ушацкі гэбіст Калашнікаў (падонак!) заганяў іголку

[1] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі гісторык, паэт, празаік, перакладчык. У 1988–1997 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986).

[2] Гл.: «Чайнік з забінтаваным носам…» (6.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 216.

[3] Гл.: Ліст у Межава (5.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 336. Верш прысвечаны А. Лобкісу.

[4] ТБМ — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (1990–1997).

[5] Гл.: «Як цяжка было данесці буханку…» (9.08.93) // Тамсама. С. 63.

пад пазногці. А маці вучыла жонку варыць варэнікі. Алесь аболтусу сыну кэгэбіста рашаў задачкі. Гэта пазней дзядзька расказваў.

Вершы ў Алеся ёсць, толькі дужа зашпілены ён на ўсе гузікі. Трэба трошкі расшпіліцца. Нават расхрыстацца. Нешта ўскалыхнулася. Глыбока-глыбока. Сустракаемся з сябрамі маладых гадоў, каб расстацца з жыццём.

*8 студзеня, серада*

Даменіка ў нас яшчэ засталася.

Засядаў у Мінкультуры па гімну. Іллюкоў сын Вярцінскі[1] адзін выступіў у абарону Краўцова[2] і Тэраўскага[3] («Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»). А рэшта ад Роўды[4] да так званых музыказнаўцаў і нейкае фіфы з міністэрства за тое, каб было лагодна, бо беларусы ціхамірныя. Бальшавіцкая зараза праехалася па ўсіх мазгах. І ў бальшыны рэчыва не шэрае, а чырвона-савецкае.

*9 студзеня, чацвер*

З раніцы званіў Васіль. Шукаў Еўтушонак[5] (гэтак правільна, калі Яўтух хоча быць з беларусаў, альбо Еўтушок), каб наш ПЭН-цэнтр[6] падтрымаў Незалежны саюз. Бо нашы Васі на чале з Вась-Васем Зуёнкам[7] падпі-

[1] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[2] Краўцоў Макар Мацвеевіч (сапр. Касцевіч; 1901–1939), дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэт, публіцыст, перакладчык. Рэпрэсаваны. Ягоны верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» стаўся гімнам БНР.

[3] Тэраўскі Уладзімір Васільевіч (сапр. Цяраўскі; 1871–1938), беларускі харавы дырыжор, кампазітар, фалькларыст. Рэпрэсаваны.

[4] Роўда Віктар Уладзіміравіч (1921–2007), беларускі харавы дырыжор, педагог. Народны артыст БССР (1978). Народны артыст СССР (1990). Кандыдат мастацтвазнаўства (1956). Прафесар (1975). У 1965–2007 гг. мастацкі кіраўнік і гал. дырыжор Акадэмічнага хору Белтэлерадыё, а таксама мастацкі кіраўнік Канцэртнага хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, у 1963–2007 гг. заг. кафедры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[5] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[6] ПЭН-клуб (P. E. N., скар. ад англ. poets — паэты, essayists — нарысісты, novelists — раманісты). Міжнароднае аб'яднанне пісьменнікаў, заснаванае ў 1921 г. англійскімі пісьменнікамі Дж. Галсуорсі (1867–1933) і К. Э. Даўсон-Скотт (1865–1934). Рэгіянальныя аб'яднанні мянуюцца ПЭН-цэнтрамі.

[7] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1990–1998 гг. старшыня СП БССР. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

салі сабе ўчора прысуд. Ім хочацца быць [...] бондараўскага[1] гатунку. Трэба некага ў Маскву для падпісання ўмовы ад імя ПЭН-цэнтра. Угаварыў Някляева[2].

Васіль дужа хворы, і па голасе па тэлефоне чуецца, што слабы. Божа літасцівы, зберажы для пакутнай і гаротнай нацыі нашай Васіля!

*10 студзеня, пятніца*

Хатнія клопаты. Званіў Васілю. Зноў сышліся на думцы, наколькі прадбачыў ўсё з Ельцыным[3] і Расіяй Пазьняк[4].

Ад цэнаў, ад няўтульнасці апускаюцца рукі. Але ўнучка!

*11 студзеня, субота*

Сабраўся йсці на сойм БНФ[5], сціснула сэрца. Яшчэ гэтага не хапала! Ляжаў, чытаў, хварэў.

*12 студзеня, нядзеля*

Трэба было йсці на тэле, не змог. З хворым сэрцам пісаў «Верш і воблака»[6].

---

[1] Бондараў Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983).

[2] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі Е. Гедройца (2013), Літаратурных прэмій Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2014) і імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[3] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1991–1999 гг. прэзідэнт Расійскай Федэрацыі.

[4] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). У 1976–1996 гг. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. З 1996 г. у эміграцыі ў ЗША.

[5] Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» (БНФ) — грамадскі рух (з 1988), партыя (з 1993).

[6] Гл.: Верш і воблака (12.01.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 337. Верш прысвечаны П. Панчанку. *Панчанка* Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*13 студзеня, панядзелак*

Да Яшы[1] па лекі. Праца. Карэктуру ў «Маладосць», па пярсцёнак да Любімава[2] і крыжык. Тэлеграму Веры Вярбе[3] (ёй заўтра дата).

Сустракаў [стары] Новы год. Званіў Васілю, заўтра ж Васілле. Цікава, што Гамсахурдзія[4] абкладзены кэдэбісцкімі апазіцыянерамі, якія трымаюць сувязь з «імператарам» Ельцыным і кадравым кэдэбістам Шэварднадзе[5]. Перакладаў Элюара[6].

*14 студзеня, аўторак*

Сёмуха[7] дужа хваліў пераклад «Ціхай начы…»[8]. Гамана на працы.

Забраў у мастака Юрыя Любімава пячатку і крыжык. Крыжык з укрыжаваным Хрыстом. Некалі амаль такі мне мама дала. Дзе ён?

*15 студзеня, серада*

На кінастудыі глядзеў мастацка-дакументальныя стужкі Станіслава Гайдука[9]. Вачыма беларуса глядзіць на свет, душою беларуса адчувае жыццё. Рэдкая з'ява на нашай беларускай толькі шыльдай студыі, прыдатку маскоўскай імперскай. Фільмы пра Язэпа Драздовіча[10], Кірыла Тураўскага[11], Насовіча[12], беларускіх мастакоў зламу мінулага стагоддзя (Хруцкі[13], Ва-

[1] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт.

[2] Любімаў Юрый Міхайлавіч (н. 1938), беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

[3] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса. Гл.: Як сама паэзія (1993) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 109.

[4] Гамсахурдзія Звіяд Канстанцінавіч (1939–1993), грузінскі палітычны дзеяч, пісьменнік. У 1991–1992 гг. прэзідэнт Рэспублікі Грузія. Забіты.

[5] Шэварднадзе Эдуард Амвросьевіч (1928–2014), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1992 г. старшыня Дзяржсавета, у кастр. 1992–1995 гг. старшыня ВС РГ.

[6] Элюар Поль (сапр. Эжэн Эміль Поль Грэндэль; 1895–1952), французскі паэт. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Міра (1953).

[7] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык. У 1972–1996 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992). Гл.: Васіль Сёмуха (2004) // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 36.

[8] Гл.: Святая ноч (30.12.91; пер. з ням.) // Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2005. Выд 1. С. 162.

[9] Гайдук Станіслаў Аркадьевіч (1945–2017), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Рэжысёр Кінастудыі «Беларусьфільм».

[10] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888–1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, фальклярыст, археолаг, пісьменнік.

[11] Кірыл Тураўскі (каля 1113 — пасля 1190), беларускі і ўсходнеславянскі царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў.

[12] Насовіч Іван Іванавіч (1788–1877), беларускі мовазнавец-лексікограф, фальклярыст, этнограф.

[13] Хруцкі Іван Фаміч (1810–1885), беларускі мастак.

ньковіч[1], Рушчыц[2] і інш.). Гутарылі і на тэму, адкуль характар Ларысы Геніюш[3]. Відаць, галоўнае, што яна не засаветаыаваная. Гэтая пошасць не закранула шчырую душу беларускі. Прага яшчэ болей еўрапезавала яе, вярнула да таго, што было да захопу Беларусі маскалямі. Лагер не зламаў яе. Любы чалавек іграе на сцэне жыцця. І яна іграла да канца, з выклікам ідучы насупор усялякай небяспецы. І перамагала, і перамагла. Святая пакутніца за беларускасць нашую. З характару яна толькі вялікаму ўкраінцу Тарасу Шаўчэнку[4]. І пакутамі большымі. І малявала.

«Я лёгка сябе адчуваю…»[5].

*16 студзеня, чацвер*

Праца. Тлум. У «Народнай газеце»[6] […] Майсеня[7] патрабуе перагляду граніцаў з Літвой. У КДБ адзін сцэнарый. Хоць бы што змянілі.

У «Вожык» подпіс на Данскую[8] Святлану Львоўну.

Васілю па тэлефоне прачытаў спіс […] прыхвастняў, якія падпісалі ксіву ў «Звяздзе». Тут і Сачанка[9], і Лужанін[10].

*Васіль Быкаў*

Не шкадаваў ні сіл, ні часу,
Каб беларускі ўзняць прэстыж.
Праклаў у небе славы трасу —
Бычкі — Берлін,
Бычкі — Парыж.

---

[1] Ваньковіч Валенцій Мельхіёравіч (1800–1842), беларускі мастак.
[2] Рушчыц Фердынанд (1870–1936), беларускі мастак, графік, тэатральны мастак і педагог.
[3] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана (1948–1956).
[4] Шаўчэнка Тарас Грыгор’евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак. Быў здадзены ў салдаты царскімі ўладамі (1847–1857).
[5] Гл.: Лёгка (15.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 339.
[6] «Народная газета» — грамадска-палітычная газ. ВС РБ (з 1990).
[7] Майсеня Анатоль Іосіфавіч (1959–1996), беларускі журналіст, палітолаг. У 1992–1996 гг. прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход — Захад».
[8] Данская Святлана Львоўна (н. 1938), беларускі ўрач-псіхіятр, нарколаг. Гл.: «А магіня можа пад гіпнозам…» (16.01.92) // Асобы markнай пробы. Мінск: Бібл-ка «Вожыка» № 3 (225), 1994. С. 47.
[9] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1986–1993 гг. заг. рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991).
[10] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны (1933–1934). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965).

З усіх духоўных нашых пікаў
Вышэйшы пік завецца Быкаў.

*17 студзеня, пятніца*

На працы па тэлефоне прачытаў усю мярзоціну, якую падпісалі дзясятка ў «Звяздзе». Гэта спроба сарваць магчымы Чарнаморска-Балтыйскі варыянт. Расейская імперыя застаецца без выхадаў да мора. Ужо кампанію рускія вялікадзяржаўныя рылы пачынаюць пра Крым. Бачыце, незаконна да Украіны. А ўсе заваяваныя Расіяй землі законна. Паўсюль КДБ кіруе.

Для «Вожыка» на Васіля:

А ў Быкава хата не з краю,
Таму, не адстаўшы нідзе,
Дасьетчыкаў воўчая зграя
Дагэтуль па следзе ідзе.
Бо клопат у майстра — пісаць,
А ў зграі — брахаць і кусаць.

*18 студзеня, субота*

Да Радзіка[1]. Усіх захлынула палітыка. І добра, што маладыя ўмеюць вырывацца, каб прарвацца да вечнага. Перачытвае Дастаеўскага[2]. Шукае ісціну. Параўноўвае Ветахавы запавет з Маладзіковым запаветам. «Хто скажа...»[3], «Трысцё»[4]. Толькі адно, бадай што, выйсце ў шалёныя дні кружэння і знявер'я — пісаць вершы. Хай для сябе. Хай аднаму пачытаць каму. А ўсё адчуванне, што ты нечым заняты і, можа, хоць каму-небудзь патрэбны. Паэзію адразу з разраду абслугі сістэмы перавялі ў разрад аматарства, ледзь не красвардызму.

*19 студзеня, нядзеля*

«Учора, здаецца...»[5], «Вадохрышча»[6].

Да Радзіка. У яго новая кніга, свежая, цікавая[7]. Расце паэт на вачах, не вонкава, а ўнутрана.

---

[1] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. У 1990–1998 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША.

[2] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, крытык, публіцыст.

[3] Гл.: «Хто скажа...» (18.01.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 330.

[4] Гл.: Трысцё (18.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 329. Верш прысвечаны Л. Баршчэўскаму. *Баршчэўскі* Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1989). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[5] Гл.: «Учора, здаецца...» (19.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 183.

[6] Гл.: Вадохрышча (19.01.92) // Тамсама. С. 310.

[7] Лапушин Р. Между листьями и снегом. Минск, 1993.

*20 студзеня, панядзелак*

На кінатудыі фільмы Гайдука. Цікавыя, з душой зробленыя. Пра Скарыну[1] крыху падпсаваны сцэнарам парт[…] Петрашкевіча[2].

У Купалаўскай бібліятэцы паседжанне Біблейскага таварыства Беларусі[3].

*21 студзеня, аўторак*

Праца. Да Пятра Ісаевіча[4]. Вечарам званіў Васіль. Наконт арэнды ПЭН-цэнтрам «Мутнага вока»[5]. Каб мы не прагарэлі, шырока замахнуўшыся.

Мне прыйшла дурная думка, а ці праводзіцца індэксацыя выплаты стукачам? 30 рублёў, якія йдуць ад 30 срэбнікаў, сёння проста адна назва.

*22 студзеня, серада*

Праца. Думаю над кампазіцыяй аднатомніка, які можа стацца апошнім прыжыццёвым і апошнім пасмяротным. Такі час. Такія адносіны да беларушчыны. Яшчэ працягваюцца з часін Расійскай імперыі і яе пераемніцы крымінальна-савецкай.

Кааператывы ўжо звар'яцелі. Кашуля індыйская (каштавала не болей 20 рублёў) — 600. Гэта пры пенсіі 340. Нябожчыку і ў складчыну мусяць скідвацца і тыя, якія ўжо ў бозе спачылі. На арэну выходзяць у нас дударавы[6], якія перагналі Макаёнка[7] па грашах, у Маскве аліханавы[8] — амаль крымінальны поўнасцю элемент, і гэта ў літаратуры. Што ж тады на самым дне савецкай былой імперыі? Розныя петрашкевічы з ЦК у дэмакратах ходзяць.

---

[1] Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Бібліі на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік.

[2] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч (1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург. Кандыдат гістарычных навук (1967). У 1991–1998 гг. кіраўнік Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданню гістарычна-дакументальных хронік «Памяць». Заслужаны работнік культуры (1975).

[3] «Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь» — міжканфесійнае хрысціянскае рэлігійнае брацтва (з 1992).

[4] Ліфшыц П. І., урач-стаматолаг.

[5] Так паміж сабой называлі кафэ Дома работнікаў мастацтва.

[6] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі пісьменнік, драматург і кінадраматург. З 1991–1999 гг. рэдактар час. «Мастацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985). З 1992 г. старшыня Саюза тэатральных дзеячаў РБ.

[7] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

[8] Аліханаў Сяргей Іванавіч (н. 1947), рускі паэт.

*** [Без даты.] Цікавая заканамернасць, ці што, — хто галасней за ўсіх славіў Сталіна[1], пасля яшчэ мацней Леніна[2], партыю, сталі такімі дэмакратамі, антыпартыйцамі.

*23 студзеня, чацвер*

Праца. Калі чалавек дробязны, дык ва ўсім. Бутэвіч[3] — наш цяперашні [... міністр інфармацыі] даў загад, каб пісалі дакладную, чаму да юбілею не выйшаў Ніл[4]. Ні лагойскаму [...] ў так званым Вярхсавеце няма чым заняцца, ні новаму [... міністру]. У «Народнай газеце» пусцейшы артыкул Ніла зноў пра мову. Пра гэта зараз пісаць, як пра захад сонца і ўсход сонца. І быццам смела, і разам з тым ні начальства не кранаем, ні партмафію...

*24 студзеня, пятніца*

Зноў засядалі. Зноў званок Бутэвіча: калі будзе сігнал лагойскага [...]? А разам з тым справы ў выдавецтве кепскія. Партмафія праз цяперашнія нібыта дэмакратычныя ўлады душыць усё беларускае рукамі кааператываў розных.

У метро сустрэў Анатоля Сідарэвіча[5]. Аж пацяплела на душы — ёсць надзея на адраджэнне Уніі, добра працуе Беларускі ліцэй. Можа, нарасце трохі беларускага семя. Расказваў мне, і хто спачатку насіўся з лістом 10-ці гаўрыкаў у «Звяздзе». Кэдэбісцкі паслугач. А потым [...] Лужанін ды Сачанка расквецілі. І атрымліваецца, Літву пакінуць без сталіцы. Пра Віленскі край калі згадалі.

*25 студзеня, субота*

Камароўка. Дамініцы мяса. [...]

«Катастрофы. Строфы ката: Да гаспадыні; Да кошкі; Да мышкі. Строфы ка′та: Да пятлі; Да сякеры; Да плахі» [у дзённіку].

---

[1] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[2] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[3] Бутэвіч Анатоль Іванавіч (псеўд. Максім Валошка; н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, публіцыст, крытык. У 1990–1992 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларусі па друку, у 1992–1994 гг. міністр інфармацыі.

[4] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фальклярыст, перакладчык. У 1990–1996 гг. старшыня пастаяннай камісіі ВС РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

[5] Сідарэвіч Анатоль Міхайлавіч (н. 1948), беларускі гісторык, крытык, літаратуразнавец, палітолаг. У 1992–1998 гг. выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

*26 студзеня, нядзеля*

Да Навума. Кажа: «Сяджу ў камеры і пішу вершы». Тым і жыве. Вершамі хіба што можна сагрэць сябе ў гэтыя палітычныя маразы. Паэзія нікому не трэба. У трамваі ехаў [пісаў]: «Акраец хлеба…»[1]

*27 студзеня, панядзелак*

Званіў Васіль. З «Мутным вокам» не ўсё атрымліваецца ў ПЭН-цэнтра. Кэдэбісты гуртуюць кішаньковыя партыі ў адну грамаду пад знакам адзінай Беларусі. Зноў жа наконт Вільні пытанне. У Мінск прыехала Алена Бонар[2].

*28 студзеня, аўторак*

У асноўным дома. Сёння магнітныя буры. Кепска. Званіў Васіль, адзін з банды 10-ці, што пісалі ў «Звяздзе», Сіўчык[3], пазваніў дамоў і даказваў, што ён патрыёт. Сам, бачыце, не слухаў Васіля Уладзіміравіча па «Свабодзе, але яму перадалі. Гэта значыць, у КДБ перадалі перахват. І далі заданне пазваніць. Васіль запытаўся, чаму ж пра Смаленшчыну не дбаець, а пра тое, каб нашкодзіць дэмакратычнай дзяржаве? Відаць вушы старэйшага брата.

*29 студзеня, серада*

Чытаю успаміны Хадасевіча[4]. Так пісаць можа толькі таленавіты майстра — і з’едліва, і дакладна, і ненавязліва. Прысудна. Нашай літаратуры не стае інтэлектуальных успамінаў. Яны часцяком на побытна-кволым узроўні.

*30 студзеня, чацвер*

На працы. Усе выданні згортваюцца, перакладаў, выходзіць, не будзе выходзіць. Сачанка, можа, знойдзе канцы. Як Зэйдэль[5] (ён жа Вольскі) украў у Галубка[6] «Несцерку» ды і ў Сташэўскага[7] тое-сёе. Не адзін гене-

[1] Гл.: Яшчэ (26.01.92) // Евангелле ад Мамы. С. 206.

[2] Боннэр Алена Георгіеўна (1923–2011), расійскі грамадскі дзеяч, праваабаронца, публіцыст. Жонка А. Сахарава.

[3] Сіўчык Вячаслаў Вадзімавіч (н. 1962), беларускі географ, грамадскі дзеяч. У 1988–1997 гг. супрацоўнік Вытворчага аб’яднання «Беларусгеалогія», а таксама (з 1991) Інстытута геалогіі і геаграфіі НАНБ.

[4] Хадасевіч Уладзіслаў Філіцыянавіч (1886–1939), рускі паэт.

[5] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[6] Галубок Уладзіслаў (сапр. Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 1892–1937), беларускі акцёр і рэжысёр, драматург, паэт, празаік. Народны артыст БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[7] Сташэўскі Васіль Пятровіч (1895–1937), беларускі драматург, празаік. Рэпрэсаваны.

рал КДБ Зэйдэль краў. Яшчэ жывыя, якія ў мёртвых кралі творы і пераклады. Рэдкія сведкі запалоханыя дасюль. Ведаю ваўчыную ўхватку сталінскіх літаратараў.

Для «Вожыка» [на Лучанка[1]].

*31 студзеня, пятніца*

Амаль дзень сядзеў за машынкай. Перадрук. Для раздрукавання і для В. Тараса. Рэдка мне што сваё падабаецца і то на момант. Радкі, як з-пад ільда, як з-пад шкліны халаднавата, сцюдзённавата глядзяцца, гучаць. «Што слава? Шум» [у дзённіку].

*1 лютага, субота*

Мой месяц. Люблю яго і за маразы, і за першую надзею на вясну. Толькі сёлетні люты нясе нейкі неспакой, нейкі страх. Невядомасць.

«Беларускія татары»[2]. Занёс Тарасу вершы на пераклад у «Нёман».

*2 лютага, нядзеля*

Сядзеў дома. Чытаў. Вечарам Дамінічку вазіў на саначках. Яна дома доўга паўтарала, што дужа любіць катацца на саначках, а дзедзя любімы любіць вазіць. Было ўжо цёмна. Раптам яна запыталася: «А чаму ноч на дварэ сустрэлася?»

*3 лютага, панядзелак*

Праца. У «Падпісныя выданні». Дрэнныя весткі даходзяць пра цяжкі Карласаў[3] характар. Каб мы ў ПЭНе зноў не апынуліся ў бруднай пене.

З 11-ці амаль да трох праслухалі аж сорак графаманскіх твораў і па музыцы, і па словах, якія прэтэндуюць стаць гімнам. Сапраўды га.наробы. Роўда і іншыя супроць «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...». Мазгі камуністычныя, саветызаваныя!

---

[1] Лучанок Ігар Міхайлавіч (1938–2018), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Гл.: «Кіпіць натхненне ў чыгунку...» (30.01.92) // Асобы рознай пробы. С. 34; Ігар Лучанок (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 70.

[2] Гл.: Беларускія татары (1.02.92) // Евангелле ад Мамы. С. 126. Верш прысвечаны Я. Якубоўскаму. *Якубоўскі* Якуб (Якаў) Адамавіч (1932–1998), беларускі географ і гісторык. У 1991–1998 гг. рэдактар час. «Байрам». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Аўтар гімна беларускіх татар «Мы з імамам жывём на зямлі Беларусі». Муз. Дз. Мазітавай. *Мазітава* Дзінара Рымаўна (н. 1984), беларуская піяністка і кампазітар.

[3] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

*4 лютага, аўторак*

Мітусня на працы. З Арловым дамовіўся, што чысла 14-га здам слова пра Ларысу Геніюш[1].

*5 лютага, серада*

Сустрэча з Андросікам[2]. Трэба перакласці для купалаўцаў Мальера[3]. Салянка з некалькіх рэчаў. Андрэй прачытаў мне першую частку.

На радыё Анісенка[4] запісваў членаў сакратарыята Таварыства «Беларусь — Ізраіль».

Люблю і ганаруся Лявонам Баршчэўскім, але, здаецца, заносіць яго пачынае. Па-маладому. Гэта і трэба, відаць, каб асоба магла сябе здзейсніць.

У Карласа з Ірынай Ідэльчык[5] цэлая баталія з прычыны дысцыпліны. Не толькі беларусы адзін з адным не ўжываюцца.

*6 лютага, чацвер*

Званіў Пімену. З сумам кажа: «Гляджу на кнігі і амаль няма чаго чытаць. «Братоў Карамазавых» [Ф. Дастаеўскага] перачытаў 13 разоў, аж Адамовіч[6] перапытаў, не паверыў быў. Бадак[7] на радыё заявіў, што ў Панчанкі танюсенькая кніжачка набярэцца, бэсціць Куляшова[8]. Адзін Мак-

---

[1] Гл.: Унучка Францішка Скарыны, альбо Зэк № 0–278 (1992) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 26.

[2] Андросік Андрэй Фёдаравіч (1941–2003, РФ), беларускі рэжысёр, выкладчык. У 1971–1995 гг. рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

[3] Мальер (сапр. Паклен Жан Батыст; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[4] Анісенка Валерый Данілавіч (н. 1944), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). У 1982–2000 гг. гал. рэжысёр Белрадыё. Прысвечаны яму верш гл.: Пакора (8.10.86) // Самота паломніцтва. Мінск, 1990. С. 253.

[5] Сляповіч Ірына Якаўлеўна (дзявоч. Ідэльчык; н. 1952), вядучы рэдактар ПЭН-цэнтра (1990–1993).

[6] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. У 1987–1994 гг. дырэктар Навукова-даследчага інстытута кінамастацтва (Масква). Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[7] Бадак Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; н. 1966), беларускі паэт. У 1991–2000 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Бярозка».

[8] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

сім[1] ды Хелемскі[2] з франтавых сяброў засталіся. Раней сустракаліся, гаварылі, а цяпер болей паштоўкамі. Сілы няма. Я па натуры аптыміст, але і ў мяне не хапае аптымізму».

Па дарозе дамоў сустрэў Асіпенку[3]. Алесь Харытонавіч сказаў, што ён даўно прадбачыў сённяшні развал наш. [...] Дамініка слова *вінаград* вымаўляе як *вінагнат* (падсвядома, што віно гоняць).

*7 лютага, пятніца*

У «Вожык» занёс на Лучанка. Каля 11-ці вечара званок. З Парыжа Барыс Забораў[4]. Чуваць лепей, чым з суседам праз вуліцу. Барыс бядзіць, ці ёсць у слове пра яго кавалак негатыву пра Пецю Краўчанку. Бо ў Пеці добрыя адносіны з міністрам замежспраў Францыі. Сёння добрыя, а заўтра могуць быць благія. Дый цяпер позна ўжо выкідваць з матэрыялу — часопіс друкуецца, мусіць неўзабаве выйсці. Казаў, што выставіць малюнкі Ілоны ў Галандыі. Хваліў маю падборку, абяцаў даць у «Русской мысли»[5].

Прыехаў Васіль з Германіі. Пераканаўся (ездзіў з Садоўскім[6]), што маладыя дэпутаты-дэмакраты без бою не здадуць крэслаў у парламенце, увайшлі ў смак. Садоўскі ўжо хваліць Краўчанку. Знюхаліся. [...]

*8 лютага, субота*

Сядзеў дома. Перакладаў Мальера купалаўцам.

Адлега. Мяккі снег. Трошкі павазіў Дамінічку на саначках. Далёкі ўшацкі снег. Ён быў цяплейшы. І санкі везлі.

*9 лютага, нядзеля*

Званіў з Вушачы Пятрок[7]. Радасны, што мітынг будзе і ўсіх начальнікаў далоў. Калі б сказалі супроць [...] КПСС, не асмеліліся б, супроць [...]

---

[1] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[2] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі паэт, празаік, перакладчык.

[3] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1981).

[4] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак. З 1980 г. жыве ў Францыі. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў і Фларэнцыйскай акадэміі выяўленчых мастацтваў.

[5] «Русская мысль» — рускамоўная газ. Францыі (з 1947).

[6] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (н. 1939), беларускі мовазнавец, палітык, дыпламат. Кандыдат філалагічных навук. Дэпутат ВС РБ 12-га склікання (1990–1992, 1994–1995). Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ у Германіі (1992–1994).

[7] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

савецкай улады — таксама. А супроць начальнікаў можна. Бунт мужыка супроць пана. Спрадвечны.

Званіў Васілю. Учора прачытаў у «Літаратуры і мастацтве» ягонае інтэрв'ю. Магутна. Мозг і сумленне нацыі. Інтэрв'юроўшчык слізкаваты. Залозка[1]. Сядзеў зноў над Мальерам.

У «Вожык» [на Г. Бураўкіна[2]].

*10 лютага, панядзелак*

Сярод ночы разбалелася галава і палезла living рознае «вожыкаўскае» [на І. Каратчэню[3], В. Шаладонава[4]].

*11 лютага, аўторак*

У «Беларусь», там сфатаграфаваліся кампазітар Ул. Давідовіч, саліст і я. Прыйшла некаму з рэдакцыі часопіса думка ў галаву. Вечарам па радыё гучаў «Голас вякоў: Мне чуецца голас душой не забытых вякоў...» [30.07.91, песня; у блакноце].

*12 лютага, серада*

Галубовіч[5] рабіў тэлефільм пра Міхася Стральцова[6]. На могілкі. Здымаюць. Падыходзяць магільшчыкі і кажуць: «Вы лепей бы магілку дагледзелі». Як ты ім растлумачыш, што цэлая вайна паміж жонкамі і прыхільніцамі вядзецца. Пастаяў над сябрам. Дужа не хапае яго. З кожным годам. Успомнілася, як адсутна ён глядзеў у бацькоўскае хаце на ўсе рэчы. Адчуваў, што апошні раз у родных сценах. Тэлевізійнікі расказвалі, як цяжка давялося арганізаваць сцэну смалення вепрука. Калі купіць — амаль

---

[1] Залозка Юрый Іванавіч (н. 1968), беларускі журналіст. У 1991–1995 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[2] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1990–1994 гг. прадстаўнік Беларусі ў ААН. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980). Гл.: «Кусаюць локці ў цішыні...» (9.02.92) // Асобы рознай пробы. С. 19; Генадзь Бураўкін (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 128.

[3] Каратчэня Іван Міхайлавіч (н. 1948), беларускі палітычны дзеяч; вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1996). У 1992–1993 гг. каардынатар Рабочай групы Савета глаў дзяржаў і Савета глаў урадаў СНД. Гл.: «А пачынаць бы скарачэнні...» (10.02.92) // Асобы рознай пробы. С. 14.

[4] Шаладонаў Васіль Іванавіч (1948–2007), беларускі дзяржаўны дзеяч, нам. старшыні ВС РБ (1990–1992). Гл.: «Надзея застаецца нам...» (10.02.92) // Тамсама. С. 17.

[5] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт, крытык. У 1989–1994 гг. рэдактар гал. рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

[6] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

палова ўсіх грошай, што адпушчаны на фільм. Дамовіліся неяк на бойні. У вёсцы амаль нікога няма. Зона. Дажывае некалькі старых.

Вечарам у мастацкім музеі адкрыццё выставы нашае замежнае мастачкі Галіны Русак[1]. Шматадукаваная, займалася індзейцамі, іх мастацтвам, але беларускія гены ўзялі верх. І настолькі глыбока пададзены паганскія карані, настолькі загаварыў з вякоў беларускі арнамент, што дзіву даешся, што робіць настальгія, што робяць гены, калі яны не саветызаваныя. Вакно з вякоў. У кнізе водгукаў пакінуў:

Высокі Божа, барані
Радзіму нашую святую!
Пакуль паганства карані
Яшчэ жывыя ў глыбіні,
Нас, можа, памяць уратуе.

Хай час — бязлітасны вазак
Імчыць выбоістым гасцінцам.
Хай злыдні свой бяруць ясак.
Не дасць спадарыня Русак
Зрабіцца крывічу чужынцам.

*13 лютага, чацвер*

Званіў Зянон. Шукаў Васіля. У суботу сойм БНФ. Зянон, як і Васіль, згодны, што і «Новая Беларусь», і «Новая Украіна», і «Новая Расія» — усе яны арганізаваны і адно найменне атрымалі з Лубянкі[2]. Перачытваю Геніюш.

*14 лютага, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Міхася Стральцова. Лепшы, чысцейшы, інтэлектуальнейшы, інтэлігентнейшы з усіх пасляваеннікаў у нашай літаратуры. Да здзіўлення адукаваны, да фанатызму змагарысты за чысціню, вышыню, духоўнасць беларускага слова. Але ў нас у духоўным свеце беларускім, як на галодным базары, хто галасней прапануе, у таго бяруць. Дзіўная яшчэ акалічнасць склалася. Усе, хто ўмеў хоць трохі пісаць па-беларуску, пайшлі ў так званыя члены Саюза пісьменнікаў. А чытачоў не засталося. Філалагічная інтэлігенцыя ўся апісьменьвалася. Апошнім часам нешта мяняецца. Ёсць атава тэхнічнай беларускасвядомай інтэлігенцыі.

---

[1] Русак Галіна (1930–2000), беларуская мастачка, мастацтвазнавец; грамадскі дзеяч беларускай дыяспары у ЗША. Прафесар (1993). Жыла ў ЗША з 1949 г.

[2] На Лубянскай плошчы (з 1991 г.; раней пл. Ф. Дзяржынскага) у Маскве месціўся Камітэт дзяржаўнай бяспекі СССР.

Званіў Звонаку[1]. Яму 85. «ЛіМ» ні слова не даў. Ідыёты. Васіль званіў. Па «Свабодзе» выступаў прэзідэнт АН Платонаў[2]. Тут ніколі ні слова. Васіль расказаў, як недзе ў Пакістане пярун не дабіў селяніна, і ён раптам загаварыў па-японску. «Ларысе Геніюш»[3].

*15 лютага, субота*

Сойм БНФ у Беларускім ліцэі пры АН. Прыехаў Быкаў. Пазьняк урачыста-чысты, колькі цёплай дабрыні ў вачах гэтага мужнага і трапяткога душой змагара! Адчыняе пасяджэнне не Пазьняк. Адно пытанне — аб рэферэндуме[4]. «Ці лічыце Вы неабходным рэферэндум?» і г. д.

*Зянон [Пазьняк]* аналізуе сітуацыю. Унутраны стан дзяржавы і эканомікі: «Поўнае засілле ўлады наменклатуры. Не адбылося ніякіх кардынальных рыначных адносін. Шляхам выкарыстання сістэмы адміністрацыйнай. Так хочуць наменклатуршчыкі. У адміністрацыйную сістэму ўстаўлены рыначныя структуры, перакачка фондавых рэсурсаў, перакачка грошай безнаяўных у наяўныя. Цэны ценявыя і цэны рыначныя. Адзін тавар не рухаецца, а пераводзіцца з адной цаны ў другую. Сістэма крымінальнай эканомікі. Наменклатуры выгодная такая сістэма. Толькі на словах за рынак. Дзікая прыватызацыя. Дзяржаўная ўласнасць [пераходзіць] ва ўласнасць наменклатуры. Усходнія прычыны і вынікі палітыкі. Рыначныя адносіны немагчымыя без поўнай незалежнасці: грошы, межы, армія, мыта, пасольства. Рыначная рэформа павінна быць. Эканамічныя сувязі на Расіі завязаны. Няма спробы шматканальнасці. Усе хваробы Расіі і на нас. Заходнія ўмовы развіцця Беларусі. Мы паставілі задачу вярнуцца ў Еўропу. Заходнія краіны выпрацавалі стратэгічны план да нас. Змены ва ўладных структурах. Рыначныя прынцыпы развіцця эканомікі. Уся ініцыятыва знешніх кантактаў з Захаду. Наменклатура нічога не хоча. Як будзе паводзіць наменклатура ў час рэферэндуму? Могуць ахвяраваць Кебічам[5]. Прыступіла ўжо да падрыхтоўкі да

---

[1] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

[2] Платонаў Уладзімір Пятровіч (н. 1939), беларускі і рускі матэматык. Доктар фізіка-матэматычных навук (1967), член-карэспандэнт (1969), акадэмік АН БССР (1972), акадэмік АН СССР (1987). Прафесар (1968). У 1977–1992 гг. дырэктар Інстытута матэматыкі, адначасова (з 1987) прэзідэнт НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1982). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Ленінскай прэміі (1978), прэміі Гумбальдта (1993). З 1992 г. у ЗША, Канадзе, з 2003 г. у Беларусі, Расіі.

[3] Гл.: «З рук Вашых мужных...» (14.02.92) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 37.

[4] БНФ — ініцыятар рэферэндуму аб датэрміновым роспуску ВС 12-га склікання і правядзення новых выбараў (1992).

[5] Кебіч Вячаслаў Францавіч (н. 1936), партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі. У 1990–1994 гг. старшыня СМ РБ. Кандыдат эканамічных навук (1990). Заслужаны машынабудаўнік БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

выбараў. Дакументы Чарнобыля ў архіве ЦК. Палітызаваць прафсаюзы. Розныя блокі. Блок бальшавікоў налева, БНФ направа, а наменклатура ў цэнтры».

*Анцулевіч*[1]*:* «Ініцыятыўнай групе ўручаны ліст рэгістрацыі рэферэндуму».

*Вінцук Вячорка*[2] канкрэтна пра агітацыйную кампанію.

*Хадыка*[3]*:* «Ці можам мы атрымаць перамогу і на рэферэндуме, і на выбарах? Падсвядома ўсё-ткі спадзяемся. Не выключаць магчымасць расколу ў шэрагах наменклатуры. БНФ — аб'яднанне партыі і асобных грамадзян. У «Новай Беларусі» не былі вызначаны мэты і адсутнасць падкрэслення дэмакратычнай арыентыроўкі. Рух за дэмакратычныя рэферэндумы — пракамуністычныя. БНФ у радзе блоку [мае] толькі пазіцыю наглядальніка. Адну з мэтаў «Новай Беларусі» можна прымаць, што ў БНФ няма канкрэтных распрацовак эканамічных, палітычных, культурных, дзяржаўных».

*Івашкевіч*[4] наконт пасведчання сяброў Фронту.

*Міхно Сяргей:* «Як будуць збірацца подпісы?»

[Адказ:] «Па месцы жыхарства».

*Паўлоўскі*[5] (Масква): «Аптымізм малы. Нараканні на БНФ».

*Быкаў:* «Завяршаецца пэўны этап. Вельмі шмат залежыць, што мы здзяйсняем. Супраціўленне рэферэндуму і выбарам будзе ўзрастаць. Можа набыць і экстрэмісцкі характар. Бюракратычныя выпрабаваныя меры наменклатуры. Я думаю, што мы пераможам. Але гэта пакуль — спадзяванні. Магчымыя і няўдачы. Пазіцыя «Грамады»[6] ў блёку «Новая Беларусь» хоць і двухсэнсоўная, але не знарочыстая. Правільна робіць БНФ, не ўступаючы ў дыскусію з «Грамадой». Пачакаць, паглядзець, як

---

[1] Анцулевіч Уладзімір Іванавіч (1954–2019), беларускі фізік, педагог, палітычны дзеяч. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1989).

[2] Вячорка Вінцук (Валянцін; н. 1961), беларускі палітык, мовазнавец, выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

[3] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). З 1980 г. заг. лабараторыі Інстытута фізікі НАНБ. Нам. старшыні БНФ (1988–2007).

[4] Івашкевіч Віктар Антонавіч (1959–2013), беларускі журналіст, палітычны дзеяч, адзін з заснавальнікаў БНФ.

[5] Паўлоўскі Ігар, расійскі вайсковец, падпалкоўнік у адстаўцы.

[6] Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя Грамада (БСДГ; 1991–1996). Заснавальнікі М. Ткачоў, М. Чарняўскі, А. Сідарэвіч. *Ткачоў* Міхаіл Аляксандравіч (1942–1992), беларускі гісторык, археолаг; грамадскі і палітычны дзеяч. Доктар гістарычных навук (1987). Прафесар (1989). У 1989–1992 гг. заг. рэдакцыі, гал. рэдактар выд-ва «БелЭ». З 1989 г. нам. старшыні сойма БНФ. Заснавальнік і старшыня Цэнтральнай рады БСДГ. *Чарняўскі* Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1938–2013), беларускі археолаг, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1971). У 1990–2001 гг. заг. аддзела Інстытута гісторыі НАНБ.

будуць сябе паводзіць у рэферэндуме. Можа, блёк падкіне неспадзяванкі. БНФ — галоўная і рашаючая сіла ў нашым грамадстве. Нацыя можа спадзявацца на БНФ. Радыкалізм БНФ умераны».

*Зянон:* «Рэферэндум, які задумалі дэмсілы, можа прынесці шкоду нашаму грамадству. Трэба даводзіць да свядомасці асноўныя палажэнні нашага закона. Удзельнічаць у галасаванні будуць, хто хоча. Пасведчанне выбаршчыка. Хто не хоча, таму сусед будзе выбіраць парламент. Толькі бальшавікі прымушалі ўсіх галасаваць. Палова кандыдатаў ад партый, а палова па асобах. Будзе 80 акругоў. Сойм, ці парламент, будзе прафесійны. Парламенцкая працэдура. 28 % у нас вясковага насельніцтва».

*Анцулевіч* тлумачыць, як збіраць подпісы.

*Астапенка.* Зварот НДП [Нацыянальна-дэмакратычнай партыі] да грамадзянаў рэспублікі аб міжнародным судзе над камуністычнымі структурамі — суд над ідэалогіяй, над паасобнымі злачынцамі.

*Хадыка* пра мітынг за рэферэндум.

*Пазьняк* пра дзейнасць [газ.] «Навіны БНФ». [Рэвізія рэдакцыі, гаспадарчай і фінансавай дзейнасці[1].] Суша[2] аказаўся прахадзімцам. Усяго 7 нумароў выпусцілі пры ультрасучаснай тэхніцы. «Мне неяк запала звышшыкоўнейшая дублёнка», — Суша. Бытавая драбяза, але яна нешта кажа пра сучаснага нэпмана. Бацька ж з камуністычных журналісцкіх структураў».

*Грыцук [Валерый]* пра АН. «60–70 % супрацоўнікаў навуковых пад пагрозай скарачэння». [Каб сойм прыняў заяву з падтрымкай навуковых супрацоўнікаў.]

*[Пазьняк]:* «Мы адзіныя можам [далучыцца] да Праграмы СОІ[3]».

Па дарозе Марачкін[4] расказваў пра Міхаіла Савіцкага[5]. Неяк ішлі яны ззадзі за песняром трупярняў. Галубок яму как на плячо. Яны жартуюць: «Міхаіл Андрэевіч, добра, што не карова». У адказ: «Таварыш Марачкін, карова не можа лётаць». Расказаў гэтае здарэнне па тэлефоне Тарасу. Кажа: «Каб было ў Савіцкага пачуццё гумару, трэба было б заўважыць: "На мяне ўжо як на помнік галубы глядзяць"».

---

[1] У дужках радкі, узноўленыя па чарнавіку.

[2] Суша Алесь (н. 1963), беларускі журналіст.

[3] Праграма СОІ (Стратэгічная абаронная ініцыятыва), падпісаная Р. Рэйганам ў 1983 г. *Рэйган* Рональд Уілсан (1911–2004), прэзідэнт ЗША (1981–1989).

[4] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог. У 1990–1996 гг. заг. кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (БДАМ).

[5] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1972). Народны мастак СССР (1978). Акадэмік НАНБ (1995). Герой Беларусі (2006). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973), Дзяржаўнай прэміі СССР і РФ (1970, 1980, 1996).

*16 лютага, нядзеля*

Цэлы дзень сядзеў дабіваў слова пра Ларысу Геніюш. Колькі ні чытай, ні перачытвай, не зразумееш загадку Геніюш. Толькі тым, што не была саветызавана ні духам, ні словам, не вытлумачыць. Гэта ўсё ад Бога.

*17 лютага, панядзелак*

Званіў Танку. Доўга ляжаў у бальніцы. Гэтак, жартуе, калолі, і столькі калолі, што зараз і пекла не страшнае. Разгаварыліся пра Купалу[1]. Пытае, хто пісаў артыкул у «ЛіМе» пра смерць? Кажу: Сачанка па заданню КДБ. На тым баку тэлефоннага дрота нешта напружылася. Дагэтуль пад дысцыплінай наш камінтэрнавец, іх чалавек па справах культуры ў Заходняй Беларусі. Кажа, бачыў, што ў Купалы быў моцны ўдар скронню і на ордэне адлушчылася эмаль (не выратаваў саўордэн). Цётцы Уладзі[2], выходзіць, Купалу не паказалі. Паказалі толькі давераным і праверанымі. Яшчэ яго бянтэжыць, што выцвітаюць легенды. Самалёт, які зрабіў таран, знайшлі далёка ад афіцыйнага мейсца ў тарфяніку. Выходзіць, таран зрабіў не Гастэла[3] (правільна Гасціла было б). Пасля — Славацкі[4] напісаў баладу ледзь не святой, ледзь не кананізаванай, якую хацелі згвалціць казакі пад час падаўлення паўстання. Яна была з жаночага манастыра ў Смаргоні. А ў Смаргоні жаночага манастыра не было. Вядома, цяжка пад 80 год развервацца ў легендах. Але бяда нацыі, што ўсе, хто шмат ведаў, пад страхам КДБ нясуць з сабой таямніцы. І застаюцца толькі версіі, распрацаваныя кэдэбістамі. А як бы прыдаліся цяпер шчырыя, без аглядкі, успаміны Броўкі[5], цёткі Уладзі, Шырмы[6].

---

[1] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[2] Станкевіч (Луцэвіч) Уладзіслава Францаўна (1891–1960), беларускі педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Жонка Я. Купалы.

[3] Гастэла Мікалай Францавіч (1907–1941), савецкі лётчык. Герой Савецкага Саюза (1941). Ураджэнец Беларусі.

[4] Славацкі Юліуш (1809–1849), польскі паэт.

[5] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[6] Шырма Рыгор Раманавіч (1892–1978), беларускі харавы дырыжор і фалькларыст. Народны артыст БССР (1949). Народны артыст СССР (1955). Герой Сацыялістычнай Працы (1977).

*18 лютага, аўторак*

У выдавецтве сустрэў Аляксандра Шэверава[1]. Выдатны мастак, з Віцебшчыны. «*Улукша*нае»[2] выдавецтва дало яму на афармленне мой дзіцячы зборнік. Абмежавалі фарматам, загадзя вядома, што папера будзе кепская. Зборнік яму падабаецца. Яму наогул падабаецца, як ён сказаў, такое хуліганства са словам, толькі аформіць адэкватна немагчыма.

Бур'яна[3] сустрэў. Рэбэ Азгур[4] у запісе Барыса Бур'яна аддаў колькі слоў пра мае пераклады Шагала[5] і Пастарнака[6] ў «ЛіМ». Гілёк[7] кажа, што не к спеху. Вось калі б пра даўгацыбага, на першых бы старонках.

У БелОКСе[8] засядала яўрэйскае таварыства, дакладней Таварыства «Беларусь — Ізраіль». Планы вялікія, грошы ўвобмаль. Ідзе ў разрэз з ушацкім прыслоўем: грошы як у жыда.

*19 лютага, серада*

Засядалі ў выдавецтве. Дырэктар[9], як капрызны хлапчук. Добра, што на пяцітомны слоўнік peравялі 50 тысяч. З Карласам наконт паездкі ў Барсэлёну. Цікава, як змаглі ўзяць людзей камуністы? Народ усё-ткі здаўна меў павагу да панавітых, да адукаваных, хаця б павагу з зайздрасці. А тут прыйшлі крымінальнікі (угалоўнікі), [...], але напачатку з прыгожымі лозунгамі. А пасля пайшла панажоўшчына ў літаральным значэнні. Можа, тут спадабаліся камуністы, што свае, спадабаліся за натуральнасць, за нізасць пачуццяў. Калі наогул можна гаварыць пра пачуцці ў падонкаў. Хаця, як у нас дома казалі, і ў вераб'я душа ёсць.

---

[1] Шэвераў Аляксандр Калістратавіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Беларусь».

[2] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[3] Бур'ян Барыс Іванавіч (1924–2009), беларускі пісьменнік, тэатральны і літаратурны крытык, сцэнарыст.

[4] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Народны мастак БССР (1944). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестанскай АССР (1960). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

[5] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік. Гл.: Пастаялец нябёсаў (1992) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 42.

[6] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[7] Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч; н. 1936), беларускі празаік, перакладчык. У 1990–1996 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Брат Н. Гілевіча.

[8] БелОКС — Белорусское общество дружбы и культурной связи с заграницей = Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

[9] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт. У 1987–1993 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*20 лютага, чацвер*

Герчык[1] папрасіў напісаць прывітанне для Энцыклапедыі ў сувязі з 25-годдзем:

Ад аўрала да эсэ,
Ад Урала да Ямайкі —
Ведала пра ўсё БелСЭ,
Як прыгатаваць глясэ,
Як зварыць крутыя яйкі.
Ні двара і ні кала не было,
Ды Броўку мела.
Наша Першая была
Ў свеце лепшай — скажам смела.
Збегліся ў гады дзянькі.
Дваццаць пяць.
Успомніць можна,
Як цэкоўскія дзядзькі
Пачуваліся заможна.
Раіць нам БелЭн часцей,
З бульбы як зрабіць закуску,
Як кахаць, радзіць дзяцей —
Толькі не па-беларуску
Гэта ўсё.
Агульны вал
Цісне, выціскае з планаў
Адраджэнскі ўвесь запал —
Бізнес хітрым вокам глянуў.
Можа, хоць Міхась Ткачоў
Ход гісторыі паверне,
Каб белэнцы без харчоў
Не былі.
Шамякін[2] зерне
Знойдзе ў кучы пастаноў,
Як спакой яго ні кліча,
І БэлЭн набудзе зноў
Беларускае аблічча.
Адысці, відаць, пара
Ад лірычных адступленняў.

---

[1] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), рускі і беларускі пісьменнік.
[2] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). У 1980–1992 гг. гал. рэдактар выд-ва «БелЭ». Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

До каменчыў, камянькоў
З нашага шпурляў двара.

Мы віншуем юнакоў.
Дваццаць пяць — узрост юнацтва.
Зычым без напышных слоў
Выжыць,
Выстаяць,
Застацца
На вякі.
І для вякоў!

Нешта мяне абкладаюць боль і немач, як мядзведзя ў мерлагу. Нейкі безвыходны адчай штодня ходзіць следам, як стукач які прыстаўлены. У адпаведнасці з настроем і верш: «Жыццё зямное…»[1]

*21 лютага, пятніца*

Выйшаў сігнал 1-га тома 6-томніка[2] Васіля Быкава. Занёс яму і павіншаваў праз крысо кажушыны па-ўшацкай традыцыі — праз касматае віншуюць, каб багаты быў. Настрой у Васіля, як ва ўсіх людзей. Ён жа не Ніл, які думае, што ўсё чалавецтва шчаслівае, што жыве ў адну эпоху з ім. Васіль слухаў інтэрв'ю з Мальдзісам[3] з Лёндана. Пра ўсё па-мальдзісаўску хутка, складна. А пра рэферэндум замест адназначнага адказу пачаў рабіць петлі, як заяц на снезе. […] Васіль расказваў, як Ніл паводзіў сябе пры абмеркаванні праграмы па беларусізацыі. То кропку прапаноўваў замяніць на коску, то злучнік дадаць. А калі пачалі прапаноўваць тлумачэнні законаў, дзе расцягвалася ўсё да 2000 года, то Ніл маўчаў, так і хочацца сказаць па-ўшацку, як ср.ка. Васіль пачаў даводзіць Дземянцею[4], што расцягваць нельга, трэба круцей завінуцца, а то ні Дземянцея, ні іншых не будзе, прыйдуць новыя і не ўспомняць пра закон. (Як у ваду глядзеў, Дземянцея ўжо на пасадзе няма.) Васіль у знак пратэсту выйшаў. Ніл застаўся. Калі б роднае ЦК не падкінула структуру ўзначаліць (у папуасаў Таварыства папуаскай мовы), застаўся б без партфеля. Цікава, разважаў Васіль, думаў: пасля заявы, што ў Саюзе пісьменнікаў кожны другі — стукач, у суд пададуць. Маўчаць. Закончыў, ці дапісаў, новую аповесць, думае

[1] Гл.: «Жыццё зямное…» (20.02.92) // Трэба дома бываць часцей… С. 331.

[2] Быкаў В. Збор твораў: У 6 т. Мінск, 1992–1994.

[3] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 1991–1998 гг. дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[4] Дземянцей Мікалай Іванавіч (1930–2018), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1979–1989 гг. сакратар ЦК КПБ.

даць у апошні том Збору твораў. Дзівіўся незвычайнай памяці стукачоў (С. і інш.). Лужанін у вайну быў следчым у ваеннай структуры. Багамолаў[1] знайшоў у архівах. А ў Германію, відаць, ездзіў і працаваў на фільтровачных пунктах нашых ваеннапалонных, загнаных у Германію. Яўна ж шукаў нацыяналістаў. Фармаваў партыі для ГУЛАГа[2].

Я прыйшоў у цяжкой куртцы (шылі такія ветэранам і частку ў продаж пусцілі). Васіль, ведаючы, смяяўся: «Цяжкая, як генеральскі шынель Сульянава[3]. У ім дужа цягнуць вагой пагоны, — тлумачыў. — Гэта не тое што нейкі лейтэнанцкі шынялёк». Настрой Васіля мне не падабаецца. Не верыў, што выйдзе першы том, не верыць і цяпер, што да канца падпіска выйдзе. Узяць цыбатага Ніла, які бамбіў праз Бутэвіча, чаму не выйшаў да юбілею ягоны двухтомнік. І ўзяць Быкава, які на тое, калі сказаў, што здалі ў набор том, запытаўся: «А як вы там самі выжывеце?»

*22 лютага, субота*

Прабегаў па Мінску, каб адрамантаваць тэлефон. Занёс Радзіку «Маўчанне Перуна». Ён мне ўзяўся перачытаць зборнік для выбранага. Вечарам пазваніў Васіль. Яму спадабалася «Аблачына-самабранка»[4]. Асабліва падабалася яму беларуская, ушацкая, як ён сказаў, мова. «Я і не думаў, што ты такі язычнік; паганец не буду гаварыць, бо мае і кепскае адценне». У Васіля нават з’явілася задума, каб пачытаў я паэму па тэлебачанні.

*23 лютага, надзеля*

На Ушачу! Мокры снег. Дарога дадому хутчэй бяжыць. Душа жыве там, дзе нарадзілася, і з усіх дарог вяртаецца на роднае котлішча. «Гадуюць кабаноў...»[5]

*Ушача!* Снегу багата. Снег чысты. Некалі мама, прыехаўшы ў Менск, набрала міску снегу, каб растапіць, як дома. І дужа была здзіўлена, што вада ў місцы была чорная. Гэта яшчэ ў хрушчоўскія[6] часіны экалогія пра сябе нагадвала. Як аджываецца ўсё. Электралічыльнік у вуглу трашчыць,

---

[1] Багамолаў Уладзімір Осіпавіч (1926–2003), рускі пісьменнік.

[2] ГУЛАГ — Главное управление исправительно-трудовых лагерей = Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў.

[3] Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч (н. 1927), рускі пісьменнік. Генерал-маёр авіяцыі, ваенны лётчык 1 класа. Заслужаны работнік культуры БССР (1985).

[4] Гл.: Аблачына-самабранка: Бяседа багоў (29.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 223.

[5] Гл.: «Гадуюць кабаноў...» (23.02.92, па дарозе на Ушачы) // Трэба дома бываць часцей... С. 333.

[6] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. 1-шы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня Савета Міністраў СССР.

рыхтык цвыркун. Памірае жывое і ажывае мёртвае, механічнае. Як у фантастыцы.

*24 лютага, панядзелак*

Пішу [год] 92. А рука ледзь не вывела 95. Можа, калі Бог дасць, дажыву. Першы раз за колькі-колькі гадоў свой дзень нараджэння сустракаю дома. Схадзіў да мамы. Большасць ушацкіх людзей, знаёмых і блізкіх, — там, на Бутаўшчыне. Толькі даты на слупках гавораць пра век іхні, адведзены ім капрызным лёсам. Жывых знаёмых усё меней і меней. Неўпрыкметку падганяецца чалавек у гадах да бальшыны — да радні свае, да блізкіх-знаёмых. І сам таго не заўважыш, як там, з усімі, апынешся. Ажно часам думаеш, ці не цень гэта твой ходзіць па зямлі? А пасля і ценю не застанецца. Дрэвы таксама даюць цень да пары. А ўрэшце — пянёк, і пянька пад канец не застаецца. Прыходзім прайсці кругі зямныя, а там ужо новыя чакаюць. І сонца кругамі, і год кругамі, і чалавек, — усе ходзяць кругамі. У Бібліі сказана, што ўсё вяртаецца на кругі свае. На свой ушацкі круг вярнуўся часова, як і часова на зямлі гэтай трывае мяне Усявышні Бог.

*25 лютага, аўторак*

Прыходзілі дзяўчаткі-шасцікласніцы. Віншавалі. Я так зразумеў, што з Днём арміі. Валя ім тое-сёе да чаю зрабіла. Пытаюся: «Ці будзеце есці селядзец?» — «А што гэта такое? Мы яшчэ не праходзілі». Гэтак вучаць у Вушачы беларускай мове. Школа лічыцца рускай, парт[…] і раённа-савецкае начальства перавялі неўпрыкмет. А гавораць дзяўчаткі на дземянцееўцы. А якая цудоўная крывіцкая невыводная арфаэпія. І па спадчыне, і, відаць, ад нашага паветра, ад нашых лясоў ды вазёраў. Клопаты дарослыя. Расказалі, як бацькі п'юць. Было вяселле. За стол прасілі выкуп. Зрабі хатку з дзясятак і страху накрый дзясяткай. Адна зусім па-даросламу кажа: «Нічога сабралі, тысяч 9».

*26 лютага, серада*

[Мінск.] З раніцы званіў Ніл. Ці згодны я ўвайсці ў камісію па прэміях. Расказаў яму пра Міхалкова[1]. Да чаго б гэта ўсё?

Адрамантаваў тэлефон. Савецкі чалавек — гэта надоўга. Прыватная майстэрня. Даў заўвагу, што дрэнна адрамантавалі, у адказ: «Калі не падабаецца, не хадзіце да нас». Ход думак савецкі. Гэта як невыводная зараза.

---

[1] Міхалкоў Сяргей Уладзіміравіч (1913–2009), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1971). Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942, 1950, 1978), Ленінскай прэміі (1970).

*27 лютага, чацвер*

Ракам-бокам падаўся на працу. Нешта немач садзіцца на мяне конна і паганяе. А тут яшчэ пераклад п’есы купалаўцам вісіць на шыі каменем ад млына.

*28 лютага, пятніца*

Дзяўчаткі на працы, дзякуй ім, наладзілі такі абед, як у часы застойныя. Якія яны ўсе мілыя, як добра з імі. Аж сумна стала, што засталося і жыць мала, і працаваць з імі, ластаўкамі. Віншаваў «ЛіМ»:

Віншую «ЛіМ» і ліманят,
Жадаю жыць багата.
Няхай не толькі ліманад
Ліецца ў гонар свята.
Хай сцяг Вярцінскага нясе
Мікола Гіль ва ўсёй красе.

Быў колькі гадзін у самай гушчыні жыцця і народа — стаяў у чарзе па нейкае віно без эцікетак, але па 27 рублёў.

* ! 28.II.92 14.00 Мастацкі музей. Выстаўка [дакументаў] генацыду яўрэяў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

[Запісы.] Святы Валянцін мае ключ ад каранін… Адзін ты ў мяне, каб цябе ніводнага не было… Хорша, тата, не ўдавіся!.. Баёк (ушацкае).

*29 лютага, субота*

Дамінічку вазілі ў паліклініку. Пачынае ўжо рыфмаваць: сабака — вака. Да начы перакладаў Мальера купалаўцам. Званіў Васілю. Ён заўтра выступае ў тэатры на вечары яўрэйскім. Мне трэба выступіць у «Яме»[1].

*1 сакавіка, нядзеля*

Выступленне ў «Яме». Мітынг памяці ахвяраў. Некалькі чалавек уцалела з гета. Саўулады падрыхтаваліся былі зрабіць з «Ямы» тое, што і з яўрэйскімі могілкамі. Сціснулі дамамі, а пасля лёгка спаслацца на Генплан.

У Рускім тэатры ўзяў у Луцэнкі[2] перакладаць польскі мьюзікал — легенда пра [пана] Твардоўскага. З Андросікам другую частку Мальера.

---

[1] «Яма» — памятны абеліск, пастаўлены ў 1947 г. у Мінску на месцы пахаванняў яўрэяў Мінскага гета, расстраляных фашыстамі ў 1941–1943 гг. У 2000 г. на яго месцы паўстаў мемарыяльны комлекс. Гл.: Над Ямай (27.02.92) // Толькі б яўрэі былі!..: Кніга павагі і сяброўства. Мінск: «Кнігазбор». 2011. С. 200.

[2] Луцэнка Барыс Іванавіч (н. 1937), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1975). Народны артыст РБ (1995). У 1991–2008 гг. мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага.

Вечар у Рускім тэатры (былая сінагога). Выступаў Васіль. Мяне занесла, і нёс я камуністаў. Мне Раеўскі[1] расказаў, што дырэктарам старэйшага спіртзавода стаў былы першы сакратар райкома. Дужа да слёз кранула вітанне праведнікаў — нашых людзей, якія ўратавалі яўрэяў. Людзі між сабой мірна жывуць, гэта ўладаносы чубяцца, каб іншым кепска было. З Вільні выступаў і падкрэсліў, што антысемітызм — лакмусавая паперка, якой правяраецца здароўе дзяржавы. Успомнілася, як мама ўратавала сваю знаёмую. На запытанне немца: «Юдэ?» — пераксцілася і сказала, што знаёмая таксама кшчоная. Жахліва прыгадалася марозная яма каля Бутаўшчыны. Як яна хадзіла [зямля над засыпанымі расстралянымі яўрэямі]. А, здаецца, — прозвішча не помню — палез, каб садраць што з нябожчыкаў, а яго нехта ў сутарзе ўхапіў за нагу і не адпускаў. Крык на ўсю Ушачу апоўначы [чуўся]. Наогул, яўрэйскае пытанне дужа далікатнае, ні мітынгамі, ні клятвамі, як святар Ян Матусевіч[2] кляўся, што ён любіў ўсё жыццё яўрэяў, пытання гэта не вырашыць. Маскалі і камуністы заўсёды іграюць на гэтым пытанні, не даюць яму вырашыцца натуральна, па-людску людзьмі.

[З аповеду Акуліны Андрэеўны[3] пра расстрэл ушацкіх яўрэяў:] «Яма хадзіла… крычалі…» Яна ішла з суседкай, немец спыніў тую: «Юдэ!» Мама пераксцілася: «Не!» — і выратавала суседку. Антысемітызм — лакмусавая паперка, якой правяраецца здароўе дзяржавы.

*2 сакавіка, панядзелак*

Да зубнога. На працу Алкаголь Рэстаранавіч Сталінюгін (Вялюгін[4]) прынёс свой пасмяротны пры ягоным жыцці аднатомнік. Уключыў туды і дзіцячую паэму «Вецер з Волгі» — пра хлопчыка крывавага, які ўсяму свету ў вачах роіцца. Замашкі сталінскага […] ў літаратуры. Прэтэнзіі. А ўсё мёртванароджанае адпачатку. Яшчэ думае, што можна арганізаваць званкі. Толькі адкуль? Усё ў застойныя часіны падкрэсліваў, што ён

[1] Раеўскі Валерый Мікалаевіч (1939–2011), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). Народны артыст РБ (1995). У 1991–2008 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага нацыянальнага акадэмічнага тэатр імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[2] Матусевіч Ян (1948–1998), беларускі рэлігійны дзеяч; у 1979 г. перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва. У 1990–1993 гг. пробашч касцёла 1-й Мінскай грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа.

[3] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971).

[4] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968). У 4-м т. «Дзённікаў і запісаў» Р. Барадуліна (зн. № 7, с. 316–317) згадвалася прычына горкай крыўды Рыгора Іванавіча на А. Вялюгіна, да якога ён ставіўся як да сапраўднага сябра, і мая заўвага, што гэта, магчыма, чыясьці наўмысная выдумка. На жаль, як падказаў сп. М. Скобла, у архіве А. Вялюгіна сапраўды захоўваецца брудная эпіграма, змест якой паэту, бачна, пераказалі (*заўв. Н. Давыдзенка*).

сябруе з целаахоўнікамі прыгожай легенды партапарата — Машэрава[1]. І яшчэ дружба з бочкай Панамаровым[2], памочнікам Машэрава.

* * *

Змярканнем і світаннем
Здаўна казалі людзі:
Усё зямлёю стане,
Усё зямлёю будзе.

Зямлі, як той манетцы,
Круціцца спакваля.
Усе зямлёю станем,
А як жа быць з пытаннем:
Ці застанецца
Зямля?

*3 сакавіка, аўторак*

Дырэктару сёння — 45. «А сорак пяць — узрост мужчынскі…» [у дзённіку]. На кінастудыі падпісалі дагавор. Палякову[3] параіў прыцягнуць да працы Барыса Бур'яна — інтэлігентнага, адукаванага, затуканага *гіля*-мафіяй.

*4 сакавіка, серада*

Запіс на радыё. Слова пра Ларысу Геніюш. Вясна яшчэ спадманлівая. І снег, і золь, і вецер. На радыё расказвалі, што ад ЦК да КГБ, і да турмы, і да Дома ўрада падземныя дарогі, што можна ездзіць на машынах. На ўзор купецкай Масквы, партыйна-купецкай.

«Я думаю, такое ёсць паданне…» [накід].

*5 сакавіка, чацвер*

У падатковую інспекцыю. Да Пятра Краўчанкі ў Міністэрства замежных спраў, якія па-ранейшаму гатуюць кэдэбісты. Краўчанка зноў вярнуўся ў дом, адкуль пайшоў у Гаркам. Пампезна-савецкая будыніна. Міністр хацеў здацца ветлівым. Расказваў, якая дружба з Мальдзісам […], як гас-

---

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[2] Панамароў Валянцін Георгіевіч (1923–2006), памочнік П. Машэрава (1965–1971); рускі пісьменнік, нарысіст.

[3] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Гал. рэдактар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» Кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1995).

цяваў у драматурга, што перагнаў Макаёнка па грашах — у Алёшы-[...]. Паглядзеў на морды — і кэдэбісцкім духам патыхнула на мяне.

*6 сакавіка, пятніца*

Адчуў, як страшна падаць у простым значэнні слова. Спяшаўся здаць аналіз Дамінічкі, сесці ў новы прыгожы трамвай. І так грымнуўся з усіх чатырох. Метры тры па асфальце праехаўся, аж пальчаткі наскрозь. А як цяжка падаць у пераносным, узвышаным, значэнні слова!

«P. S.»[1].

*7 сакавіка, субота*

З раніцы шчыльнае яднанне з народам — стаяў у чарзе па гарэлку. Пачуў выраз: верабей вераб'я бачыць здалёку. Хадзіў на Камароўку. Перакладаў Мальера.

*8 сакавіка, нядзеля*

На Камароўку. Да Радзіка. Да паўночы перабіралі вершы з двухтомніка на выбраную. Колькі непатрэбнасці, колькі аднадзёнак напісаў я. І сорамна, і крыўдна. Што вініць час, трэба сябе самога, бо мазгоў не хапіла падумаць і смеласці выстаяць і перад спакусай, і перад націскам. Добра быць Нілам. Яму ўсё ягонае геніяльным здаецца. Глядзіш на сваё праз дваццаць год і чырванееш, а калі пройдзе час і нехта паглядзіць? «А нам, беларусам шанцуе на зоны...»[2] [у дзённіку]. Верш не атрымаўся. Мне гэта і Дранько пацвердзіў.

*9 сакавіка, панядзелак*

Да Пятра Ісаевіча. Двух ніжніх зубоў як і не было. Рот, як барана з паламанымі зуб'ямі. Пазваніў Васілю. Ірына[3] адказала, што ў рэанімацыі. У мяне зямля з-пад ног паехала. А чацвёртай раніцы стала кепска. Але натое ж ён і Быкаў — да 8-мі цярпеў, каб не турбаваць «неадкладную». Хай Божанька беражэ яго для Беларусі. Бо адны стуібні застаюцца ды кормная партыйна-кэдэбісцкая мафія раскашуецца на горы людскім.

Вечарам, дзякуй Богу, званок. Васіль звоніць. З рэанімацыі вывелі, здаровяць капельніцамі. Ляжыць у 408-й палаце, тэлефон 29–36–82. Аж на душы пасвятлела!

---

[1] Гл.: Нашча: P. S. (6.03.92) // Евангелле ад Мамы. С. 378.

[2] Верш прысвечаны В. Стрыжаку. *Стрыжак* Віктар Іванавіч (1955–1995), беларускі паэт.

[3] Быкава Ірына Міхайлаўна (н. 1927), жонка В. Быкава.

*10 сакавіка, аўторак*

На працы. Званіў Радзік. Яму падабаецца «Міласэрнасць плахі». Дзякуй яму, дапамагае мне з аднатомнікам!

Ідзе вясна. Радасць на душы па інерцыі. Бо жыццё ўсё змрачнее і змрачнее. На прылаўкі аж глядзець боязна — гэткія цэны, што б'юць электратокам. Нібыта на тых слупах: «Не ўзлязай — смяротна жыццю!»

*11 сакавіка, серада*

Занёс вершы Міколу Гілю ў «ЛіМ». Паталкавалі з ім трохі. Ягонаму сыну-філолагу, таксама Міколу[1], падабаліся мае вершы ў «Маладосці» № 2. І як мала трэба чалавеку, які хворы на вершы. Адразу ляпей сябе адчуў. Мікола сам хваліў паэму «Аблачына-самабранка».

Хадзіў да Васіля. Занёс яму мінеральнай «Мінскае» вады. Іншае няма нават у аптэцы. Сустрэў у Лечкамісіі Зуёнка. Ён да жонкі. Літроўнасць — па-ранейшаму начальству [...] Лечкамісія. Васіль адчувае сябе лепей. Хоча выпісвацца. З Ірынай Міхайлаўнай угаворвалі, каб зрабіў усе праверкі, бо сюды яго на трактары не завалачэш. «Вершы, што каменьчыкі марскія...»[2]. Які чалавек і магутны, і кволы. Васіль у бальнічных тапачках. У спартыўных портках, дзе на жываце расходзіцца шчылінка і відаць гумка. Не каб халат, а замытая хламідзінка. І гэта вялікі, нязломны духам Васіль Быкаў! А ўсё-ткі дужае перамагае ў чалавеку, хоць і без кваліны ён не жывы.

*12 сакавіка, чацвер*

Бяззубею. Хутка забляю, як баранька. Разумею цяпер праклён наконт зубоў яўрэйскі. На працы дачытаў другі том Язэпа Пушчы[3]. Мала таго, што фізічна зламалі сталіна-кэдэбісты, выбілі ўсю паэзію з таленавітай душы. Славіць і радуецца. Зрэдчас у накідах прарываецца чалавечы боль. Крымінальнікі з партыіі адбівалі мазгі нацыі. Гэта раўназначна душагубкам гітлераўцаў. І радзіма савецкая, і партыя родная. Гэта пятля страху душыла і прымушала пісаць не тое, што адчуваў. Бо не мог жа дзякаваць Паэт партыі за 30 год лагерна-пасяленцкай сабакарні. У беларускага Авідыя[4] Уладзімера Дубоўкі[5] болей засталося сапраўднай паэзіі. Дый

---

[1] Гілевіч Мікалай Мікалаевіч (псеўд. Віч Мікола; н. 1973), беларускі журналіст, паэт. Студэнт БДУ; супрацоўнічаў з час. «Першацвет».

[2] Гл.: Нашча: Каменьчыкі (11.03.92) // Евангелле ад Мамы. С. 377.

[3] Пушча Язэп (Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902–1964), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны. Пушча Я. Збор твораў: У 2-х т. Мінск, 1993–1994.

[4] Авідзій (Публій Авідзій Назон; 43 да н. э. — каля 18 н. э.), старажытнарымскі паэт. Жыў у выгнанні.

[5] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962).

ратаваўся перакладамі з Шэкспіра[1] ды Байрана[2]. Хоць ён жа сам сапсаваў шэдэўр прароцкі свой «О Беларусь, мая шыпшына…». Дзе і след шынны з'явіўся, і ў камунізм шлях і г. д. Расказвалі, як ён замочваў двухтомнік[3]; калі паднялі тост за яго, папрасіў узняць за партыю, а калі за жонку — паправіў: за сакратара райкома (успамінаецца ў Генюш — « з пароды партыйных выдраў»). У «Вожык»:

*Алесь Адамовіч*

Партызанам сталеў,
не ў штабных бліндажах,
І не глух у застоістым гуле.
Адамовічаў крык пра чарнобыльскі жах
У пустэльні імперыі чулі.
Сталіністы, чэкісты, генералітэт
Пазіраюць, як чэрці з балота,
Ды прарока высока ўзнёс аўтарытэт,
Як вятрак, што ўздымаў Дон Кіхота.

*13 сакавіка, пятніца*

Маё любімае чысло, каб яшчэ панядзелак — зусім было б здарава. Адпаведна шанцуе — яшчэ зуб выдралі. З раніцы быў снег, удзень — дождж і вецер.

** * **

Жыццё — сумнаватая прытча:
Пакуль не даслухаў, жыві!
І чуй, як наступніка кліча
Спалоханы голас крыві.

Кроў марна баіцца праліцца,
Пайсці ў безыменны пясок,
Ёй сніцца, як хмарка раслінцы,
Нясмелы яшчэ галасок.

Крыві, як дажджоў, пралілося,
Каб коласу веры расці.
Жывучай крыві сугалоссе
Нашчадка вядзе па жыцці[4].

---

[1] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт. Гл.: Шэкспір В. Санеты. Мінск, 1964. Пер. У. Дубоўкі.

[2] Байран Джордж Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.

[3] Дубоўка У. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1965.

[4] Параўн.: «Кроў марна баіцца праліцца… (20.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 68.

Сёння буры. Але пішу, каб забыцца. «У гарадах бялееца бярэзіна...»[1] Чытаў Драньку. Апошні прызнаў задужа. У яго добры густ. Трэба верыць маладзейшым, яны з вастрэйшым зрокам, з чуцейшым слыхам. Хай растуць!

*14 сакавіка, субота*

Першы дзень сакавіка па-старому, па-нашаму. Сойм БНФ. Пазьняк нейкі ўнутрана светлы, прасветлены, як пасланы на брудную зямлю з іншага свету, а зброю атрымаў — веру, давер і дзіцячую безабароннасць. Яшчэ непахіснасць, нясхібнасць.

Пачынае *Зянон [Пазьняк].* Аб падрыхтоўцы да канферэнцыі. Аб антыкрызісным пагадненні.

*Анцулевіч.* Справаздача пра дзейнасць ініцыятыўнай групы. «100 тысяч за тыдзень подпісаў у сярэднім. Каля 250 тыс. подпісаў усе сабралі. Улады нечаканасцю былі ўражаны, але ўзяліся за справу, каб пярэчыць. Уцягваюць у валакіту, правакуючы на нейкія дзеянні. Паралізавана засведчанне подпісаў».

*Абмеркаванне*. Выступаюць з мейсцаў. Рэпліка *Пазьняка:* «Той час, калі я служыў у паліцыі, я і сам забыўся». *Зянон:* «Калі за 70 год столькі напладзілі праграмаў, што ўсё і не злічыш, галоўнае, каб народ меў уладу».

*Сіўчык:* «Збор подпісаў ідзе толькі ў 70 гарадах і мястэчках, а ў Беларусі іх сотні».

*Зянон:* «Мітынг — своеасаблівы жанр, трэба, каб людзі былі настроены, каб аднадумнасці болей было. Не трэба нічога чалавеку тлумачыць сілком».

*Анцулевіч:* «Тактыку збору подпісаў мяняць нельга, тактыка не мусіць быць назойлівая. Вопыт з пікетамі варта мець на ўвазе».

*Зянон*: «Эфект сабакі за плотам. Пакуль ідзеш ўздоўж плоту, гатовы разарваць, а як адчыніш веснічкі — хвост падціснуў і ў будку. БЗВ[2] падрыхтавана антыкрызіснае пагадненне. Вакол нас абстаноўка нестабільная. Адно пытанне — пагроза суверэнітэту. Пытанне над усімі спрэчкамі. Гэта, як лясны пажар. Перамовы з 30-цю арганізацыямі: з усімі партыямі, прафсаюзамі, КДБ, МУС, з Кастэнкам[3], Кебічам, Шушкевічам[4],

[1] Гл.: « У гарадах бялееца бярэзіна...» (13.03.92) // Евангелле ад Мамы. С. 236.

[2] БЗВ — Беларускага згуртавання вайскоўцаў (з 1991).

[3] Кастэнка Анатоль Іванавіч (н. 1940), ваенны і дзяржаўны дзеяч РБ. Генерал-палкоўнік (1989). У 1994–1995 гг. міністр абароны РБ.

[4] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Прафесар (1972). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). У 1991–1994 гг. старшыня ВС РБ. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988). Сын С. П. Шушкевіча.

Чаусам[1] і інш. Адмовіўся на пачатку Шушкевіч, бо да яго цяжка даходзіць. І пачаў казаць: з умовай унутранага становішча. Кастэнка адмовіўся [ад] пагаднення».

*Трусаў[2]:* «Спроба анексіі Беларусі — цягнуць Расія, Украіна, Польшча. Можа здарыцца гэтак, як у 1918 годзе, калі Беларусь разарвалі, а БНР[3] не паспела ўсталявацца».

*Зянон:* «У нас няма структур на абарону суверэнітэту».

*Хадыка:* «Факт нестабільнасці за межамі рэспублікі. Сярод 27 подпісаў няма пра пракамуністычных арганізацый. Спроба на абарону дзяржаўнасці Беларусі».

*Рознае.* Аб прадстаўніку ў Цэнтральную выбарчую камісію. Прапануецца Людміла Русак.

*Голубеў[4]:* «25 сакавіка — свята. Павінны быць вывешаны сцягі. Як падрыхтаваўся БНФ да святкавання. Пра сесію Вярхсавета. Рэарганізацыя ВС не адбудзецца, бо не падтрымаюць ні шушкевічаўскай прапановы, ні БНФ, апазіцыі».

Канец сойма. Народны дэпутат Навумчык[5] у найшыкоўнейшай (лепшай, чымся ў бізнесменаў) скуранцы ўважліва разглядае свае заморскія ці з размеркавальніка чаравікі, ці няма на іх кроплі бруду. Моладзь любіць дэмакратыю, а яшчэ болей пажыць усмак.

*15 сакавіка, нядзеля*

Сяджу над Мальерам. Спрабую выдумваць прымаўкі. Не страш бабу качарам, яна яго бачыла.

Чымся рыбка ў рацэ, лепей піпка ў руцэ.

---

[1] Чаус Пётр Рыгоравіч (н. 1939), рускі і беларускі дзяржаўны дзеяч. Генерал-палкоўнік (1992). У (студзені — красавіку) 1992 г. міністр абароны, у 1992–1994 гг. нам. міністра абароны РБ.

[2] Трусаў Алег Анатольевіч (н. 1954), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры; грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання, нам. старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1991–1996).

[3] Беларуская Народная Рэспубліка (1918–1921). Не была прызнана шэрагам вядучых дзяржаў. Па Рыжскай дамове 1921 г. незалежнай беларускай дзяржавай была прызнана БССР.

[4] Голубеў Валянцін Фёдаравіч (н. 1955), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (2012). Прафесар (2014). У 1990–1992 гг. ст. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[5] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст і палітычны дзеяч. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС 12-га склікання. З 1996 г. жыве ў Празе. Лаўрэат Літаратурнай прэміі ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2006).

Вечарам да Радзіка. Закончылі адбор выбранага[1]. Мне такі прыемны сюрпрыз зрабілі Лапушыны[2]. Іхнія ўнукі — дзевяцікласніца і другакласнік праспявалі на іўрыце дужа меладычныя, нейкія глыбінна-вечныя песні. Глядзеў на Яфіма Сямёнавіча, радаваўся разам з ім і сумаваў. Ад'язджаюць. Гэта [...] камуністам перашкаджаюць усе народы, апрача бараніста-імперскага. Унукі ходзяць у нядзельную школу, каб вучыць іўрыт і песні.

У Швецыі, памятаю, пры нядзельнай школе 3 ці 4 армянчыкі, і настаўніку дзяржаўная зарплата і дзяржаўная пенсія. А ў нас, у краіне перамокшага сацыялізму, усё не так, як у людзей.

*16 сакавіка, панядзелак*

Пазваніў Ваніцкаму[3], дзе ліст у выдавецтва? Ён сазваніўся, і атрымалася, ён у Сачанкавай рэдакцыі. Барыс ўзяўся выдаць паэзію народаў свету пра Беларусь «Беларусь мяне збеларушвае»[4] ў маім перакладзе. І на тым дзякуй яму!

Вечарам званіў Васілю ў Лечкамісію. Быў міні-прыступ у беднага.

*17 сакавіка, аўторак*

Праца. Бегаў з рукапісам у Сачанкаву рэдакцыю. Сёння з'езд актораў. Дудараў перагнаў Макаёнка па грашах, цяпер хоча абставіць сябе пасадамі. Галодны актор дарваўся да пірага.

А што, калі ў гумары перакласці мужичок с ноготок — мужычок з мазжачок?

*18 сакавіка, серада*

У зубадзёрню. На працу. Прыехаў Іван Бурсаў[5] з былой метраполіі, галазадай Масквы. Пасяліўся ў «Мінску».

Вечарам званіў Васілю. Яго неўзабаве выпішуць.

Цікава чуць, калі Васіль пытае: «Ну, што там на волі чуваць?»

Абалдзеў ад Мальера. Трэба перакладаць у ціхай хаціне й мясціне.

---

[1] Барадулін Р. Трэба дома бываць часцей...: Выбраныя старонкі лірыкі. Мінск, 1993.

[2] Лапушыны Яфім Сямёнавіч (адвакат) і Бела Ізраілеўна, бацькі Р. Лапушына.

[3] Ваніцкі Арсеній Мікалаевіч (1933–2001), старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (1984–2001).

[4] Беларусь мяне збеларушвае: Словы любові. Пер. Р. Барадуліна. Мінск, 1993.

[5] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (н. 1927), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыве ў Маскве.

*19 сакавіка, чацвер*

Скончыў Мальера. Можа, назваць «Нежанаты мнагажэнец»[1]? Рэм[2] прапануе «Залёты пана дэ Пурсаньяка». Выдумваю прымаўкі. Во напалохаў, аж чорт загалёкаў. У кожнае вароны свой куст, у кожнага чалавека свой густ. Лепей піпка ў руцэ, чымся рыбка ў рацэ.

*** [Прыказкі да п'есы ў запісах мая 2001 г.]

Адно баліць, абы цвяліць.
Штосьці сказаць у злосці.
Язычкі, як іржавыя цвічкі.
Што мы табе зрабілі — цвік у азадак забілі?
За гэтыя жарты ты кія варты.
Хлусіць і язык сабе не адкусіць.
Хто хлусіць, хай свой язык адкусіць.
Дзе твой сорам? Пайшоў свінням на корам.
Пайшоў, адкуль прыйшоў!
Ідзі да д'ябла ў абдымкі!
Ідзі й не смярдзі!
Прэч да чарцей усіх масцей!
Прэч з вачэй! І хутчэй!
Уцякаць без аглядкі, падмазаўшы пяткі.
Няхай ідзе, апамятаецца ў вадзе.
Хай сканае, хто мне злога жадае.
Хопіць смуроду ўсяму вашаму роду.
З глузду з'ехаў, а на клёк не ўз'ехаў.
Хто розум мае, той дурату не ўспрымае.
Зрабіць расправу на славу.
Усё ўладжана і загладжана.
Хопіць сварыцца, давай мірыцца.
Мірыцца лягчэй, чым сварыцца.
Вось так апынуўся ў ступе мак!
Сам вінаваты, што свінаваты.
Вядома, што авёс не салома.
Так табе і варта, ёлуп упарты.

---

[1] «Нежанаты мнагажэнец, альбо Залёты пана дэ Пурсаньяка». Рэж. А. Андросік, мастак Б. Герлаван, кампазітар У. Кандрусевіч. *Герлаван* Барыс Фёдаравіч (н. 1937), беларускі мастак тэатра; педагог. З 1991 г. выкладчык БДАМ. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак РБ (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988). *Кандрусевіч* Уладзімір Пятровіч (н. 1949), беларускі кампазітар. Лаўрэат прэміі імя Л. Александроўскай (2006), Дзяржаўнай прэміі РБ (2017).

[2] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. У 1987–1993 гг. кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. З 1995 г. жыў у ЗША.

Знікай з вачэй, уцякай хутчэй!
Менш кажы, хутчэй бяжы!
Мне ўсё роўна, ці пуста, ці поўна.
З гэтай пары ўсе сябры!
Як ехалася-плылося, ці ўсё ўдалося?
Куды хачу, туды і лячу.
Ці каму нясіце, ці самі насіце.
Трымаем, што маем.
Свой характар і ў вепра, і ў срэбра.
І багаты можа бачыць неба праз краты.
Такая бяда — выцекла з мора вада.
Вечарам павесялімся — раніцай пахмялімся.
Са сну й елку прымеш за сасну.
Такіх пакут — тут дык тут!
Добра ўсё ў мяне, раз на беразе, а не на дне.
Ідзі пагрэцца да д’ябла, калі азябла.
Прыстойная, як цялушка дойная.
Набалбаталася, ажно захісталася.
Той заякоча, хто цябе захоча.
Няма ахвоты да такой работы (люботы).
Так кахаю, што пакою не маю.
Не брашу, а рукі прашу.
Як ні кручу, а жаніцца хачу!
Жоначка-даражоначка.

*20 сакавіка, пятніца*

Праводзіў Бурсава ў Маскву. З Мікалаем Раманавічам Казловым[1] дамовіўся, што ён аформіць маё «Выбранае» і зборнік паэзіі свету пра Беларусь. Выкупіў у «Падпісных [выданнях]» два першыя тамы Быкава. Васіль ужо дома.

*21 сакавіка, субота*

Званіў Васіль. Творчыя саюзы вызвалілі ад падаткаў, калі выступіў клоун, вхожий у ЦК, Яроменка[2]. Тут партапаратчыкі свайго пазналі. Каля метро на пляцы Незалежнасці падпісаўся за рэферэндум і недавер Вярхсавету. Васіль казаў, што Танк кепска выглядае, ляжыць у Лечкамісіі. Усё

[1] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік.

[2] Яроменка Мікалай Мікалаевіч (1926–2000), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1964). Народны артыст СССР (1989). З 1959 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

ўспамінае рамантыку рэўбарацьбы. Дарэчы, казаў пра дзеда Пазьняка[1] хараша. Васіль кажа: «Напішыце колькі старонак». Не хоча. Стары падпольшчык-бальшавік. Трэба да яго падаслаць Валю Аксак[2]. Можа, ёй скажа што.

*22 сакавіка, нядзеля*

Прыйшла тэлеграма ад маскоўскай хунты, каб падтрымаў. Яўна адрасам памыліліся ці ўсім рассылалі. Гэта лепей бы Лужанінаву пляменнічку Ул. Паўлаву[3].

Цэлы дзень перакладаў падборку вершаў Зофіі Ільінскай. Ураджэнка Беларусі, піша па-ангельску і па-польску. Нізка якраз звязана з Беларуссю. Таму і перакладаў. Наогул, пераклад, як п'янка, уцягваешся і ўжо не можаш не перакладаць. Спачатку нешта аморфнае, а потым сам сябе юшыш, — і пачынае гучаць па-беларуску.

«Гадавыя прайшоўшы свае паравіны…»[4]

*23 сакавіка, панядзелак*

Зайшоў да Якава Абрамавіча [Серпера]. Лапушын [Яфім] і нейкі чалавек. Гэта ён адстоіў Лапушына. Гары Пятровіч Паганяйла[5]. Бацькі з Пухавіччыны аднекуль. Пытаюся, адкуль? Нарадзіўся ў зоне ГУЛАГа. Пытаюся: «Бацька там працаваў?» — «Не, — кажа, — мама сядзела. Бацька ў Убарэвіча[6] быў начальнікам разведкі. Адпаведна ў 38-м расстралялі. Маці пазнаёмілася з адсядзентам Сафронавым, які працаваў бухгалтарам. Сыну (нарадзіўся ў 1943 г.) даў прозвішча маці па першым мужу. Гары — у гонар амерыканскага спевака ці музыкі. Гары Пятровіч пасля вайны ў адпаведнай графе анкеты пісаў, што нарадзіўся ў турме. Тым самым ставіў у шарахлівае становішча асабістаў.

Занёс Васілю лекі. У гаражы. Аглядаў машыну. Туга з бензінам. Я ў казахскай шапцы. Прапанаваў Васілю прымерыць, адмовіўся, бо дужа стрыманы, самастрыманы ў сваіх праявах пачуцця. З усмешкай расказаў, як яму дужа пышную шапку прывёз з Сібіры ці Уладзівастока Адамовіч. А неяк прыехаў італьянец, снег. А госць з голай, з босай галавой. Васіль,

---

[1] Пазьняк Ян Аляксандравіч (1887 (95?) — 1939), беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст. Дзед З. Пазьняка.

[2] Аксак Валянціна Іванаўна (Арлова; н. 1953), беларуская паэтэса, журналіст. У 1990–1992 гг. супрацоўніца «Народнай газеты», 1992–1995 гг. час. «Беларусь».

[3] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1990–1998 гг. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1997).

[4] Гл.: «Гадавыя прайшоўшы свае паравіны…» (22.03.92) // Евангелле ад Мамы. С. 341.

[5] Паганяйла Гары Пятровіч (н. 1943), беларускі юрыст, праваабаронца.

[6] Убарэвіч Іеранім Пятровіч (1896–1937), савецкі военачальнік, камандарм 1-га рангу (1935). Рэпрэсаваны.

натуральна (любімае слова ягонае), усторкнуў яму на галаву шапку. Для еўрапейцаў шапка, куртка — дробязі, можна забыцца, можна пакінуць. Нашыя праблемы ім не ў галаве. Правёў мяне да метро.

*24 сакавіка, аўторак*

Да Пятра Ісаевіча. Яшчэ аднаго зуба няма. Ужо ні выступаць, ні красавацца. На працы наш парткормнік дырэктарок пёр, што камуністы бедныя, што ён ніколі партыі не здрадзіць. Сачанка нешта падняў галаву, член ЦК партыі ўгалоўнікаў. Відаць, з так званага падполля даюць сігналы, як казалі ў Уладзівастоку, падаю'ць гудкі ў тумане.

Заходзіў у саюз. Зуёнак падтрымаў перабежчыка Пулатава[1]. Міністрэства культуры (работа КДБ) вылучыла Лужаніна на званне народнага. КДБ сваіх обер-стукачоў у крыўду не дае.

У галаву лезуць тэксты ў «Вожык». [На В. Роўду[2]].

*Генрых Вагнер[3]*

Не Рыхард[4],
Проста Генрых Вагнер,
Адукаваны, апантаны,
Не так хвалы, як працы прагне.
Гарэлі ў працы ўсе тытаны.
Сумузнікаў зайздросных гэткіх
Перахітрыць умее Генрых.

*Пятро Краўчанка*

Навюткім міністрам замежных спраў
Аб'ехаў Краўчанка цэлы свет.
Вярнуўся пасля ўсіх замежных страў
У той жа гаркамаўскі кабінет.
Жыві ці ў палацы, ці ў багне —
На месца ўчынства пацягне.

---

[1] Пулатаў Цімур Ісхакавіч (н. 1939), узбекскі і рускі пісьменнік. Народны пісьменнік УзССР (1989). У 1991–1998 гг. 1-шы сакратар праўлення СП СССР, затым МСПС. (МСПС — Международное сообщество писательских союзов России и стран СНГ.) Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Узбекістана, Літаратурнай прэміі імя В. Пшавэлы ГР, Літаратурнай прэміі імя Саят-Навы (РА).

[2] Гл.: «А слава, як тая кароткая коўдра…» (24.03.92) // Асобы рознай пробы. С. 38.

[3] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. У 1962–1995 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Прафесар (1988). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988).

[4] Вагнер Рыхард (1813–1883), нямецкі кампазітар і дырыжор.

*25 сакавіка, серада*

У Доме каапператара (раней літаратара) урачыстасць з нагоды абвяшчэння БНР, дату гэтую бальшавісцкія [...] замоўчвалі і аблівалі то памыямі, то сабачай слінай. Зала паўнюткая. Няма дзе стаяць. Як заўсягды, выдатна сказаў Быкаў. Падняў залу, каб ушанавалі нашых змагароўпакутнікаў. Пералічыўшы іх пайменна. Гэта кэдэбісцкія халуі [...] ставілі іх імёны ў двухкоссі. Выконваліся песні. Трэба было бачыць выраз твару Пазьняка. Колькі чысціні і радасці. Відаць, калі папраўляць навязлую ўсім фразу, дык не гэтулькі прыгажосць, як чысціня ўратуе свет, калі яго наогул яшчэ можна ўратаваць. Вялікі грэх на ім.

Па дарозе дамоў нешта кумекаў для «Вожыка» [на І. Шамякіна[1]].

*26 сакавіка, чацвер*

*Ушача.* З Марыяй Андруковіч[2] і Валяй у Глыбачку трэба ехаць. У Доме культуры сядзяць рупліўкі культуры, толькі што сядзяць. Ні слова пабеларуску, на дземянцееўцы лупяць. Ледавік невуцтва і нацыянальнае цемры дужа цяжка папхнуць хоць на міліметр. Цяжкі. Нерухомы. Пятро ў сваім рэпертуары. Пад градусам. І дзе толькі бярэ? Марыя Рыгораўна[3] цьмее вачыма, дужа страшна, што не стане яе, нітачкі суравое, якая звязвае мяне з усім ушацкім, народным, нейкім чынам крыху падмяняе маму. Народ звярэе. У краме. Дзяўчынка з маленькім сабачкам спускалася па лесвіцы, насустрач атопак у кірзачах. Па сабаку, хацеў адціснуць лапу. «Самім няма чаго есці, а тут яшчэ сабак паразвялі». Быдла бяззвілістае.

Дзякуй Васілю Макарэвічу[4], перадача пра Генію́ш гучала. Пятро, як пачуў выпады супраць Сталіна, пачаў цверазець і бязмэтна крычаць. Глыбока загналі пад наркозам страху амаль любоў да людаеда, пераемніка яшчэ большага.

*27 сакавіка, пятніца*

У *Глыбачку*. Ужо адчуваецца вясна. Якія боскае красы азёры, краявіды і якая ўбогасць савецкай забудовы. Спецыяльна рабілася, каб абразіць красу гэтую. У Глыбачцы сімпатычная рухавая беларусістая Тоня. На ёй адной сутарэнне Дома культуры, якое лупіцца і рушыцца, як і сама культура. Тут, у Глыбачцы, добрае вяселле. У Вусвею не даехаць з-за гразі. Загадчыца, у дзявоцтве Якута — нашае ўшацкае прозвішча — цяпер Ма-

[1] Гл.: «Хвалілі партыя і ўрад...» (25.03.92) //Асобы рознай пробы. С. 13.

[2] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1968–1995 гг. рэжысёр студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» Кінастудыі «Беларусьфільм».

[3] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[4] Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч (1939–2017), беларускі паэт, нарысіст. У 1979–2003 гг. спецкарэспандэнт Беларускага радыё. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1994).

лахава Марыя Іванаўна, была на нарадзе ва Ушачы. З ёй дамовіліся наконт Цярэшкі.

Перад адʼездам Марыя Рыгораўна пяяла нам песні. Колькі разоў ні чуў, гэтулькі разоў нешта ў душы адтае, нешта гарачае ў грудзях варушыцца. І ўсё гэтае звялі [...] камуністы, каб зрабіць людзей «у белых халатах, у сініх [міліцэйскіх] шынялях» і г. д. Нават імён прафесій няма. Затое было «розум, гонар і сумленне нашай эпохі» — племя камуністых.

На магільнік да мамы. І там неяк па-веснавому трывожна і чакальна. Трывога чакання вясны і новых насельнікаў вечных сельбішчаў.

Адʼезд.

*28 сакавіка, субота*

Сядзеў дома, укладаў аднатомнік. Хадзіў у пральню, хімчыстку, рамонт абутку. Цэны падымаюцца, як у маладога. Пачытаў паэзію ў 3-м «Полымі». Паўлаў як быў з Замошша, гэтак і застаўся з Замошша. Доўга, апісальна, крыкліва. І Дукса[1] не лепшы. Чаго варты глухі, языказаплятальны загаловак кнігі «Горн прымірэння» [1993]. Не чытаюць людзі нашую паэзію і, відаць, правільна робяць. Гэткае чытаць можна толькі пад наркозам ці пад прымусам.

*29 сакавіка, нядзеля*

Сядзеў і друкаваў вершы ў выбранае, абдзіраў, караціў, правіў тое-сёе.

Вечарам званіў Васіль. Згадзіўся напісаць уступнае слова да аднатомніка.

*30 сакавіка, панядзелак*

Тэлеграму ад імя ПЭН-цэнтра ў падтрымку НСП супроць Пулатава.

Рабкевіч[2] расказваў, як наважыліся з яўрэйскіх могілак рабіць парк. Толькі пачалі спілоўваць сухастоіны, вароны па сучку, па галінцы перанеслі свае гнёзды.

На партапаратны ўчэпісты вопыт,
Нібы на гарэлку, не падае попыт.

*Жарт касці не ломіць.*

---

[1] Дукса Марʼян Мікалаевіч (н. 1943), беларускі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1990).

[2] Рабкевіч Валянцін Іванавіч (1937–1995), беларускі мовазнавец, перакладчык, паэт. Кандыдат філалагічных навук (1973). У 1974–1995 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*31 сакавіка, аўторак*

Званіў Васіль. СНП зарэгістравалі. Ён і Фазіль Іскандэр[1] сустаршыні да з’езда. Наш ПЭН-цэнтр як калектыўны член НСП. Наш саюз пасылае Паўлава да бондараўскай зграі.

У «Вожык»:

*Васіль Сёмуха*

Ад моў звініць у Сёмухі ўвушшу,
Бо ў працы перакладчыцкай лютуе:
То Фаўставу ён прадае душу,
То Бібліяй сваю душу ратуе,
Забыўшыся на славу і на суп,
Бярэ ён слова кожнае на зуб,
Спявае роднай мове алілуйя.

*1 красавіка, серада*

Да Якава Абрамавіча. Яму паперу-выклік перадрукаваць па-польску. Да Пятра Ісаевіча.

У «Вожык» [на І. Чыгрынава[2]].

*2 красавіка, чацвер*

Прысуджэнне прэмій нашага выдавецтва. Банда трох высунула абавязковага пры размеркаванні ўсіх выгод Янку Сіпакова[3]. Барысок аж яшчэ болей учарнеў, калі не прайшоў сябручок-вепручок Янучок. Трэба бачыць Б. Гаворыць і слухае, якім рэхам у вечнасці аддаецца кожны гук. Даўно ўжо мёртвы як пісьменнік Ш. нешта мычэў. Б. не падабаецца «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». […] Яму ж даспадобы і слова «таварыш». Некалі з К. на арганізаванні «Мартэралогу» з пенай на губах даводзілі, што слова «генацыд» да сталінскіх саколікаў не падыходзіць. Хоць і ўва мне сядзіць культ, але не настолькі. Бо хто ў тыя часіны быў аблаўрэачаны, мусіў слугаваць. І гэта глыбока сядзіць ў Б., Ш. і да іх падобных.

---

[1] Іскандэр Фазіль Абдулавіч (1929–2016), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993, 2013), Бунінскай прэміі (2013).

[2] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1987–1996 гг. старшыня Беларускага фонду культуры, адначасова ў 1989–1996 гг. гал. рэдактар час. «Спадчына». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979). Гл.: «Прывыкшы ля наменклатуры…» (1.04.92) // Асобы рознай пробы. С. 28.

[3] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1989–1993 гг. адказны сакратар час. «Маладосць», у 1993–1997 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «БелЭ імя П. Броўкі». Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

*3 красавіка, пятніца*

Званіў Васіль. Яму спадабалася падборка ў «ЛіМе». Асабліва пра катовы мудкі′.

Прывезлі Даміку на выходныя дні. Усё забываецца, і нястачы, і няўдачы з адным толькі ўспамінам пра самага любімага ў гэтым свеце чалавека — пра ўнучачку. Божанька, дай ёй шчасця, дай ёй долю добрую!

*4 красавіка, субота*

Чытаю запісныя кніжкі Камю[1]. І як жа па-наіўнаму нязграбна выглядаюць запісы С., П., нават Б., — усе ад слова «пі′саць».

Унучка прадаўжае рыфмаваць: дзедзя-шмедзя і г. д. Любіць дурачыцца. Ужо нейкі элемент какетавання ледзьве ўлоўны.

Пад уплывам цытаты [Ж. Суперв'еля[2]] пісаў верш «Ім не патрэбны авёс...»[3].

*5 красавіка, нядзеля*

Люблю раніцай у нядзелю ці на Камароўку, ці проста апусцелым, чужаватым горадам пахадзіць, паездзіць, бо амаль нікога знаёмага не сустракаеш. Здаецца, толькі што прыехаў з Вушачы і знакомішся з горадам, які ведаеш па расказах сябе самога. «Лістападаўскае»[4].

Цікава, у Галівудзе падвялі вынікі на самы горшы фільм і адпаведна на горшую гульню актора. У пісьменнікаў бы гэткія конкурсы праводзіць. Але цяпер нікога нічога не цікавіць, асабліва нацыянальнае.

«Запомнілася»[5]. І цяпер усплыло ў памяці.

*6 красавіка, панядзелак*

Таварыства «Беларусь — Ізраіль» ў БелОКСе. [...] Маслюк[6], мітуслівы пад кліентам Анісенка. Ганарысты прадстаўнік Ізраіля, які нарадзіўся ў Вільні, Доў[7]. Няма нейкага грунту. Нагадвае местачковы базар. Відаць, выйду я адсюль. Праўда, адзінае, з-за чаго цярплю, хачу пабыць у Іерусаліме. Адзінае вандраванне, куды імкнецца душа мая. У святыя мясціны.

---

[1] Камю Альбер (1913–1960), французскі пісьменнік і філосаф-экзістэнцыяліст.

[2] Суперв'ель Жуль (1884–1960), французскі паэт, празаік, драматург.

[3] Гл.: «Ім не патрэбны авёс...» (4.04.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 337.

[4] Гл.: Лістападаўскае (5.04.92) // Евангелле ад Мамы. С. 228.

[5] Гл.: Запомнілася (5.04.92) // Тамсама. С. 227.

[6] Маслюк Валерый Васільевіч (1953–2001), беларускі рэжысёр, драматург, паэт. З 1979 г. рэжысёр, у 1993–1996 гг. дырэктар Беларускага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[7] Шарфштэйн Доў, у 1991–1993 гг. галава прадстаўніцтва Яўрэйскага агенцтва для Ізраіля («Сахнут»; з 1929).

*7 красавіка, аўторак*

Сёння ў нас вечар у Купалаўскім і банкет у «Свіслачы». Не пайшоў. Бяззубым ротам псаваць людзям настрой. Дый шмат каго з прыдуркаў бачыць не хачу.

*Несказанае слова*

*Да 20-годдзя «Мастацкай літаратуры»*

«Мастацкая літаратура»,
За дваццаць бурапенных год
Цябе не гэтак гнула бура,
Як з пенай графаманскі рот.
Што не счыняўся ні на хвілю,
І спадчыну гнаіла цвіллю
Сцяна нахрапістых майстроў.
Хто не вучыў нас, хто не гаўкаў,
Не ціснуў сілаю званкоў —
Ад розных там цэкоўскіх Саўкаў
Да галоўлітных ганчакоў.
Калі ж нарэшце з куфраў, скрынак
Скарб даставаць свой пачалі,
Прыйшоў на двор так званы рынак,
Які да цэн дадаў нулі.
І маладыя мільянеры
Секс-фантастычны гоняць вал.
У іх канкрэтныя намеры —
Адмыць партыйны капітал.
І ўрад, надзіва лабавузкі,
Задумаў множыць удаўцоў —
З літаратурай беларускай
Развесці хоча выдаўцоў.

«Мастацкая літаратура»,
Святкуй бадзёры юбілей,
Сягоння ўжо не кубатура
Плён вызначае.
Дык смялей
Ссавечаныя дзірваны
Ары дасведчаным нарогам,
Заўчасна не звані ў званы,
Трымай высока марку.
З Богам!

*8 красавіка, серада*

Званіў Васіль. Цяжка, сказаў, быць вясельным генералам. Ён выступаў на юбілеі. На банкет не пайшоў. Вечарам званіў Стрыжак. Атрымаў кватэру ў Малінаўцы. Цяпер толькі адзін перавоз-пераезд каштуе 10 тысяч. Дбае ўрад пра чарнобыльцаў. Веткаўскі раён, відаць, будзе ліквідаваны.

*9 красавіка, чацвер*

Прыходзіў Карлас. Круціцца як вавёр у коле. Усё на ПЭН-цэнтр. Дырэктар [Грышановіч] задаволены, што ягоная паэма разышлася хутка, як ён кажа. Учора прынялі нарэшце у саюз Гублера[1] і Баторына[2]. За колькі захадаў! Кэдэбіст Лужанін прывалокся, захацеў уносіць кан'юнктурныя праўкі, мяняць словы пра партыю, пра Леніна. Яму сказаў, што няма цяпер кэдэбісцкай кан'юнктурнай праўкі. Захацелася быць рэвалюцыянерам у добрым, калі яно існуе, значэнні слова. Прадажная душа, колькі ахвяраў на яго чорным сумленні. Але ўжо зямлёю пахне.

Званіў Васіль пасля прагляду тэлефільмаў пра Караткевіча[3] і сябе. Кіношнікі, як дзеці. Знялі — падзякаваць, а болей з іх няма чаго ўзяць.

* * *

*[N.]*

Капрызнай і зямной,
І той,
Што ў неба рвецца,
Абнашчыцца табой,
Табою разгавецца.
Ты на зямлі адна,
Як тая вестка з раю,
Якой і сатана,
Напэўна, патурае.

Ідуць мае шляхі,
Як слепакі без кія.
Адказваць за грахі,
Дык ведаць, за якія!

* Пасёлак Сокал, д. 8, кв. 38. Гублер Навум Якаўлевіч. Сузор'е Панны.

---

[1] Гублер Навум Якаўлевіч (н. 1933), беларускі пісьменнік. Жыве ў ЗША.

[2] Баторын Фелікс Барысавіч (сапр. Хаймовіч; н. 1948), беларускі і яўрэйскі паэт і перакладчык; урач.

[3] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

*10 красавіка, пятніца*

Праца. Зімяная яшчэ вясна. Купіў для Дамікі коўдру з пер'я. 1500 рублёў. Па даўнейшых цэнах — страх.

Уладзімір Давідовіч укабаліў мяне сваёй цярплівасцю і палескай ласкавай настырнасцю пісаць пад «рыбу» песню. Яна памяці Уладзіміра Караткевіча.

* * *

Подзвіг ранішні твой
Стаў легендай жывой,
Любы ўнук Чарадзея Ўсяслава.
«Хто наш гонар?» — гукні,
Рэха з далечыні:
«Караткевіч!» — адкажа ласкава.

Вольнага слова прыгонны,
Духу крывіцкага пан.
Чуюць твой поступ бяссонны
Сны пракавечных палян.

Вёў народ з нематы,
Сеяў вечнае ты
Пад расчуленым вокам Ярылы,
Каб няскораны сцяг
Развінуў у прасцяг
Бел-чырвона-белыя крылы.

Плачуць і хмары, і хвалі,
Замкі прыціхлі ў журбе,
Храмы званам загадалі
Славу вызвоньваць табе.

Твой калосіцца плён,
Ён для будучых дзён
Узгадуе сыноў-беларусаў,
Што з далёкіх вякоў
Вернуць славу бацькоў,
Абароняць ад зграй родны край.

*11 красавіка, субота*

З народам плячо ў плячо стаяў віна. 60 рублёў пляшка малдаўскага, 17 градусаў, і яшчэ трэба ў замен дадаць бутэлькі пустыя. Як у сярэднявеччы, мусіць. Хоць не гэтак там было.

Сустрэў Пучынскага[1]. Да яго ў майстэрню. Цыкл на біблейскія матывы. Уражвае Майсей і Іоў. Юзіку сёлета 70. Аж не верыцца. Цяжка ўжо яму карціны перастаўляць. Адна ўпала. Кажа: «Добрая прыкмета — купяць». Савецкія мастакі і ўся інтэлігенцыя, як цяляткі, якіх адсадзілі ад каровы. І паіць трэба праз пальцы. Мы ўсе такія. І пакаленне, што ідзе ўслед. Можа, праз пакаленне з'явяцца і практычныя, і лірычныя. Хоць гэтакае не сумяшчаецца.

*12 красавіка, нядзеля*

На Камароўцы. Не прапіхнуцца. Толькі партбілетаў не відаць, а так прадаюць усё. Дзядзька з вялікай шатай кайстраў. Снуюць в'етнамчыкі. Цвеліць: «Мяў-сяў. Вось у гэтую торбу вазьму дый пасаджу, не будуць пад нагамі круціцца». Нейкай маладзіцы гэтак дапяклі: «Узяць відэлец дый у гэтыя вераб'іныя вочы». Як людзі трапна падмячаюць адрозненні!

*13 красавіка, панядзелак*

Пятро Ісаевіч паставіў мне зубы. А ўсё роўна па інерцыі ўсміхацца баюся. Пакую кніжкі для адпраўкі ў Вушачу. Зарастаеш кнігамі, як Ніл уяўнымі заслугамі, аж павярнуцца няма дзе. Захварэла Дамічка. Да Яшы па лекі. Пачынае расці, і жыццё пачынае паказваць свой нораў. Жыццё сустракае хваробамі і немаччу, выпрабоўвае, гартуе, — і гэтак да дзён апошніх будзе. Зайздроснае жыццё да іншага, паасобнага жыцця.

*14 красавіка, аўторак*

Паўдня аддаў, каб сфатаграваць зуб.

Расказваюць, што на філфаку рыхтуюцца да сустрэчы Ніла, як імператара. Студэнтам раздаюць надрукаваныя пытанні. У духу лепшых застойных часінаў. Вечарам Васіль казаў, што яму трэба даць генерала. Я прапаноўваў, як Кім Ір Сену[2] — генералісімуса.

*15 красавіка, серада*

Зноў да Пятра Ісаевіча. Былі запросіны на вячэру ў «Свіслачы». Прыём у гонар прыезду ў Беларусь старшыні Сусветнага яўрэйскага парламента пана Сімха Дзініца[3]. З-за шчакі, якую разнесла, што я размардзеў, нібыта камуністычны [...] Малафееў[4]. Затое якая гэта радасць глядзець,

---

[1] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.

[2] Кім Ір Сен (1912–1994), карэйскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Старшыня, Генеральны сакратар ЦК Трудавой партыі Карэі (з 1949), прэзідэнт КНДР (з 1972), маршал КНДР (1953).

[3] Дзініц Сімха (1929–2003), ізраільскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1987–1994 гг. старшыня «Сахнут».

[4] Малафееў Анатоль Аляксандравіч (н. 1933), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1990–1993 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

як кладзецца спаць дарагая ўнучачка Дамінічка! Нейкім чынам сам вяртаешся ў забытае маленства. Здаецца, што мама мне сцеле пасцелю. Чыстым спакоем дыхае ўсё, калі ўнучачка шчабеча, дурэе, пачынае цвяліцца.

*16 красавіка, чацвер*

Аддаў кампазітару тэкст «Памяці Уладзіміра Караткевіча». Вечарам званіў Быкаў. Учора прафесар Акулаў[1] з русапяцкім ухілам дурыў яму галаву. І, урэшце, сам прызнаўся, што ён афіцэр КДБ у запасе. Хоць кэдэбістаў, як б....ей, не бывае былых. Яны вечныя. Добра сказаў Васіль пра камуністаў з ампутаваным сумленнем.

*17 красавіка, пятніца*

Прабегаў цэлы дзень, як заяц ад паляўнічых, галяпаваў. Дамічын аналіз. Потым з 12-ці да 16-ці ў Пятра Ісаевіча з двума забегамі ў рэнтгенкабінет. Ненавіджу табуннасць, а даводзіцца ў табуне жыць. З гадамі толькі думкамі хочацца ехаць, бегчы, а на справе ўжо да дакукі цяжка. Старэю ці дужа стаміўся, нічога так і не зрабіўшы, а толькі адмітусіўся. Жыў па класічнаму канону: сумятні-мітусні.

«Не адлучаўся я зусім...»[2], «Замежжа»[3].

*18 красавіка, субота*

Сёння яўрэйская Пасха. Павіншаваў Радзіка. Ён мне прачытаў два біблейска-балючых вершы, хоць яны фармальна не на біблейскую тэму. Шмат святла і шмат болі. Якраз гэта і робіць паэзію паэзіяй. Бо саветызацыя літаратуры перакарміла паэзію ідэалагічнымі нітратамі. І паэзіі дакранулася генная інжынерыя. У страшным антычалавечым абліччы. Зноў пісаў «рыбу», бо дужа ж прасіў малады і сімпатычны спявак Крывенка.

* * *

Калі сустрэў цябе, смялела лісце,
Змяніў нарэшце лёс на міласць гнеў.
І слёзы ўсіх нябёс чакалі выйсця,
Прачнуўся першы гром і дождж хмялеў.

---

[1] Акулаў Валянцін Леанідавіч (1936–2012), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1984). Прафесар (1985). З 1983 г. заг. кафедры Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта.

[2] Гл.: «Не адлучаўся я зусім...» (17.04.92, у зубнога) // Евангелле ад Мамы. С. 325. Пад назвай «Там» гл.: Ксты. С. 229.

[3] Гл.: Замежжа (17.04.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 334.

І я смялеў, і я хмялеў
Пад весні спеў, пад шум залеў.
Заціх твой смех, і я ў журбе
І глухну без цябе.

Хачу пачуць твой смех і гром ласкавы,
А нада мной самоты лістабой.
Праліся, першадождж на першатравы,
Што слаліся пасцеляй нам с табой.

*19 красавіка, нядзеля*

Дачытаў «Шчаслівую смерць» Альбера Камю. Псіхалогія, філасофія, паэзія — усё разам. Калі ў нас з'явіцца такая проза? Пазваніў Уладзімір Крывенка — прадыктаваў яму тэкст песні. «Магчымае паданне», «Ні гараджанін, як на штукароў...»[1].

Да Навума. Валянцін ягоны [брат] добра сказаў, гледзячы на рэкламы ўсяго нам недаступнага: «Мы цяпер жывем чужым жыццём». Дакладна і балюча. Хоць мы ў саўімперыі і ніколі не жылі сваім жыццём.

*20 красавіка, панядзелак*

Дамінічка згубіла мае ключы. Пачынаецца радасць дзядоўства.

*21 красавіка, аўторак*

На працы чакала амаль кніга — лісты «Міласэрнасці плахі». Прыехаў Дранько ад бацькоў. Светла зайздрошчу яму. Хай у яго яшчэ доўга будзе мажлівасць такая! Кашуля мужчынская ужо каштуе 900 рублёў. Нулімся.

*22 красавіка, серада*

Адна сімпатычная дзяўчына стала загадчыцай кнігарні. Кажа: «Такое ўражанне, што нічога не трэба, робіцца ўсё, каб толькі засталіся каапeraтары і Вярхоўны Савет». Сумны жарт.

*23 красавіка, чацвер*

Паседжанне ў «Белвідэацэнтры». Узяўся напісаць сцэнар пра Белавежскую пушчу, толькі пад сучасным позіркам. Паляванні, баляванні ад польскіх каралёў да [...] савецкіх парт]...] а ля брэжнеў[2].

З Сёмухам знайшлі нарэшце, як скласці зборнік «Беларусь мяне збеларушвае». Тры раздзелы: «Твае снягі світаюць...» (украінцы і расійцы), «Зялёнаму небу» (балтыйцы і еўрапейцы), «Тваё імя ў нябеснай кнізе...»

---

[1] Гл.: Маё паданне; З якой бяды? (19.04.92) // Евангелле ад Мамы. С. 65; 231.

[2] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

(Каўказ, Усход). Дзякуй Васілю за жорсткую дабрыню ў адносінах да мяне. Сустрэў Алу Левіну[1] — выдатную паэтэсу. Кажу: «Мяне дзівіць, што і паміж яўрэямі звады». Адказвае: « І ў нас, як ва ўсіх. Тым болей што не па нацыянальнай лініі цяпер усе гуртуюцца. — Кажа: — Некалі, чуючы пра яўрэя-махляра, адчувала сорам за ўсю нацыю». Яе супакоілі, што ўсе людзі. А чым яўрэі горшыя ці лепшыя?

«Біяграфія»[2].

*24 красавіка, пятніца*

Да Тараса. Рэгінін [жончын] брат на «мэрсэдэсе». Расказваў, што шахцёрскія стачкомаўцы разбэсцілі ўсю гасцініцу «Спутнік» [у Маскве]. З-за іх нельга купіць каньяк, бо адразу даюць падвойную цану. Ужо амаль год жывуць. У шахты не трэба спускацца, толькі пагражаюць забастоўкамі і перакрыццём кіслароду то таму, то іншаму ведамству. Шахцёрам дагналі зарплату да 40 тыс. Ні пра якую навуку, ні пра якую культуру ні ў кога галава не баліць.

*25 красавіка, субота*

Святая субота. Па чэргах то па малако, то па хлеб, то па гарэлку. Трэба ж у Вушачы пасадзіць хоць бульбу. А без гарэлкі нікуды не паткнесся. Каму з рускамоўных паэтаў прадаць рыфму: что на досуге надо суке. Няма ранейшага светаадчування, святасці свята, бо няма мамы, няма той Вушачы, што была, адышла разам з мамай.

*26 красавіка, нядзеля*

Хрыстос васкрос! Супала святое Вялічка з жахлівым днём Беларусі — Чарнобылем. Гэта фактычна судны дзень адбыўся раней часу, бо гэтулькі граху і гэтулькі бруду на зямлі. Сядзеў дома, датаваў выбранае.

Прыходзіла Ілона. І брашу на яе, і злуюся, а люблю, бо родная.

*27 красавіка, панядзелак*

Ні запісных кніжак, ні рукапісаў. Частку з галавы датаў дастаю. Даміка ўжо цвеліцца ў рыфму: дзедзя-шмедзя. Мая радасць і мая трывога.

У «Вожык» [на А. Мальдзіса[3]].

---

[1] Левіна Ала Ісакаўна (н. 1947), руская паэтэса. Бібліятэкар Мінскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

[2] Гл.: Біяграфія (23.04.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 333.

[3] Гл.: «Хто, што, калі і дзе...» (27.04.92) // Асобы рознай пробы. С. 29.

*28 красавіка, аўторак*

Цікава пасля выходных выйсці на працу. Вечарам званіў Васіль. Жартам сказаў, што ён падтрымліваў КДБ фінансава, бо ВААП[1] — ячэйка КДБ. Яны, як рабіну, абчышчалі аўтара, і ўсё ішло на партыю — КДБ.

*29 красавіка, серада*

Расказваў адзін. Восенню пчаляр клікаў на помач малечу. Яны ачышчалі соты ад трутняў. Выкалупвалі нажамі. Але пчаляр прасіў трутняў тры пакінуць — для маткі, для рая, для вентыляцыі. Так і чыноўнікаўапаратчыкаў трэба пакідаць. Учора ў «SOSe» прачытаў інтэрв'ю Сачанкі. Карыстаецца кэдэбісцкімі матэрыяламі [...], а па-дзіцячы нешта мармыча. Кушаля[2] звязвае з КДБ, відаць, зноў жа па заданні КДБ. Чакае дапамог ад Германіі ў марках, бо быў вывезены. [...]

*30 красавіка, чацвер*

Занёс штраф за ахову, бо ўчора кепска ляжала трубка. Скарочаны дзень. Добра, што не трэба на дэманстрацыі і ўра-крыкі.

У аўторак хадзіў у аддзел рэдкай кнігі. Архіў Геніюш не разабраны. Што застаецца рэчыўна ад аўтара — лісты, рукапісы, фота. Жменька. Калі не застаецца нечага важнага, што ў свядомасць нашчадкаў увойдзе. Літаратарам трэба часцей хадзіць у фундаментальныя бібліятэкі, у залы чытальняў, каб паспакайнець, каб задумацца, каб зразумець, што ўсё сумятня суметні. Што галоўнае — не прадаць душу, не абакрасці душу, даць ёй жыць.

*1 мая, пятніца*

Трэба, відаць, пісаць траўня, але дома ніколі не казалі. Дый, думаю, май не ад галадранай салідарнасці, а ад мая — бярозавага голля. Цэлы дзень перабіраю барахло, аброс мой пакой лам'ём і хлам'ём.

«Ные высока самалёт...»[3]

*2 мая, субота*

Цэлы дзень біўся над аднатомнікам. І падабаецца нешта, і ўсё не падабаецца.

---

[1] УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах.

[2] Кушаль Францішак Вінцэнтавіч (1895–1968), польскі вайсковец (з 1922), дзеяч беларускай эміграцыі. У 1939 г. інтэрніраваны ў СССР. У 1940 г. вярнуўся ў Беларусь, адпушчаны з Лубянкі. Жонка, Н. Арсеннева, з сынам вызвалены з высылкі ў Казахстан (1940–1941). З 1941 г. начальнік падафіцэрскай беларускай школы паліцыі ў Мінску, з 1943 г. член Беларускай цэнтральнай рады, з 1944 г. шэф гал. камандавання Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. у Германіі, з 1950 г. у ЗША.

[3] Гл.: Высока (21.01.83–1.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 369.

*3 мая, нядзеля*

Закончыў укладанне. Званіў Сураўцаў[1]. Нейкі ліст падпісаць супроць Бондарава і Пулатава. Званіў Васіль, ён нічога не ведае. А Сураўцаў сказаў, што яму званіў і Васіль згодны.

*4 мая, панядзелак*

Купіў білеты на Ушачу. Адзін білет каштуе ўжо 108 руб. Гэта калі сям'ёй з'ездзіць на радзіму, амаль паўзарплаты. Цэны скрозь злыя, як аўчаркі.

*5 мая, аўторак*

Сёння Радаўніца. І зноў не трапіў да мамы ў гэты смутны і светлы дзень. Прыеду на магілу са спазненнем. Каго помню, каго бачыў са свайго радаводу? Маму, бацьку, маміну маму, маму мамінай мамы. І ўсё. Па бацькавай лініі пра дзеда Грышку ды пра Грышчыху толькі чуў. Абсечаная памяць, абсечанае дрэва радаводнае. Сучча згарэла й толькі неба пагрэла…

[У «Вожык» на А. Кашкурэвіча[2].]

*Анатоль Бутэвіч*

Лёс падвысіць стараецца рэйку,
Ды Бутэвіч бярэ вышыню.
Быў міністр інфармацыі ў рэйху,
Да свайго дараслі ўпершыню.
Выдавец і цэкоўскі мудрэц,
На дудзе беларускай ігрэц.

*6 мая, серада*

Збегаў на працу. Прыязджаў Іван Сцяпанавіч[3] з Бабаежавым, дырэктарам лясгаса Ушацкага. Заўтра з Валяй і мы на Ушачу. «Збіраюся ў ранейшыя (нядаўнія) мясціны…»[4] [Працяг:]

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я ўсё баюся сам сабе прызнацца:
Даўно забыліся мяне мясціны,

---

[1] Сураўцаў Юрый Іванавіч (1931–2001), рускі крытык, літаратуразнавец. У 1976–1992 гг. сакратар праўлення СП СССР (РФ).

[2] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991). Гл.: «Заўважыў класіку даўно…» (5.05.92) // Асобы рознай пробы. С. 27.

[3] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[4] Гл.: Збіраюся (6.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 106.

І добрыя мае ўцяклі вясціны,
І, мусіць, падпалілі хвост стрыгнатцы,
Што нада мною хмары састрыгала.
Мясціны зніклі,
Толькі й засталося
На ніве памяці пустакалоссе.
Гусцеюць хмары…
Не відаць прагалу…

*7 мая, чацвер*

*Ушача!* Марыя Рыгораўна. Пра камара: «Еў я пана, еў я ца′ра, толькі рыбкі не спытаў, за рыбкай паганюся і сам ўтаплюся». Сініцы на холад *нажы точаць.* Галуб крычыць на холад, як толькі агуркі садзіць: «Мікітка-сынок, Падай тапарок Абсеч пупок Паглядзець кішок. Фук!»

У народзе ўсё-ткі майстэрства перакладу вышэй. «Даст Бог день, даст и пищу» — «Дасць Бог дзень, дасць і пажытак». Як натуральна пища перакладзена на пажытак. А якое свята сэнсу: дзверы ў нас расчынены, смехам зачынены. Смехам для прыліку і смехам як чалавекам.

*8 мая, пятніца*

Ушача. З Іванам Сцяпанавічам ездзілі дамаўляцца каня, каб пасадзіць бульбу. Зрання на трактарку троху хлопец прадапракаваў, дзе можна. Усе бяруць участкі, каб бульбу пасадзіць. Ушача паступова будзе рабіцца курортнай зонай. Усё здратуюць. Бізнес па-ўшацку будзе закончваць рэшткі лесу. Гоняць і гоняць вагонку, сталярку. Аж у Адэсу гоняць і далей. Мяняюць на цукар, на алей. Бартар.

*9 мая, субота*

Ушача. Дзень Перамогі. З начы дождж. Зрання нейкая бравурная музыка недзе ў цэнтры. Усе садзяць бульбу. Конь на разрыў. З Валяй рабілі лехі. Марыя Рыгораўна памагала. Калі капаеш землю вясною, нешта садзіш, нейкая вера ў душу вяртаецца ў бясконцасць жыцця. І разам з тым нейкая падспудная думка, што вясной магіла лёгка капаецца, і зямля пачынае цягнуць да сябе па-асабліваму таемна. Цэлы дзень прачакалі каня, каб пасадзіць колькі баразёнак. Прыехаў конюх на кабыле, а ў яе аж вочы запалі. Без жалю ўсё хочуць узяць усе, садзячы бульбу. З ёй жарабятка. Калёсы. На калёсах плуг. Вядзе нейкі дзядзька Даўпаполава, усяго ў медалях і значках, а той на нагах не стаіць. Ледзьве ўскінулі ветэрана на калёсы. Усё, што заваяваў, маці Радзіма аддзячыла ў дзень Перамогі. Відаць, толькі яшчэ чалавек такі трывушчы, як трава, асабліва пустазелле. На восень перакапана, зіму праляжала дзярнеўе, а зелянее, хапаецца за сваё жыццё. Вечарам маленькая бяседа. Пятро расказваў зноў, як ён у

Румыніі хадзіў у дом распусты. Уся вайна ў яго то гарэлка, то бабы, то як кралі авечак у чабаноў.

*10 мая, нядзеля*

Сёння, кажа Марыя Рыгораўна, другая Праводніца. Свята. Хадзілі на магільнік да мамы. Гэтулькі знаёмых ляжаць. Большасць ужо там. Тут меней. Ад'езд пад дождж.

* * *

Сон, як чалавечы век, кароткі.
Пакуль мы жывем,
Жывуць і продкі.
Продкі нашыя ідуць за намі
Добрымі і ўгневанымі снамі.

Продкаў чуем і гаворым снамі.
Мы ў сваіх жа сноў у вечным найме.
Чалавек жыве і мэту меціць,
Покуль сны яго жывуць на свеце.

*Май*

*11 мая, панядзелак*

Сёння далі сігнал маёй кнігі[1]. Не тая радасць, што была ў маладыя гады. Адчуванне непатрэбнасці сябе і сваёй працы ў пустэльнай, галоднай краіне. Хто будзе чытаць, хто будзе купляць?

Сёмуха расказваў, як да яго прыязджаў стрыечны брат з Амэрыкі. Ездзілі да Васілёвай цёткі на Палессе. Цётцы 104 гады. Васіль з гэным братам па-нямецку. Цётцы і яму перакладаў. Пасля цётка расказвала, што быў у яе амэрыканец, немец і Васіль. Амэрыканец па-амэрыканску, немец па-нямецку, а Васіль па-нашаму.

«Чуючы цёмную сілу ў слове…»[2]

*12 мая, аўторак*

На працу. У «Полымя» артыкул пра Ларысу Геніюш. Ізя Якаўлевіч адрамантаваў машынку. У галаве круцяцца радкі, бо дужа мне свежая капаніна нагадала пра магілу свежую. «Што валун?..»[3]

Званіў Радзіку. Ён збіраецца ў Маскву на канферэнцыю. У «Народнай газеце» вершы Ніла. І сапраўды, калі хоча Бог пакараць, дык розум адбі-

---

[1] Барадулін Р. Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992.
[2] Гл.: «Чуючы цёмную сілу ў слове…» (11.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 161.
[3] Гл.: «Што валун?..» (12.05.92) // Тамсама. С. 88.

рае. Дайшоў: «Я не Хрыстос, о, не!» Лёгка пісаць пародыю, але не хочацца прапагандаваць лыгатага.

*13 мая, серада*

Другі дзень не магу атрымаць няшчасныя перавод — чэргі. Бедныя пенсіянеры, іх зусім дадушаць голадам. Наогул, грошы нідзе няма. І за грошы гэтыя нічога купіць нельга — трэба не меней двух нулёў на канцы. Змрочна на душы. «Мы, як апошнія ваўкі…»[1]

Пачытаў вершы Дэвіда Герберта Лоўрэнса[2] і Уільямса Снодграса[3]. Бо чытаючы вершы, якія пхаюць нашыя паэты, можна завыць на зоркі. А ў Снодграса «пчолы гудуць, як маладыя думкі». І неяк цяплей на душы робіцца, калі хоць трошку ўбачыш, што робіцца ў свеце паэзіі. Снодграс у адным інтэрв’ю казаў, што паэзія перастае турбаваць галоўнае пытанне: «Ці сапраўды я выказаў тое, што думаю?» І тлумачыў, што «адзіная рэальнасць, якую мы здольныя па-сапраўднаму спасцігнуць, — гэта мы самі, такія, як ёсць, хочаш ты таго альбо не; а зразумець магчыма, толькі пранікнуўшы ва ўсе ўзаемаадносіны, што звязваюць нас з светам, які наўкол».

*14 мая, чацвер*

Сёння першы дзень мая старым ладам. Але зімнавата. З Сёмухам давёў да ладу «Беларусь мяне збеларушвае». На стале ў Сачанкі чорная дзярмоцінавая папка з выціскай: «XXI з’езд КПБ». Раней трэба было б на лоб павесіць, каб усе бачылі і зайздросцілі.

«Недарэмна, відаць, сады…»[4]

*15 мая, пятніца*

Да Алеся Адамовіча. 9 дзён па брату Яўгену[5]. Алесь прыехаў з меднаглядам. Урачыха сімпатычная. Цікавіцца беларускай мовай. Алесь яшчэ слабы, хоць харахорыцца. Брат памёр ад другога інфаркту. Міхась Тычына[6] са сваімі выцыбанымі дачушкамі прыйшоў. Цяжка яму, бедаку, гадаваць аднаму. А які ён ласкавы, рэдкіх якасцяў беларус. Які чалавек усё-ткі

---

[1] Гл.: «Мы, як апошнія ваўкі...» (13.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 159. Верш прысвечаны Г. Бураўкіну.

[2] Лоўрэнс Дэвід Герберт (1885–1930), англійскі пісьменнік.

[3] Снодграс Уільямс Дэ Вітт (1926–2009), амерыканскі паэт. Лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі (1960).

[4] Гл.: Недарэмна (14.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 67.

[5] Адамовіч Яўген Міхайлавіч (1924–1992), урач; брат А. Адамовіча.

[6] Тычына Міхась (Міхаіл Аляксандравіч; н. 1943), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, перакладчык. Доктар філалагічных навук (2001). З 1970 г. супрацоўнік, ст. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Пляменнік А. Адамовіча.

слабы. Барацьбіт Адамовіч зусім па-зямному бездапаможны перад усемагутнай хваробай. Кваліна′ — як у нас казалі.

Падахвоціўся выступіць на вечары Сяргея Панізніка[1]. Перачытваю ўсе зборнікі ягоныя. Няма ў нас рэдактуры, няма і адказнасці ў паэтаў і перад словам, і перад чытачом. Гэта прамовы Хрушчова ды Брэжнева чыталі пад прымусам партбілета. А паэзію не змусіш чытаць.

*16 мая, субота*

Сягоння свята. Прывезлі да нас унучачку. Якая яна балючая і дарагая. «Плечны Шлях»[2]. Знайшоў верш, які недапісаў у Кактэбеле ў 1980 годзе. «Гібее пад ільдом рака...»[3]

*17 мая, нядзеля*

Прымусіў сябе перачытаць усе восем зборнікаў Панізніка. Добры хлопец Сяргей. Фальклорны шляхціц. Але пісаць так і не навучыўся. Ёсць хаценне, а няма ўмення. Недзе між журналістыкай і пачаткоўшчынай, і ўсё крыху скрашваецца фальклорам. І фальклор не адчувае глыбока. І 50 гадоў споўнілася. Як прапагандыст нашага слова, як папулярызатар хай будзе і такі. У асноўным ўсё па вярхах, слова з словам не вяжацца. Хоча выдумляць, а не ўмее. Бальшына нашае паэзіі паміж нашаніўскай (у слабейшых сваіх праявах) і самадзейнасцю. Гэта так. Не трэба заплюшчваць вочы. Чытач стаіць на вышэйшым інтэлектуальным узроўні, нячым паэты.

«На перавозе»[4]. Нашай чароўнай Тані[5] на «Міласэрнасці плахі».

*18 мая, панядзелак*

Да Радзіка на новую кватэру. З ім карацілі выбранае. У галаву лезе дурное, што «Крыжачок» — гэта маленькі крыжак. У нашай этымалогіі часам на сур’ёзе такія рэчы даводзяцца.

*19 мая, аўторак*

Да Васіля. Занёс рукапіс, каб ён зрабіў уступнае слова. Ездзіў у Нямеччыну. Уся кампанія, калі ехалі ў вагоне, не падтрымлівала гутарку на вострыя тэмы. [...] Васіль стаміўся. Казаў, што болей ездзіць не будзе. Ве-

---

[1] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. У 1982–1996 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва», адначасова ў 1992–1994 гг. супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

[2] Гл.: Плечны Шлях (16.05.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 331.

[3] Гл.: «Гібее пад ільдом рака...» ([07–08.]80–16.05.92) // Тамсама. С. 160.

[4] Гл.: На перавозе (17.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 375.

[5] Гл.: Акрааўтограф (17.05.92) // Тамсама. С. 437. *Бардзіян* Т., супрацоўніца вытворчага аддзела выд-ва «Мастацкая літаратура».

чарам удвух з Рагойшам[1] вялі вечар Панізніка. Вечар прайшоў міла, без помпы традыцыйнай, па-хатняму. Хай гадуецца здаровенькі Сяргей!

*20 мая, серада*

Дамовіўся наконт абследавання. Радзік ад’язджае на канферэнцыю. Даваў яму парады, а сам адчуваю, што нікуды ехаць не хочацца, хіба што ў думках. Самае лёгкае і прыемнае падарожжа. Ці астарэў, ці стаміўся ад мітусні, ад няпэўнасці і няўпэўненасці.

У новай «Иностранной [литературе]» вершы Хасэ Агустына Гойтысола[2]. Паэт цікавы. А ў перакладзе гучыць кепскавата. Значыць, нацыянальны глыбока і думае на мове арыгінала, так бы мовіць. Бо нашыя шмат хто са старэйшых і асабліва цяперашніх маладых думаюць па-расійску, а пішуць на дземянцееўцы. Пакуль не будзе нацыянальная інтэлігенцыя думаць на роднай мове, малыя здабыткі мець будзем у культуры. Бо мова патрэбна не толькі літаратуры. Родны гук, які дакладна і шматгранна ўвабраў у сябе навалолле. Космас побыту і космас думкі, космас краскі і космас пчалы. Пра музыку і казаць не даводзіцца. Песня павінна быць роднай на роднае мове.

*21 мая, чацвер*

На працу. Ніяк не можам выдаць Пушкіна па-беларуску[3]. А варта было б паказаць нашую шчодрасць пыхлівалычным расейцам. Цікава Сёмуха сказаў, што ў Ароў-парку бюст Пушкіну[4] пастаўлены на сродкі, сабраныя выхадцамі з Магілёўскай і Менскай губерняў. Да Купалы яны не дараслі. І за мяжой беларусы беларусамі застаюцца. Шануюць толькі чужое. Таго пана, які выспятка мацней даваў. Праўда, выключэнні ёсць.

Званіў [Станіслаў] Гайдук. Хутара Геніюш не знайшлі. Радаўніцу саўулады зрабілі мітынгам. Усё па-старому. Хочуць ехаць у Прагу, але ўсяго 200 долараў. Далёка не ўедзеш на іх.

---

[1] Рагойша Вячаслаў Пятровіч (н. 1942), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1993). Прафесар (1994). У 1991–1994 гг. нам. дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя І. Франко (2000).

[2] Гайтысола Хасэ Агустын (1928–1999), іспанскі паэт.

[3] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт. Пушкин А. С. Нет, весь я не умру... Минск, 1993. На рус. и бел. языках.

[4] Бюст А. Пушкіна працы А. Анікейчыка ў Ароў-парку ў ЗША. *Анікейчык* Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, педагог. Прафесар (1981). Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1974).

*22 мая, пятніца*

Званіў Васілю. Ён згадзіўся сказаць колькі слоў у фільме пра Геніюш. Сапраўды, цяпер дзве сілы ў грамадстве — КДБ і некэдэбісты. КДБ, як тыя дрожжы, што кідаюць на раёне, каб дапячы суседу, у сральню, — і тады ад чарвякоў не адбіцца. Усё бушуе і калываецца, з берагоў выходзіць.

Удзень хадзіў правяраць жывот. Лечкамісія засталася, толькі шыльду зрабілі: Гарадская паліклініка № 6. Шостае парткэдэбісцкае ўпраўленне. За абследаванне выдавецтва пераводзіць грошы. Слугі народа — бясплатна. Сядзеў са мной у калідоры ўрач і абараняў КДБ, ён вучыўся па студэнцкаму абмену ў Лейпцыгу. Вядома, каго пасылалі на вучобу туды. Сын у групе войск. Сямейка тая.

Наташа Семашкевіч[1] расказвала, што яе дачушка[2] ў пачатковых класах сачыненне ці што пісалі пра мару. Хто хоча volvo, хто «мэрсэдэс», а адзін напісаў, што жадае, каб у ягонага ворага срачка разарвалася. А бальшына хоча за мяжу, адзін напісаў: «Хачу ў Талію», а ўсе амаль хочуць цукерак. Дзякуй бальшавікам!

*23 мая, субота*

Патроху адыходжу ад хваробы. Яшчэ трымаецца холад. [...] Адна ўнучачка, як зорачка далёкая на захмараным небе майго звечарэлага настрою. Рукі апускаюцца.

*24 мая, нядзеля*

У « Иностранной [литературе]» прачытаў так бы мовіць споведзь англійскага крывасмока. Любіў катоў, сабак, пісаў артыкулы на рэлігійныя тэмы і ссаў кроў са сваіх ахвяраў. І гэта ў нашыя дні. Апошняя фатыга, каб канты ў портках у музеі васковых фігураў былі ў парадку.

Званіў Васілю, каб ён запісаўся пра Геніюш у кінастужцы, што робіць Станіслаў Гайдук. [...] «Адчуваю, сочыць за мной...», «Цвітуць дзьмухаўцы»[3]. «Як з небасхілу маладзік...»[4].

---

[1] Семашкевіч Наталля Іванаўна (н. 1947), у 1972–2007 гг. мал., рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Жонка Р. Семашкевіча, дачка Я. Брыля.

[2] Мадзярская Данута Рыгораўна (н. 1970), настаўніца малодшых класаў. Дачка Р. Семашкевіча.

[3] Гл.: «Адчуваю, сочыць за мной...»; Цвітуць дзьмухаўцы (24.05.92) // Евангелле ад Мамы. С. 358; 191.

[4] Гл.: «Як з небасхілу маладзік...» (24.05.92) // Тамсама. С. 218. Верш быў прысвечаны сябру Я. Серперу (1938–1994); у зборніку (1995) друкаваўся ўжо з прысвячэннем «Памяці Якава Абрамавіча Серпера».

*** Май. Самед Вургун[1] (сказаў Багіраву[2]): «Гэй ты, чорны хам». Багіраў: «Асобную камеру з відам на двор. Добрай ночы, дарагі».

*25 мая, панядзелак*

Праца. Сустрэча з Марыяй. Паседжанне ў СП Камісіі па Дзяржаўных прэміях Беларусі. Ніл у новым касцюме, не ў чорным. З нейкага размеркавальніка. Б. старыя анекдоцікі і супроць радыёстанцыі «Свабода», кепліва і здзекліва наконт падзей 30 кастрычніка. Пёр і на армян, і на малдаван. Кляўся, што пахне Трэцяй Сусветнай вайной. Без Сачанкі, як некалі без кэдэбіста Лужаніна, не абыходзіцца цяпер нідзе. Дарэчы, сёння дырэктар сказаў, што не вылазіць з архіваў КДБ. Усіх пакінулі ў спісе для апублікавання. Васіль адмовіўся ўзначальваць секцыю. Зуёнак цяпер будзе. Васем Зуёнкам, як мокрым бервяном, можна падпіраць любыя вароты. Яму галоўнае, каб яго скразнякамі не працягнула.

*26 мая, аўторак*

У выдавецтва заходзіў [...] Б. Дужа ж сябе любіць, асабліва слухаць. З гадамі ўсё болей і болей. Нарэшце дождж моцны, на душы пасвятлела і ў галаве таксама. Прыехаў Радзік з Мелехава. Яго на канферэнцыі прымалі добра. Трэба напісаць пра Звонака. Пачаць з успамінаў Пушчы пра яго. Пакутую, дачытваючы рукапіс Свіркі[3]. Як абы як складзены стог, не ўтаптаны, не прыгрэблены аграблямі. Усё ў розныя бакі. Лес і сенакос, лес і сенакос, партызаншчына, пра якую ўжо трэба пісаць іначай, і нават ганебная афганская вайна, услаўляе савецкіх забойцаў, няхай і пад руляй загадаў. Застыг паэт і чалавек, як у музеі васковых фігураў. А жыве і піша па інерцыі.

*27 мая, серада*

Прыходзіў на працу Васіль. Прынёс уступ да майго аднатомнічка. Дзякуй яму. Напісаў так здорава, аж мне крыху сорамна. Прыходзіў Глеб Артханаў[4]. Саша Палякоў перадаў мне трохі грошай — з дэпанента.

«Рубіць, склюдаваць, мураваць, імшыць...»[5]

---

[1] Вургун Самед (сапр. Векілаў Самед Юсіф аглы; 1906–1956), азербайджанскі паэт, драматург, грамадскі дзеяч. Народны паэт АзССР (1943). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941 1942).

[2] Багіраў Мір Джафар Абасавіч (1895–1956), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1933–1953 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Азербайджана.

[3] Свірка Юрась (Юрый Мікалаевіч; 1933–2010), беларускі паэт. Гл.: Першы склад перад націскам (1993) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 92.

[4] Артханаў Глеб (сапр. Аляксееў Юрый Ігаравіч; н. 1954), рускі паэт, перакладчык.

[5] Гл.: «Рубіць, склюдаваць, мураваць, імшыць...» (26–27.05.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 334.

*28 мая, чацвер*

Вершы бываюць выдыхнутыя, выгукнутыя, а бываюць і выседжаныя, пераседжаныя, як няпеўныя яйкі. Вось прачытаў выбраныя вершы Сіркі. І тады мы нешта крыўдзімся на чытача. Ды ў ногі яму кланяцца трэба, што столькі гадоў эрзац спажываў і страўнік не сапсаваў. Пра маладзейшага чытача і казаць не даводзіцца, ён не будзе гэтага чытаць. Хоць, можа, і не лепшае мадэрнейшае будзе. Колькі людзей у магілу звёў так званы сацрэалізм.

*29 мая, пятніца*

З раніцы званіў Васіль. Віншаваў з галоўнай падзеяй — учора зарэгістравалі партыю беларускіх угалоўнікаў — камуністаў. Прыходзіла Ілона з Косцем. Паехалі на ўчастак. [...]

*30 мая, субота*

Праўлю «Залёты пана дэ Пурсаньяка». Нацыянальны сталінскі тэатр, дзе не разумеюць беларускую мову. Рэжысёр спачатку чытае па-руску, а пасля ўжо на «ніжэйшай» мове.

*31 мая, нядзеля*

Перачытаў кнігу Марка Шагала ў перакладзе Льва Берынскага[1]. Напісаў невялікае слоўца.

*1 чэрвеня, панядзелак*

Васіль аддаў нам друкаваць аповесць «Сцюжа». У відэацэнтры глядзеў адзняты матэрыял пра ўшацкую Цярэшку, пра Марыю Рыгораўну. Як дома пабыў.

*2 чэрвеня, аўторак*

Прачытаў новую аповесць Васіля Быкава «Сцюжа». Ніводнага неабавязковага слова. Туга скручаная спружына сюжэту. Невераемнае веданне побыту і перадваеннага часу. Жывеш разам з героямі. Не заўважаеш, што гэта напісана. Усё натуральна, як скрыль мёду выламлены, выразаны з вулею, з сотамі, з пчоламі, з трутнямі. І дужа нацыянальнае мышленне.

«Унучку калышу...»[2] Прыйшлі радкі пра крывавага Вову:

*Ля помніка Леніну*

Няма чаго губляць бальшавіку.
Ільіч, як указальнік жабраку,

[1] Берынскі Леў Самуілавіч (н.1939), рускі і яўрэйскі паэт, перакладчык.
[2] Гл.: «Унучку калышу...» (2.06.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 335.

Не шлях указвае да перамогі —
Настойліва працягвае руку.
Гуманітарнай просіць дапамогі.

*3 чэрвеня, серада*

На працы святкавалі 60 год Герчыку[1]. Вечарам у Купалаўскай бібліятэцы вечар Шагала. Да Нікіфаровіча дамоў. Жонка новая паехала, ён збіраецца.

[Дадатак да верша, прысвечанага М. Н. Герчыку:]

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Жадаем сябру плёну ў працы:
Мець кніг
Не менш як сто пудоў!
І выдаваць, і выдавацца,
І часта перавыдавацца
Да ста гадоў,
Да ста гадоў!

*Уся «Мастацкая літаратура»*

*4 чэрвеня, чацвер*

Інфармацыйны цэнтр Ізраіля. Аргкамітэт засядаў. Паўсюль трэба грошы, а ніхто не дае. Званіў Васіль. Ніл дакументы на званне мне пахаваў, калі не назусім, дык дужа глыбока.

«Цягнешся ў вышыню...»[2]

*5 чэрвеня, пятніца*

Здаў Васілёву аповесць «Сцюжа». Вайна, армія, расійскамоўнае атачэнне. А захаваў Васіль мову наскую, чысцюткую, бо з малаком маці, бо ўсёткі змалку была спачатку беларуская школа. Спецыяльна не правіў, дзе па даўняй граматыцы піша ь — усьміхнуўся і г. д. Нават некалі ў прасавецкага, хоць і таленавітага, Куляшова мяккі знак там-сям ускокваў як Пілip з калапень.

*6 чэрвеня, субота*

Пакутаваў, але напісаў уступнае слова пра Юрася Свірку. Шмат цытаваў, разважаў, туманіў.

---

[1] М. Герчыку да юбілею (7 чэрвеня) падараваны верш гл: «Такая глуш, а гэтак шыюць!» ([20.02].92) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 231.
[2] Гл.: «Цягнешся ў вышыню...» (4.06.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 336.

*7 чэрвеня, нядзеля*

Званіў Васіль. [...] Яроменка пры ўрадоўцах паліваў памыямі ПЭН-цэнтр наш. Ніл падтакваў, наганяў хмары, бо без ягонай персоны абышліся.

Учора прачытаў у «ЛіМе» эсэ Віктара Казько[1] «Азвярэнне». Таленавіты як чорт. На канкрэтным да вялікіх абагульненняў.

*8 чэрвеня, панядзелак*

Пра Додзіка Сімановіча[2] пераклаў сябе на беларускую. Да Навума. Сачанка прапанаваў па-царску — перакласці па заказу Ізраіля на беларускую мову Бяліка[3]. 10 дзён у Ізраілі. Можа, Бог дасць, пабуду ў святых мясцінах — мара рэшткі жыцця майго. Набраўся нахабства і падаў заяўку на зборнік «Праз сіта памяці»[4]. Артыкулы, эсэ, нekананізаваныя ўспаміны.

Пад вечар у саюзе фільм «Вяртанне Забэйды-Суміцкага»[5]. Мала голасу самога маэстра. Ну, хай красаваўся [...] Грахоўскі[6], адкрываў Ніл, дык адпеты кэдэбіст Бажко[7] распінаўся супроць сваіх гаспадароў з КДБ, якім боты лізаў. Сапраўды, як казалі ў нас, аж гадзіць, як сляпы па п....е гладзіць.

Трэба Радзіку аддаць радкі, мне прыйшлі: «Луг полетел вверх ромашками». Ішоў у саюз, збіралася на дождж, дужа пахла трава. Першыя радкі: «Ты, як перад дажджом трава...»[8]. «Нарэшце і я ў тым веку...»[9]

*9 чэрвеня, аўторак*

З Юрасём Свіркам глядзелі ягоную кніжку. Прыходзіў Грахоўскі. Як класік, бо практычна мёртвы, — скача, што певень з абсечанаю галавою. Юрась казаў, прачытаўшы пра пагрозу беларускамоўнаму друку, [Грахоўскі] прыбег у «ЛіМ» да Гіля з страхам: «ЛіМ» закрыецца, а ў яго ёсць недрукаваныя вершы. Вось гэта патрыёт па-беларуску. Вядома, [...], лагерны прыдурак. Сапраўдныя загінулі.

---

[1] Казько Віктар Апанасавіч (н. 1940), беларускі празаік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[2] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст. У 1961–1994 гг. супрацоўнік Віцебскага абласнога тэлебачання.

[3] Бялік Хаім Нахман (1873–1934), яўрэйскі паэт.

[4] Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995.

[5] Забэйда-Суміцкі Міхаіл Іванавіч (1900–1981, Чэхаславакія), беларускі спявак; педагог.

[6] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).

[7] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч; 1918–2013), беларускі паэт і празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1977).

[8] Гл.: «Ты, як перад дажджом трава...» (8.06.92. [N.]) // Трэба дома бываць часцей... С. 332.

[9] Гл.: Нарэшце і я ў тым веку...» (8.06.92) // Тамсама. С. 314.

Званіў Васіль. Кішаньковыя партыі высоўваюць мордачкі з кішэні КДБ і раўкаюць на БНФ і на Зянона. Па камандзе, бо на цугундары.

«Дыхнула блізкасцю з пакоя...»[1].

*10 чэрвеня, серада*

Сёння дзень нараджэння мамы. Колькі ўжо гадоў, як няма яе, а ўсё пачынаецца, усё ўспамінаецца, усё згадваецца з яе.

Праца. У відэацэнтр. Заўтра ў Вушачу.

*11 чэрвеня, чацвер*

*Ушача!* З тэлецэнтрам, дакладней, з відэацэнтрам. Узялі з сабой Дамініку.

*12 чэрвеня, пятніца*

Запіс прыгатавання каравая. *Глыбачка.* Зязюлька над возерам. Кукуй, кукуй, шэранькая, каб мне не кукаваць. *Усвея*. Узяў у райвыканкоме тэхнапашпарт хаты. Старшыня пассавета важны. Чым горшы, тым поршы, сапраўды. Застолле. Пятрок расказваў, што сабаку назвалі Экстра ў гонар гарэлкі. Мяняюцца норавы. У Глыбачцы гаспадар, дзе пяклі каравай. Аднагодак Панчанкі. Яшчэ з граблямі, варушыць сена. Усе нездаволеныя зменамі. Чакаюць горшага.

*13 чэрвеня, субота*

Ушача. Здымалі краявіды. Пракідзісты дажджок. Над Доўжыцай шышкі ўніз ляцяць — зязюліны жарты. *Гута*. На беразе рачулкі ірвуць аер. На Тройцу. Мужчына знайшоў бутэльку, уголас раяцца, ці прымуць. Парэзалі ма'ю, бярозавых галінак, дубовых, нацягала Марыя Андрукові аеру[2]. У хаце новай яшчэ ніколі Тройцы не было. Вечарам марудны трасцкі дождж, рахманы, цёплы.

*14 чэрвеня, нядзеля*

Ушача. Запіс вяселля ў Глыбачцы. Мова ў нас асаблівая. «Ты думаеш, мама, Што я тут раю'ю». Напішы сам *раяваць,* скажуць, што выдумаў. Цікавы дзядзька адзін казаў: падгалоўна. Запіс Цярэшкі ў Усвеі. Пачуў: дровы абрыюцца.

На магільнік да мамы. Марыя Рыгораўна пяяла сіроцкія вясельныя песні на магільніку. Пасля на прылеску ля *Паўвірак.* Гэтак здорава голас коціцца. Здаецца, сама паганшчына, даўніна голас падае. Маладзейшае

---

[1] Гл.: «Дыхнула блізкасцю з пакоя» (9.06.92. [N.]) // Евангелле ад Мамы. С. 227.

[2] Гл.: Траецкія Дзяды (15.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 304. Верш прысвечаны М. Андруковіч «з падзякай за аер».

пакаленне ўжо не чуе гэтага голасу. І не пачуе. Гэта трэба не ў запісу чуць, а душой, якая родам з паганства. Ад'езд па дарозе. Люляючы Дамініку. «Задачкі ад качкі: Хто дагоніць?»[1]

*15 чэрвеня, панядзелак*

Праца. Алесь Савіцкі[2] ўразіў — прадмову да ягонага «Выбранага» будзе пісаць [...] Скобелеў[3]. Роднасць душаў. Да Андраюка[4], Паўла Паўлавіча[5]. Наш [... Грышановіч] хоча ў паэзію ўзяць Сыса[6]. Паэт таленавіты. Але які з яго рэдактар. [...] «Дык як?»[7]

*16 чэрвеня, аўторак*

Па радыё Анісенка добра чытаў і добра выбраў вершы з «Самоты паломніцтва». Званіў Пімену Панчанку. Хваліў вершы. Па радыё чуў. Напісаў новую кніг «На апошняй вярсце»[8] — вершы і ўспаміны. Сумны загаловак. Праз дзён 5 забяру. Выдадзім хутка. Званіў Васіль. Ніл трымае паперы. У «Вожыку» заказ на Панчанку да 75-годдзя. Самсон Палякоў на кінастудыі верш папрасіў:

*Часцінка*

І твораць дзіва сонца і вятры,
І чалавек — чаляднік клопату жывога.
Пакуль слывуць майстры і штукары,
Датуль спакойна за зямлю
на сэрцы Бога.

Усё ва ўладзе кельмы і ляза.
Старанне носіць, як саломінку,
лясіну.
Слухмяна выгінаецца лаза.
Душу сваю ўдыхнуць
Натхненне можа ў гліну.

---

[1] Гл.: Хто дагоніць? (14 .06.92) // Ішоў коця па канапе. Мінск, 1997. С. 202.
[2] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).
[3] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (1935–2017), беларускі пісьменнік. У 1991–1994 гг. нам. дырэктара Міжнароднага цэнтра Акадэміі кіравання пры СМ РБ. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).
[4] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1981–1993 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук (1966).
[5] Журкевіч П. П., нам. дырэктара па вытворчасці выд-ва «Мастацкая літаратура».
[6] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.
[7] Гл.: Дык як? (15.06.92) // Евангелле ад Мамы. С. 77.
[8] Панчанка П. Высокі бераг. Мінск, 1993. Гл.: Будуць! (1992) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 56.

Ганчар нябесны рупны ў хараstве.
Адчуць майстрам параіў
крылы за спіною.
Красой адзінай чалавек жыве —
Часцінка космасу і радасці зямное[1].

Для сябе:

Расой адзінай чалавек жыве,
Акравак космасу і сон бяды зямное.

*

На кроснах часу тчэцца кожны міг,
Само жыццё — часцінка вечнасці,
Нам дораг кожны штрых часін старых,
Сцяжынка памяці бяжыць вітацца з нівай.

На кроснах часу тчэцца кожны міг,
Бяжыць жыццё —
часцінка вечнасці маўклівай.

*17 чэрвеня, серада*

Відэацэнтр. Прагляд ушацкага матэрыялу. У Купалаўскай бібліятэцы вечар Ізі Харыка[2]. Пераглядаў нанова — усё амаль пра савецкае да дрыжыкаў. Правільна некалі казала Ірына Заборава[3], што яўрэі дужа наіўны народ, яны як ніхто іншы паверылі шчыра ў здубавецце леніна-сталіна. А талент у Харыка быў, цудоўнае гучанне на ідыш!

*18 чэрвеня, чацвер*

На кінастудыі запісаў верш «Часцінка» ў аднайменным абразку. Званок Зуёнку, Пашкевічу[4]. Не хапае грошы на помнік Караткевічу ў Воршы. Літфонд нешта абяцае. Чытаю Ду Фу: «Запісаў свае думкі падчас вандравання ўночы»[5].

---

[1] Перапісаны верш гл.: Аскепак (24.06.2000) // Ксты. С. 191.

[2] Харык Ізі (Ісак Давыдавіч; 1896–1937), яўрэйскі паэт. Рэпрэсаваны. Гл.: Харык І. Адданасць: Урыўкі з паэмы. Пер. Р. Барадуліна // Толькі б яўрэі былі!.. С. 93.

[3] Заборава (Басава) Ірына Барысаўна (н. 1937), руская паэтэса; жонка Б. Заборава.

[4] Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (1924–2003), беларускі крытык. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1966).

[5] Ду Фу (сапр. Ду Шаалін; 712 —770), кітайскі паэт. Гл.: Ду Фу. Запісаў свае думкі падчас вандравання ўночы // Гуканне паэзіі Усходу. Пер. Р. Барадуліна. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007. С. 33.

І гэта напісана ў 765 годзе. Да перабудовы рэформаў плямістага аленя[1] і рэформаў сібірскага племенніка′ [Ельцына]. Як сёння напісана. Класіка, яна такая.

«Настрой як стаў на дыбачкі…»[2]

*19 чэрвеня, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Васіля Быкава. Хай яму Божа дні доўжыць! На ім адным трымаецца нацыя, яшчэ не сінтэтычная, яшчэ спрадвечная. Далёка чуюць голас ягоны, праз яго ведаюць, што ёсць яшчэ беларусы. І змагаюцца, і думаюць, і шануюць сябе ды іншых.

Хадзіў у відэацэнтр. Ідзе мантаж «Ушацкіх вяселляў». Можа, у «Вожык» [на Някляева[3]]. Цэлы дзень шукаў скульптара Ігара Голубева[4], што робіць у Воршы помнік Караткевічу. Не хапае грошы. Літфонд тысяч 7 паабяцаў. Але ж трэба ўсе фармальнасці.

*20 чэрвеня, субота*

У «Вожык»:

*Пімен Панчанка*

Змяняліся ўлады і ўладкі,
Ды Панчанка духам не падаў,
Не дужа-ткі пляскаў у ладкі,
Не кленчыў, не клянчыў пасадаў.
На бюракратычныя дзоты
Ён кідаўся ў вечным запале,
Каб словы любові й пяшчоты
Ў чытацкае сэрца запалі.
Святая, ды цяжкая праца —
З нячыстаю сілай змагацца.

*Сяргей Законнікаў*

І ў ЦК працаваў — чалавекам застаўся.
З ходу кінулі ў «Полымя» — не згарэў.
Да Законнікава не прыстала лухта ўся,

---

[1] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1990–1991 гг. прэзідэнт СССР. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1990).

[2] Гл.: Над возерам ля Глыбачкі (18.06.92) // Евангелле ад Мамы. С. 237. Верш прысвечаны С. Законнікаву. *Законнікаў* Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[3] Гл.: «Усё Някляеў робіць гладка…» (19.06.92) // Асобы рознай пробы. С. 41.

[4] Голубеў Ігар Уладзіміравіч (н. 1961), беларускі скульптар.

Цемя не перагрэў звышідэйны сугрэў.
І цяпер утрапенне Сяргея
Грэе ўжо Адраджэння ідэя.

У відэацэнтр на мантаж «Ушацкіх вяселляў».

Спадары!
Мы паказаць хацелі,
Як, бывала, ў нас гулі вяселлі.
Ды яшчэ паберажыце ўсмешку
На гульню ў вяселле — на Цярэшку!

*21 чэрвеня, нядзеля*

Да Навума. Спёка. Цемя лета. І хутка пойдзе ўсё на спад. І гэтак год за годам — ні лета, ні зімы не бачу, бо не жыву ў іх, а толькі, так бы мовіць, у камандзіроўкі езджу. Перачытваю санеты Петраркі[1]. Хоць і ў перакладах, але які высокі стыль. Нам не хапае яго. А трэба было б.

«Аброк»[2].

* * *

Ушацкі край! Сваю парой любою
Хаду твайму даверу бальшаку.
І адаб'ю паклоны вушаку,
Дабрыдзень дам і ржаваму прабою.

Звяртаюся з набожнаю мальбою,
За падаўкай сляпцом цягну руку:
Падай як жабраку, як земляку
Хоць слова маміна з лясной журбою.

Бо пачынаю глухнуць без яго я,
Як дзень, старэць,
як прысмерк, вечарэць
І разумець калючы лёс ізгоя.

Час, рэдзь ніты, але пакінь хоць рэдзь,
Каб выткалася слова дарагое,
Якое б выбегла мяне сустрэць.

*22 чэрвеня, панядзелак*

Прачнуўся ўночы. Прачнуўся і а 4-й гадзіне раніцы. Гэта гадзіна пачатку вайны, якая забрала ў мяне бацьку. На двары ціха. Сцюдзёнавата.

[1] Петрарка Франчэска (1304–1374), італьянскі паэт.
[2] Гл.: Аброк (15–21.06.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 336.

Дужа ж шмат напісана вершаў, што мяноўна а 4-й гадзіне паэт прачынаецца сёння. Я прачнуўся выпадкова, падсвядома.

Да Пімена. У пакоі каляска. Другая, шырэйшая, была ва ўжытку, трэба памыць. Няма гарачай вады. Рука правая ледзьве слухаецца. Пісаць цяжка. На пледзе маладая кошачка ўнуччына. Вочы мутнеюць. На барадзе велікаватая дзічка, як у нас завуць. На ашчаднай тысяча рублёў — гэта на адзін чаравік, і то, мусіць, без запятка. Фота праўнука. Малы, як касманаўт, колькі месяцаў яшчэ. Сват дальнабойшчык. Народны паэт перад перавознікам на далёкіх рэйсах — жабрак. На стэлажы паўбутэлечкі «Шыпру» — пасля брыцця трэба. Дачка жыве з імі. Любая ўнучка Аксінка таксама. Жонка кажа, што халадзільніку ўжо 18 гадоў. Новы не купіць. Жэніцца сынаў сын (Куляшоў: «Я хачу, каб называўся камуністам сын мой, а таксама сынаў сын»). Няма за што падарунак купіць. У «Школьнай бібліятэцы» вышла кніжка «Мы з тых беларусаў». Некалькі экземпляраў. Адзін аўтару. Тыражу не далі. Няма паперы. Пімен дае заўвагі па тэксту «Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся», чытае выпіскі з «Бесов» [Ф. Дастаеўскага], з газет цікавыя думкі Германа[1], М. Новікавай. Завыць хочацца. Да чаго давялі! Расказваў, як адна яўрэйка прасіла яго пацвердзіць, што працавала ў ваеннай газеце. Ёй нехта параіў: «Сходзі сама». Яна збянтэжылася: «Ён жа тады да мяне трошкі заляцаўся, а ўбачыць старую, бяззубую старую».

*23 чэрвеня, аўторак*

У «Вожык» занёс эпіграмы. Пра Законнікава Блакіту[2] не падабалася. Доўга круціў вакола частакола. А потым — не трэба ўпамінаць ЦК. Сяргей не любіць. Бо й сам жа з ЦК. У «ЛіМ» — «Купалле»[3] занёс. У «Добрым вечары» наконт Нілавага адкрыцця — прыпыніць ўсе званні літаратарам, не даваць; каб Ніл быў апошні народны.

*24 чэрвеня, серада*

Здача «Ушацкіх вяселляў» у відэацэнтры. Прыхільна прынялі. На «Беларусьфільме» тэкст падбіралі са «Споведзі»[4] Ларысы Геніюш. Паступова мне сталі сваімі роднымі і глыбачанцы, і ўсвейцы, якія гойкаюць вяселле, жэняць Цярэшку. А голас Марыі Рыгораўны гэтакі ўшацкі, гэтакі

---

[1] Герман Аляксей Юр'евіч (Георгіевіч; 1938–2013), рускі кінарэжысёр. Народны артыст РФ (1994). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1988), прэміі Ніка (2015, пасмяротна). Сын Ю. Германа.

[2] Блакіт (сапр. Болтач Валянцін Уладзіміравіч; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1987–2000 гг. гал. рэдактар час. «Вожык».

[3] Гл.: Купалле ([06].92) // Евангелле ад Мамы. С. 308.

[4] Геніюш Л. Споведзь. Мінск, 1993.

хатні, слухаю — здаецца, дома я жыву і мама неўзабаве з працы прыйдзе. «Жыві і доўжы цень!»[1]

*25 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень нараджэння Петруся Броўкі і Ігара Шклярэўскага[2]. Броўку памянуў ціхім словам. Пухам яму зямля! Ігару пазваніў. Павіншаваў.

На канец «Ушацкіх вяселляў»:

Аджывае даўніна святая,
Засыхаюць нашы карані.
Толькі ўпірысты ўспамін вяртае
Да свае радні, да чысціні.
Хоча чуць надзея маладая
(І яе за гэта не віні):
Ажывае даўніна сівая,
Маладзеюць нашы карані!

Сёння 60 гадоў [Яфіму] Лапушыну. Падараваў газоўку польскую. «Тлумачэнне да сціплага падарунка: Свяцільнік розуму...» [у дзённіку]. Вечарына была добрая. Цёплая. Было шмат яўрэяў. Апошнія такія зборы. Неўзабаве шмат хто з'едзе. І на аднаго суседа пабяднець цяжка. А тут цэлы народ выязджае. Ён нам не шкодзіў. Усім было мейсца пад сонцам. Гэта камуністам цесна паўсюль.

*26 чэрвеня, пятніца*

Суцэльныя даты. Сёння 60 гадоў Давіду Сімановічу. У «ЛіМе» якраз выйшла маё слоўка пра юбіляра[3]. Пазваніў. Павіншаваў.

На відэацэнтры запісалі з Марыяй колькі словаў тэксту ва «Ушацкія вяселлі». Прыехаў Васіль з Польшчы. [...] Філарэта[4] не дужа віталі. Палякі, што праваслаўны, беларусы — што русіфікатар. Вялікадзяржаўнае стварэнне. [...] Пра Шушкевіча Васіль згодны з думкай Зянона, што гэта проста ніштто.

Неяк мне Васіль казаў, што мама ягоная называла возера Шшо. А цяпер замацавалася адно *ш*. І, выходзіць, паходзіць ад літоўскага слова *са-*

---

[1] Гл.: Жыві і доўжы цень! (24.06.92) // Евангелле ад Мамы. С. 152.

[2] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі РФ (1999). Ураджэнец Беларусі.

[3] Гл.: Радасць бліскавіцы (аўтапераклад, 1992) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 98.

[4] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; н. 1935), праваслаўны царкоўны дзеяч Беларусі. У 1983–1992 гг. Экзарх Беларускі з тытулам мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларускі, у 1992–2013 гг. мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэннаархімандрыт Успенскай Жыровіцкай абіцелі. Герой Беларусі (2006).

*бака*. Калі казаў, што будзем здымаць фільм пра Белавежскую пушчу ў сучасным кантэксце, ён параіў папытаць у каго, як там ці стралялі ў Хрушчова.

*27 чэрвеня, субота*

У *Воршу.* Адчынялі помнік Уладзіміру Караткевічу. Помнік нічога. Уладзімір Сямёнавіч малады вачамі, дужа падобны. Праўда, залішне дэталяў. Бусел над галавой нагадвае традыцыйныя спадарожнікі. Цэментавы пастамент павінны замяніць чырванаватым ірваным каменем. Гэта будзе цяплей і закончаней. Ездзілі на саюзпісьменніцкай машыне. Васіль Зуёнак, Законнікаў, жонка Васілёва (яна ў Юрцава на магільнік да маці) і я. Нейкае незразумелае пачуццё — бачыць яшчэ нядаўна жывога сябра ў помніку. Нейкае аддаленне яго ў вечнасць, у невядомасць.

*28 чэрвеня, нядзеля*

Праляжаў дома з хворай галавой. Відаць, напаліла мне аршанскае сонца. Званіў Васіль. Былі жальбіны па Янку Купалу. Прыйшла [...] тройка — Лужанін, Сачанка, Краўчанка. Барыс дзякаваў тым, хто дае матэрыялы. Фактычна кэдэбістам, якія забілі Купалу, а цяпер цыркаюць дакументы. Дабрадзеі, што й казаць. Кошык з кветкамі давялося несці Васілю з кэдэбісцкай [...] Лужаніным. [...] Грахоўскі кляў сваіх былых начальнікаў. У нас любую святую справу ператвораць у смяхоцце.

*29 чэрвеня, панядзелак*

У «ЛіМе» сцэнар Г. Коласа[1] пра Купалу. Зноў кэдэбіст Лужанін адпрацоўвае кэдэбісцкую версію. Сокалаў-Воюш[2] ужо спец па Купалу. Памыі на Мядзёлку[3]. Нельга гэтак з класікамі! Абутымі нагамі лезуць у святую душу. Трагедыю Купалы трэба разглядаць глыбей.

*Прашэнне*

Адбываюць радоўку і зімы, і леты,
Раўчукі помняць сцежку да маці-ракі.
Не сыходзілі б толькі з аблічча планеты,
Быццам плямы радзімыя, мацерыкі.
Немінучасць злагодзіцца просяць вякі.

---

[1] Колас Георгій Данілавіч (1929–1994), беларускі тэатральны крытык, літаратуразнавец, публіцыст, кінадраматург, сцэнарыст.

[2] Сокалаў-Воюш (сапр. Сокалаў Сяргей Анатольевіч; н. 1957), беларускі паэт, перакладчык, бард. З 1991 г. жыве ў ЗША.

[3] Мядзёлка Паўліна Вікенцьеўна (1893–1974), беларускі дзеяч культуры. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1966). Першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай п’есе Я. Купалы.

*Крый Бог!*

Адраджаецца з попелу птушка Фенікс
І спявае, як певень на плоце.
Толькі б не адрадзіўся Жалезны Фелікс[1]
Ані ў думках, ні ў бронзе, ні ў плоці!
Толькі б не атрымаць з таго свету тэлекс:
«Сустракайце буду жалезна. Фелікс».

*30 чэрвеня, аўторак*

Апошні дзень чэрвеня. Страшэнна кепска. Дождж збіраецца, як галодны за вугал. У галаве гуд, боль, трывога. Чамусці лезуць радкі румына Джорджэ Баковія[2]: «Снег, як на могілках, ідзе». У рэдакцыю прыходзіў скульптар Ігар Голубеў. Не хочуць ставіць ля музея замест расійскае гарматы Язэпа Драздовіча. Сімвал расійскае каланізацыі нашым халуям ад культуры даражэй.

*1 ліпеня, серада*

Душыць спёка. Усё выгарае. І з небам, відаць, камуністы дамовіліся. Ніяк не магу знайсці ўкладальніка на Дубоўку. Усе занятыя ў АН. Дый почарк дужа неразборлівы. Колькі шчырых ёсць у АН, і тыя хворыя, то планавымі тэмамі занятыя. Куды ні кінуся — спецыялістаў увобмаль.

«Душа глядзіць, як цела адмірае…»[3] І, ад спёкі звар'яцеўшы:

*Адчыніш сам*

Ва ўсіх чарговых чэргах выстаіш
І сам адчыніш сэнсу скрынку:
Рай, абяцаны камуністамі, —
Пад'земны пераход да рынку.

Хачу зрабіць невялікую нізку «Палітлірыка».

*2 ліпеня, чацвер*

*Віцебск!* У газавай камеры, што завецца плацкартам, у цягніку Мінск — С.-Пецярбург мучылі Васіля. Толькі ў нас можна так абыходзіцца з такім талентам. Васіль сумна кажа: «Палепшае тады, калі паміж шпалаў трава вырасце».

---

[1] Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877–1926), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. займаў пасады старшыні УЧК (АДПУ), наркама ўнутраных спраў, адначасова наркама шляхоў зносін СССР. Ураджэнец Беларусі.

[2] Баковія Джорджэ Васіліу (1881–1957), румынскі паэт.

[3] Гл.: «Душа глядзіць, як цела адмірае…» (1.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 363.

*3 ліпеня, пятніца*

Адкрыццё Дзён Шагала. Васіль жартуе: «Трэба аднавіць абком і назваць яго імем Марка Шагала». Прыём у мэрыі. Намеснік мэра партайгэносе і намесніца па культуры партай[…]. Бачыце, швед бедны папрасіўся, і яму кватэру ў Віцебску знайшлі. З доміка Шагала няма як выселіць. Яшчэ праектаваўся мост, каб знішчыць домік. Партай[…] дагаварылася да таго, што сам-насам з камуністычнай ідэалогіяй дзікае Віцебск — сапраўды камуністычны заказнік.

Канцэрт «Класік-авангарда»[1] цікавы.

* Hotel. Насупраць вакзал. Шабан[2] сустракае мяне. Put veini![3] Развод Шабана на грамадскім судзе. Я сваіх тры грошы. Ледзь не выгналі. […] Віцебскі народны танец «Шабаны». (Адлёт з Мінска. Корч пад галавой.) Выстаўка Пэна[4] ў былым кабінеце Навумчыка[5]. Выйшлі на вуліцу. Засохлая гліна якраз насупраць кабінета. Васіль пытае: «Ведаеш, чаму? Засохла ад камуністычнай ідэалогіі. Не места красіць чалавека, а чалавек — места».

*4 ліпеня, субота*

Віцебск. Працяг чытанняў. Кадыш у сінагозе па Шагалу і Пэну. Дарэчы, Васіль казаў, калі б Шагал не выехаў з імперыі, было б тое, што і з Пэнам. У лепшым выпадку перарабілі б на Ахрэмчыка[6], а не — адкруцілі б галаву. Сінагога — забыты дом, трохі паднаўляецца. Певень заглушае голас кантара. Старыя яўрэі — ажылі, здаецца, тыпажы Пэна і Шагала. У аднаго на лацкане значок ВАВа[7]. Такія старыя, што быццам успамінаюць, дзе яны. «Памінальная малітва»[8] купалаўцаў. Аўгуст Мілаванаў[9] беспадобны. Гарбук[10] плакатна-савецкі. Забываецца, што іграе яўрэйскага мясніка — і як каўказец на базары пачынае.

---

[1] «Класік-авангард» — беларускі ансамбль салістаў (з 1985).

[2] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык.

[3] Put veini! — Вей, ветрык! (*Лат.*)

[4] Пэн Юрый Майсеевіч (Юдаль Мойшавіч; 1854–1937), яўрэйскі мастак, педагог. Забіты невядомым.

[5] Навумчык Іосіф Адамавіч (н. 1938), сакратар Віцебскага абкама КПБ (1978–1991). Бацька С. Навумчыка.

[6] Ахрэмчык Іван Восіпавіч (1903–1971), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1949).

[7] ВАВ — Вялікая Айчынная вайна.

[8] П’еса Г. Горына. *Горын* Грыгорый Ізраліевіч (сапр. Афштэйн; 1940–2000), рускі пісьменнік-сатырык, драматург, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2002, пасмяротна).

[9] Мілаванаў Аўгусцін Лазаравіч (н. 1937), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1989). З 1962 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, адначасова з 1970 г. выкладчык БДАМ.

[10] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (1934–2018), беларускі акцёр; аднакласнік. У 1962–2018 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980).

*5 ліпеня, нядзеля*

Пряцяг чытанняў. Цікава разабраў нямецкі прафесар[1] «Укрыжаванне ў белым». Так, здаецца, называецца твор. Адкрыццё дошкі на доме Марка Шагала. Трэба было сказаць колькі словаў. Напісаў у рыфму — і карацей, і быццам бы гучыць на слых: «Вяртанне сноў»[2]. Прачытаў. З дома не выселеныя жыхары, і не дужа хочуць высяляцца. Жыццё доўжыцца. Недалёк ад дома Марка Шагала адкрыўся помнік майстру. Прыехаў міністр Пётр Каўчанка ў пажамканых штанах. Яго суправаджае Грыгор'еў[3], — усё, як пры камуністах. Пляменніца Шагала з жахам кажа мне зірнуць на словы на аснове помніка. Скульптар Гвоздзікаў[4] канчаткова прапіў мазгі, калі такія былі. Надпіс збоку: «Посвящается исполнительнице авторской песни Веронике Долиной[5]». Васіль па дарозе заўважыў: «Гэта калі помнік Пушкіну прысвяціць сабаку суседа». Па дрымучасці і савецкасці Віцебск на адным з прызавых мейсцаў у СНД. Ідзём дадому. Каля Бярэзіны стажкі. Васіль расчулена кажа: капешачкі.

Сяргей Рублеўскі[6] ў Віцебску расказваў. Чытаў у «ЛіМе» маці «Беларусы ўсіх краін, яднайцеся». І кажа маці, што і ноты ёсць. А яна й пытае: «А хто ж на музыку перавярнуў?» Учора на «Класік-авангардзе» пісаў верш:

* * *

Мінучы гук, яго смыкамі
Ўкрыжоўваюць, каб уваскрэс.
Балючы гук, ён не змаўкае,
І раб і цар, жабрак і Крэз.

Вясёлы і ў сваёй пакуце
І сумны — радасці на зло.
Гук выдзімаюць, як у гуце
Са шкла гарачага святло.

---

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі РБ «За духоўнае адраджэнне» (2007).

[1] Гольдман К., прафесар Гёттынгенскага ўніверсітэта (ФРГ): «Тэма ўкрыжавання ў творчасці М. Шагала». Па карціне «Роскрыж у белым».

[2] Гл.: Вяртанне сноў (5.07.92) // Шагалаўскі зборнік. Віцебск, 1996.

[3] Грыгор'еў Уладзімір Віктаравіч (1941–2011), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат. У 1991–1996 гг. дырэктар Віцебскага вытворчага аб'яднання «Даламіт».

[4] Гвоздзікаў Аляксандр Мікалаевіч (н. 1951), беларускі скульптар. І па сёння на помніку застаецца гэты недарэчна-ганебны надпіс.

[5] Доліна Вераніка Аркадзьеўна (н. 1956), руская паэтэса, бард.

[6] Рублеўскі Сяргей Васільевіч (н. 1954), беларускі празаік, паэт. У 1990–2008 гг. гал. рэдактар віцебскай абласной газ. «Народнае слова».

Бярэ знямеласць на парукі
Апошні ўскрык, апошні ўздых.
Змаўкаем.
І змаўкаюць гукі —
Чакаюць вуснаў маладых.

*6 ліпеня, панядзелак*

На працу. Учора было 3 гады маёй любай унучачцы Дамінічцы. […] Сёння забрала Ілона да сябе. Пыталася, а што ёй купіў дзедзя. Балбатушка стала. […] Радзік параіў з двух радкоў экспромта зрабіць верш. Увесь дзень круціў. І выкруціў гэтак: «Вякі перасвістваюцца скразнякамі…»[1]

*7 ліпеня, аўторак*

Дзень добры, Купалле. З днём нараджэння, вялікі Янка Купала. Імя тваё марна сулоцяць тыя, хто і не чытаў цябе, і не разумее сябе. Уключыў радыё, а цыбаты Ніл зяпае пра цябе, а ў думках пра сябе гаворыць. Святое імя ціха грэюць ля сэрца, а не галёкаюць, не трашчаць. А ў нас заклятая савецкая манера гучна ўхваляць, а яшчэ гучней ганьбаваць.

Учора ўспомніў экспромт, які пісаў у гонар 60-годдзя Лойкі[2] ў Парыжы: «Незабыты экспромт».

*8 ліпеня, серада*

Тэле. Наконт запісу паэмы. Пярэбары з паверха на паверх. Прыходжу. Адмыкаю дзверы, а ў пакоі пуста. Думаў — пераблытаў. Калі б п’яны, дык звар’яцець можна. Нас назад на 9-ты паверх[3]. Ламіла галаву, таму, можа, і пісаў. «Перайманне»[4].

Некалькі дзён круціў верш і неяк выкруціў. Дужа ж ён натурыўся, як той конь: «Свінец»[5].

У галаву лезуць не самыя вясёлыя думкі. Адчуванне нейкага канца, безвыходдзя, роспачы, беспрасвецця. «Цішыня»[6]. Не, усё-ткі родная мова павінна ўваходзіць у чалавека разам з жыццём. Па кніжках яе не ўдыхнеш. Пішу слова *закілзаць,* і мне цуглі звіняць, зялёнаю слінаю ад свежай

---

[1] Гл.: «Вякі перасвістваюцца скразнякамі…» (6.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 154.

[2] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990), прэміі імя У. Пічэты (2003). Гл.: Незабыты экспромт (1.05.91, Парыж) // Евангелле ад Мамы. С. 439.

[3] Толькі рэдакцыю Р. Барадуліна невытлумачальна неаднаразова перасялялі з пакоя ў пакой, а то і паверх; нарэшце зноў вярнулі на «родны» 9-ты.

[4] Гл.: Перайманне (8.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 180.

[5] Гл.: Свінец (8.07.92) // Тамсама. С. 163.

[6] Гл. Цішыня (8.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 162.

травы выблішчаныя, конь пахне потам, над канём сляпні і авадні — кожны йдзе на спрэчку, хто балючэй ўтне, а конь іржэ і трасе грываю.

*9 ліпеня, чацвер*

Дзень нараджэння Валі. А неўзабаве маёй Ілоначцы — 30. Не верыцца. Клопаты на працы, званіў Бурсаву. Прыязджала Ілона. Дамінічка на ўчастку. Яшчэ вершык у «Палітлірыку»: «Трэба мець: Поп-культура...» [у дзённіку].

*Алегу Лойку*

Доктар Лойка доктара Скарыну
Навучыў бы запаўняць анкеты,
Заадно Купалу чын па чыну
Расказаў, як выбіцца ў паэты.
І засведчаць Слонім і Сарбона,
І як дзед працуе Лойка плённа.

*10 ліпеня, пятніца*

На кінастудыі глядзеў адзняты матэрыял пра адкрыццё помніка Караткевічу. Даводзіць спёка.

*11 ліпеня, субота*

Праводзілі Валіну маці[1] ў Вушачу з Дамінічкай. Сёння ў аўтобусе былы зяць Карпава (як пасля сказаў) казаў, як кэдэбісты здымалі кадры пахавання Караткевіча. У прыватнасці, калі я цалаваў руку Уладзіміру і са мной яшчэ нехта. Некалі Сцяпан Міско[2] казаў, што пыталі кэдэбісты, хто быў на пахаванні мамы маёй у Вушачы, што хто казаў. Анёлы-ахоўцы на ўсё жыццё дадзены партыяй крымінальнікаў.

*12 ліпеня, нядзеля*

Прахварэў, пагніў увесь дзень. Пісаў дзіцячыя вершы. Часам адно слова ўсё выручае. Слухаў Лойкава «Беларускае танга». І як выручае *Ганка* — «пацалуй яго, Ганка». І гэтае заморскае слова становіцца на сельскі, вясковы ганак, беларускім робіцца.

«Босы дождж»[3].

---

[1] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

[2] Міско Сцяпан Міхайлавіч (1930–2010), беларускі мастацтвазнавец, культуролаг.

[3] Гл.: Босы дождж (12.07.92) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мінск: «Юнацтва», 1996. С. 40.

*13 ліпеня, панядзелак*

Васіль прынёс 5-ты том у выдавецтва. Расказваў: па дарозе сустрэў мініволата Дашука[1]. Той падзяліўся сакрэтам пра спонсарства. На фільм трэба 20 млн. Ідзе на буйны завод. Дырэктар выклікае камерцыйнага дырэктара. Той дырэктар: «Пішыце, што трэба 40 млн». 20 на фільм, 20 — гатоўкай дырэктарам.

Васіль жартаваў, што вялікадзяржаўніцкая Расія каму «Град» і «Алазань», каму запалкі — у Балтыі гараць лясы. Вечарам званю Васілю. Чытаю ўрэзку да малдаўскіх паэтаў. Васіль успамінае. Вайна. Прайшлі Малдавію, пасля ўкраінскае фасолі ды бараболі Малдова раем здалася. Белы хлеб, мяса, віно. Якраз было Вялікадне. У царкве зазванілі. На Украіне не чуць было званоў — там калгасы. Васіль у царкве пачуў, што нехта у кішэню лезе. Зірнуў. А гэта кабета вялікі кавалак куліча салдаціку торкае ў кішэню. Гэта, успамінае Васіль, першы прывітанак Малдовы. А пасля прымусілі салдат прымусіць сялян за 10 км высяляцца, бо аж 4 месяцы стаялі. Усё абагулілі на карысць арміі. Сяляне мала чаго з сабой узялі. Пачалі вяртацца. Бо дома ж хоць кукуруза. А іх не пускаюць. І ў 46-м годзе вяртаўся з Балгарыі. Малдова чорная, галодная. Усе народы, якія хоць крыху дакрануліся да сацыялізму, як выклятыя. Дасюль.

*14 ліпеня, аўторак*

Праца. Аднёс Міколу Гілю падборку малдаванаў. Вечарам сядзеў над сваёй бібліяграфіяй у канец аднатомніка. Сумны гэты занятак — як перад развітаннем.

*15 ліпеня, серада*

Сачанка казаў, што мініфюрэр Пашкоў[2] і пасляабедзенны трагік Мыслівец[3] збіраюць подпісы ў падтрымку і прымкненне да пулатаўскага расійска-чарнасоценнага Саюза пісьменнікаў.

«Імгненне»[4], «Прысвячэнне»[5].

---

[1] Дашук Віктар Нічыпаравіч (н. 1938), кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік. Народны артыст БССР (1989). Заслужаны дзеяч мастацтваў (1977). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[2] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. З 1989 г. кансультант гуманітарнага аддзела ЦК КПБ. У 1991–1996 гг. — нам. галоўнага рэдактара час. «Тэатральная Беларусь», гал. рэдактар «Цэнтральнай газеты». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[3] Мыслівец Валянцін Цімафеевіч (1937–1993), беларускі празаік, нарысіст.

[4] Гл.: Імгненне (15.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 149.

[5] Гл.: Прысвячэнне (15.07.92) // Трэба дома бываць часцей... С. 332.

*16 ліпеня, чацвер*

Праца. Сёмуха, дзякуй яму, зрабіў мне бібліяграфію, калі яе гэтак назваць. Званіў Васіль. Едзе ў Гародню. Памёр Карпюк[1]. Пухам яму зямелька, пакутніку несхлямяжаму!

[У «Вожык» на М. Танка і З. Азгура[2].]

*17 ліпеня, пятніца*

Радзік кажа, што працуе над кандыдацкай. Хоць бы напісаў, дужа мне хочацца. Заходзіў да Якава Абрамавіча. У жніўні, відаць, ад'язджае. Застаюся без свайго галоўнага доктара. Прыходзіла Ілона — надавалі ёй падарункаў на заўтрашні дзень. Ёй 30! Які ж я дрымучы, калі маёй Ланачцы ўжо гэтулькі гадоў.

«Мальба»[3]. Перачытваў Апалінэра[4]. Прыйшлі ў галаву даўнія радкі: «Парыжскае пахмелле»[5].

*Ілоне Барадулінай (на «Міласэрнасці плахі»)*

На гэтым свеце лепшыя гады
Жыццё забрала і не абяцала
Аддаць на тым.
Але тае бяды.
Цябе дала,
А гэта так не мала!
Ілоначка — адзіная дачка,
Рунявінка, што ў заўтра зелянее,
Цябе вітаю веташком радка,
Што стаць маладзічком згубіў надзею.
Як верыць вір прасветленаму дну,
Табе я веру, адагнаўшы страхі.
Уся надзея на цябе адну
І ўрэшце ўрэшт —
На міласэрнасць плахі.

*18 ліпеня, субота*

З Радзікам заплаціў за будучы абмер кватэры. Усе рушылі ў прыватызацыю, і я следам за працоўнымі масамі. Заходзілі да Навума. «Бясконцасць»[6].

---

[1] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920–1992), беларускі пісьменнік. У 1978–1992 гг. сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986).

[2] Гл.: «І палітычная гайданка…»; «Азгур першы блізка ўбачыў мэту…» // Асобы living рознай пробы. С. 9; 30.

[3] Гл.: Мальба (17.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 290.

[4] Апалінэр Гіём (сапр. Кастравіцкі Вільгельм Апалінарый; 1880–1918), французскі паэт.

[5] Гл.: Парыжскае пахмелле (17.07.92) // Трэба дома бываць часцей… С. 328.

[6] Гл.: Бясконцасць (18.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 155.

*19 ліпеня, нядзеля*

Цэлы дзень на нагах. Парадкаваў кніжкі. Усё-ткі ў хаце павінна быць крыху даведачнай і асабліва дарагой сэрцу літаратуры, а хадзіць чытаць кніжкі трэба браць у бібліятэках. Савецкі лозунг: «Кожнаму ўласную бібліятэку» — акрамя пылу нічога не нясе. Бо кватэры з кукіш.

*20 ліпеня, панядзелак*

Праца. Вярнуўся з адпачынку Ул. Арлоў. У яго памерла маці. Прыходзіла Марыя. Званіў Гілепу[1] наконт фільма пра Марыю Рыгораўну. Раніцой замерылі наш мерлог. Можа, давядзецца прыватызаваць.

*21 ліпеня, аўторак*

Праца. Прыходзіла Іна Снарская[2]. Вельмі здольная паэтка. Палачанка. З даўняга шляхецкага роду Снарскіх. Маці выкладала родную мову і літаратуру. Бацька быў інжынерам-будаўнікам. Абое памерлі. Да сямі гадоў у дзеда з бабай. Выйшла замуж у Палтаву. Вершы запісвае пасля сноў. Бачыць сны вешчыя і будзённыя. Парода наша крывіцкая ацалела ў ёй. Сінія светлыя вочы, высмугласць аскетычная. Верніца. Дужа ірвецца ў Беларусь. Асабліва як з Мінска пад'язджае да полацкіх лясоў і вазёр, душа разрываецца. Мужавы бацькі ледзь прывыклі. Бо хацелі бачыць нявестку для гаспадаркі — мажную, дужую. Задужа яна інтэлігентная для ўкраінцаў. Яна па-беларуску, з ёй па-ўкраінску, і добрая дружба, непаказушна-савецкая.

Як пабайнёй аглушылі — павесіўся ў сябе ў лабараторыі Валянцін Ждановіч[3]. Толькі ў нядзелю званіў, дамаўляліся, што ён завязе ў Вушачу цукар. Ён мусіў ехаць у панядзелак ці сёння. А я — заўтра. Гэтулькі ўвабралі ягоныя вочы і слёзаў, і ўсмешак, і насмешак, гэтулькі чалавечых аблічаў. Стаміліся вочы, дружа дарагі, Валя, стаміліся вочы твае. Ты гэтак гарой стаяў за ўсё беларускае, за ўсё чалавечае, годнае. А тваё разбіранне разбою ў Траецкім прадмесці[4]. «Памяці Валянціна Ждановіча»[5].

---

[1] Гілеп Уладзімір Аляксандравіч (н. 1938), беларускі гісторык, краязнавец; дзяржаўны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1994). У 1982–1996 гг. 1-шы нам. міністра культуры.

[2] Снарская Іна Станіславаўна (н. 1969), беларуская і ўкраінская паэтэса; тэлежурналіст. З 1987 г. жыве ў Палтаве (Украіна).

[3] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[4] 20 красавіка 1986 г. у Траецкім прадмесці гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны». Падгавораныя былыя воіны-«афганцы» — нібыта тут сабраліся ледзь не маладыя неафашысты — збілі навучэнцаў Мастацкай школы імя І. Ахрэмчыка, якія вадзілі карагоды. Па словах мастака Р. Сітніцы, пасля шкадавалі, што іх увялі ў зман.

[5] Гл.: Памяці Валянціна Ждановіча (21.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 197.

*22 ліпеня, серада*

Развітанне з Валянцінам Ждановічам. Бедныя бацькі. Бацька яшчэ трымаецца, а маці зусім даходзіць. Увесь час ад нябожчыка адганяе дзвюх назойлівых чорных тлустых мух. Дзякуй табе, Валя, за ўсё! Быў Пазьняк. Ён таксама хіліцца да думкі, што ўсё не так. Невыпадкова аж трое з «Маладосці» загадкава загінула.

*Ушача!* З Роўбам у Пліна. Возера, якое помню з блакады. Можа, у гэтай хаце, што стала Роўбавым лецішчам (была раней школа) і стаялі мы, а потым аж пагналі ў Качаны. Да Роўбавай маці. Сябравала з мамай маёй, успамінала, як часта хадзілі па Ушачы. Жыве ў сестрыной хаце. Швагра ў 37-м за тое, што хата была лепшая і вокны большыя, загубілі. Быў чырвонадрэўшчыкам, пабываў у Нямеччыне ў палоне. Хату на нямецкі манер [пабудаваў]. Дажывае век і ўнікальная мэбля. Маці Роўбава 14-га года.

*23 ліпеня, чацвер*

З’ездзілі ў *Вусвею [*Усвею]. Паказалі ім, выканаўцам Цярэшкі, фільм. Клуб да прыезду пачалі падбіваць крышку дошкамі. Не паспелі. Партрэт Леніна. Паламаныя крэслы. На стале кіпка газетаў. Ёсць і «ЛіМ». Пачуў цікавае слова *шапя´нка* — дзе сена складаюць, у нас ёсць *тынянка* — для дроў. Вечарам трохі павячэралі па-ўшацку — з чаркаю. Куды ні ехалі — успамінаўся мне незабыўны Валянцін Ждановіч. Гэта ж мы з ім выкружнялі, калі рабілі «Вяртанне»[1]. Усё ён абышоў, усё адзняў. Дзякуй зямны.

*24 ліпеня, пятніца*

У *Глыбачку.* Фільм у бібліятэцы. Партрэты Талстога[2], Пушкіна, групавы партрэт лаўрэатаў Сталінскіх прэміяў на чале з Сіманавым[3]. Недзе ў кутку Колас[4]. Нікога з беларусаў. Русіфікацыя, як і бязбожжа, у нас пряцяла ўсю глыбінку. Ведалі бальшавічкі-камуністыкі (так і рыфмуецца — нячысцікі), адкуль пачынаць. Дарэчы, у мове народа ўвесь ягоны характар, як цяпер увялі слоўца *менталітэт*. Беларусам хапала і сваіх земляў (толькі суседзі ўвесь час адгрызалі нашую спаконшчыну), і сваіх словаў у мове. Імперскі расійскі нораў ніяк не мог спыніцца ў хапанні і земляў, і чужых словаў.

---

[1] Барадулін Р., Ждановіч В. Вяртанне: Альбом. Мінск: «Беларусь», 1988.

[2] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык.

[3] Сіманаў Канстанцін (Кірыл) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, сцэнарыст, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1949, 1950), Ленінскай прэміі (1974).

[4] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

На Мінск. Вечарам у «Кроку» [БелТВ] сказаў колькі слоў пра нашую так званую незалежнасць. Пачало несці, але спынілі — час не дазваляў. Званіў Васілю — яму спадабалася. Гэта мне найвышэйшая ўхвала.

*25 ліпеня, субота*

[…] Запознена прачытаў аўтабіяграфічныя нататкі Наталлі Арсенневай[1]. Леанід Пранчак[2] разаслаў анкету ўсёй творчай эміграцыі. Ясна, якая арганізацыя натхніла сучаснага Дзеружынскага-песенніка[3]. Ясна, што Ларыса Геніюш як патрыётка, як беларуска стаіць вышэй. Ва ўчарашнім «ЛіМе» і ўразіла, і абразіла нататка Майсея Сяднёва[4]. Не хоча бачыць ні Пазьняка, ні БНФ. На пазіцыі партыі крымінальнікаў, якая садзіла яго ў турму. Відаць, меў заданне ад берыеўскіх сокалаў. Недарэмна Сачанкава дачка[5] піша кандыдацкую па творчасці Сяднёва. Ні пра Гарэцкага[6], ні пра Ластоўскага[7], ні пра Сахарава[8] ў АН рукі не даходзяць. А тут местачковец у амерыканскім гарнітуры пачынае вучыць, як жыць, хто правадыр, хто не.

*26 ліпеня, нядзеля*

Некалькі вершаў з вельмі безвыходнай прыпіскай ад Пімена Панчанкі:

Дарагі Рыгор!

Прабач апошні раз за турботы! Пасылаю яшчэ тры вершы. Апошнія. На гэтым сваю дзейнасць у беларускім вершаскладанні я закончыў…

Надзея на прым’ера малая. Больш на сяброў.

---

[1] Арсеннева Наталля Аляксееўна (1903–1997), беларуская паэтэса, перакладчык. Як жонка інтэрніраванага польскага афіцэра Ф. Кушаля знаходзілася ў ссылцы ў Казахстане (1940–1941), была вызвалена ў сувязі з вызваленнем мужа. У час вайны працавала ў «Беларускай газэце» ў акупаваным Мінску. У 1944 г. сям’я выехала ў Германію, у 1950 г. у ЗША.

[2] Пранчак Леанід Іванавіч (н. 1958), беларускі паэт, перакладчык.

[3] Дзеружынскі Авяр’ян Сафонавіч (1919–2002), беларускі паэт.

[4] Сяднёў Масей (Майсей Ларывонавіч; 1913–2001), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1936), у 1940 г. прывезены ў Мінск на перагляд справы. Апынуўся на волі. У 1943 г. выехаў у Германію, у 1950 г. у ЗША.

[5] Сачанка Святлана Барысаўна (1968–2011), беларуская паэтэса; літаратуразнавец. Дачка Б. Сачанкі.

[6] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік. Рэпрэсаваны.

[7] Ластоўскі Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Рэпрэсаваны.

[8] Сахараў Сяргей Пятровіч (1880–1954), беларускі фалькларыст, этнограф. У 1945 г. высланы ў ссылку ў Казахстан.

У Юрыя Трыфанава[1] ёсць «Опрокинутый дом». Там ёсць цудоўныя старонкі «В гостях у Шагала»: «Красивая… Это ваша жена или просто так?»

Прывітанне і ўсяго найлепшага! *16/VII-92 Пімен Панчанка.* Дзякуй Валі. *П.*

Халаднавата стала на сэрцы. Дарагі Пімен Емяльянавіч! Жывіце! Прэм'ер Кебіч і міністр замежспраў Краўчанка прыйшлі, паглядзелі на гора, паабяцалі разабрацца — і на гэтым усё.

Цэлы дзень сядзеў чытаў успаміны Пімена. Ён сам там-сям і партыю, камунізм павыкідваў, але й мне засталося поле дзейнасці. Успаміны перадаюць свой час і характар Пімена. Але болей на мяне падзейнічала прыпіска. Быў чалавек, Паэт, якога сістэма хацела як бліжэй да сябе наблізіць, зрабіць сваім. І з большыны ўдалося. Але душа ягоная вольнаю засталася. І цяпер ён нікому не трэба — хворы, без грошай, без усялякае перспектывы. Паўтарае лёс беларускае інтэлігенцыі. Народа з незалежнасцю ў свядомасці няма, народу інтэлігенцыя нацыянальная не трэба. Хлеб надзённы ды барахло ў галаве ў людзей. Няма і нацыянальнай буржуазіі, якая б хацела мець свой нацыянальны рынак, сваю манаполію. Ёсць толькі аглядкі саўімперыі. Цёмна ў Беларусі. Зябка ў Беларусі. Няўтульна. «Агонь»[2].

*27 ліпеня, панядзелак*

Спёка даводзіць да стэпавых мазгоў. Да Лапушына. У Бэлы Ізраілеўны дзень нараджэння. Паказалі відэакасету: ад'езд дзяцей — дачкі і ўнука з унучкай. Унучка на фано, а ўнучак (сам сябе заве Шам) пяяў так прачула яўрэйскія песні. Генетычны код — гэта нешта ўнікальна-недасяжнае. Гэта пячатка Бога, пастаўленая на душу да скону. Бабулі Шам расказваў таямніцу: ёсць такая птушка, якая з'яўляецца апоўначы да тых, каму страшна.

*Трылузіцца…*

Мае веча свой рот —
Круглы ад роспачы звон.
І на веча йдзе народ
І, як звон, гудзе ён.
Звон мае свой язык,
У людзей языкі свае.

---

[1] Трыфанаў Юрый Валянцінавіч (1925–1981), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1951).

[2] Гл.: Агонь (26.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 89.

Зык даганяе зык.
Дол пяе.
Душных галоваў
Плыве чарот.
Вечна галодны
Вечавы рот.

*28 ліпеня, аўторак*

Апоўначы сніўся верш: «Брэх»[1]. На працы званіў Панчанку. Згодзен раздзел замест «успаміны» назваць «эсэ». Сказаў: «Чым моц мая магла», — працытаваў вялікага Янку Купалу. Вечарам званіў Быкаў. Ён на нейкі дзень ездзіў у Бычкі да брата. Быў у Вушачы. У «Рэспубліцы»[2] ягоную думку сказілі ў карысць ВПК[3]. З самім Быкавым абыходзяцца як з селькорам. Савецкі Саюз жыве па інерцыі, яшчэ мацней з афіцыйнай, адкрытай уладай грошай.

*29 ліпеня, серада*

Паўдня бегаў, каб Панчанку выпісалі грошы, хоць трохі мусіць мець на юбілей. Званіў Бураўкін. Прыехаў. Зробіць ласку і запросіць да сябе. Ведь я «червяк в сравненьи с ним». Абураўся паводзінамі Ніла. Як быццам ад лагойскага двухногага можна нечага іншага чакаць было.

Анатоль Белы[4] прасіў нешта напісаць для «Полацака»[5]. «Беларусам у выраі»[6]. Наогул, «Полацак» асцярожны часопіс, як і незразумелы Ан. Белы.

*30 ліпеня, чацвер*

Да Пімена падпісаць умову. Зноў расказаў, як у Шамякіна, калі атрымлівалі грошы, папрасіў пару сот пазычыць. Той пачаў стагнаць, адкуль, сям'я, дзеці. Пімен зрабіў паўзу і нарэшце сказаў: «Тады аддай тыя дзве сотні, якія ты ў мяне пазычаў». Смяяўся з эпізоду ягонага рамана, дзе хлопец дзяўчыне, уцёкшы ад дажджу, хваліцца, што стаў кандыдатам у члены партыі.

«Каханне»[7]. Хачу ўсё-ткі зрабіць зборнічак «У свіныя галасы».

---

[1] Гл.: Брэх (28.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 156.
[2] «Рэспубліка» — урадавая газета (з 1991).
[3] ВПК — Ваенна-прамысловы комплекс.
[4] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).
[5] «Полацак» (1991–1997) — беларускамоўны грамадскі, гісторыка-культуралагічны і літаратурны час., які выдаваўся беларуска-амерыканскім культурна-асветным цэнтрам «Полацак» у г. Кліўлед (ЗША).
[6] Гл.: Беларусам у выраі (29.07.92) // Евангелле ад Мамы. С. 76.
[7] Гл.: Каханне (30.07.92) // Дзень паэзіі-93/94. Мінск, 1994. С. 193.

*Недарэмна — нетурэмна.*

*31 ліпеня, пятніца*

Да Серпера. Прагляд кіначасопіса Вад. Купрыянава[1]. Званіў Васілю. Сапраўды, русскомычащее стада бяды сабе дае, бо ў бальшыне сваёй гэта агентура КДБ. Асабліва на ВПК. Таму й лямант, што інтэлектуальны тэхнічны слой пакідае нацыянальна свядомыя рэгіёны. Увесь час расійцы былі старшими братьями, цяпер ужо згадзіліся на нацыянальную меншыну′, абы гвалт падымаць, што іх прыцясняюць. Атрымліваецца, што біты нябітага вязе.

*1 жніўня, субота*

Пішу вясёлую нізку «Крымінальна-бытавая лірыка». Вечарам да Якава [Серпера]. Нешта накшталт развітальнай вячэры. Едзе чысла 14-га. Усе яўрэі выязджаюць. Ці па біблейскаму наказу, ці ад Чарнобыля. Пачынаюцца багатыры, сядзіш жабрак жабраком і слухаеш пра сотні тысяч. Убачыў чужымі сваіх сяброў. Усе ці паўяве, ці ў наяве ў ад'ездзе. Гэтая наша зямля ім не радзіма. Працуе генетычны код.

«Зарэзаў», «Патэльня», «Капуста», «Кава», «Эпітафія», «Лірыка»[2].

*2 жніўня, надзеля*

Накінуў колькі старонак сцэнара пра Белавеж. Пра Пімена Панчанку пачаў пісаць у «ЛіМ». Сёння Ілля. Прыкмета кажа: на Іллю да абеду лета, а па абедзе восень. А ўсё роўна спёка стаіць жахлівая.

*** Баба на Іллю наелася ды прыгаворвала: «Іллюшачкі каб і дзве, Пятрушачкі ніводнай».

*3 жніўня, панядзелак*

Да Бураўкіна. Як Масей Сяднёў цярпеў паўтара месяцы Сачанкаву жонку з дачкой. Бейкер[3] і Краўчанка. Паеду толькі без перакладчыка. Лецка[4] хацеў пракруціць аферу з караблём на святкаванне Амерыкі. У мяне ёсць надзея пабыць у Амерыцы. Вечарам да Алеся Адамовіча. Загадка і

---

[1] Купрыянаў Вадзім Яўгеньевіч (н. 1936), беларускі кінааператар і рэжысёр. З 1990 г. у Рэспубліканскім вытворча-тэхнічным аб'яднанні «Белвідэацэнтр». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Гл.: Дурноты: Зарэзаў; Патэльня; Капуста; Кава; Эпітафія; Лірыка (1.08.92) // Дзень паэзіі-93/94. С. 193–195.

[3] Бейкер Джэймс Эдысан (н.1930), дзяржсакратар ЗША (1989–1992).

[4] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1980). У 1987–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы, заг. рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Старшыня рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (1990–1993).

кроплі разгадкі, як да Сачанкі ў 60-я гады трапіла фота Быкава і Салжаніцына[1]. Негатывы і Карпюк.

*4 жніўня, аўторак*

Аднёс сцэнар у відэацэнтр. Выстава вязаных прац Марыі ў салоне. Пімен прыслаў верш. Дзе тлумачыць паходжанне свайго ймя. Дні два назад я пазваніў і спытаўся ў жонкі, чаму Пімен.

Цікава, што песні аўтарскія бываюць і сучасныя, і мінулых гадоў, і толькі народныя нельга аб'явіць, назваць песнямі мінулых гадоў. Яны заўсягды надзённыя, сучасныя, бо вечныя, як зоры, як неба, як дол.

Ані ў суп нагой. «Пагалоўная пісьменнасць», «Малаток», «Лаўры»[2].

*5 жніўня, серада*

Пімену ўсё-ткі грошы зрабілі. Перад юбілеем будуць дарэчы. Пра беларускія грашовыя знакі: не толькі людзі, а й грошы азвярэлі[3]. Звярэе ўсё наўкол. Кара за бязбожжа.

Якая грацыёзнасць у накідах Георгія Іванава[4]:

Всё это было, было, было;
Всё это было, было, бу...
Плетётся рыжая кобыла,
Везёт дрова, везёт судьбу.

Згадалася смешнае. Селіханаў[5] ляпіў Калачынскага[6]. Ляпіў доўга, а яшчэ даўжэй пілі. З кожным днём Калачынскі круглеў ад перапояў, і скульптар мусіў штодня накладваць шчокі, і ўрэшце бюст закончаны. Паэт атрымаўся, як любіў казаць Караткевіч, одутлотворённым. І дужа.

Для розных вершаў несур'ёзных прыдумаў паджанр: дурноты.

Званіў Пімену. Ён рады, што трохі матэрыяльна выдавецтва яго падтрымала. Між іншым — па аналогіі са сваім становішчам — расказваў, што ў Купалы (сведчыла цёця Уладзя) напачатку вайны на кніжцы заставалася 60 рублёў. Колас пасля вайны патрабаваў ад выдавецтва мільён, бо бедны.

---

[1] Салжаніцын Аляксандр Ісаевіч (1918–2008), рускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1945–1953). У 1974 г. пазбаўлены савецкага грамадзянства. У 1974–1994 гг. жыў у Швейцарыі і ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1990).

[2] Гл.: Дурноты: Пагалоўная пісьменнасць; Малаток; Лаўры (4.08.92) // Дзень паэзіі-93/94. С. 193–194.

[3] На беларускіх разліковых білетах былі выявы белкі, зайца, лася, воўка, мядзведзя.

[4] Іванаў Георгій Уладзіміравіч (1894–1958), рускі паэт. З 1923 г. у эміграцыі.

[5] Селіханаў Сяргей Іванавіч (1917–1976), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1963). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1976).

[6] Калачынскі Міхась (Міхаіл Іванавіч; 1917–1990), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1974).

*6 жніўня, чацвер*

Да Якава Абрамавіча па лекі.

Праца. Саюз. Смярдзюча ад нямытых, але нахабных наваяўленых бізнесмэнаў. […] Душыць духата. Яўна павышаецца радыяцыя, бо гараць тарфянікі і лясы. «Смерць як жыццё…»[1] Прыходзіла Ілона. Худая, шкодная, капрызная, але ўсё роўна дужа цёплая майму сэрцу крывіначка мая, Ілоначка!

«Чым не партсход»[2].

*7 жніўня, пятніца*

Угодкі Мальдзіса. Даў тэлеграму:

Адам!
Я тост адзін дадам
Да ўсенароднае пашаны:
Адпавядай сваім гадам,
Май поспех і ў інтымным жанры.
Няхай Марыіна надзея
З намерам добрым маладзее!

Бегаў, атаварваў талоны на гарэлку і тытунь. Яшчэ толькі ўвесці талоны на смерць. Хай бы іх камуністам выдавалі. Без чаргі. Да ночы перапісваў вершаваную азбуку[3]. Герчык хоча выдаць у «Славянах[4].

*8 жніўня, субота*

Да вечара пісаў «Азбука — вясёлый вулей». Вечарам на ўгодкі Мальдзіса ў СП. Усе старыя знаёмыя, як цені. Дзе яны маладыя? Страшна і сумна. […]

*9 жніўня, нядзеля*

Напісаў слова пра Пімена. Перагледзеў яшчэ раз «Выбранае» нядаўняе. Спрэс саветызавана, ідэалагізавана. Шкада талент! Спёка дапальвае. «Спёка -92», «Чатырохнога табурэткі…»[5].

*10 жніўня, панядзелак*

У «ЛіМ» Алесю Марціновічу[6] занёс слова пра Пімена. У кнігарню. Трохху кніг купіў. Была Ілона. […]

---

[1] Гл.: «Смерць як жыццё…» (6.08.92) // Евангелле ад Мамы. С. 157.

[2] Гл.: Чым не партсход (6.08.92) // Дзень паэзіі-93]94. С. 195.

[3] Барадулін Р. Азбука — вясёлы вулей. Мінск, 1994.

[4] Аддзел камерцыйных выданняў пры выд-ве «Мастацкая літаратура».

[5] Гл.: Спёка-92; «Ave!» (9.08.92) // Евангелле ад Мамы. С. 238; 158.

[6] Марціновіч Алесь (Аляксандр Андрэевіч; н. 1946), беларускі літаратуразнавец, крытык, публіцыст. У 1972–1999 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва».

*11 жніўня, аўторак*

На прыслонку 42°. Піць можна. І спірт купляць не трэба. Шчыміць сэрца ад спякоты і ад думкі, што трэба будзе развітацца з гэтым жыццём. Яно як ні цяжкое, але дзякуй Богу, што дазволіў жыць на грэшнай зямлі і выкачацца ў грахах, як у сене. Грахі дужа ж прыліпучыя і пулятыя, яны самі цябе выглядзяць і ведаюць, у каго сілы меней, хто не ўстоіць, падзе… Иноки мыслящие. «У дружбе вечнай усе кляліся…» [у блакноце].

*12 жніўня, серада*

Расійскія паэты і празаікі выязджалі за межы імперыі савецкай, каб стаць эмігрантамі. Беларускія заўсягды былі эмігрантамі ў сябе дома пры ўсіх рэжымах і пры цяперашнім, што завецца дэмакратычным.

На працу. У дырэктара зноў тысячы ідэй. «Ню!»[1]

*Дальнабачнасць па-бальшавіцку*

Глядзець на свет паглядам косым
І націскаць на ўсе педалі.
Не ўгледзець кукіша пад носам,
Ды бачыць камунізму далі.

*13 жніўня, чацвер*

Званіў у МЗС. Нічога талковага не вызваніў. Да Краўчанкі практычна не дазваніцца.

Як мала трэба для цёплай радасці. Ілона ў размове па тэлефоне сказала, што Дамініка мыецца, пліхаючы ў тварык ваду з далоні, як дзедзя. І я шчаслівы і трывожны за малое птушанятка.

[Нізка «Немачы па-бальшавіцку»: Пласкастоп’е; Імпатэнцыя; Глісты; Блізарукасць; Пярхатасць; Слабая памяць; Глухата; Кульгаўкасць; Заіканне. У блакнотах].

*14 жніўня, пятніца*

Сам пазваніў Краўчанка. У панядзелак 12.00 сустрэча з ім. Прыходзіла Ілона. Смачненькага таго-сяго Дамінічцы перадаў. «Сокат»[2].

*15 жніўня, субота*

Увесь дзень дабіваю азбуку. Аж мазгі перакручваюцца. Пераклаў польскую небылічку. Сёння родны ўрад парадаваў новымі цэнамі. Буханка хлеба, што каштавала нядаўна 3 рублі, сёння 10. І ўсе адпаведна. […] «Браты»[3].

---

[1] Гл.: Дурноты: Ню! (12.08.92) // Дзень паэзіі-93]94. С. 195.
[2] Гл.: Нашча: Сокат (14.08.92) // Евангелле ад Мамы. С. 376.
[3] Гл.: Нашча: Браты (15.08.92) // Тамсама. С. 376.

*16 жніўня, нядзеля*

Каб уцвяліць розныя «Памяці», назваць аркестр расійскіх народных струмантаў «Шпіль, балалайке!». Даўно прапаноўваў назваць расійскі «Інтурыст» імя Івана Сусаніна. Не хочуць расейцы. Перадрукаваў «Азбуку». Пераклаў нейкую польскую небыльніцу.

*Пра вядомасць*

Забыцца на клопат імгненне дае,
Вядомасць — падступная скарадзь.
Пакуль у зямлі бульба глухне,
Яе
Не крышаць, не смажаць, не вараць.

*17 жніўня, панядзелак*

Да Краўчанкі ў МЗС. Здаецца, паездка ў Іерусалім будзе. Хачу паспрабаваць перайманні Эклезіясту. «Усё — пачатак тла і лоўля дзьмушак...»[1].

*18 жніўня, аўторак*

Прыязджаў Роўба. Клопаты з прапіскай ягонай дачкі. Званіў Васіль, заўтра у Маладэчна на злёт нейкі. Чытаю «Біблейскую энцыклапедыю». Лёгка можна ўпасці ў ерась з зямнымі пытаннямі. Дзе Бог, дзе Дух Святы? Цёмныя мы ў пытаннях рэлігіі. Дый марксізму ніколі не ведалі.

[У нізку «Дурноты»: «Шчодрыя». У нізку «Немачы па-бальшавіцку»: Валасатасць; Энурэз; Кароста. У блакноце].

*19 жніўня, серада*

Да Сачанкі. Ён падпісаў ліст міністру Краўчанку. Званіў Васіль. Незадаволены сваёй паездкай. Адкрываў Ніл, быў са сваёй [...] Нінай Іванаўнай [жонкай]. Быкаву недзе слова пятаму далі. Спецыяльна ў Маладэчна аднеслі, каб лапшу эмігрантам на вушы вешаць. Дый далей ад сталінскай публікі і журналістаў. Выступленні адцягнута-неканкрэтныя. Каб не чапаць надзённасць. Рука КДБ тут асабліва пахадзіла. [...]

*20 жніўня, чацвер*

Герчык дамовіўся выдаць «Азбуку» 100 тыс. тыражом. Чакаем Мікалая Казлова. Трэба з густам і багата аформіць. А наогул, ідзе паўнейшы завал беларускае літаратуры. Планава, цынічна і невозмутимо.

Пімену крыху лепей. Нешта ўжо з'еў. Дагэтуль нічога ў рот не браў. Хаця б Бог паспрыяў яму.

---

[1] Гл.: Следам Эклезіяста: «Усё — пачатак тла і лоўля дзьмушак...» (17.08.92) // Тамсама. С. 7.

*21 жніўня, пятніца*

Дазваніўся да Краўчанкі. У нядзелю абед у Заслаўі з міністрам замспраў Ізраіля[1]. Ён родам з Валожыншчыны. Цэлы дзень перадрукоўваў вершы. Аж літара *л* у адной машынцы як конь пала на ногі. Атрымаў ліст ад настаўніка з Нясвіжа, дзе ён вучыць мяне граматыцы. Дае ацэнкі. Дэмакратыя. Нават рыфмую няправільна. Але дзякуй яму, што хоць чытае беларускую паэзію.

*22 жніўня, субота*

Да Янкі Запрудніка[2] (сапраўднае прозвішча Вільчыцкі). Ездзілі ў Курапаты[3], у Хатынь[4]. Цікавая думка на Захадзе, што Хатынь мяноўна выбралі за імя, каб неяк зблытаць з Катынню[5] і тым самым усё зваліць на нямецкіх захопнікаў. Янка мусіў выбіраць: ці ў наш канцлагер, ці на Захад. Бо вайной хадзіў у гімназію. А партызаны, выходзіць, дазвалялі толькі ў пачаткоўку хадзіць. Бо ў гімназіі беларускі дух, нацыянальная свядомасць. А гэта — магіла савецкай імперыі. Жонка была дачкой слуцкага паўстанца. Памерла. Ёсць дзве дачкі. Адна замужняя. На вострыя пытанні, асабліва з КДБ звязаныя, стараецца не адгукацца. Дый мы не гэтак і добра знаёмыя, каб ён адкрываўся ўвесь. Нялёгка, відаць, далася яму пенсія. Усяго паспытаў. Але ў параўнанні з Піменам ён багатыр. Бо Пімен шчырэў, як і ўсе мы, на неіснуючую дзяржаву.

*23 жніўня, нядзеля*

Прыём у Заслаўі-1 у гонар міністра замежных спраў Ізраіля Ш. Перэса. Абавязкова Сачанка. Быў і Навум [Кіслік], і Вагнер, і нават Додзік Сімановіч. Амонаўцы з аўтаматамі на дзвярах, каля міністра. У зале амонаўцаў, праўда, не было. Краўчанка да таго дагаварыўся, нібыта Кебіч і ягоная сям'я выратавалі колькі яўрэяў у вайну. Кебіч — вядомы заслужаны антысеміт[6]. Азгур казаў, што любіць і Хрыста, і Маркса[7], і Магамета.

---

[1] Перэс Шымон (сапр. Персні; н. 1923), міністр замежных спраў Ізраіля (1992–1995). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру (1994, разам з І. Рабінам і Я. Арафатам). Ураджэнец Беларусі.

[2] Запруднік Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей Мікалаевіч; н. 1926), беларускі гісторык, палітолаг, паэт, літаратуразнавец, публіцыст, грамадскі дзеяч. Жыве ў ЗША.

[3] Курапаты — месца масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у часы рэпрэсій 30 —40-х гг. XX ст. на паўночнай ускраіне Мінска.

[4] Хатынь — вёска ў Лагойскім раёне Мінскай вобл., спаленая нямецка-фашысцкімі захопнікамі разам з насельніцтвам 22 сакавіка 1943 г.

[5] Катынь — лясны масіў каля г. Смаленска (Расія), дзе органамі НКУС у красавіку — маі 1940 г. былі расстраляны польскія афіцэры, інтэрніраваныя Чырвонай Арміяй у 1939 г. у час уз'яднання Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны з БССР і УССР.

[6] Справядліва будзе звярнуцца да мемуараў В. Кебіча, каб даведацца аб сапраўдных, цёплых, адносінах аўтара да сваіх землякоў, яўрэяў Валожыншчыны. Гл.: Кебич В. Искушение властью. Минск: «Парадокс», 2008. С. 321–326.

[7] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

Цікава, калі селі ехаць у «рафік», я за Азгурам. У яго светлая, белая берэтка. Каля пупсіка і далей вакол крыху пабіла моль. Як і самога майстра.

Да Пімена. Яму сёння — 75. У рэанімацыі. Крыху лепей. Падабалася маё слова пра яго. Хоць чым усцешыў дарагога мне чалавека, сапраўднага паэта, які гэтулькі таленту паклаў у імя неіснуючай дзяржавы. Сёння на абедзе добра сказалі пра Азгура, што ён мае ўсе вышэйшыя ўзнагароды (усе начапіў) неіснуючае дзяржавы.

*24 жніўня, панядзелак*

Захапіўся ідэяй напісаць нізку вершаў у перайманне Эклезіяста[1]. Галава баліць, млосна мне, нешта атрымліваецца. Нейкая надзея ёсць, што раблю тое.

*25 жніўня, аўторак*

Сазваніўся з Іванам Роўбам наконт машыны ў Вушачу. На мітынг не пайшоў. Там хапае сталых выступоўцаў накшталт Артура[2]. Тым болей што гэта не забаронены мітынг. З маладых гадоў люблю забароненае ўладамі. Тады сябе пачынаеш адчуваць чалавекам. А ў афіцыяльных мітынгах, як і першамайска-кастрычніцкіх прымусоўках раней, адчуванне сябе нулём.

*26 жніўня, серада*

«Вячэрні Мінск» даў такі пэрль: Бялік — бацька Ш. Пэрэса. Дзед Пэрэса хадзіў у школу з Бялікам. А журналістам абы чуць звон. Чакаю, калі скажуць канкрэтна наконт паездкі ў Іерусалім. Так і жыццё зжываецца ў чаканні нечага, здаецца, неабходнага, а дзён усё меней і меней. Кароткі сеанс ў кінатэатры бытавання — жыццё. Глядзіш, як іграюць ролі на сцэне, а Усемагутны глядзіць, як іграюць усе на зямлі, і ты ў тым ліку. Суцэльнае кіно. Старажытнейшае.

*27 жніўня, чацвер*

На Сёмуху правяраў свае перайманні з Эклезіяста[3]. Яму многія падабаюцца. Цікава, як будзе ўсё гэта глядзецца ў нізцы? Сачанка прынёс мне царскае яшчэ выданне Бяліка. Цікавая прадмова.

---

[1] Гл.: Следам Эклезіяста: Узыходзіць сонца, каб зайсці... (21.08.92); Вецер да поўдня ідзе...; Пра былое памяці няма...; Бачаннем не насыціцца вока... (22.08.92); Болей мудрасці — болей смутку...; Адпускай свой хлеб па ўдзячных водах... (23.08.92); Хто вецер назірае...; Таму не жаць, хто сочыць за аблокамі...; Род праходзіць і прыходзіць род...; На вуліцу замкнуцца дзверы... (24.08.92) // Евангелле ад Мамы. С. 7–12, 15.

[2] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

[3] Гл.: Следам Эклезіяста: Вокам спакойна пасі прыгажосць...; Усё адбылося з праху... (25.08.92); Усе цякуць у мора рэкі...; Вось гэта новае!» — пачуеш крык... (26.08.92) // Евангелле ад Мамы. С. 12–14.

*28 жніўня, пятніца*

Цэлы дзень з перапынкамі працаваў на машынцы. Перадрукоўваў свае вершы ў «Полымя», «Беларусь», яшчэ куды-небудзь. Сягоння дзень нараджэння Бураўкіна. Павіншаваў. Успомнілі былыя дні. Ужо мы ва ўзросце ўспамінаў. Слова *ўспамін* падразумлявае памяць. А самы нецікавы ўзрост бязпамяцця. Бог адбірае перад апошняй дарогай, каб не памятаў, як і куды ішоў і не мог вярнуцца назад. Ніколі.

*29 жніўня, субота*

Зноў сядзеў амаль увесь дзень за машынкай. Перадрукоўваў. Нешта робіцца ў небе і на зямлі. Сёння да $+30^0$. Заўтра ў Менску абяцаюць $+34^0$. За нешта помсціць Гасподзь. Нечакана ад Ніла прыйшоў ліст. Наконт звання. Камісія, бачце, за, цяпер слова за Вярхоўным [Саветам]. Нешта круціць Ніл. Веры ў мяне да яго ніякой. Пазваніў Васілю, і ён не верыць Нілу, ведае яго хітрыкі-мітрыкі.

«Павук, як іншапланецянін...»[1]

Перачытваю Прыпавесці Саламонавы.

Трэба было вучыць не дурны марксізм, а Біблію. Бальшавікі ў сістэме адукацыі наслядзілі.

[У нізку «Дурноты»: «На нажах». У блакноце].

*30 жніўня, нядзеля*

Сёння сніліся бацька і мама. Безаблічна, толькі ведаў, што гэта яны. І на сталасці гадоў, а душа вяртаецца ў страчаную сям'ю, у даўніну. Да Радзіка. Адбіралі з ім вершы.

*31 жніўня, панядзелак*

Вершы ў «Полымя» і ў «Беларусь». Сустрэў Цвірку[2]. Ён, Клышка[3] і Артур [Вольскі] хочуць дзіцячае выдавецтва незалежнае арганізаваць. Беларускамоўнае. Дай Бог! Толькі дужа сумняваюся. Званіў Пімену. Ён ужо ў 406-й палаце.

*1 верасня, аўторак*

Вечарам званіў Васіль. Яму сёння сніўся дзіўны сон. Аўтобусам вязуць яго ў Сафію. А яму гэтак шкода зблядзелую Балгарыю, што слёзы самі ліюцца з вачэй. Раптам на небе з'яўляецца Божая Маці. Абрысна, як на

---

[1] Гл.: «Павук, як іншапланецянін...» (29.08.92) // Тамсама. С.189.

[2] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, даследчык, выдавец. У 1984–1996 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Полымя». Кандыдат гістарычных навук (1972).

[3] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994). У 1990–2002 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва». Заслужаны работнік культуры РБ (1994).

гербе Менска. І Васіль усім гучна кажа: «Глядзіце, Багародзіца!» Васіль казаў, што гэтакі сон сніўся яму ўпершыню. Дагэтуль заўсягды сняцца то ваўкі, то немцы, вайна, то чыноўнікі. А святы сон ніколі не сніўся.

*2 верасня, серада*

Сёмуха на працы задаў пытанне, як расшыфраваць сэнс казкі пра курачку рабу. Сапраўды, калі задумацца, што мелі на ўвазе продкі, можна крануцца. Чаму залатое, чаму толькі мышка разбіла, адкуль слёзы ў дзеда й бабы, чаму мяноўна курачка рабая. Папрасіў задаць гэтыя пытанні Быкаву, што ён адкажа.

З Дранькам гутарылі пра нашых маладых нізрынальнікаў. Хочуць пастаменты пакінуць, бо занава ўзводзіць дарага і доўга, а фігуры зняць, каб самім заняць. Мне здаецца, што шмат хто з іх крыж нацельны гатовы насіць пад самым кадыком на срэбным зіхоткім ланцужку, як значок, бо модна. Бог у іх не ў душы. Як некалі камсамольскі значок, крыж носяць. Быццам пярэчаць супроць былога, а дух, мысленне камуністычнае, бальшавіцкае, гэта бальшавіцкая ідэалогія, як выкіды Чарнобыля, пайшлі ў грунтовыя воды свядомасці маладзейшага пакалення. А ім здаецца, што яны супроць, ды яны ж рэвалюцыянеры, толькі пад бел-чырвона-белым, як думаюць, а на самой справе іх юшыць, як бычкоў, крывавы чырвоны сцяг.

Другі дзень заняткаў. У трамваі не па ўзросту тоўстая школьніца, перакормленая, відаць, новымі гандлярамі, з саплівым кавалерам абмяркоўваюць, ці адзін, ці колькі касцюмаў у выкладчыка нейкага, а фізік прыйшоў у белай кашулі і свэдары. Кавалер перапытвае: у чыста белай? І тут жа дадае: «А чаравікі вайсковыя ў фізіка». Пра якую краіну ведаў можна казаць. З малых гадоў прашмотачныя мазгі. Дарэчы, успомнілася, калі ішлі на прыём у гонар ізраільскага міністра замежных спраў Пэрэса, Вярцінскі ўбачыў маю кашулю і чамусьці падкрэсліў, што і ў яго гэткая ж была. Народнага дэпутата хвалюе колер і выгляд кашулі, што ж, жыццёвы клопат.

«Звысоку»[1].

*3 верасня, чацвер*

Доўга слухаў дырэктара. Як заўсёды шмат пражэктаў. І гэтакія людзі кірвалі намі з ЦК. Успомнілася, як некалі помсцілі сусед суседу. У сральню ў спёку клалі адну-другую пачку дражджэй. І ўсё хадзіла, і ўсё падымалася, і ўсё залівала двор. Нашаму дырэктару няйнакш пачкі два ўклалі ў мазгі.

---

[1] Гл.: Звысоку (2.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 177.

Званіў пан Доў з «Сахнута», удакладняў адрас. Можа, неўзабаве будзе выклік. Там удакладняецца, калі мяне зможа прыняць мэрыя. Жывем усе ў вар'яцкім доме, хіба што невядома, у каго ключы ад палат, якія замыкаюцца і адмыкаюцца звонку.

*4 верасня, пятніца*

Выстаяў чаргу па гарэлку. Канец квартала, талоны могуць прапасці. Усё дзейнічае размеркаванне сацыялізму. Вечарам званіў Васіль. Цяпер ужо і ён згодны, што Ніл задумаў нешта хітрае. Таму і разаслаў лісты. Каб другія экземпляры засталіся гісторыі. Мае надзею, што нехта будзе даследаваць. «Зняверанасць»[1].

*5 верасня, субота*

Беларускі парлямант. Чытаю «Біблейскую энцыклапедыю»: «… блудницы въ первоначальное время довольствовались за свои безчестныя услуги только козленкомъ». Пасля ўжо рост багацця пайшоў угору. Паралельна перачытваю Ахматаву[2] і Бродскага[3]. У Ахматавай культура і чысціня, узнесенасць пачуцця, у Бродскага электроннасць мазгоў і густы яўрэйскі цынізм смакаванне сексу, як у зэка, што доўга не бачыў жанчыны. Прыгадваю народны самы, здалася б, адкрыты фальклорны пласт. У ім ёсць буянства, дасціпнасць, першароднасць успрымання таго ж сексу. І ўсё — вельмі паэтычна і не пабаюся сказаць — цнатліва па-свойму. У Бродскага пры ўсёй віртуознасці радка цякуць местачковыя слюнькі, як пісаў Ясенін[4]: «… половой истекая истомою». Нацыянальнай.

*6 верасня, нядзеля*

На выставу Рагалевіча[5]. Цікава назіраць, як прыезджыя першы раз становяцца на эскалатар [у метро]. Так цялятак і каровак заганяюць у кузаў грузавіка, абгароджанага па баках. Так жа боязна перабіраюць ножкамі. Дробна. Пудка. Часта. Рагалевіч знайшоў свой колер — сіні — як ні дзіўна, зрабіў яго беларускім, рагалевічаўскім. Хоць здавалася, сіні колер ва ўсім багатым адценні, у пераходзе ў блакітны, мусіў быць, калі светлы — болей паўднёвым, скажам, украінскім; калі цёмны — болей каўказскім. А ў Рагалевіча ён беларускі. І ў зіме, і ў вясне, і ў партрэце Беларускі.

---

[1] Гл.: Зняверанасць (4.09.92) // Тамсама. С. 312.

[2] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.

[3] Бродскі Іосіф Аляксандравіч (1940–1996, ЗША), рускі паэт, перакладчык. З 1972 г. у эміграцыі ў ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1987).

[4] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

[5] Рагалевіч Міхаіл Вікенцьевіч (1932–2010), беларускі мастак. Прысвечаны яму верш гл.: Чырвоныя акуні (6.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 129.

Асабліва добра ўлоўлены настрой дрэваў ва ўсіх паравінах года. Пісаўся экспромт па дарозе на выставу, бо я на ягоных выставах быў:

Мастацтва крыўскае не хлевічы,
А, заручаючы з Галактыкай,
Нястомны пэндзаль Рагалевіча
Багаславёны зорнай практыкай.

Засмуціла выстава «Янка Купала. Асоба. Час». Традыцыйна нашаніўска-побытава падабраны матэрыялы. З памылкамі тлумачальныя тэксты. Ажно збянтэжыў ліст Янкі Купалы да старшыні ЦВК БССР А. Р. Чарвякова 20.XI. 1930 г. Каецца, на іншых ківае, клянецца ў вернасці крываваму рэжыму. Можа, пад дыктоўку чэкістаў? Уражвае партрэт 1929 года. Асунуты, абнылы, апалы. Чаканне канца. І пры ўсім гэтым пародзістасць, высакароднасць абліча, рыс пакутніка думкі. Наогул, як украінцы прывыклі Тараса Шаўчэнку паказваць у кажуху ды ў шапцы-кучомцы, там і мы нашага Янку Купалу хочам ужо гэтак абнародзіць, гэтак заземліць, аж страшна робіцца. Абодва ж былі прарокамі сваіх нацый. Дзе ж можна ўбачыць прарокаў у кажухах ды ў лапцях на іканаграфічных палотнах?

*7 жніўня, панядзелак*

*Ушача!* Дома! Пятро Аляксандравіч прынёс арэхаў і грыбоў. Да Марыі Рыгораўны. Запіс словаў. Якая яна блізкая, наша ўшацкая мова! Не магу чуць расійскай у сябе дома. Асабліва ў Вушачы. Хай гучыць у Расіі! Там ёй мейсца. Занадта доўга і ўпарта заганяюць нам яе, як іголкі пад пазногці. І цешча стараецца па-руску, аж мяне ўсяго пераварочвае. У маім разуменні — людзі паважнага ўзросту ў нас гавараць па-ўшацку. Пры ўсёй павазе да вялікае і магутнае, няхай яна гучыць у Расеі!

*8 верасня, аўторак*

Ушача. З раніцы сумная навіна. Памерла маці Роўбы[1]. Была сяброўкаю маёй мамы. Здаецца, нядаўна яшчэ з ёй гаварыў, успаміналі маму. З Валяй хадзілі на магільнік да мамы. На сціплыя магільнікі трэба хадзіць часцей, каб ачысціцца ад тлуму паўсядзённага. З гадамі болей і болей засмучаюць смерці старых, асабліва знаёмых, землякоў. Адчуваеш блізкасць чаргі.

Ехаў у Менск. Пусты аўтобус. За вокнамі прагаліны, прапаліны, выжарыны — сляды ашалелага ад спёкі лета. Верасень ранні, увесь з успамінаў пра першыя дарогі, пра першыя сустрэчы з жыццём і лагодным, і суровым.

---

[1] Памылка, хутчэй, вестка пра цешчу І. Роўбы, бо з Надзеяй Роўба будзе сустракаецца і ў жніўні 1998 г.

*9 верасня, серада*

Праца. Званіў Васілю. Аднаму сумна. Нешта ўсё валіцца з рук. Нейкі цяжар на мне. Званіў у рэдакцыю Б. Чаму ягоны адзін том выйдзе, а ў Быкава другі том Збору твораў. Свет увесь бачыць праз сябе з пункту гледжання хутара. Яму да Быкава, як вароне да павы. Быкаў з усіх сілаў за Беларусь, за змены, а Б. усё, як сонца ўзыходзіць, як ён сябе адчувае, што пра сябе думае. Некалі дасціпна расказваў пра палякаў. Паляк прачынаецца і першае пытанне: «Цо о нас муві свет?» Гэтак сама і Б. Баліць толькі свой мазоль.

*10 верасня, чацвер*

Хадзіў па даведку пра жыллёвую квоту. У «Вячэрнім Мінску» пра паляванні ў Белавежы. Зноў добры божанька Машэраў[1]. Пісаў кэдэбіст з лакейскім расійскім прозвішчам[2]. Пазваніў (у Саўміне загадвае традыцыйна кэдэбісцкім аддзелам), ці сказаў бы колькі слоў у фільме пра Белавежу. Адразу перапытаў прозвішча і ўзяў мае тэлефоны. Для ўзгаднення з кэдэбісцкімі крумкачамі з большымі зоркамі. Служба вечная.

Званіў Тарасу. Наконт перакладаў у «Нёман». Радзік прачытаў па тэлефоне верш мой, які пераклаў у «Литгазете» Ігар Шклярэўскі. Дзякуй яму. Хоць напомніў, што я жывы яшчэ. Усё-ткі як-ніяк, а шмат было сяброў у былой імперыі. Хай арганізавана была дружба як бы, але былі і сапраўдныя сябры, і зацікаўленасць, і цікавасць да паэзіі ў шмат каго. І сіўцом стаў (як мама казала гэтае слова), а ўсё няма веры, што я пішу так, як патрабуе пані Паэзія. Усё думаю, што напішу яшчэ сапраўдныя вершы. Відаць, з гэтай надзеяй і на паповы сані скіруюся.

*11 верасня, пятніца*

Сойм БНФ. Адкрывае *Пазьняк.* Працяг канферэнцыі па рэферэндуму.

*Анцулевіч:* «Трэба рабіць захады ў сувязі з бяздзейнасцю ВС. Пра дзейнасць ініцыятыўнай групы. Яна скончыць сваё існаванне, калі будзе праведзены рэферэндум. Вынікі працы ініцыятыўнай групы бескарысныя. ВС павінен прызначыць дату. Сядзець і чакаць ініцыятыўнай групе нельга. Павінны быць практычныя захады. Адбылося паражэнне правоў чалавека. ВС у дадзеным выпадку захоўвае сваю ўладу незаконным шляхам. Але рэферэндум адбудзецца ўсё роўна. Выбары будуць па старому закону, а пад яго падыходзяць усе грамадскія арганізацыі і партыі. Каля

---

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[2] Сазонкін Валянцін Васільевіч, палкоўнік КДБ БССР; былы начальнік асабістай аховы 1-га сакратара ЦК КПБ П. Машэрава.

100 месцаў ахоплівае ініцыятыўная група. Трэба ахапіць і ўсю тэрыторыю Беларусі. Рыхтавацца да кампаніі правядзення рэферэндуму. Сродкі масавай інфармацыі супроцьрэферэндумныя».

*Хадыка:* «Паездка групы ў Бельгію х[рысціян]-д[эмакратаў] у Еўрапарламент. Уся ўлада ў Беларусі ў наменклатурных саветаў. Раскраданне дзяржаўнай маёмасці. Рэферэндум мірны, канстытуцыйны шлях да рэформаў. Правал рэферэндуму — удар дэмсілам усяго СНД. Будуць пасланы назіральнікі з Еўропы над ходам рэферэндуму. У Еўрапарламенце — з нуля дэмакратыя пачынаецца. Рызыка рэферэндуму — могуць вярнуцца камуністы.»

*Пазьняк:* «Выхад на міжнародную супольнасць».

*Марыя Міцкевіч*[1] пра паездку ў Англію. З групай дзетак-чарнобыльцаў па запрашэнню айца Надсана[2].

Абмеркаванне тэксту рэзалюцыі канферэнцыі.

Сойм. Вядзе *Пазьняк.* Даклад Пазьняка: «Унутраная і міжнародная палітыка БНФ напярэдадні рэферэндуму. Вызначыць метады і тактыку. Спачатку прапаганда дэмідэй. Потым выбары. Пасля антыкамунізм. Новы прыярытэт — незалежнасць. Эканамічныя рэформы. Але без палітычных зменаў нічога не будзе. Але трэба адраджэнне нацыянальнай культуры і самасвядомасці, без іх немагчыма кансалідацыя нацыі. Рэферэндум — змена наменклатурнай улады на дэмакратычную. Рэферэндум — стратэгічны прыярытэт нашае палітыкі. 1. Вызначэнне палітсітуацыі. 2. Рэальны палітапанент. 3. Мэта [пропуск]. 4. Задачы. 5. Дасягненне поспехаў. На Беларусі і ў СНД не адбылося зменаў, а пераразмеркаванне структуры КПСС і наменклатураў дзяржаўных. Наменклатура зразумела, што яе сіла ва ўласнасці, у маёмасці. Пераразмеркаванне дзяржмаёмасці ў сваю маёмасць. Партыя ўлады — наменклатура дзяржаўная. У Беларусі сітуацыя: грамадства на 2 бакі — наменклатурная ўлада і народныя масы. Грамадства ў апазіцыі да партыі ўлады. Таму партыя ўлады супроць нацыянальнай культуры, супроць кансалідацыі нацыі, супроць зямельнай рэформы. У Расіі дэмакратыя самаліквідавалася як апазіцыя. Украіна. Камуністы ствараюць незалежную Украіну. Бо Краўчук[3] стаў на гэты бок. Пытанне аб блоку ўсіх дэмакратычных сіл. Бо можам прайграць рэферэндум. Канстытуцыйны, мірны шлях змены ўлады. Гэты

---

[1] Міцкевіч Марыя Міхайлаўна (н. 1951), беларускі матэматык, грамадскі дзеяч. Супрацоўніца Інстытута матэматыкі НАНБ, старшыня Дабрачыннага фонду «Сакавік». Унучка Я. Коласа і Я. Маўра.

[2] Надсан Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

[3] Краўчук Леанід Макаравіч (н. 1934), украінскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук (1970). У 1991–1994 гг. прэзідэнт Украіны.

шлях упершыню ў Беларусі. Выхад на міжнародную дэмакратыю. Інфармацыя і прапаганда ў друку».

*Хадыка:* «Асноўная канцэпцыя еўрапейскай палітыкаі. Два тыпы грамадства: сацыялістычны і індывідуалістычны. Хрысціянства — кампраміс паміж двума тыпамі. Вопыт цывілізацыі еўрапейскага ўзору вельмі важны. Хрысціянская дэмакратыя [з'явілася] толькі ў 60-я гады нашага стагоддзя. Ліберальная дэмакратыя. Дазваляйце людзям рабіць, што яны хочуць. Для Штатаў добра сацыял-дэмакратыя на планавай, размеркавальнай эканоміцы. Агульны еўрапейскі дом — гэта ад хрысціянскіх дэмакратаў. Сацыял-дэмакраты — імперыялісты ў сваіх памкненнях».

*Вячорка:* «Палітстановішча ў Беларусі і ў СНД. Пытанне Расіі. Акцыя прысягі[1] разварушыла кубло ў войску. Нашая гісторыя паказвае, што мы не ёсць расейцы. Раз былі войны. Казаць пра русафобію не выпадае. Пярэстасць палітычнага спектру. Дзве галоўныя партыі: дзяржаўнікі-патрыёты, дзяржаўнікі-дэмакраты. Стратэгія адна. Толькі тактычныя хады розныя. СНД — структура, якая дазваляе замацоўваць і ўмацоўваць эліты, якія зацікаўлены ў геапалітыцы. Геастратыгічныя супольнасці. Вонкавае маскаванне пад незалежную дзяржаву змушае чыноўнікаў. Небяспека СНД — пякельны тунэль ў паўторную каланізацыю. Павінна з'явіцца сіла, што будзе супроць СНД. Бо вычарпаў сябе. Расійскі маятнік разгойдваецца, а куды — невядома. Пакуль ён не гайдануўся ў бок таталі[тарны], трэба Беларусі замацавацца».

*Пазьняк:* «Паўзучая акупацыя Беларусі праз армію».

*Баршчэўскі:* «Праблема і спецыфіка еўрапейскай інтэграцыі. Еўропа інтэгруецца па меры таго, як яна багацее. Бядняк з бедняком не аб'ядноўваюцца. Ад перавытворчасці, рэгуляцыі рынкаў збыту. Каб адна больш моцная краіна не захапіла рынак. У нас пры праблеме выжывання трэба лакалізавацца. Інтэграцыя ў Еўропе як пагадненне не вытвараць той тавар, якога шмат. Інтэграцыя ўспрымаецца неадназначна. Сярэдняя цана адна, ваганні 20 %. Беларусь павінна ўступіць у еўрапейскую супольнасць. Ідэя Балтыйска-Чарнаморскай садружнасці [БЧС] жывая. Пры сусветных цэнах сантыменты адпадаюць. Ідзем у капіталізм з камуністычным тварам. Эканоміку можна толькі вылечыць капіталістычным шокам. Расія раней за нас у Еўропу не прыйдзе. Цяпер у Еўропе апомніліся. У Брусэлі 20 % туркаў, а яны не працуюць. Калі больш 3 дзяцей — вялікія грошы датацыі. Рынак. Візавы выбар жыхарства. Пункт наконт іміграцыі. Інтэграцыя там, дзе перавытворчасць».

*Навуменка:* «Падабалася параўнанне Пазьняка наменклатуры з цмокам двухгаловым, але ў класічнага цмока тры галавы. Трэцяя галава —

---

[1] Акцыя прысягі Беларускага згуртавання вайскоўцаў адбылася 8 верасня 1992 г. на пл. Незалежнасці.

нарабаваная маёмасць. Паглыбіць пытанне нацыянальнай культурнай аўтаноміі».

*Буйвал[1]:* «У нас некалькі пятых калон. Лінгвісты Беларусі. З ін'яза. Корпус беларускіх янычараў. Цэлыя групы на Галоўпаштамце, дзе чыталі замежную карэспандэнцыю, стукачы. Хто прадстаўляе Беларусь за межамі».

*Кулік[2]:* «Наменклатура рабуе, прысвойвае маёмасць. З наменклатурай трэба ваяваць. Ператварыць буржуазію ў нацыянальную».

*Шунейка[3]:* «27 ліпеня спалены нацыянальны сцяг. У ноч на 8–9 верасня. А 21-й гадзіне прыехаў для дэмантажу. Цэнтральнае палотнішча спалена. Прыняцце прыярытэтных напрамкаў. Дзейнасць БНФ (праграма)».

Пасля сойма ішоў праспектам. Колькі дэбільных мордаў выпаўзла на свет ў сувязі з камерцыяй па-савецку. Аж не верыцца, што такім можа быць Богам задуманы чалавек. Ні вачэй, ні чолаў — сківіцы, хлебгрызніцы.

*12 верасня, субота*

Сядзеў дома. Выходзіў па хлеб ды кошцы па мяса. Учора званіў Валі [ва Ушачы]. [...] «Даенне аблокаў»[4].

*13 верасня, нядзеля*

На выставу іконы. Усеагульная неадукаванасць не дазваляе ўспрыняць як належыць гэтае высокае мастацтва. Як іншапланетнае. «Нязмерклым позіркам ікон...»[5]

*14 верасня, панядзелак*

Праца. У Ленінскую (пішу, а брыдота падкочваецца, дагэтуль не перайменавалі бібліятэку, не пазбавілі ад [імя] крывавага савецкага фюрэра).

Сустрэў Гурыновіча[6]. Былы міністр замспраў. Няголены. З носа два кусцікі рыжых валасоў. Сівы. Касцюм яшчэ адменны — з запасаў старых. Падыходзіць нейкі высачэзны чалавечына. Сізоркін [Сазонкін], кэдэбіст,

---

[1] Буйвал Марыя Гаўрылаўна (1928–2018), беларускі грамадскі дзеяч.

[2] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі графік. Разам з У. Крукоўскім аўтар дзяржаўнага герба «Пагоня».

[3] Шунейка Яўген Феліксавіч (н. 1954), беларускі мастацтвазнавец. З 1988 г. выкладчык БДАМ. Кандыдат мастацтвазнаўства (2005).

[4] Гл. Даенне аблокаў (12.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 382.

[5] Гл. Позірк (13.09.92) // Тамсама. С. 292.

[6] Гурыновіч Анатоль Емяльянавіч (1924–1999), беларускі дыпламат. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол. Міністр замежных спраў БССР (1966–1990).

які мусіць нам расказваць пра партпаляванні ў Белавежы. Пазваніў на працу, сказалі, дзе я, вылічыў дакладна. Служба.

Часта гутарым з Лявонам Дранько-Майсюком. Што нічога не выходзіць у нас з культурай нацыянальнай, бо малакультурныя праваднікі яе, пачынаючы з Ніла, канчаючы агаркамі накшталт Шніпа[1]. Дарэчы, у тым, што ў Лявона падвоенае прозвішча, нешта ёсць. Падкрыленая шляхетнасць і немагчымасць прамармытаць прозвішча, каўтаючы, як гарошыну, накшталт Шніп, Шруб[2]. Пара вяртацца нашым паэтам да шляхетнасці нават прозвішчаў. А ў Лявона за прозвішчам яшчэ стаіць і высокая, дапытлівая культура. Шкада, што такіх адзінкі!

*15 верасня, аўторак*

Прыходзіла зямлячка, яна цяпер у праваслаўных колах. Расказвала, як трэба заказваць малебен за нябожчыкаў.

З Марыяй Андруковіч дазваніліся да кэдэбіста, каб расказаў пра паляванні. Яўна будзе адбельваць партбонзаў. Няхай. І гэта будзе служыць выкрывальніцтву.

*16 верасня, серада*

З раніцы Ілона. Трэба грошы і каньяк. Для ўрача. Перадаў Каці, Косцевай сястры. Заходзіў у домакіраўніцтва наконт прыватызацыі. Лявон [Дранько-Майсюк] расказваў цікавую навіну (і яна заканамерная). Алег Мінкін[3] працуе брокерам на Віленскай біржы. Маладзейшая змена пойдзе далей.

*17 верасня, чацвер*

З Ушачаў Іван Сцяпанавіч не прыехаў.

Ілонка хадзіла ў клініку.

Даў тэлеграмы і павіншаваў тэлефонна двух юбіляраў — Максіма Танка і Уладзімера Калесніка[4].

Занёс даведкі ў домакіраўніцтва наконт прыватызацыі.

---

[1] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. У 1991–1995 гг. адказны сакратар газ. «Наша слова». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага Савета Міністраў ГССР (1987).

[2] Шруб Павел Міхайлавіч (н. 1955), беларускі паэт. З 1983 г. выкладчык-метадыст Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі.

[3] Мінкін Алег Гаўрылавіч (н. 1952), беларускі паэт, перакладчык; інжынер. З 1991 г. жыве ў Вільнюсе. Лаўрэат прэміі імя М. Стральцова (2018).

[4] Калеснік Уладзімір Андрэевіч (1922–1994), беларускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1956–1994 гг. заг. кафедры Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна. Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

*18 верасня, пятніца*

Прыходзіла Ілоначка. Дужа люблю яе, дужа баліць душа па ёй.

Прачытаў Бядулевых[1] «Жыдоў на Беларусі». Цікава, як ад імя беларусаў кажа яўрэй, з добрай сімпатыяй да сваіх аднакрэўнікаў. А сённяшнія яўрэі ў бальшыне сваёй за рускі бот, які біў іх, даваў выспятка лепей. Яны супроць беларусізацыі, супроць нашае незалежнасці. Відаць, яшчэ юрыць іх кроў першых камісараў і чэкістаў. Адной наіўнасцю гэта не назавеш.

*19 верасня, субота*

Чытаю Веташковы запавет. Шмат таямніц, якія былі ў мястэчку, праясняюцца. І характар яўрэйскага народа, і побыт у каранях сваіх.

«Заходзіць лета»[2], «Усплывае»[3].

Цэлымі днямі баліць галава. Сумна. Самотна. Сыра.

*20 верасня, нядзеля*

Дзень пачаў з верша: «Сумна»[4]. Трохі хадзіў на вуліцу. Трохі чытаў. Паправіў верш ранейшы: «Кроў марна баіцца разліцца…»[5]. Гэта перарабляў верш ранейшы.

*21 верасня, панядзелак*

Званіў Валі ў Вушачу. Дамінічцы ўжо сняцца сны. Расказвала бабулі Валі. Мама, г. зн. Ілона, выганяла з хаты куранятак. І яшчэ — ехалі з мамай ў цягніку, і дужа страшны дзядзька сядзеў.

Правіў даўні верш: «І ў дужках»[6]. «Хай абмінае!»[7]

*22 верасня, аўторак*

Сустрэла Валянціна Аксак і сказала, што «Міласэрнасць плахі» — мая лепшая кніжка з тых, якія выходзілі, але я мушу яшчэ напісаць лепшую. Дзякуй ёй на добрым слове! Усялякай увазе рады. Бо цяпер усім усё да суцэльнае электрыфікацыі. Пішаш і думаеш: а каму, а навошта?

Вечарам ездзіў да майстра рамантаваць персцень. Паглядзеў у трамваях, на вуліцах — вечар належыць моладзі. Прытым нахабнай і вульгарнай. У пашане глотка, локці, біцэпсы.

---

[1] Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941, Уральск, РФ), беларускі паэт, празаік, перакладчык.

[2] Гл.: Нашча: Заходзіць лета (19.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 376.

[3] Гл.: Усплывае (19.09.92) // Тамсама. С. 175.

[4] Гл.: Сумна (20.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 176.

[5] Гл.: «Кроў марна баіцца разліцца…» (20.09.92) // Тамсама. С. 68.

[6] Гл.: І ў дужках (28.08.91–21.09.92) // Тамсама. С. 53.

[7] Гл.: Хай абмінае! (21.09.92) // Тамсама. С. 326.

*23 верасня, серада*

Глядзеў Радзікавай кнігі афармленне. Няблага. Прыходзіла Марыя, яны ездзілі ў Белавеж. Егераў дужа цяжка разгаварыць для кіно — гэта ж кэдэбісты балотныя. Цікава Сазонкін Марыі расказваў: пытаецца ў сына егера: «А чым дакажаш, што ты — гэта ты?» Той другакласнік прыносіць пасведчанне юнага пагранічніка, халуі пры паляванні павінны былі быць кэдэбістамі. У пушчы расказвалі, што Машэраў быў сквапны, забіраў і што сам упаляваў, і чужое. Настаўнік з сяла дарваўся да ўлады.

У галаве дурацкая гульня словаў па-расійску: «Спросила miss Италия: — Сыта ли я, и та ли я?»

Пасля 10-ці вечара пазваніў Васіль. Яму званіў Ніл, што адбылося паседжанне ВС, быццам бы аднагалосна мне прысвоілі званне народнага паэта Беларусі. Яшчэ не веру і не ведаю, як рэагаваць, ці радавацца, ці смуціцца? Васіль павіншаваў і сказаў, што заўтра я прачнуся ў новае якасці. Яшчэ Ніл казаў, што на чарзе кэдэбіст Лужанін, Чыгрынаў і саспеў Сачанка. Як ваўкоў у загон заганяюць.

*24 верасня, чацвер*

З самае раніцы пазваніў Анатоль Вярцінскі. Пачаў вясёлай фразай: «Уставай, граф, цябе чакаюць вялікія справы». Сказаў, што падпісаны ўказ пра званне народнага. «Ты, — кажа, — з гэтае хвіліны павінен пісаць лепей нават за Ніла, бо двух вас народных цяпер».

Хадзіў да Ладуценкі[1] ў нашую [палі]клініку. Кепскавата з левай нагой, з якой выцягнулі вену некалі. Здаецца, стараўся не пісаць адной левай, а выходзіць, што так.

На кінастудыі віншаваў Вадзіма [Купрыянава] з днём нараджэння.

Абутак у рамонт. Дзяруць як чорт за бацьку з усіх бакоў.

Дзень прайшоў у мітусні.

*25 верасня, пятніца*

Прыйшла ўрадавая тэлеграма ад Ст. Шушкевіча. Віншуе са званнем народнага паэта Беларусі. У друку яшчэ няма паведамлення. Неяк ніякавата. У цяперашні час. Усе злыя, галаднаватыя. А тут званні нейкія. Як паставяцца да гэтага сябры і блізкія? Няма тае радасці, якая была б, калі б гэта адбылося ў маладыя гады. Ці вытрымае шыя мая гэты ганаровы хамут? Сарваны са звычнага рытму. Нейкая трывога і адчуванне сораму. Я ўсё той жа ўшацкі малец, які баяўся ісці вуліцай пад позіркамі мястэчкоўцаў. Усё трэба рабіць у час.

Перарабляў стары верш: «Хаценне»[2].

---

[1] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач паліклінікі СПБ.
[2] Гл.: Хаценне (15.10.88–25.09.92. [N.]) // Евангелле ад Мамы. С. 235.

*Марыне Наталіч*[1]
*(на «Міласэрнасці плахі»)*

Марыне Наталіч —
Той самай, якая
І ў сэрцы, і ў позірку
Светла ўзнікае!

*Рыгор Барадулін*
*25.IX.92 Менск*

*26 верасня, субота*

З раніцы пазваніў Уладзімір Ягоўдзік[2]. Сказаў добрыя словы. У «Народнай газеце» ўказ.

Званілі Быкавы, Матукоўскі[3], Мальдзіс, Зуёнак, Валодзя Арлоў з Полацака, Вольскія.

Апоўдні развітанне з Аркадзем Рудэрманам[4]. Загінуў пад час здымкаў у Таджыкістане. Саракагадовы. Таленавіты.

*Калі гарыць ралля*

*Памяці Аркадзя Рудэрмана*

Знянацку выпаў з рук ручнік,
Махровы, як антысеміт.
Далёкі крык узнік і знік.
Зляцеў з чынары смутку ліст.
Хоць падкажы, Таджыкістан,
Скажы, Хаямава зямля,
Хто шалі лёсу захістаў,
Хто строс гняздо душы з галля
Слабога дрэва,
Што Аркадзь
Кары не дазваляў карыць?..
Вініць каго, ў каго пытаць,
Калі ралля гарыць?..

---

[1] Наталіч Марына (сапр. Давыдзенка Наталля Аляксееўна; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1984–1997 гг. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Ягоўдзік (Ягаўдзік) Уладзімір Іванавіч (н. 1956), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1993–1996 гг. заг. аддзела час. «Нёман».

[3] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст. У 1970–1993 гг. заг. Беларускага аддзялення рэдакцыі газ. «Известия» [Масква].

[4] Рудэрман Аркадзь Абрамавіч (1950–1992), беларускі кінарэжысёр. Загінуў у Таджыкістане пад час грамадзянскай вайны.

Вечарам на імяніны да Навума Кісліка. Абрам Рабкін[1], таленавіты мастак з Бабруйска, жыве ў Санкт-Пецярбургу, таленавіта расказваў пра сваю паездку ў Ізраіль.

*27 верасня, нядзеля*

Прыходзіла Ілона. Званілі ў Вушачу. [...] Правіў і перадрукоўваў вершы. Званілі: Паваліхіна[2], Гальпяровіч[3], Леанід Дранько-Майсюк, Ганад Чарказян[4], Сяргей Законнікаў, Юры Цвяткоў[5], Алег Лойка, Барыс Фарбер, Рына[6], Уладзімір Правасуд[7], Алесь Асташонак[8], Даніла Канстанцінавіч[9], Авяр'ян Дзеружынскі, Міхась Чарняўскі. Мне цікава, каму прыемна маё пісанне. Ці не ў паветра страляў усё жыццё?

*28 верасня, панядзелак*

На працы. Пазваніў з Масквы Алесь Адамовіч. Павіншаваў. Уладзя Арлоў з Полацка прывёз мне свянцоную прасвірку. Дзякуй яму, бо са святых з маленства дарагіх мясцінаў. Здзівіў дырэктар, былы цэковец, падараваў мне прыгожы срэбны мужчынскі крыж. Дзяўчаты завіхаюцца — у сераду маленькая п'янка будзе. Званілі Шупенька[10], Саша Костылеў, Ал. Дракахруст[11], Сёмухі — Васіль і Алесенька [дачка], хрэсніца Караткевічава, Валянцін Блакіт, Ізяслаў Катляроў[12] з Салігорска [Светлагорска], Алесь

---

[1] Рабкін Абрам Ісакавіч (1925–2013), беларускі мастак.

[2] Паваліхіна Вера Сцяпанаўна, супрацоўніца выд-ва «БелЭ».

[3] Гальпяровіч Навум Якаўлевіч (н. 1948), беларускі паэт. У 1981–1997 гг. уласны карэспандэнт Дзяржтэлерадыё па Віцебскай вобл.

[4] Чарказян Ганад Бадрыевіч (н. 1946), курдскі паэт, празаік. У 1982–1993 гг. інжынер-тэхнолаг мінскага ўчастка Слонімскай фабрыкі «Гасцінічная мэбля».

[5] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. У 1989–1993 гг. кіраўнік Рэспубліканскага вытворча-тэхнічнага аб'яднання «Белвідэацэнтр». Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[6] Бабіцкая Рынальда Пятроўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

[7] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік. З 1967 г. супрацоўнік час. «Вожык».

[8] Асташонак Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1954–2004), беларускі пісьменнік, драматург, перакладчык. З 1988 г. ст. рэдактар час. «Крыніца».

[9] Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996), беларускі вучоны-хімік; дзеяч культуры. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Сын Я. Коласа.

[10] Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1996 гг. заг. рэдакцыі серыйных выданняў выд-ва «Мастацкая літаратура».

[11] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[12] Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч (н. 1938), рускі паэт. Супрацоўнік газ. «Светлагорскія навіны» (г. Светлагорск Магілёўскай вобл.). З 1992 г. узначальваў карцінную галерэю «Традыцыя».

Жук[1], генерал Сульянаў, Алесь Бадак. Сачанка зайшоў у рэдакцыю. Казаў, што хацеў званіць ці даваць тэлеграму. […]

«Радоўка»[2]. «Упартая пакоша драцяная…» [верасень; у блакноце].

*29 верасня, аўторак*

Без чвэрці шэсць раніцы міжгародні званок. Першае, што ў галаву, — у Вушачы кепска, не дай Бог, з Дамінічкай. А гэта з Новага Ёрку Генадзь Бураўкін. У іх ноч. Павіншаваў, прачытаўшы мяне ж, праз павелічальнае шкло акіяна. Яму прыйшла беларуская пошта. Дзякуй яму, шчыры дзякуй за памяць, за барацьбу з сябрам сваім Нілам. З Гародні Юрка Голуб[3] павіншаваў раньком, як ён сказаў, усякімі словамі. Званіў з Вушачы Ул. Хвошч[4], з Віцебска А. Салтук[5], з Веткі В. Стрыжак, Ул. Машкоў[6].

Учора па радыё пытаюцца ў нейкага дзядзькі, ці выжывуць саветы? Ён адказвае: «Калі саветы, як партыю, распусціць, можа, толк які й будзе». Прыходзіў Верабей[7] у выдавецтва, віншаваў. Званіў позна ўночы Сяргей Панізнік. Раптоўна памёр Уладзімір Лучук[8], даўні сябра Беларусі, па дарозе з Кіева ў Львоў. Светлая яму памяць!

*30 верасня, серада*

Невялікі бальчык ва ўмовах пераходу да рынку. Забягаў Зуёнак. Заходзіў Анатоль Сыс. Пачаставаў яго ромам. Сыс сказаў, што толькі той народны, у каго ёсць вучні. «А я ваш вучань». Самотны, загнаны, дужа балючы душою, а вонкава, калі вып’е, шалёны. Сапраўдны паэт ад бога. Мікола Кусянкоў[9] казаў, што ў шахтах ёсць кліч, калі што валіцца ў шахту: «Бойся!» «І пры падыходзе некаторых нашых знакамітых так і хо-

[1] Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік, перакладчык. У 1989–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[2] Гл.: Радоўка (28.09.92) // Евангелле ад Мамы. С. 148.

[3] Голуб Юрка (Юрый Уладзіміравіч; н. 1947), беларускі паэт. У 1970–2000 гг. супрацоўнік, заг. аддзела мастацкага вяшчання Гродзенскага абласнога тэлерадыё.

[4] Хвошч Уладзімір Іванавіч (1943–2001), у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[5] Салтук Алег Уладзіміравіч (1946–2015), беларускі паэт і празаік. У 1980–1999 гг. сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СПБ. Лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча, прэміі СПБ «Залаты купідон» (2011).

[6] Машкоў Уладзімір Георгіевіч (1938–2000), беларускі пісьменнік, сцэнарыст, перакладчык. У 1987–2000 гг. супрацоўнік час. «Нёман».

[7] Верабей Анатоль Леанідавіч (н. 1950), беларускі літаратуразнавец, крытык. З 1990 г. выкладчык філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1978).

[8] Лучук Уладзімір Іванавіч (1934–1992), украінскі паэт, перакладчык.

[9] Кусянкоў Мікола (Мікалай Сяргеевіч; 1935–2004), беларускі пісьменнік. З 1985 г. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

чацца крыкнуць: «Бойся!» Пра Барадуліна так не скажаш, але не трэба яго паляпваць па плячы». Перадаваў у канец застолля бутэльку спірту, укралі. Віншавалі Тоўсцік[1], былы галоўны [рэдактар] «Звязды», Сяргей Навумчык, з Мюнхена перадаваў прывітанне і віншаванне праз Навумчыка Алесь Лукашук[2], званіў пан Алесь Траяноўскі[3], віншаваў. Нават наважыўся павіншаваць Янка Сіпакоў, доўга раіўся са сваім сумленнем, якое завецца барыссачанка.

Мне цікавыя званкі гэтыя і віншаванні не для задавальнення самалюбства. Проста цікава, каго я цікаўлю, ці ёсць людзі, якім у нейкай дзесятавадойным на кісялі ступені патрэбная паэзія і ў прыватнасці мая пісаніна. Як прыходзіць чалавек у жыццё адзін, так і адыходзіць самотны ад жыцця. Лёс кожнага беларуса, які ўзяўся за пяро, каб нешта сказаць, каб выбіцца да людзей — да патэнцыяльных чытачоў сваіх, карануе самотай, няхай і гордай. Цяпер нават у электроніку запускаюць вірус, а ў душу беларуса гэты вірус запускаўся аберуч і ад вялікадзяржаўніцкай Расіі, і ад панскай Польшчы. Партыя крымінальнікаў толькі падтрымлівала, стымулявала хваробу, рабіла яе невылечнаю.

*1 кастрычніка, чацвер*

З кіношнікамі запісвалі ў фільм пра Белавежу палкоўніка КДБ Сазонкіна. Службу пачаў з целаахоўніка Патолічава[4]. Паляваў з усімі нашымі [...] з Менска і Масквы і са *скоц*лагеру. Цікавая фраза: «Не ведаю, гэта яшчэ не азначае, што я не помню». Тыпова кэдэбісцкае мышленне.

Віншавалі Тацяна Кузімінічна[5] з СП, Максім Танк (пажадаў, каб не старэў, атрымаўшы званне), К. Куксо[6] (з Масквы), Э. Агняцвет[7], Фелікс Бахчынян[8]. [Асобны запіс:] К. Цвірка, Рэм Нікіфаровіч, Павел Вераб'ёў[9] , Л. Х.

*2 кастрычніка, пятніца*

Меліся з «Вожыкам» ехаць у Бялынічы, але разбіўся на машыне гаспадар раёна. Быкаў шукае Зянона. З Чачні дзяржаўныя людзі хочуць з ім

---

[1] Тоўсцік Аркадзь Апанасавіч (1925–2009), беларускі журналіст.

[2] Лукашук Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1955), беларускі журналіст. З 1993 г. супрацоўнік Радыё «Свабода» (Прага).

[3] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі перакладчык.

[4] Патолічаў Мікалай Сямёнавіч (1908–1989), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1975, 1979). У 1950–1956 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[5] Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна, былы кансультант па арганізацыйнай рабоце СПБ.

[6] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

[7] Агняцвет Эдзі (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; 1913–2000), беларуская паэтэса і перакладчыца.

[8] Бахчынян Фелікс Бардугімеосавіч (н. 1950), армянскі паэт, перакладчык, літаратуразнавец.

[9] Вераб'ёў Павел Віктаравіч (н. 1958), беларускі паэт. Працаваў ў раённым і рэспубліканскім друку.

весці нейкія перамовіны. Званіў Іван Курбека[1], Б. А. Мельцар[2], Ул. Верамейчык[3] (з Ведрына), Павел Пруднікаў[4].

Слава,
Быццам з хворасту агонь,
На якім і бульбу не зварыць, —
Хутка загарыцца і згарыць.

І яшчэ падкову згубіць конь,
Каб яе шчасліваму знайсці
І паверыць светламу ў жыцці
І падковай апячы далонь.
Як каня спрыяння не супонь,
Капыты даверацца зямлі,
Прысак не ўратуе вугалі.
Слава — хісткі хворасту агонь.
...Толькі прысак ападзе на скронь[5].

*3 кастрычніка, субота*

Паездка ў *Талачын.* Адкрыццё надмагілля[6]. Былі ў асноўным мастакі, народнафронтаўцы, Марыся з дочкамі. Надмагілле зрабіў Янушкевіч[7]. З густам. Тактоўна. Пранікліва. Гутарка са святаром Аркадзем. Ён зноў пацвердзіў, што праваслаўная царква звязана з КДБ [...]. З Вілейкі святар, але супроць багаслужэння на беларускай мове. «Я, — кажа, — ледзь вывеў з сябе гэтую мову. Бо адукацыя і служба на рускай». Сядзеў я з Пятром Свентахоўскім[8] у аўтобусе. Шмат расказваў. Пра камбрыга Каравая. Калі перад вайной прыехалі з Варшавы на выцечку. Пачаліся перагонкі. Каравай паглядзеў і сказаў: «Ад мяне яшчэ ніводная карова не ўцякла». І перагнаў усё панства. Ён быў пастухом. Запрашалі ў Варшаву.

---

[1] Курбека Іван Сцяпанавіч (1934–2009), беларускі паэт-сатырык, літаратуразнавец. З 1964 г. супрацоўнік Літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа.

[2] Мельцэр Беньямін Айзікавіч (1915 — ?, ЗША), выкладчык БДУ.

[3] Верамейчык Уладзімір Міхайлавіч (1937–1999), беларускі пісьменнік. У 1966–1999 гг. дырэктар Ветрынскай СШ Рэчыцкага раёна.

[4] Пруднікаў Павел Іванавіч (1911–2000), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры РБ (1992). Быў рэпрэсаваны.

[5] Радкі з 5-га па 12-ты аўтарам закрэслены.

[6] Баразна Лявон Цімафеевіч (1929–1972, Талачын), беларускі мастак. Прысвечаны яму верш гл.: Лявон Баразна (25.07.90) // Міласэрнасць плахі. С. 158.

[7] Янушкевіч Валяр'ян Язэпавіч (н. 1962), беларускі скульптар. Брат Я. Янушкевіча.

[8] Свентахоўскі Пётр Уладзіміравіч (1939–2006), беларускі мастак. У 1986–2006 гг. выкладчык БДАМ.

Званілі Алена Васілевіч[1], Мікалай Кі′рпіч[2] з Вушачы.

*3 кастрычніка, нядзеля*

Да мастака Любімава з персцнем. Жонка родам са Звоні. Выключна валодае беларускай мовай. А муж расіец. З глухой Расіі.

Званілі Наталля Сямёнаўна[3], Мікалай Казлоў, Язэп Янушкевіч[4].

Дамініка сама сабе разважае: «Калі буду маленькая, буду сасі′ць сосачку і мяне будуць вазіць на калясачцы». А Валі казала: «Калі буду старэнькая, у мяне будуць паламаныя зубы».

«Ілляны абразок»[5].

*5 кастрычніка, панядзелак*

Сасніў маміну хату. Дзверы і парог. Зазімак. І ў сне цяплела на душы. На працы заходзіў Сіпакоў. Частаваў Сёмуху чарачкаю. Прапанаваў яму на пераклад у Біблію *царства божье* перакласці як *гаспода божая.* Яму спадабалася. Званілі Пронуза[6], Янка Брыль[7], Ала Сямёнава[8], Анатоль Кудравец[9], Аляксандр Капусцін[10].

*6 кастрычніка, аўторак*

Вечар, прысвечаны Янку Купалу ў Купалаўскай бібліятэцы. Была Ядвіга Юльянаўна[11]. Успамінала, як Купала клапаціўся пра сясцёр. Самнасам спытаў, чаму дачу будавалі ў Ляўках — фактычная высылка, — а

---

[1] Васілевіч Алена Сямёнаўна (н. 1922), беларуская пісьменніца. Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Кірпіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1950), дырэктар Ушацкага дзяржаўнага музея народнай славы імя У. Лабанка.

[3] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922–2003), сястра У. Караткевіча.

[4] Янушкевіч Язэп Язэпавіч (н. 1959), беларускі літаратуразнавец, археограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987). У 1985–1997 гг. супрацоўнік Інстытута літаратуры НАНБ. Брат В. Янушкевіча.

[5] Гл.: Ілляны абразок (3–4.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 171.

[6] Пранузa Паўлюк (Павел Кузьміч; 1918–2007), беларускі настаўнік, паэт, перакладчык.

[7] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[8] Сямёнава Ала (Альбіна Іванаўна; н. 1938), беларускі крытык, празаік. У 1986–1994 гг. літсупрацоўнік, заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Нёман».

[9] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык. У 1978–1997 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[10] Капусцін Аляксандр Пятровіч (1924–1996), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1974–1996 гг. нам. галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва».

[11] Раманоўская Ядвіга Юльянаўна (1920–2011), арганізатар беларускай музейнай справы, захавальніца літаратурнай і архіўнай спадчыны Я. Купалы. Пляменніца Я. Купалы.

не ў Акопах. Кэдэбісты цягалі сясцёр, і Купала сказаў, што «нагі мае тут не будзе». Добра казаў пра Купалу Дранько-Майсюк. Гралі музыкі. Было шмат школьнікаў. Ніхто не падтрымаў скокамі народныя танцы з моладзі. Танчылі мы. Моладзь адрэзана і мовай, і скокамі, і традыцыямі. Імперыя старалася. Успміналі Янку Раманоўскага[1] цёплым словам.

Званіла Яўгенія Мальчэўская[2] з Віцебска й Ігар Шклярэўскі з Масквы. Доўга й душэўна казаў, як бы спавядаўся сабе. Усіх нас бярэ ў свае рукі ўзрост, а мы не хочам гэтага заўважаць.

*7 кастрычніка, серада*

Ад'езд у Белавежу. На здымкі фільма пра царскія паляванні ад каралёў да парт]...] савецкіх. Па ўсёй трасе няма бензіну. Абочнымі дарогамі па 20 літраў (а ў лайбу лезе 100 літраў) збіралі, як старцы́. У калгасе «Мір», дзе сацгероямі і партбос раёна, і старшыня калгаса, рэстаран, уезд вакол клумбы, дзе яшчэ лозунгі пра падпальшчыкаў вайны. І для простых смяротных, і для парт]...] залы. У туалеце нехта не паленаваўся напісаць «Вова», і яшчэ калу на клічнік хапіла. Савецкая маскультура ў дзеянні. Наогул, усё ў назвах і ў сімволіцы засталося — усе калгасы «Леніна», «Рассветы», — аж уваччу цёмна. Паўсюль савецкая свастыка — серп і молат.

Ехалі ў Каменюкі праз пушчу. Крыху завагаліся, ці правільна едзем, але ўпэўненасці надалі бездакорна чорны асфальт, як сумленне камуніста, і слупкі, якія свецяцца, як каты марцовыя вачыма. Праязджалі Лойкаў Слонім, Сёмухавы Пружаны. Засталіся яшчэ зялёныя тунэлі прысадаў. Дом у Віскулях, дзе стваралася СНД, неасветлены, каб вораг не бачыў. «Дрымотнасць»[3].

Белавежа. У цішыні пушчы сучасны гатэль. Усё з дрэва. Так і хочацца думаць, што вярнуўся дадому.

*8 кастрычніка, чацвер*

Белавежа. З раніцы ўспомніў, што быў хоць не заядлым, але грыбніком. І рыбаком быў. На сняданне рыбы налоўліваў. А цяпер, як ва ўспамінах жыву. А даўні інстынкт прачынаецца, як ты яго ні прысыпай. Як з нейкай аповесці, чытаю на слупе: «Каралева-Мастоўскае лясніцтва. Ляснік Вакула Г. В.». Часты і чысты бор. Баравіна і ўся мясціна завецца Турля́й. І гук паляўнічага ражка, і тур, і праславяншчына ў гэтым слове. У Чырвоную кнігу заносяць звяроў, птушак, раслін. Трэба і слова. Хоць

[1] Раманоўскі Янка (Іван Юльянавіч; 1928–1974), беларускі мастак. Пляменнік Я. Купалы.
[2] Мальчэўская Яўгенія Еўдакімаўна (1949–2008), беларуская паэтэса. З 1989 г. настаўніца Віцебскай СШ № 40.
[3] Гл.: Восеньскі настрой Белавежы: Дрымотнасць (7–8,10.92.) // Евангелле ад Мамы. С. 192.

слоўнікі — своеасаблівыя Чырвоныя кнігі. Дзядзька Шчэрба з сынам з Пружаншчыны пілуюць і б'юць ясень на дровы. Дзядзька з 1917 года. 40 гадоў адпрацаваў у кузні. У Гайнаўцы памерла сястра. Не пусцілі ўлады ў 80-х гадах. Расказвае і выцірае слёзы. Расказвае, як немцы білі бізунамі, што не павёз бульбу ў Белавежу, бо конь нагу пашкодзіў. Калі Вадзім [Купрыянаў] здымаў для кадра, браў вялікую плашку і нёс. Я падумаў пра ягонага аднагодка Пімена. Хацелі зняць палац у Віскулях. Як баравік, вырас на асфальтаванцы сяржанцік. Нахабнаваты. З срэбным зубам, ледзь машына пачала пад'язджаць. Здымаць нельга. Тут, здаецца, і дровы ў КДБ служаць і даносяць-шумяць. На возеры насыпныя выспачкі для палявання на качак. Лясныя хацінкі з камінамі. Лазні з банкетнымі заламі на другім паверсе. Усё для партбосаў, кэдэбістаў і ваякаў. «Капелюшы долу!»[1]

Аж надрываецца ў небе крумкач. Пахадзілі каля вальераў. У зубрыцы маленькае цялятка, здалёк падумаў, што сабачка. Але — ледзь трымаецца на ножках — паходку мае зубрыную. Бацька-лабацька адгароджаны, цэдзіць з жолаба ваду, як смаглы п'яніца піва. «Мусіць доўжыцца»[2].

*9 кастрычніка, пятніца*

Раніцай да Балюка[3] — дырэктара пушчы. Над ёй адзін Бог толькі ўладны. Савецкі хам наменклатуршчык. Выбіўся ў чыны, бо добра варыў юшку цэкоўскім [...]. Пачаў з віску: чаму ездзілі ў Віскулі, запісвалі стрэлы! Ад кэдэбістаў вышэйшых як ніжэйшы, відаць, разнос атрымаў. Нічога не змянілася. Усё, як было, — сакрэтна. Але што гэта я пра набрыдзь пачынаю. Лепей пра святлейшае — перачытаў «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага ў перакладзе Язэпа Семяжона[4]. Тут, у пушчы, гучыць паіншаму. Шмат сабак кідалася Язэпу за адвольнасці. А можа, і добра, што перакладаў адвольна, беларусізаваў, уводзіў прыказкі і прымаўкі сучаснага гучання, так-сяк змацаваў прозу рыфмай, апяраў, каб ляцела званчэй. Паэма стала беларускай. І гэта добра.

Ездзілі на возера, якое было галоўнае ў забавах і бавах савецкіх бонзаў. Зарасло чаратамі. Хатка з разьбяранымі русалкаю і д'яблам. Яблынька пачаставала нас яблыкамі ў лесе, а не дзікая. Яблыкі сакавітыя палясному. Потым у цэх, дзе робяць чучалы звяроў і птушак. Капыткі свае.

---

[1] Гл.: Восеньскі настрой Белавежы: Капелюшы долу! (8.10.92, Белавежа) // Тамсама.
[2] Гл.: Восеньскі настрой Белавежы: Мусіць доўжыцца (8.10.92, Белавежа) // Евангелле ад Мамы. С. 193.
[3] Балюк Сяргей Сяргеевіч (1937–2004), дырэктар Нацыянальнага парка «Белавежская пушча» (1979–1994).
[4] Гусоўскі Мікола (1470-я — пасля 1533), лацінамоўны паэт ВКЛ. *Семяжон* Язэп (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч; 1914–1990), беларускі перакладчык.

Вочы са шкла. Распаленае шкло ўгінаюць драўляным як бы далатом у адпаведнай велічыні драўляную лунку. Потым фарбуюць. Аленю яго ж шкуру да ягоных жа рагоў прыбіваюць цвікамі. Потым цвікі скусваюць абцугамі. Вушы прашываюць ніткамі, пакуль высахнуць, фастрыгуюць, як падбартоўку некалі мама мая.

Вечар у Камянюцкай школе. Дзеткі прыйшлі з бульбы. Усё ім да лямпачкі. Няма ні пытанняў, ні зацікаўленасці. Настаўніца беларускай мовы сказала прыемныя сэрцу майму словы: «Вашая паэзія, як усмешкі маці Вашае». Лепшай ацэнкі ніколі не чуў і не трэба! Дырэктар цісне, каб школа была руская. Першы клас рускі. Бацькоў, хто пажадаў, каб дзеці вучыліся па-беларуску, змусілі напісаць заявы, што жадаюць расійскага навучання. Некалькі ваенных робяць усю пагоду ў справе русіфікацыі. Яны ж і ў дэпутаты назначаныя былі партыяй. А настаўніцы роднае мовы пакутуюць. Як на катарзе. Усе гандлююць, вязуць усё ў Польшчу, а настаўнікам нельга. Якое вядро выдзеляць, і тое цягнуць па жэрабю. Затое розныя балюкі правяць баль. Відаць, корань балюк ад баля, дакладней, прыслужны халуй каля вяльможнага балю.

*Турлюй*

Баравіна гулкая Турлюй,
Як алтар вячысты ў гонар Пана.
Свечкі соснаў хоць на рум тралюй,
Рум, дзе Пану ўзносіцца пашана.

Тураў рог і паляўнічы рог
Ладзілі ймяніны баравіне,
Прашчураўскі дух яе сцярог,
Лёгкую ў аблокаў на паміне.

Не адзін скразняк зламаў язык.
А Турлюй не вымавіў з разгону.
На імхі пад рык, і сык, і зык
Лось губляе галаву й карону[1].

Успамінаецца, як дзядзька Шчэрба расказваў, што паўміралі лесарубы. Гадамі аб халадным сала на цяпельцу падсмажаць — і ўсё гарачае. Папсавалі страўнікі. З «Песні пра зубра» на кінахроніку, дзе палююць партстарцы:

Тут адпачынак і дзейнасць спалучацца трапна
І паразвеюць навалу з душы. Паляванне —

[1] Параўн.: Восеньскі настрой Белавежы: Турлюй (9.10.92, Белавежа) // Евангелле ад Мамы. С. 194.

Лепшы бальзам падупаламу целу і духу.
І гартаванне, што старасці бледную немач
Не падпускае, трымаючы дзесьці наводдаль.

А ў Камянюцкай школе пад крысом пушчы на партах кляновыя лісты гарань і парты не прапальваюць.

*Анекдоты з Белавежы*

*

— Чаму ты ўвесь час п’еш?

— Не ведаю дакладна дзень свайго нараджэння. П’ю, каб патрапіць.

*

— Чаго твой сабака брэша?

— Каб ён ведаў, што вы начальнік, ён бы гаўкаў.

*

Правяраюць дакументы пагранічнікі. Наш герой п’яны і абураеццца. Кандуктарша ў аўтобусе:

— Маўчы, бо на заставу забяруць.

— Што гэта за пагранічнікі, што не адрозняць п’янага ад дыверсанта?

*10 кастрычніка, субота*

Па пушчы блукалі на машыне. Мурашнікі, як піраміды. Мурашы спяць. Напалі на месца цэкоўскага палявання. Загон. Унутры прынада. Дзверына цяжкая на калку. Аборына да прынады і да дзвярыны. Дзік туды — дзверына жэрдкавая бразь. А тут жа вышка. На 5 акенцаў. Унізе збітая з дошак клець — там прыпасы. На вышцы лапкі на падлозе — каб дзяржаўныя ногі не зяблі. На сценках намаляваны зубр. Кропкай пазначана, куды цаляць. Цвёрдае сядзенне збоку для халуя і мяккае крэсла для партазадка з хатняга гарнітура. Вакол шмат мяккага дроту ці прывязваць ахвяру, ці звязваць «упаляванае». Будка знутры ўцеплена ДСП, столь з вагонкі.

Вышкі, драты, прынады, пасткі. Лясны ГУЛАГ.

На развітанне Наталля Георгіеўна Дзьячэнка[1], народны доктар і кандыдат навук па мурашах, прадыягназавала мяне. Усё сказала правільна. І дзе галава баліць. І што правая нырка стамілася, і солі на карку, і ўдар на хрыбетніку, і што жанчыны на мяне не крыўдзіліся. Нават сказала, што колькі разоў быў на валаску ад смерці. (Успомніў, як лавілі палонікаў і я з галавой бухнуў у яміну. Толькі чую Толікаў голас: «Грышка ўтапіўся!») Але сказала, што Бог мяне заўсягды бярог. Дзякуй Яму!

[1] Дзьячэнка Наталля Георгіеўна (1946–2005), навуковы супрацоўнік Нацыянальнага парка «Белавежская пушча». Кандыдат біялагічных навук (1989).

У гасцях у Вячаслава Васілевіча Семакова. Аб'ехаў свет. Расказ, як таджыкская АН па загаду Масквы два гады шукала снежнага чалавека. Расказаў, як вазіў у Віскулі мільянера. Акрамя каменнага корпуса, куды нас і блізка не падпусцілі, ёсць яшчэ драўляныя хаткі на два паверхі са светлай сасны, пакрытай такім сродкам, што не цямнеюць. Фінская мэбля, халадзільнікі на ўсю сцяну, куды можна зубра падвесіць. Мільянер параіў запрашаць на адпачынак толькі мільянераў, не рабіць масавы турызм. На вечары быў малады празаік Мікола Чэркас[1]. Чысты.

«Цяжка»[2].

*11 кастрычніка, нядзеля*

На Мінск. На развітанне пісаў радкі:

*Шумі!*

Бывай, Белавежа! Бывай!
Лічы свой узрост на стагоддзі
І ў сны мае часам бывай
У вечназялёнай лагодзе.

Яшчэ ў цакатлівай мальбе
На зорку — як рыжая зорка —
Хай перабірае сабе
Ружанец арэхаў вавёрка.

Хай восеньскіх фарбаў тваіх
І выверанасць, і шалёнасць
Гучыць, як прытоены ўздых, —
Барвовасць,
Чырвонасць,
Зялёнасць.

Шумі, Белавежа! Трывай,
Настрою багоў валадарка.
З нябёсаў журбы не сплывай,
Свая, беларуская хмарка!

Па дарозе няма бензіну і ўжо даражэй ў 2,5 разы. Галасуюць. Цяжкагрузныя заможнікі без кроплі бензіну ў роце цугам на заправачных. У Камянцы каля самай Белай вежы скверык. Гіпсавы бюст крывавага Валодзі. Нехта паставіў пустую бутэльку замест некалі традыцыйных кветак.

[1] Чэркас Мікалай, спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях, ахове птушак Беларусі.
[2] Гл.: Восеньскі настрой Белавежы: Цяжка (10.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 194.

*12 кастрычніка, панядзелак*

Сустрэча Шушкевіча і Кебіча ў ВС з пісьменнікамі, рэдактарамі часопісаў і газет. Усе пісьменнікі закліналі аб падтрымцы. Шушкевіч у заключным слове сказаў, што многія сумуюць па былых часах. У заключэнне Станіслаў Станіслававіч уручыў Чыгрынаву Скарынаўскі медаль і мне знак і пасведчанне народнага паэта. Пасведчанне новае, а на знаку яшчэ смуродлівая БССР і на адвароце: «Народны паэт БССР». Чакаюць, відаць, што ўсё вернецца.

З Ялты званіў Міхась Казакоў[1].

*13 кастрычніка, аўторак*

Прыехала Валя з Вушачы. І там зазімела.

*14 кастрычніка, серада*

Цэлы дзень хворы. Сёння буры. Сёння ж і вялікае свята — Пакроў. Па ім вызначаецца зіма. Відаць, будзе нармальна халодная. «Цямнее»[2].

*15 кастрычніка, чацвер*

На вуліцах, у трамваях, у магазінах хамства, людзі, як жывёла перад загонам у бойню. Наогул культура, а нашая крывіцкая тым болей, — танюсенькі пласт падчарназемлены на тундрава-ледавіковым грунце грубасці, дзікунства, жывёльнасці. Гэты пласт лёгка выдзімаецца слабым ветрыкам рэпрэсій, бальшавіцкіх пераваротаў, сілай ёлупністай улады. І ўсе гучныя словы пра народ нічога не вартыя. Народ жыве сам па сабе, а інтэлігенцыя і да таго падобная часцінка сама па сабе. Імкненне з асобаў, з асобных людзей зрабіць масу і назваць яе народам здаецца мне часам наіўным, а часам зланамысным. Кожны чалавек — гэта болей чым народ. Ён — усё, і з яго — усё. Без яго нічога. Няйначай Усявышні стварыў чалавека, каб ён адчуў жыццё і змог ацаніць яго.

Яшчэ пушчанскія галінкі казычуцца: «Традыцыйнае»[3].

Вечарам званілі Бурсаў і Шчадрына[4] з Масквы. В Віцебска Міхаіл Крывёнак[5], аднакласнік. Некалі разам рэзалі дровы ў школе — на боты зараблялі. Быў ён на партпасадах, цяпер у Віцебскім ліце.

---

[1] Казакоў Міхаіл Аўрамавіч (1938–2000, Ялта, РФ), беларускі, рускі і ўкраінскі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Чэхава.

[2] Гл.: Цямнее (14.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 201.

[3] Гл.: Восеньскі настрой Белавежы: Традыцыйнае (15.10.92) // Тамсама. С. 193.

[4] Шчадрына Валянціна Ніканораўна (1927–2008), руская перакладчыца. Заслужаны работнік культуры БССР (1977). Ураджэнка Беларусі.

[5] Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч, аднакласнік. Начальнік Віцебскага абласнога ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку.

*16 кастрычніка, пятніца*

У хаце званочак — прывезлі Дамініку. Званіў Васіль, яго расхвалявалі дэнацыяналізаваныя вучоныя. Няма ў нас нацыянальнае буржуазіі. Яўрэі ў свой бок, русіфікаваныя — у бок Расіі лапцюжна-вялікадзяржаўнай. Сустрэў кіношніка, быў у Парыжы. Збораў ездзіў у Афрыку паляваць на птушак з лука. Кожнаму сваё. Дамініка перад сном п'е сок, паказвае свае босыя ножкі і кажа: «Мае басякі́...»

* * *

Смяецца грубка:
— Бягуць мерзлякі.
Зяхае харчэўня:
— Ідуць едакі.
Насупілі дровы
Дымістыя бровы,
Распусціў суп
Паравісты чуб.
Сустракаюцца![1]

*17 кастрычніка, субота*

У Нацыянальнай бібліятэцы чытаў зборнікі Уладзіміра Дубоўкі 20-х гадоў. Паэт вялікай патэнцыі, таму ў час падрэзалі крылы. Шукаў, знаходзіў. Як бы пасунулася нашая паэзія, калі б такія паэты папрацавалі ў ёй. Не далі. «Залачу далонь»[2]. Вечарам да Радзіка. Валянцін Жданко[3] са «Звязды» браў інтэрв'ю. Сімпатычны. Чысты. Нацыянальны.

*18 кастрычніка, нядзеля*

Да Рэма ў Купалаўскі [тэатр]. Узяў на пераклад п'есу ў вершах Гёце[4]. У Нацыянальную бібліятэку. Зноў Дубоўка. Вялікае займішча браў, а працаваць не дала ўлада, да якой ён па наіўнасці хінуўся. У бібліятэцы з Дубоўкам добра. [...] «Знаёмае»[5].

*19 кастрычніка, панядзелак*

Прыйшла карэктура выбранага. Набрана дужа хутка. Нейкае адчуванне, што час уцякае ад мяне і дагнаць яго ўжо немагчыма. Ехаў у трамваі. Нейчы сабака задраў лапу.

---

[1] Параўн.: Хадакі (19.10.92) // Евангелле ад мамы. С. 181.
[2] Гл.: Залачу далонь (17.10.92) // Тамсама. С. 199.
[3] Жданко Валянцін Пятровіч (н. 1964), беларускі журналіст. У 1987–1995 гг. супрацоўнік газ. «Звязда».
[4] Гоццы Карло (1720–1806), італьянскі драматург, паэт.
[5] Гл.: Знаёмае (18.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 198.

* * *

Задраў сабака лапу задуменна,
Падняць астатнія — і паляціць.
А ў космасе разумным айкумена
Ляціць і, пэўна ж, некаму зіхціць.

Сазваніліся з тэлебачаннем. Некалі Васіль прапанаваў «Аблачыну-самабранку» зрабіць. «Як лугавіну каса ні жане...»[1] Правяраў верш на Радзіку і на Лявону [Дранько-Майсюку]. Ім спадабалася.

І ўсё-ткі першы варыянт верша «Хадакі».

*20 кастрычніка, аўторак*

Прыехаў Віктар Ліўземніек[2] з Рыгі. Купіць паперы, алоўкаў, сала, Веяну[3] абутак. Мы ім выпісалі трошкі грошай за двухмоўнага Максіма Багдановіча[4]. У Латвіі гола, галодна і халодна. Дубулты распрадаюцца. Будуць валютныя.

Па радыё страшна сказала старая з Бабруйска, якая жыве ў бараку: «Адна надзея, што памру».

«Сівая бабулька...»[5]

*21 кастрычніка, серада*

Ліўземніек з раніцы цёпленькі. [...]

*22 кастрычніка, чацвер*

Запіс тэле на кватэры Васіля. Гэтак нялоўка было турбаваць яго, але тэлевізійнікі народ настырны. Тым болей чароўная Галіна Краўчанка і Людміла Паўлікава[6]. Наогул, дзякуй ім!

Занёс у «Звязду» падборку «Восеньскі настрой» з прысвячэннем Белавежскай пушчы. Як мне трэба Васіль, як не хапае яго мне заўсягды! Богам ён пасланы Беларусі. Толькі адна ягоная прысутнасць робіць нацыю еўрапейскай, не дае ёй каціцца ў балота расійскае азіятчыны. Ірына Міхайлаўна як заўсягды нацягала нечага забыта смачнага на столік у ка-

[1] Гл.: «Як лугавіну каса ні жане...» (19.10.92) // Тамсама. С. 373.

[2] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; 1936–2015), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[3] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; 1927–2005), латышскі паэт, празаік.

[4] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец. Багдановіч М. Цвяток радзімы васілька... = Jau roka ruzupuķi... Рыга, 1992.

[5] Гл.: «Сівая бабулька...» (20.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 311.

[6] Паўлікава Людміла Фёдараўна (Хейдарава; н. 1952) беларуская паэтэса, празаік; інжынер. У 1990–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання.

бінеце Васіля. Я пачаў адказвацца, а яна з сумнаватай хітрынкай падкрэсліла, што ўкладваецца ў пенсію. Дадала, што і Васілёва сюды ўваходзіць.

*Васілю Быкаву*
*(на «Міласэрнасці плахі»)*

Ушача, Беларусь і свет
Зглушэлі б без цябе, здрабнелі.
Няхай не гасне твой імпэт,
Сумлення нашага нядзеля.

*23 кастрычніка, пятніца*

Запіс на радыё. Вяла перадачу «Над раскрытай кнігай» (трэба было б над разгорнутай) сімпатычная і вонкава і багатая душою, маладая, закаханая ў паэзію Галіна Шаблінская[1].

Вечарам хадзіў да Радзіка.

** * **

Паганская готыка лесу.
Калючасць спічастых ялін.
Нябесна-зялёную месу
Тут слухае мой успамін.

Чало абніжаю з пашанай
І ў шума спагады прашу.
Тут правіць у рызе імшанай
Лясун па спакою імшу.

Ні злому агню, ні жалезу
Не сцішыць, не звесці на клін
Паганскую готыку лесу,
Балючасць спічастых ялін[2].

*24 кастрычніка, субота*

У Нацыянальную бібліятэку. Зноў Дубоўка. Перачытаў «Штурмуйце будучыні...» (падзагаловак «Камбайн»). Некалі ў рукапісу на Бялінскай [вул. Бялінскага] у першае сваёй кватэры, чытаў паэму. Якія задаткі былі. І Байран, і Пушкін як героі гавораць па-беларуску сваімі вершамі ў далікатна-выкшталцоным перакладзе Дубоўкі. А ідэя зводзіцца да агітацыі

[1] Шаблінская Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. У 1992–2002 гг. заг. аддзела літаратурна-мастацкага вяшчання Галоўнай рэдакцыі праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё.
[2] Параўн.: Восеньскі настрой Белавежы: Імша (24.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 195.

ў калгас. Пра гэта геніяльна напісаў Твардоўскі[1] ў «Краіне Муравіі». Бо ўвогуле ідэя калгаса закладзена ў талацэ, у складчыне, дзе адзін думае абхітрыць другога, ухапіць ласейшы кавалак з агульнага, абагуленага стала. А тут яшчэ бальшавікі паддалі палеру: папіць панскае віно, паесці панскія кумпякі, паненку ў стог завалачы…

Верш [«Паганская готыка лесу…» = Імша] перарабіў. Дзякуй Лявону [Дранько-Майсюку].

*25 кастрычніка, нядзеля*

На выставу «Жыве Беларусь». Нешта ёсць у Свентахоўскага, Шчамялёва[2], Вашчанкі[3], Маціевіча[4]. Нацыянальна-балюча, хоць і традыцыйна, у Шматава[5]. Скульптуры Гумілеўскага[6] добрыя. Абураюць змаразмацелы партызанскі бытавік, камісараіконапісец Гуціеў[7] з каровамі і голай бабай. Аж жахае фігура Багушэвіча[8] нейкага Лука. Ленін, толькі вусы даўжэй. Цёплай ласкай веюць габелены. А мне ўсё ўспамінаюцца ка´пы, што мама ткала «ў ды´мкі». А мастакі ў нас не нацыянальныя. Нават надпісы непісьменныя. Некаторыя, як Р. Сіплевіч[9], па-польску падпісваюцца. Можа, палякі купяць. Хто болей дасць! Мастакі ў бальшыне ненацыянальныя, кампазітары амаль усе, акторы амаль усе, вучоныя ў дакладных навуках — усе. Выграблі маскалі душу нацыі, як жар з печы.

«Няпэўны снег», «Бацька хату «ў пальчыкі» рубіў…»[10].

---

[1] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961).

[2] Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч (н. 1923), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[3] Вашчанка Гаўрыіл Харытонавіч (1928–2014), беларускі мастак. Прафесар (1980). У 1961–2000 гг. выкладчык БДАМ, у 1975–1995 гг. заг. кафедры. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак БССР (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1987).

[4] Маціевіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.

[5] Шматаў Віктар Фёдаравіч (1936–2006), беларускі мастацтвазнавец, мастак. З 1966 г. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар мастацтвазнаўства (1990).

[6] Гумілеўскі Леў Мікалаевіч (н. 1930), беларускі скульптар; выкладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Народны мастак РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), прэміі Саюзнай дзяржавы (2010).

[7] Гуціеў Мікалай Цімафеевіч (1912–2006), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1968).

[8] Багушэвіч Францішак Бенядыкт (псеўд. Мацей Бурачок; 1840–1900), беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.

[9] Сіплевіч Раіса Паўлаўна (н. 1949), беларускі мастак.

[10] Гл.: Няпэўны снег; «Бацька хату «ў пальчыкі» рубіў…» (25.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 202; 200.

*26 кастрычніка, панядзелак*

Занёс у «Авіў»[1] фота. Тарас напісаў нешта накшталт партрэта. Невераемныя галаўныя болі. Званіў Даніла Коласаў [Міцкевіч]. Трэба выступіць на вечары Якуба Коласа. Успомнілася, як мама прыслала мне на цаліну газету з некралогам па вялікім Якубе. Дужа любіла яна паэта, асабліва «Новую зямлю».

«Старасць робіць жанчын сарокамі…»[2]

*27 кастрычніка, аўторак*

Дамучваў Дубоўку зноў і зноў. Сумна дзівуешся, што зрабілі бальшавікі і сацрэалізм з паэтам, які мог быць роўным еўрапейцам. А якая вера ў рэвалюцыю, у камуну. Шчыры наіў.

*28 кастрычніка, серада*

Перачытваю з маленства родную і знаёмую «Новую зямлю». Яе трэба выдаваць, як некалі бальшавікі свой кароткі, куртаты курс ВКП(б). «Якубу Коласу»[3].

*29 кастрычніка, чацвер*

Заходзіўся ў рэдакцыю Кастусь Куксо. Цяпер у Маскве. Без работы. Нікога нікому не трэба. Казаў, што крыўдзіцца, калі называюць рускім, хоць і беларусам сябе не адчувае. У школу хадзіў, калі беларуская літаратура выжывалася са школы. Называе сябе: «Я каланіяльны рускі». Гэта бальшавікі гэткае племя вывелі.

«Прымхі»[4].

*30 кастрычніка, пятніца*

Даперачытаў «Новую зямлю». Калі б Колас нічога апрыч яе не напісаў, ён быў бы ўсё роўна вялікім у славянскім свеце. Зноў пабыў я дома, зноў пачуў радкі Коласавы з вуснаў мамы. Разам чыталі з ёй. Уголас чытаў, яна хутка запамінала, бо гэта ўсклалася на сялянскую душу чыстым кужалем, бо напісана яна сялянскім сэрцам.

Званіў Пімену. Яму не дужа добра. Упаў. Даставаў лекі. Кажа: «Цэлае стагоддзе не бачыў. Толькі па тэлевізары. У нейкім добрым касцюме. Калі ты быў без звання, частка цябе любіла, частка — не. А цяпер, як стаў народным, — большасць не любіць». Дарабляў даўні накід:

---

[1] «Авив» — газ. Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын (з 1992).

[2] Гл.: «Старасць робіць жанчын сарокамі…» (26.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 301.

[3] Гл.: Якубу Коласу (28.10.92) // Евангелле ад Мамы. С. 428.

[4] Гл.: Прымхі (29.10.92) // Тамсама. С. 203.

*Задзірыстае*

Надзіманыя шары —
Маладыя геніі,
Толькі ўздымуцца вятры,
Вас адразу менее.

Справа надзімаць сябе
Не такая хітрая.
Нават з зоркаю ў ілбе
Не злавіць блыхі ў траве.

Пазіраеце наўкол
З грэблівымі пыскамі.
Толькі плюхнеце на дол —
Высыхнеце пырскамі.

На вечар Коласа ў філармонію не пайшоў — баліць галава.

*31 кастрычніка, субота*

У Нацыянальную бібліятэку. Чытаў Дубоўкавы «Пялёсткі»[1]. Бедны, у дзіцячых абразках зашыфраваў, дзе быў у ссылцы, на якіх работах. Васіль выступаў на вечары: «Хоць я некаторым запусціў вожыка ў штаны».

Вечарам пазванілі: памёр Міхась Ткачоў. Кажуць, што некалі заступіўся за дзяўчыну, дык «афганскія» недабіткі змясілі на горкі яблык, можа, яны ныркі адбілі. Званіла [...] Ілона. Здала ў арэнду кватэру, а сама паедзе ў Пецярбург. Як нікога ў яе няма — ні дачкі, ні бацькоў. […] Звядуць яны мяне са свету раней часу. Як не стала мамы, не стала дому. Ні да каго прыгарнуцца, ні з кім падзяліцца, самотны, як воўк у лесе людзей.

*Так і праходзіць*

Благое скача блыхою,
А добрае цягнецца кобраю.
І дабрадзей у даверы
Усім адчыняе дзверы.
Так і праходзіць
Жыццё чалавечае —
Чакае лепшага
З рання да вечара.

*1 лістапада, нядзеля*

Лісцё даўно зляцела. На дварэ злюцела. Хоць дожджу няма. Дачытаў «Пялёсткі» Дубоўкавы. Званіў Алесь Адамовіч. Ён у Менску.» «Вяртанне

---

[1] Дубоўка У. Пялёсткі. Мінск, 1973.

з Вушачы 30 сакавіка 1985 года»[1]. Пачынае падабацца сядзець у бібліятэцы. Некалі ж дужа было добра, а паступова адвык.

*2 лістапада, панядзелак*

Рыхтуюся напісаць слова пра Уладзімера Дубоўку. Усё гатова ў думках. А сесці не магу. Баліць галава. Званіў Васіль, у яго ўночы быў прыступ астмы, ледзь ачомаўся заморскімі лекамі. Уключыў тэлевізар. Фільм «Спецперасяленцы». Пра раскулачванне. Цікава, што там і прозвішча Снарскі. Відаць, з роду славутага. З-пад Лепеля.

А паведамленні змрочныя. У Віцебск і вобласць рынулася «русскомычащее стадо» з Балтыі. Зробяць цэнтрам новае Вандэі[2]. У Магілёве ўжо створаны абкам ПКБ. Не засумуеш!

*3 лістапада, аўторак*

Сёння хавалі Міхася Ткачова. Не быў. Падціснула сэрца. Як нехта ў жмені яго трымае і не хоча выпускаць. Прыкрае адчуванне. Званіў Васіль. Быў на пахаванні. Без накладак не абышлося. Спазніўся Шушкевіч. Ніл крывадушнічаў. Побач Ніл і Пазьняк. Адпеў Матусевіч, следам [...] Філарэт. Зноў адпяванне. Як ў пар*ляманце.* Васіль здорава сказаў, што з Масквы прыйшла воля, з Масквы прыйдзе і няволя, як толькі камуністы і да іх падобная погань прыйдзе да ўлады. А Шушкевіч з Пазьняком могуць апынуцца ў суседніх камерах. Шушкевічу не даруюць, што над святым капішчам ЦК Бел-Чырвона-Белы ўзвіўся. Ды яшчэ і Пагоня.

*4 лістапада, серада*

З Ал. Драздом[3] у атэлье. На слупе ў раёне Грушаўкі аб'ява: «Прадаю нямецкі акардэон і наш баян». У выдавецтве быў Някляеў. Люблю яго з усімі выпендрожамі. Паехаў на веласіпедзе. Заходзіў Павел Пруднікаў. Казаў, Грахоўскі быў ахоўнікам, начальнікам кандзея, нарадчыкам, сакратаром начальніка лагпункта. Рос, [...]! А сам ахвярай прыкідваецца.

---

[1] Гл.: Вяртанне з Вушачы 30 сакавіка 1985 года (1.11.92) // Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 253. Верш-успамін пра М. Стральцова.

[2] Вандэя, правінцыя Заходняй Францыі, якая сталася цэнтрам раялісцкіх, а па сутнасці сялянскіх мецяжоў у час Вялікай Французскай рэвалюцыю і Дырэкторыі 1789–1794 гг. і таму рэвалюцыянерамі-санкюлотамі было забіта, па ацэнках розных гісторыкаў, ад 500 тыс. да 1 млн чалавек. У савецкія і перабудовачныя часы найменне «Вандэя» выкарыстоўвалася як контррэвалюцыя наогул.

[3] Дрозд Аляксандр Іванавіч, мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

Дазваніўся да Дэконскай[1] наконт Дубоўкі. Маскоўскі адрас, фота, Анікушын[2] за працай над бюстам. Усё прыдасца для кіно. Юры Цвяткоў званіў, каб накідаў сцэнар фільма «Беларускі менталітэт».

* * *

Зрок людскі
І змрок людскі.
Глухне зрок
У даўнім змроку.
А відаць куты й куткі
Аднаму, відаць, прароку…

*5 лістапада, чацвер*

Клапачуся, каб з Беларусі былі заказы на «худлитовский»[3] трохтомнік Караткевіча. Прыходзіла Надзея [Наталля] Сямёнаўна [Кучкоўская]. Божа, як быццам Валодзя глядзіць, такія вочы падобныя. Цэны скачуць высока. Як жыць? «Звыканне»[4]. Званіў Васіль. Па тэле выступаў Пазьняк з заявай ад апазіцыі.

[У «Вожык» на С. Станюту[5].]

*6 лістапада, пятніца*

Званіў Анатоль Сыс. Абмяняліся словамі ўзаемалюбові. Дужа ён ранімы і беспрытульны. […] Прачытаў мне колькі радкоў з эпіграмы: «Тройка мчится, мелькают страницы, Бородулин звенит под дугой».

*7 лістапада, субота*

Радыёпаведамленні з месцаў, як у лепшыя часы пра мітынгі і зборышчы крымінальнікаў-камуністаў. Стаяў у чарзе па віно, наслухаўся дум народных. «Пад вечар»[6].

---

[1] Дэконская Вольга Юльянаўна (н. 1946), з 1971 г. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[2] Анікушын Міхаіл Канстанцінавіч (1917–1997), рускі скульптар. Народны мастак СССР (1963). Герой Сацыялістычнай Працы (1977). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1958).

[3] Выд-ва «Художественная литература» (Масква).

[4] Гл.: Звыканне (5.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 204.

[5] Станюта Стэфанія Міхайлаўна (1905–2000), беларуская актрыса. Народная артыстка БССР (1957). Народная артыстка СССР (1988). З 1931 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Дачка М. Станюты. Гл.: «Не трэба для купалаўцаў валюта…» (5.11.92) // Асобы рознай пробы. С. 7.

[6] Гл.: Пад вечар (7.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 229.

*8 лістапада, нядзеля*

Дакончыў слова пра Уладзіміра Дубоўку[1].

[…] Хадзіў кошцы рыбы купіць.

*У чарзе*

У чарзе душна да ікаты,
Ды з дзвярыма і ўсмешка рыпнула:
— Ой, напэўна, любяць каты
Прадаўшчыцу з аддзела рыбнага.
І з гайні фарцова-марцовае
Не адзін за ёй прытанцоўвае.
Кажуць жа нездарма: — Ад рыбы
Падымаеца нешта дыбы…

*9 лістапада, панядзелак*

Праца. Заўтра на радыё слова пра «Слова» рыхтаваў. Кепска мне. Дабівае мяне побыт […]. «Да гадзінніка»[2]. Наогул, крыху смешна з рэабілітаваных рабіць антыкамуністаў, яны ілжывай рэвалюцыйнасцю прапахлі, як ваўчыная поўсць сіверам. Адны верылі, іншыя змушалі сябе верыць, каб выжыць.

*10 лістапада, аўторак*

На радыё. Запіс. На працу. На машынку пра Дубоўку. Нехта сэрца ў жмені як бы трымае. Мярзотнае адчуванне.

*11 лістапада, серада*

На кінастудыю. Палякову сцэнар пра Дубоўку. На працы сход — камсамольскае шоу — дырэктар і з Камітэта Кузьмін (кандыдацкая, як у камсамольскага работнічка была: «Праблема вольнага часу»). Лявон [Дранько-Майсюк] расказваў, а яму Шруб, што кэдэбісты дзівуюцца смеласці Г., у іх цэлая папка, дзе ягоная дзейнасць як стукача засведчана. Таму й крычыць. Але яны не друкуюць матэрыялы, бо ім ён яшчэ трэба. Служыць.

*Кадры вырашаюць усё*

ГУЛАГ,
Ты ў людзі вывеў прахіндеяў
І дроваў наламаў на мемуары.
Бычыстыя начальнікі «кандзеяў»
Равуць у кнігах, што й яны ахвяры!

---

[1] Гл.: О, Беларусь, мая шыпшына… (8.11.92) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 14.

[2] Гл.: Да гадзінніка (9.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 205.

*12 лістапада, чацвер*

З Паляковым дамовіўся на адначасцёвік пра Марыю Рыгораўну. Накідаў заяўку. Заўтра аднясу. Здзівіла, як камуністы паставілі мазгі людзям. Рэм Нікіфаровіч, разумны і дэмакратычны, сёння заявіў, хоць «Несцерка» п'еса не Вольскага, але ён вымушаны быў, і правільна зрабіў, што паставіў сваё прозвішча, каб ўратаваць твор[1]. А некалі п'яны Артур Вольскі даказваў: як добра, што вобыск у Якуба Коласа рабіў бацька Віталь Зэйдэль, а не хто іншы. Бо гэтым ён ратаваў паэта. Нічога сабе аргументы. Гэта ўсё роўна што даводзіць, быццам добра, што забіў забойца, які шкадаваў ахвяру і ведаў ёй цану, а не нейкі там дылетант.

Прыйшоў я сёння яшчэ да аднае высновы: наш пар*лямант* — гэта другі Чарнобыль для нацыі. Не вядома, які больш магутны. «Падтрымка Беларусі: Магілу сама сабе рые…» [у дзённіку].

Званіў Вялюгін. Між іншым запытаўся ў яго адрас афіцыянта з былой «Беларусі» Пятровіча. Ён таксама не помніць ягонага прозвішча. І як самы шчаслівы выпадак ў жыцці, жыве ў праалкаголенай памяці, як аднойчы Пятровіч, калі Вялюгін зайшоў да яго, выцягнуў з тумбачкі каньяк і пасля не браў грошы, бо гэта засталося ад нейкага банкету. Як мала трэба на шчасце савецкаму алкашу!

А з Магілёва прыходзіла кабетка. Наконт паездкі ў Кітай дзяцей-ахвяр Чарнобыля. Яна настаўнічае пад Магілёвам. Прыйшлі халады. А вучні прыйшлі ў лёгкіх сандаліках на шкарпэтку. Чалавек у трох нейкія чаравічкі. Дабіваюць нацыю бальшавіцкія ваўкалакі, пярэваратні.

*13 лістапада, пятніца*

На кінастудыю. Фільм «Чорная дарога» пра лёс ваеннапалонных. Пановаму. Шмат хто змяніў прозвішчы і застаўся на Захадзе. Аднаму такому, у якога не ўсе дома, паказваюць на маніторы дачку. «Стара баба», — усміхаецца. Колькі словаў па-расійску кажа, а так па-нямецку. Потым дачцэ паказваюць бацьку. Плакат з мноствам прозвішчаў чэкістаў, якія асабліва вызначаліся ў зверствах. Гэта ўсё трэба глядзець. А міністру культуры[2] не ў нос. Яму б вясёлую аперэту.

*Высозны талент*

Паэзія благала: SOS!
На выручку з'явіўся Сыс.
На ўсіх глядзеў,

[1] П'еса «Несцерка» — канфіскаваны твор У. Галубка. П'еса ставілася пад аўтарствам В. Вольскага.

[2] Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч (н. 1937), міністр культуры РБ (1989–1994). Кандыдат эканамічных навук.

Бо быў высоз-
Ны талент,
Зверху ўніз.
А без вясёлага Сыса
Пегас застаўся б без аўса!

*14 лістапада, субота*

Першы дзень лістапада [па старым стылі], а на дварэ — снегапад. Снег нейкі раздрузлы, задужа вадзяністы. Але ўсё роўна белізна па-святочнаму радуе. Чакаеш халадоў, а значыць, вяртаешся дамоў хоць азяблымі думкамі. Сядзеў пісаў куплеты для купалаўцаў у «Залёты пана дэ Пурсаньяка».

* * *

Я не люблю сябе за тое,
Што па табе смылеў, шалеў.
Свой гнеў трымаючы ў застоі,
Дрыжэў як заяц. Роў як леў.

Я ўрэшце з цёмнага застою
На волю выпускаю гнеў.
Мой гнеў ступае пехатою,
А некалі ж ляцець умеў.

А можа, гэты гнеў і ёсць
Што ні найсамае каханне,
Няўцямненае, як скананне, —
І пераходзіць гнеў у злосць…[1]

Званіў Палякову, што Васіль прыйдзе глядзець «Чорную дарогу» ў сераду і каб пра Генію ш фільм быў. «Дарожная граматыка»[2].

*15 лістапада, нядзеля*

За вакном варона правальваецца, ступаючы па снезе. Дамінічка гуляе снегам.

*Цёплы снег*

Не старэе ў здзіўлення звычка
Маладзець пад навалай год.
— Дзедзя-шмедзя! —
Крычыць Дамінічка, —
Паглядзі, як смяецца лёд.

[1] Параўн.: «Я ўсё-ткі з цёмнага застою…» (14.11.92) // // Евангелле ад Мамы. С. 232.
[2] Гл.: Дарожная граматыка (14.11.92) // Тамсама. С. 103.

Лёд мой коўзкі, настылы, шэры,
Мой блакітны растаў даўно.
Крыгалому не даўшы веры,
Стаў сваё патушыў вакно.

Дзедзю-шмедзю па носе пстрычка
Паляцела снежкай праз плот.
Хай яшчэ табе, Дамінічка,
Доўга, цёпла смяецца лёд!

Пачакай мяне, гром крыгалому,
Надта хочацца часцяком
Дзедзю-шмедзю, унуку былому,
У двары стаць снегавіком.
Стаць і не спяшацца растаць.
Дамініцы жадаць падрастаць.

Беларускае радыё з замілаваннем паведамляе, як КДБ вядзе пошукі ахвяр. Памагае аднавіць добрае імя. Сапраўды, як у анекдоце: ваўкі з’елі зайца, а некралог падпісалі «Група таварышаў». І наогул радыё і тэле, радыё асабліва, паўтарае сталінскія песні пад выглядам рэтра, піянерскую атрыбутыку. Каб не забыліся, каб лёгка было вяртацца.

*16 лістапада, панядзелак*

На працу. Сустрэў па дарозе Сачанку. Заклапочаны. Нагружаны думкамі, чые б яшчэ зрабіць публікацыі. Ягонае прозвішча прывязана да ўсіх публікацый, як шыльдачка да нагі нябожчыка. КДБ багаславіла «на труд и подвиг». Правільней было б пад публікацыяй ставіць «made in КДБ. Б. Сачанка». А вершы ўсё роўна ў мяне пакуль пішуцца. «Без лістоў, у ягадах рабіна…»[1]

*17 лістапада, аўторак*

Праца. Прыходзіў Адамчык[2], прыносіў рукапісы. Дужа важны і заклапочаны, ці выйдуць тамы. С. ездзіў у Страсбург. Добра сказаў Васіль: «Ён жа ездзіць у камандзіроўку і камандзіровачныя ад КДБ, а што цябе пасылаць».

---

[1] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Без лістоў, у ягадах рабіна… (16.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 252.

[2] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. У 1982–1993 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

*18 лістапада, серада*

На кінастудыі з Васілём глядзелі тры фільмы. Васіль казаў пасля, што трэба было б не толькі архівы паказваць, але й выканаўцаў пакаранняў. Трэба назапашваць кінадакументы. Прыдадуцца. Наогул, інтэлігенцыя, як вароны з сука, каркаюць адно, а яно вельмі марудліва даходзіць да свядомасці. Згадалі Алексіевіч[1] і Афганістан. Васіль казаў, што спекулююць на пачуццях маці. За сынамі стаялі генералы, якім падалі зоркі на пагоны і зоркі на грудзі. Яны цяпер павязаны, што пойдуць на ўсё. Некалі яшчэ Афганістан запатрабуе кантрыбуцый і матэрыяльных, і маральных.

Вечарам галасаванне па Дзяржпрэміях Беларусі. На працы дырэктар выдаў шызафрэнічны загад. Шум. Гвалт.

*19 лістапада, чацвер*

Збор загадчыкаў рэдакцый. Сачанка за вочы (бо яго не было) палівай дырэктара. Я з-за прынцыпу ўстрымаўся за выказванне недаверу дырэктару, бо падонкі, якія паілі яго да ўсёру, галасавалі *за*. І [...] ягоная таксама *за*. Хоць дырэктар яўна не на сваім месцы, былы цэкіст, верны вучань Саўкі Паўлава[2].

*20 лістапада, пятніца*

Сход. Недавер дырэктару. За ягонай спіной нехта стаяў і кіраваў ім. А яму трэба мала: чарка і скварка (і ў выглядзе дзеўкі ў тым ліку). «Юрась і ерась»[3]. А сам сход, выступленні Мятліцкіх[4], Рыбакоў[5], Рубанавых[6] дыхнулі на мяне сталінскімі гада′мі і га′дамі. Гэтае бальшавіцкае распальванне сябе, гэткая маса. «Нет предела силе человечьей, если эта сила — коллектив». У нас да гэтага часу і гнеў калектыўны, і радасць калектыўная. Табунізм. Ён страшны.

---

[1] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Паўлаў Савелій Яфімавіч (1934–2017), беларускі гісторык, партыйны дзеяч і публіцыст. У 1989–1992 гг. рэктар Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Кандыдат гістарычных навук (1971). Прафесар (1990).

[3] Гл.: Дурноты: Юрась і ерась (20.11.92) // Дзень паэзіі-93]94. С. 195.

[4] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. У1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[5] Рыбак Алесь (Аляксандр Пятровіч; н. 1934–2017), беларускі пісьменнік**.** У 1978–1995 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Рубанаў Уладзіслаў Якаўлевіч (1952–1994), беларускі пісьменнік. У 1986–1994 гг. заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1990).

*Барысу Сачанку*

Барысе,
За дырэктарства бярыся,
Ты мудры, цягавіты паляшук.
Няхай дыміцца ў нашай роднай місе
Хаця б булён і на патэльні тлук.
Цябе ж багаславіў Вялікі Бор.
Я помню толькі добрае.

*Рыгор*

*21 лістапада, субота*

Схадзіў у Нацыянальную бібліятэку. Чытаў зборнікі фальклору. Учора па тэле разам з Васілём.

[У «Вожык» на В. Шматава[1].]

*22 лістапада, нядзеля*

Закончыў два як бы сцэнары. Гэта ж па сутнасці артыкулы. Дамінічка малявала ў мяне ў пакоі і дзедзю, і плот, і сябе. Сказаў, калі будзе дурэць, выганю. Яна ў адказ: «Буду сядзець, нікуды не буду выганяцца». Лічыць нешта, хоць ліку не ведае, недзе нешта чула: «Пятая, васьматая…» «Намалюй мне літару Дамініку… Не хачу, не хачу, як я нехачухала».

*23 лістапада, панядзелак*

У відэацэнтр. Прыехаў Бурсаў з Рытай. У Маскве цяжка таксама. Дарагавізна. Як Іван жыве, адзін Бог ведае. На пенсію ж не пражывеш. А не выдаюць амаль нічога нідзе.

*24 лістапада, аўторак*

На працы зноў сход. Бутэвіч падпісаў загад аб звальненні Грышановіча. Сход раіў Андраюка. Усё ў руках бел[…], міністра інфармацыі. Прыходзіў Тармола[2]. Хаваў цесця. Памерці даражэй, чым жыць. Жонка прадала ягонае паліто за 17 тысяч. Каб падзахаваць цесця да жонкі — 11 тысяч. Літр гарэлкі і закусь. Дзяруць у прамым сэнсе і з жывога, і з мёртвага.

Занёс у «Вожык» колькі эпіграмаў.

*25 лістапада, серада*

Узяў білеты на Ушачы і ў [санаторый] «Сосны». Праводзіў Бурсава ў Белакаменную. Хай ёй чорна будзе ў вяках! Шушкевіч недзе заявіў, што

---

[1] Гл.: «Не шматаваў нікога Віктар Шматаў…» (21.11.92) // Асобы markaznaj пробы. С. 18.
[2] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст. У 1980–1996 гг. член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі тэлевізійных фільмаў Беларускага тэлебачання.

і далей будзем плесціся хвастом за Расіяй, што беларусы і рускія, як два пальцы адной рукі. Дадаць трэці ад украінцаў — і будзе кукіш.

«Слуцкім паўстанцам»[1]. [У «Вожык» на Ю. Хадыку[2].]

*26 лістапада, чацвер*

Праца. Эпіграмы ў «Вожык». [На А. Вярцінскага[3].]

*27 лістапада, пятніца*

З Шаранговічыхай[4] да Бутэвіча наконт Андраюка. Апаратчык, [...], у паліто стоячы, завёў у кабінет і сказаў, што пад пагрозай ягонае парт[...] здароўе: спяшаецца ў Лечкамісію. У часы застою ніводзін з самадураў не прымаў мяне так. Які інтэлект, такі чалавек.

У Саюзе пісьменнікаў вечарына з нагоды 72-годдзя Слуцкага збройнага чыну. У вестыбюлі выстава. Карціна Шчамялёва, дзе на пярэднім плане Булак-Балаховіч[5]. Бел-чырвона-белы лунае. Васіль падышоў і кажа мне: «Калі б так просты кавалерыст сядзеў на кані, яму б фельдфебель даў сутак 10. Зірні, як нага ў стрэмі, амаль уся, як у бот нагой. А гэта ж генерал. Трэба, каб толькі насок». Выдатна выступіў Быкаў, Зянон. Усіх уразіў дудар і танец, які па словах Зянона з каменнага веку ўзыходзіць. Сапраўды, як з прамузыкі, з часіны, калі гук шукаў гук, каб разам напевам зрабіцца. Які лірычны, які светлы Зянон! Які ўражлівы! Ад яго святло сыходзіць. Калі Тумас[6] чытаў пугу пра пагонічаў, Зянон заўважыў: «Калі чую гэтакія пугі, трохрадкоўі пісаць хочацца». Шніп чытаў вершы, абавязкова баладамі называючы іх. Ужо ж празмеру па бальшавіках і па маскалях лупіў. Аж не верыцца, што ён іх не любіць. У такіх выпадках паўтараецца гісторыя з захмялелым зайцом. Ва ўсім мера!

26-га напісаў верш[7].

---

[1] Гл.: Слуцкім паўстанцам (25.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 90.

[2] Гл.: «Ён не змяняе быка на індыка...» (25.11.92) // Асобы рознай пробы. С. 25.

[3] Гл.: «Пры поўным імпэце, пры аўтарытэце...» (26.11.92) // Тамсама. С. 43.

[4] Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939). У 1984–1997 гг. заг. рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (1883–1940), польскі і беларускі ваенны і палітычны дзеяч. У 1920 г. прыняты са сваім конным атрадам у склад войск БНР. У 1920-я — 1930-я гг. генерал брыгады польскага войска. У 1937–1939 гг. прымаў удзел у грамадзянскай вайне ў Іспаніі на баку Ф. Франка. У час 2-й Сусветнай вайны забіты гестапаўцамі пры арышце.

[6] Тумас Яўген Змітравіч (псеўд. Тумаш Генадзь; н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1987–1994 гг. нам. дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СПБ.

[7] Гл.: «А прымаўка гэтая яўна старая...» (26.11.92) // Евангелле ад мамы. С. 342.

*28 лістапад, субота*

Чытаю фальклорныя зборнікі. Толькі адзіная рада ў гэтай кватэры, якая завецца домам. [...]

*29 лістапада, нядзеля*

Учора напісаў верш, сёння правіў, раячыся з Лявонам Драньком: «Канструкцыя»[1]. Вечарам на тэлебачанне. Колькі словаў пра Міколу Аўрамчыка[2]. Пасля — да Лапушыных. Хоць душой адышоў у нармальнай сям'і [...].

*30 лістапада, панядзелак*

Праца. Званіў Васіль. Пытаўся, як прайшло ўсё ў Слуцаку. Сапраўды, цяпер саветы — галоўны тормаз і апора кэдэбісцка-партыйнай свалаты. Казаў пра высокія цэны сённяшнія. І заўважыў, што тыя, хто дужа бярэ да сэрца, трэба суцешыць, што яшчэ горай будзе. Яшчэ Васіль разабраўся, што гэта за з'ява «Чалавек года». Гэта проста бізнес, бо чалавек гэты сам мусіць выкупляць свой медаль.

«Дзе карані твае...»[3] Для календара:

А зямля —
Засведчаць страх і птах,
Бачачы сябе ў азёрных чашах, —
Не на трох трымаецца кітах —
На сябрах чацвераногіх нашых.

*1 снежня, аўторак*

Першы зімовы. Дыктарскі тэкст пра Белавеж [...]. Здаў тэхрэдам Радзікаву кніжку. [...] Заўтра ў Вушачу еду. Хоць [...] дыхну святым паветрам! Вечарам зборы. Заўтра ў родныя мясціны. Кожны раз еду, як у ранейшае, а прыязджаю ў іншае.

*2 снежня, серада*

*Вушача!* Па дарозе са Слуцака з Раманава (цяпер Леніна) дзядзька. Ваяваў, пад Кёнігсбергам параніла. Але добры слых быў, і махаў рукой, у трупах лежачы. Учуў, як санітары казалі, што нехта рукой махае. Так і ацалеў. Як ён падлеткам рэзаў рэбэ курыцу, каб без крыві. Бацька растлумачыў. Закручваеш галаву і пад крыло. У сінагогу ўпусцілі вераб'я. Рэбэ папрасіў яго выгнаць. Хоць ён сябрам адчыніў фортку. На шэст наматаў чырвоную анучку. Вераб'і баяцца чырвонага. У вераб'я паветра заходзіць

[1] Гл.: Канструкцыя (28–29.11.92) // Тамсама. С. 250.

[2] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[3] Гл.: «Дзе карані твае...» (30.11.92) // Евангелле ад Мамы. С. 51.

і выходзіць, таму й не баіцца марозу. А ў духаце гірдзіцца. У гэтага слуцака выбітная беларуская мова. А літаратурна правільная ў малодога піжоністага вадзіцеля. Як маслам па душы.

Сустрэў Пятрок. Да Марыі Рыгораўны. Пякла мне яешню. Амаль як мама. А ўсё ж не так. Дадому ўжо як у камандзіроўку прыязджаеш. Ніхто не чакае. Па дарозе пра дарогу нешта мармыталася. Дома дапісаў: «Аглухлай, гарбатай…»[1]. Адзін у хаце як воўк.

*3 снежня, чацвер*

Вушача. На магільнік да мамы. У снезе і ў цішыні ўсё. Толькі лапкі птушак на цаліку. Ля новага моста старыя па'лі. У белых шапках, пазелянелыя ад вады і часу. Вада падлізвае лёд, які аблачынкамі прасветленымі ля кожнае палі. Рух, спакой і пазелянелая векаўшчызна. Праводзілі Роўба і Пятро. Па дарозе пра Белакоза[2] ў «Вожык» [пісалася]. Прыпынкі ў райцэнтрах. П'янь, брань, падонкі — маладая змена…

*4 снежня, пятніца*

На працу. На кінастудыю. Фільм «Белая вежа [— цемра густая]». Трэба тэкст дыктарскі:

Пушчу хрысцілі
Стрэльбы, сякеры.
Ды Белавежа
Паганскае веры.

Пушча трывушча
Моўчкі трывае.
Толькі ці вытрывае
Векавая?

Хто гэта
Дрэва легенды хістае?
Белая вежа.
Цемра густая…

Крутня, бегатня, штурхатня, балбатня, мармытня. Усё гэта з'ядае дні нашыя. А мне яшчэ стаіць у памяці, як Марыя Рыгораўна распавядала, калі ішлі з нямецкага лагера. У Ворані на начлег пусціў дзед. Навварыў

---

[1] Гл.: «Аглухлай, гарбатай…» (2.12.92, Ушачы) // Тамсама. С. 169.

[2] Белакоз Алесь (Аляксандр Мікалаевіч (1928–2016), беларускі настаўнік, краязнавец, музеявед. У 1990–2004 гг. дырэктар Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея (Гродзенская вобл.) Гл.: «Калі ў гародзе беларушчыны…» (3.12.92) // Асобы розная пробы. С. 11.

калатухі нейкай. Ядуць і хваляць. Пытаюцца, чым закрасіў, бо смачна і спажыўна. «А з жытнічкаў», — адказвае дзед. *Жытнічак* — пацук.

Вечарам званіў Васіль.

*5 снежня, субота*

На кінастудыю. Тэксты, здаецца, супадаюць з выяўленчым шэрагам. Накідаў слоўка пра Жэню Янішчыц[1] у «Нёман». Давялося білет на нядзелю на Нарач памяняць на аўторак. У аўторак галасаванне па прэміях. Трэба быць, каб пасля звягі не было і нараканняў.

*6 снежня, нядзеля*

Трэба было б сабрацца ў дарогу, ды не магу. Круціць і ломіць усяго. Прастудзіўся недзе. Відаць, у аўтобусе. Было душна, а на вуліцу выскачыш — золка.

*7 снежня, панядзелак*

Ракам-бокам пайшоў на камітэт па прэміях. […] Грахоўскаму не хапіла [галасоў], але ўсё роўна Ніл сказаў, што будзе прасіць урад. Навошта тады галасаванне? Прадстаўнікі літаратурнай секцыі, пачынаючы з Зуёнка, доўга і нудна малолі прапісныя ісціны. Брыль кідаў словы ў вечнасць і слухаў, як адгукаюцца. Добра прайшлі Законнікаў, Жук, Сёмуха. Пачалі Вашчанку віншаваць з «Чалавекам года» (Ніл задужа пафасна), тады сказаў, што трэба і Быкава. І Селяшчук[2], выходзіць, «Чалавек года». Гэтак можа і чалавецтва назбірацца. Васіль гэтую механіку хутка раскусіў.

*8 снежня, аўторак*

У «Беларускую думку»[3] вершы занёс і канаў літаральна і дзень і ноч. Хацелася самому сабе галаву размяжджуліць.

*9 снежня, серада*

Ледзь не спазніўся на аўтобус на Мядзел. Радзік дапамог. І ехаў даўжэй, чым на Кубу ляцеў ці ў Штаты. На вакзале тры гадзіны. Нарэшце прыйшоў санаторскі аўтобусік. У змроку, у стомленай гамане сэрца пачало адыходзіць, як мазалі ў цёплай вадзе. У гэтым кутку яшчэ беларуская мова жыве, дзякуй Богу.

---

[1] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986). Гл.: Так заплачу, нібы запяю… (1993) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 102.

[2] Селяшчук Мікалай Міхайлавіч (1947–1996), беларускі мастак, графік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[3] «Беларуская думка» — урадавы грамадска-палітычны і навукова-папулярны час. (з 1991).

*10 снежня, чацвер*

Звыканне. Афармленне на працэдуры. А тут многія без працы дуры. Шмат партай[...], партчыноўнікаў, дробных бл.дзюшак.

Чытаю Біблію. Гэта ў Левіце пра кэдэбістаў: «Не хадзі пераносчыкам у народзе сваім і не паўставай на жыццё бліжняга твайго». Толькі такія радкі йдуць у галаву. «Чорны грай»[1].

*11 снежня, пятніца*

Хаджу на працэдуры. Галава як балела, так і баліць. Гуляюць чырвоныя памешчыкі — старшыні калгасаў. Скрынкамі пітво, мяхамі закусь дастаўляюць шафёры. Ад'язджаючы, сігналяць як на пажары сваім часовым дунькам.

Чытаю легенды. У гэтай сувязі прыгадалася сучасная ўшацкая. Як будаваўся наш Дом саветаў [райвыканкам], ці як яго завуць за шэры колер — гестапа. Непісьменны Дземянцей з райкомаўскімі халуямі рашылі паднядзеліць Ушачу. Там, дзе быў базар, ляжаў вялізны камень. На ім нехта паклаў вялізную кучу. Тут, сказаў Дземянцей, і будзе наш Дом саветаў. Усё адпавядае ісціне. Га.но на га.не паставілі.

*12 снежня, субота*

Мокры снег. Але бела да цеплыні. Чытаю легенды і паданні. Во дзе беларуская душа, вочы й вушы нашыя. «Вадою замерзлай затоплены човен...»[2]

*13 снежня, нядзеля*

Маё шчаслівае чысло. Пачаў перакладаць для Рэма Гоццы «Віноўнікі ў хаўрусе». Ранняя рэч паэта. Меладрамна-маралізатарская. Чаму ўзялі купалаўцы, невядома. Так званы рынак?

Некалі ў нас любілі прыгаворваць: «Я сваю Марынку хоць пасярод рынку». Спрабую пісаць вершы, уваходзіць у форму. «Як гэта ты, маладзіца зіма...»[3]

*Дым*

Ад'ехацца далей, каб думкамі вяртацца
Да вогнішча вачэй, вядома.
Самоце сум найсамавіцейшы дарадца.
Гарыць капрызная салома.

---

[1] Гл.: Чорны грай (10.12.92, санаторый «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 391.

[2] Гл.: «Вадой замерзлай затоплены човен...» (12.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 248.

[3] Гл.: «Як гэта ты, маладзіца зіма...» (13.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 268.

Каханне — дым,
Таксама і жыццё зямное.
Дым грэе неба і надзею.
У дыме хмараў даўніх
Неба нада мною.
Завеяй грэюся й сівею.

** * **

Спіць ціша. Толькі хваля азярная
Лёд немы ліжа зябкім языком.
Кажух са страху цемра апранае.
Знік зорны Воз з нябачным вазаком.

Сам вазаком стаю — згубіўся воз мой,
Што вёз мяне ў вясёлую зіму.
Ні а гадзіне сёмай, ні а восьмай
Не даганю яго, не перайму.

Штодня вітацца з думкаю баюся,
Што блізка воз, які нагрузяць дні
Мае —
І знікне ў снежнай пацярусе,
Завязе — і не пакіне палазні…

*Клумак думак*

Нёс клумак думак пан павук
У Акадэмію навук.
І навуковы кіраўнік,
Ну як бы бацька хросны,
Параіў, каб імпэт не знік,
Удасканальваць кросны.

*** [Без даты:] Літаратуру [успрымаюць] як прыслугу з добрымі манерамі, адпаведна плоцячы. Цяпер ні гаспадара, ні прыслугі. Рынак.

*14 снежня, панядзелак*

Галава не праходзіць. Баліць. Да прыступаў адчаю. Аж сам баюся. Ці ператаміўся, ці канец надыходзіць. Чытаю легенды. У іх усё беларускае, наша — ад мышлення да мовы. Пасля іх бальшына нашае прозы здаецца дробнымі газетнымі нататкамі. Камуністы [...] ведалі, што робяць, калі вынішчалі мову, глыбінную культуру. Без усяго гэтага насельнікі былой імперыі (ці былой?) толькі — савецкія людзі, бязмоўнае быдла.

«Каля мяжы»[1].

*15 снежня, аўторак*

Раніцай пагрэцца на ляту, хоць і на дварэ не зімна, заляцела ў фортку сінічка, пажадала дабрараніцы ці падзякавала за сняданне на цынкавым карнізе. І святлей на душы, і жыць хочацца. Богам задумана гэтае паразуменне чалавека з усім жывым. Каб жыць. Званіла Валя. Роўба паведаміў, што мяне выбралі Ганаровым грамадзянінам Ушаччыны. Ледзьве-ледзьве. Бо ўсё начальства наезджае. Хамуты!

Пачаў працягваць нізку «Следам за Эклезіястам»[2]. Здаецца, атрымліваецца.

*16 снежня, серада*

Пішу нізку[3] і перакладаю п’есу. Гледзячы на лебедзяў, напісаў нешта паміж дзіцячым і дарослым: «Адкуль лебедзі зімой»[4]. Тэлевізар нельга глядзець. Толькі палітыка і нейкае дурноцце. Па кабельным (ці кабе´льным) TV кліпы — усе трасуцца, як масла б’юць. Негры ўсё-ткі адпомсцілі белым, страсаючы іхнія кволыя мазгі сваімі рытмамі.

*17 снежня, чацвер*

Невераемна кепска з галавой. Горай, як у Мінску. Нічога не дапамагае. Што гэта будзе? «Драўляны галубок»[5]. І замалёўка намалявалася: «Зімее…»[6]

А тут званіў дамоў. У самага дарагога мне чалавека цяпер на зямлі — Дамінічкі павялічана печань. Бедненькая, за што Бог карае яе з першых яшчэ слабых крокаў на зямлі?

*18 снежня, пятніца*

Схадзіў сёння ў *Гатавічы*. Тыповая вёска. Ёсць багацейшыя хаты, ёсць бяднейшыя. Ля адной згружаюць цэглу з вялізнае фуры. Будуць, відаць, абкладаць. На магільніку пра становішча на зямлі кажуць помнікі. Некаторыя — нават зямля ўцэментавана. Як падлога ў кароўніку. Сельскі шык не мае густу, як і гарадскі ў сваёй бальшыне. Раней на стрэхах

---

[1] Гл.: Каля мяжы (14.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 303.

[2] Гл.: Следам Эклезіяста: Каменю ніколі не разбіцца…; Папярхнецца грымотамі спёка…; Смерць бярэ мудраца й недарэку…; І стане нястрашны страх… (15.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 14–16.

[3] Гл.: Следам Эклезіяста: У радасці ненажэрца…; Жанчына на тое і сніцца… (16.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 17.

[4] Гл.: Адкуль лебедзі зімой (16.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 168.

[5] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Драўлянцы галубок (17.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 253.

[6] Гл.: Нашча: Зімее… (17.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 377.

чарнела салома, цяпер шыфер. Розніца малая. І тое, і навейшае змрочна гняце. У саломе была нейкая натуральнасць. Надпісы на плітах па-расійску. А можа ж, тут жыве. На вуліцы прывітаўся з кабетамі і пачуў у адказ такі сакавіты, такі беларускі «Добры дзень». Ні рэлігіі ў нас свае, ні адменнага алфавіту, які б хоць трохі адганяў ад расейцаў.

«У альбом»[1].

*19 снежня, субота*

Прыязджалі з відэацэнтра. Хацелі забраць у Менск. У Цвяткова ёсць пытанні па фільме пра Белавежу. Напісаў ліст. Хай лепей забяруць, як трэба будзе выязджаць.

*Загадка маладзёнам*

А хтось кагосьці камусьці
Прынёс і паклаў у капусце.
А потым малое кугакала
У люльцы чамусьці заплакала…

За сталом сядзіць адзін слуцак, жыве ў Менску, ведае Ставера[2]. Ад яго пачуў: старцам жыўшы ды з перцам еўшы; спіць у галёшах, ср.ць ходзіць босы.

У «Вожык»: «У працаўпартага Жука…» [у дзённіку].

Схапіўшы ўдачу за рукаў,
«Прапашчую любоў» гукаў
І дагукаўся, бо ў Жука
Рука і вока слуцака:
Далёка бачыць, можа многа.
І талент мае з ласкі Бога.

Дамоў не званіў, каб не пераконвацца ў тым, што думаю. […]

*20 снежня, нядзеля*

Схадзіў у Гатавічы. Зноў сустрэў мяне малады няўклюдны сабачка, даверлівы, як пачатковец. У краме купіў сушак і пачаставаў яго. За сабачую шчырасць. Ідучы лесам, пісаў верш «Сасновы сон»[3]. Доўга хадзіў па снезе. Даўно ўжо не бачыў такі чысты і такі белы, аж захацелася, як таму каню зялёнай травы, каб аж цуглі пазелянелі… Вечарам кіно. Перакладаю п’есу. Цяжка.

[1] Гл.: У альбом (18.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 167.
[2] Ставер Алесь (Аляксандр Сяргеевіч; 1929–1995), беларускі паэт.
[3] Гл.: Сасновы сон (20.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 347.

*21 снежня, панядзелак*

Званіў Алесю Марціновічу. «ЛіМ» дае вестку з Ушачы Варатынскай[1]. Вестка прыемная. Званіў цешчы. […] Сам крыху хварэю, на вуліцы не быў, а за вакном гэтак прыгожа. «А свечкі ўсе вайсковаабавязаныя…», «Раптам…»[2]. Хадзіў глядзеў двухсерыйнік, яшчэ гэдээраўскі. Сапраўды, сацыялізм — гэта бяздарна ўсё.

*22 снежня, аўторак*

Выходзіў на двор. Хараша! Бо ёсць снег, ёсць маразок (так мама казала), ёсць нейкая хоць і ўмоўная, але няспуджанасць. Званілі з відэа. Абяцаюць даць машыну назад. Добра было б! Настрою і мазгоў хапала толькі на адну дурноту: «Кво на ква»[3].

*23 снежня, серада*

Стараюся болей хадзіць. З гадамі такое адчуванне, што й снег апошні, і зіма апошняя, і гэтая белая цішыня не вернецца.

Зноў дурноты: «Моц»[4]. «Снасць для страсці: Бацьку папрасіў сынок…» [у дзённіку].

*Філалагічнае тлумачэнне*

Дзяржава — хлебная дзяжа.
Трон — вечка.
Трон трымаюць тронкі,
Бо тронкі трэба для нажа,
Каб кроіць скрыль сабе не тонкі.
Ніхто свой рот не абнясе.
І што б там ні труліў палітык,
Да ўлады йдуць ідэі ўсе
Ад попытна-прынадных лытак.

Надакучыла перакладаць п’есу. Ідзе ўсё марудна.

На працэдуры як на працу ходзіш. Рэжым.

Хадзіў па лесе — і апаў верш: «Нязломнасць»[5].

---

[1] Варатынская Галіна Аляксандраўна (н. 1953), беларуская журналістка, паэтэса. У 1974–2013 гг. супрацоўніца, заг. аддзела (1981–1991) ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[2] Гл.: «А свечкі ўсе вайсковаабавязаныя…»; Нашча: Раптам… (21.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 315; 379.

[3] Гл.: Дурноты: Кво на ква (22.12.92, «Нарач») // Дзень паэ’іі-93/94. С. 196.

[4] Гл.: Дурноты: Моц (23.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 196.

[5] Гл.: Нязломнасць (23.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 49.

*24 снежня, чацвер*

Званіў Радзік. Дамоў не званю. [...] Са снегу камячыў верш: «Кунега»[1]. Званіў у Мінск. Пасля Шаранговічыха пераразваніла, што Андраюк зацверджаны дырэктарам выдавецтва. Дзякуй богу!

Глядзеў на варону, і круціліся радкі: «Самаіранічнае»[2]. Для «Вожыка» [на У. Пузыню[3]].

Нейк сумнавата без тэлефонных званкоў. А дома шаляняць! І зноў Парыж у галаве: «Анёл вясёлы лыжы...»[4]

Добры дзень, святая ноч! Мяне ж ксціў ксёндз. Хоць у сям'і ўсе былі праваслаўныя, прабабка была ўніяткай. Сяджу адзін, гляджу тэлевізар. Ні Каляд, ні свята. Святы ўсе былі толькі ў мамы. Яны былі святыя ейнай верай, ейнай святасцю. І да канца жыцця ўсе святы ў мяне будуць, відаць, толькі ва ўспамінах. Не склалася нармальнага жыцця. Не склалася нацыянальная, беларуская, сям'я. Зарабіў тытулы, згубіў сябе. І не знайду ўжо ніколі. І Ушача як успамін. Без мамы яна нежывая. Яна болей рытуальна-фальклорная. Толькі калі нешта робіш, забываешся на тугу, на адчай, які ахінае ўсяго, як густы, да холаду, туман. Толькі ў гучанні беларускіх словаў адчуваю цеплыню, якая грэе душу. Прапануе жыць...

* Пузыня Ул. Як. х. 5–11–93, пр. 20–99–84.

*25 снежня, пятніца*

Святыя Каляды сустрэў чытаннем Святога пісання. І зноў з Эклезіяста[5]. Сёння Бог даў сапраўды калядную раніцу і дзень. Такога ціхага снегу на дрэвах не бачыў даўно. Як са сноў маленства. Як з Вушачы. Некалі. «Бог не скажа пра свой намер...», «Альбомнае»[6]. Па тэле добрая калядная праграма. У бальшыне па-беларуску. Рэпартаж з Вільні. Аж сэрца зайшлося — гэтак захацелася ў Балтыю. Добра пялі менскія дзяўчаткі: «Каляда, калядзіца — добрая маладзіца». Як народ можа выхітрыць слова, зрабіць немагчымае з ужо вядомага, каб невядомае нечаканым стала!

---

[1] Гл.: Нашча: Кунега (24.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 378.

[2] Гл.: Самаіранічнае (24.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 243.

[3] Пузыня Уладзімір Якаўлевіч (1940–2012), беларускі майстар-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў, выканаўца на іх, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994). Гл.: «Маэстра гоніць прэч нуду» (24.12.92, «Нарач») // Асобы рознай пробы. С. 22; Уладзімер Пузыня (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 40.

[4] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Парыжам поўная галава (24.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 256.

[5] Гл.: Следам Эклезіяста: Людзей да тлуму ў гэтым жыцці...; (25.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 18.

[6] Гл.: Следам Эклезіяста: Бог не скажа пра свой намер...; Альбомнае (25.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 18; 137.

«Беларускае слова»[1]. Вырашыў пагуляць у хітрую рыфмоўку: «Калядныя перагукі»[2].

«Табой напоўнена да краю…»[3]

*26 снежня, субота*

Змагаюся з п’есай. Па тэле выкананка рамансаў, здаецца, Мкртчан у інтэрв’ю назвала беларускую мову касмічнай. Што значыць не маскалька! Хадзіў у Гатава [Гатавічы]. Купіў рэшту шароў Дамінічцы і некалькі Зайчыку[4]. Зноў вітаў мяне сабачка, і яго карміў пернікам.

* *Падводнік:* У прадавіцы, у якой купляў сушкі для сучкі, лёды, печыва, прашу сушкі. Яна:

— Нешта ніколі не купляеце цыгарэты. Не паліце?

Кажу, што ніколі не паліў. І дадаю:

— Калі б ведалі, колькі не п’ю, нек паверылі б (сёлета якраз 30 гадоў). Праўда, норму перавыканаў.

Яна:

— Дык дзе ж вы працавалі? Відаць, на падводнай лодцы.

*27 снежня, нядзеля*

Доўга лесам ўздоўж Нарачы. «Не прасі застацца ўдачу…», «Як Бог да цябе не аслеп…»[5]. Яшчэ ў лесе ўлезла ў галаву ўжо ўночы. Зоркі праз сосны глядзяць на дол, якраз жывыя краты. «Рыпі!»[6]

*28 снежня, панядзелак*

Дабіўся нарэшце п’есу. Увесь мой час забрала. Што з гэтага атрымаецца? Заўтра ў дарогу. З Менска ні гуку пра машыну. Давядзецца разам з народам. Поўным ходам! «Настрой з весялосцю жані…»[7]

*** [Без даты.] 92-гі год, вазілі ліцэістаў у Гданьск, жылі ў камунах, што невядомы край побач такога. [Пра Беларусь казалі, нібыта] 1400 танкаў на мяжы Украіны і Літвы і flot у Кабыльніках (вёска каля Нарачы), Польшчу акупаваць, які хутка польскі [флот] захопіць[8].

---

[1] Гл.: Беларускае слова (25.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 80. Верш прысвечаны В. Рабкевічу.
[2] Гл.: Калядныя перагукі (25.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 352.
[3] Гл.: Твая мілосць з вачыма лані (25.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 244.
[4] Зайчык, заяц — хатняя мянушка жонкі.
[5] Гл.: Следам Эклезіяста: Не прасі застацца ўдачу…; Як Бог да цябе не аслеп… (27.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 19.
[6] Гл.: Рыпі! (27.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 226.
[7] Гл.: Следам Эклезіяста: Настрой з весялосцю жані… (28.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 20.
[8] Гл.: Лявон Баршчэўскі // Дуліна ад Барадуліна. С. 136.

*29 снежня, аўторак*

Сорак хвілін новага дня. Закончыў яшчэ верш з нізкі: «І пераважыць сілу знямога…»[1] Сяджу, паўдзён ужо, як сабаку за хвост навязалі. З Менску ні званочка. А ехаць трэба, як у тым анекдоце пра жыдоў гавораць. Гэта камуністы слова *жыд* зрабілі абразлівым. Корань жа яўрэйскі, ва ўсіх мовах ён. «Цяціˊвіна»[2]. Гэтыя радкі маладой паэтцы, палачанцы. У адказ на верш мне. У «Вожык» [на Г. Вашчанку[3]]. Маёй бедненькай хварушцы верш: «Нада мной дагарэла знічка…»[4]

Як галодны на хлеб, накінуўся ў апошні дзень на хаду па снезе ўздоўж Нарачы. «Белыя замовы», «Напіцца небу з рукі даць?»[5]

Уключыў тэлевізар. Андрэй Вазнясенскі[6], стары, як старасвецкая канапа, выпендрываеццца дасюль.

*30 снежня, серада*

Адзін дзень яшчэ старога года. Бывай, стары. Дзякуй, што быў і мне быць дазволіў. Нейкім дзівам, але выехаў. Бензіну няма. Савецкая ўлада дасюль дзейнічае. […] «Тады: Калі прывітаеш вачыма…» [у блакноце].

*31 снежня, чацвер*

На працу. З Лявонам Дранько-Майсюком яшчэ дадаў 3 дурноты ў «Дзень паэзіі». Пішу паштоўкі, званю, адказваю на званкі. Новы год ужо ідзе.

*Пімену Панчанку*

Ходзіць верш на галаве
І ўсміхаецца ў лагодзе
Панчанаўскі.
Ён жыве
І пераЖыве стагоддзі.

---

[1] Гл.: Следам Эклезіяста: І пераважыць сілу знямога… (29.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 20.

[2] Гл.: Цяцівіна (29.12.92, «Нарач») // Евангелле ад Мамы. С. 431. Верш прысвечаны І. Снарскай.

[3] Гл.: «Мастак драмаць не меў падстаў…» (29.12.92, «Нарач») // Асобы рознай пробы. С. 44.

[4] Гл.: «Нада мной дагарэла знічка…» // Евангелле ад Мамы. С. 388.

[5] Гл.: Белыя замовы; Следам Эклезіяста: Напіцца небу з рукі даць? (29.12.92, «Нарач») // Тамсама. С. 246; 21.

[6] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Урада РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

*Лявону Баршчэўскаму*

Лявон і плён даўно зарыфмаваныя
Нябёсамі, таму зарукай поспехі.
Крывіцкі род заручаны з пашанаю,
Бо, як маланка, не ржавеюць доспехі.
Няхай скарыніча вітае ўдача.
Шчаслівы й я — пад Полацкам Ушача.

*Наталлі Давыдзенка*

Наталачка, Наталачка!
Вясновая пратaлачка
Зімовага настрою.
Будзь і далей такою
І ў Новым годзе,
І ў стагоддзі.
Хай рыфма з думкай
Будзе ў згоддзе!

*Рыгор*

## 1993

*1 студзеня, пятніца*

Дзень добры, 1993! Май спагаду, маразі не на костку, пячы не на яблык, мачы не на мачонку, сушы не на бражджэль, новы тысяча дзевяцьсот дзевяноста трэці! Божа, дай затрымацца яшчэ на гэтай грэшнай. Дай здароўя маёй унучачцы Дамінічцы!

Хадзіў вітацца з вуліцай, з марозам. Сапраўды — каля -20°. Перапісваў верш, пачаты на Нарачы: «Плылі з блудадзейнага Рыма…»[1] З багаславення Васіля Сёмухі пачынаю па-свойму перачытваць кнігу Прыпавесцяў Саламонавых. Таксама, мяркую, як і Эклезіяста, рабіць трохслупковікамі. Памер не абавязкова класічны, недзе з прыдыханнем, недзе са збоем, каб натуральна гучала.

* * *

На вачах у птушак усіх
Напінаецца сетка дарэмна.
Скаланецца крылаты слых
І аглухне страх пад'ярэмна.

Бо на тое яно і крыло,
Каб адмерваць вёрстамі волю,
Каб святло сябе набыло,
Каб было не цесна раздоллю.

І азіміцу, і ярыну
Птушка крыллем наўзмаш жагнае.
І на кожную пер'іну
Сум надзею мае ў выгнанні.

Хочацца зрабіць нейкую нізку ці нават кніжку. Сёмуха раіць яшчэ перачытаць вершавана апостала Паўла. Каб было дзве часткі з Веташковага запавету і адна частка з Маладзічковага. Наогул, як і ва ўсім, трэба тройца.

Дзякуй Госпаду, новы год пачынаецца з пісання. Яшчэ верш: «Я царкву сваю ў душы нашу…»[2]

---

[1] Гл.: «Плылі з блудадзейнага Рыма…» (1.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 348.
[2] Гл.: «Я царкву сваю ў душы нашу…» (1.01.93) // Тамсама. С. 289.

*2 студзеня, субота*

Мерз ахвотна, бо даўно забыўся, што такое натуральны — не з халадзільніка — мароз. На марозе чамусьці лезла ў галаву, што сэнсава аднакарэнныя і сцяг, і сцяжына. Сцяжок, сцяжынка. З Саламонавых Прыпавесцяў: «Страх Гасподні — мудрасці пачатак»[1].

*3 студзеня, нядзеля*

У «ЛіМе» артыкул Акудовіча[2]. Журналістыка з ілбом філосафа. У адным шэрагу — і толькі двое — Багдановіч і Разанаў[3]. [...] Разанаў — гэта Кашпіроўскі[4] ў паэзіі. Хочацца быць незразумелым там, дзе ясна, што ні вобраза, ні думкі, ні мовы. Моладзь выступае супраць абоймаў і на гэтае мейсца ставіць свае мурзатыя абоймачкі. Мышленне культаўскае. Па генах перадалося.

«Сябе не шукай у хлуддзі...», «Прыемна гусці ў канюшыне чмялю...»[5]

*4 студзеня, панядзелак*

Розны клопат з квартплатай, на працу. Б. ніяк не можа ўтаймавацца, што ў Быкава тыражы, і нават у Шамякіна. Валявым рашэннем на першы том трохтомніка далі 6 тыс., а заказалі ледзь на дзве тыс. [...]

«Праб'ецца трава з-пад лаўжоў глухіх...»[6]

*5 студзеня, аўторак*

У рэдакцыю заходзіў [...] Б. Ужо ва ўсім росквіце хваробы Мележа[7] — ён пуп Сусвету. Заходзіў Вярцінскі, як я і думаў — Ніл зайздросціць выданню кнігі Вярцінскага. Яшчэ адзін прэтэндэнт у неўміручыя, як Ленін. У «Звяздзе» выдатнае інтэрв'ю Васіля Быкава. Відэацэнтр.

---

[1] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Страх Гасподні — мудрасці пачатак (2.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 22.

[2] Акудовіч Валянцін Васільевіч (н. 1950), беларускі філосаф, паэт, крытык. У 1991–1999 гг. 1-шы нам. галоўнага рэдактара газ. «Культура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2001).

[3] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1992–1994 гг. супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990).

[4] Кашпіроўскі Анатолій Міхайлавіч (н. 1939), расійскі псіхатэрапеўт, вядомы з 1989 г. дзякуючы папулярным перадачам тэлебачання.

[5] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Сябе не шукай у хлуддзі...; Прыемна гусці ў канюшыне чмялю...»(3.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 22; 23.

[6] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Праб'ецца трава з-пад лаўжоў глухіх... (4.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 23.

[7] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

«Хоць сплывае багацця дым...»[1]

*6 студзеня, серада*

На працы Сёмуха крыху адзначаў прэмію[2]. Вечарам званіў Васіль, віншаваў з Калядамі. Для Рэма пераклаў Пушкіна: «Ачахлае гадоў шалёных зелле...»[3] І ў святы вечар ступаў у след Саламонавых Прыпавесцяў[4].

На працы Дрозд расказваў, як на елцы маленькі прачытаў па памяці вершык: «Бегаў зайка па мяцелі — Ў яго яйцы адляцелі». Уся зала легла. Народ умее ўсё.

Напісаў невялікае слова пра Веру Вярбу ў «Беларусь». Папрасіў галоўны рэдактар. Вера паэтка і асоба па-свойму цікавая.

*7 студзеня, чацвер*

Дамінічка робіцца балбатлівай і дужа пацешнай. Крыўдзіцца: «Мядзведзь мяне прымушае выць, а я ж не мядзведзь, як жа я буду выць».

Цэлы дзень пісаў на матывы Саламонавых Прыпавесцяў[5].

*8 студзеня, пятніца*

Дамінічка паведаміла: «Мне любіцца гуляць з вадой».

Ізноў Саламонавы Прыпавесці[6].

*9 студзеня, субота*

Сойм БНФ у ліцэі. Перад пачаткам Зянон чытаў віншавальныя тэлеграмы. Павіншаваў мяне са званнем. Уручыў білет сябра БНФ за № 9. Я ўсцешаны білетам. БНФ мне падабаецца, бо гэта адзінае згуртаванне шчырых беларусаў, якім баліць беларускасць найперш. Як заўсягды бліскуча казаў спадар Зянон, Хадыка, Заблоцкі[7] (наш бязмозглы для людзей і дужа разумны для сябе ўрад узяў у здзірцы Расіі 110 млрд тэхнічнага

[1] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Хоць сплывае багацця дым... (5.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 24.

[2] В. Сёмуха быў удастоены Дзяржаўнай прэміі РБ.

[3] Пераклад верша А. Пушкіна «Элегія».

[4] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: І была прамудрасць пры Гаспадары...; Сэрца ведае гора сваёй душы... (6.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 24–25.

[5] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: У вясну вадаспадам абрынуцца хоча раўчак; Страх ступае па сэрцы, як мядзведзь па ламу; Сонцу кланяецца каравай; Ластаўка ласкаю гнёзды ўе (7.01.93) // Тамсама. С. 26–27.

[6] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Не глядзі на віно, як яно чырванее...; Перавысіць не пніся высі...; Пажадай працы ворага — спору...; Ідзі ў нябыт, як не сваёй хадой...; Хоць спадзе з абрысаў імгла...; Каб след твой не перапаўзлі вужы...; Да багацця бяжыш, чалавеча... (8.01.93) // Тамсама. С. 28–31.

[7] Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1939), беларускі навуковец. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС 12-га склікання. Кандыдат тэхнічных навук.

крыдыту, пусціў абы куды, цяпер на шыі ўсіх гэты крыдыт), Вячорка, Барщчэўскі, Навумчык. З Марачкіным сядзеў, жартавалі пра *П*укчына[1], што мазгі ў яго не адбярэш, чэрап не праламаўшы. Букчын на *поц*ступах, чытаць «Еврейское время» не*бук*чыма.

Для Лукашука пераклаў мандэльштамаўскі радок «Власть омерзительна, как руки брадобрея» так: «Улада гідкая, як рукі брадабрыя». Тут след было захаваць старaславянізм.

Увесь час выступаў з прычыны і без дай-прычыны Трусаў — народны трыбух. Ад Ніла навучыўся слухаць сябе.

Вечарам зноў за Саламона[2].

[Аўтограф А. Марачкіна:]

*Рыгору Барадуліну*

На радасць, а не на гора
Расціла Маці Рыгора.
Расцілі вятры яго поля…
Вайны невыносная доля.
Гукаў ён Радзіму, Куліну
У тую цяжкую хвіліну.
І вырас дубок, не зламаўся,
Ніколі свайго не цураўся.

*9.01.93 г. А. Марачкін*
*Сойм БНФ*

*10 студзеня, нядзеля*

Званіў Васілю, пераказваў сойм. Званіла Айзенштадт[3]. Заўтра пойдзем глядзець фільм пра Белавежу.

І зноў Саламон[4]. Цытаты, вольна пададзеныя, трэба будзе набраць курсівам.

*11 студзеня, панядзелак*

Праца. На Берсана ў кавярні «Дойлід» вечар вязняў гета. Яшчэ захавалі весялосць. Нацыя з будучынёю. Як у Дукоры селянін сказаў: «Вораг

---

[1] Букчын Сямён Уладзіміравіч (н. 1941), беларускі пісьменнік, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1972). У 1992–1995 гг. рэдактар газ. «Европейское время».

[2] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Рака жыцця не прывыкла паказваць броды; Лыжка драмаць не павінна ў дармовым супе (9.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 32.

[3] Айзенштадт Галіна Іосіфаўна, беларуская журналістка.

[4] Гл.: Следам Прыпавесцяў Саламонавых: Нічога не забываецца ў злапомлівым свеце; У шчасці розныя, роўныя ўсе ў бядзе…; Не мяняй свой куток на прастору чужую… (10.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 33–34.

угноіць зямлю, але ўраджаю не здыме». Краснапёрка[1] добра сказала. Калі памагаў апранацца: «Будзь маім люстэркам».

Васіль пра Сачанку ў сувязі з новай пасадай[2]: «Ён гэтак усё пра ўсіх ведае, што яму толькі й працаваць ці ў КДБ, ці ў Энцыклапедыі».

*12 студзеня, аўторак*

*Ушача.* З Сяргеем Пятроўскім[3] да Марыі Рыгораўны. Будзе фільм пра яе. Пятрок як заўсёды п'яненькі. Марыя Рыгораўна йдзе ўніз. Худнее. Гарбее. Кручэе.

*13 студзеня, серада*

На відэацэнтры з Галінай Айзенштадт глядзелі «Белую вежу». Цікава, што на Вальеху[4] няма тыражу, а Бутэвіч даў указанне зрабіць Б. 9 тыс., а заявак на дзве. [...] Валя расказвала, што малы Васілёк Зіны Дзямешка[5] з «БелЭ» (яму 5,5) прыйшоў з садка, дзе нейкі мой верш чыталі, і маме расказаў: «А ў Барадуліна пад жыватом дуліна». Народ ведае, калі вершыкі складаюць. Мяне гэта расчуліла. Цікава, што ў песні «Сама пайду дарогаю, голас пушчу дубровую», як у кіно, голас асобна запісаць можна, а відэашэраг асобна. У Максіма Багдановіча пры ўсім класіцызме рыфма: *вецер — веер*. Наперад паказваў дарогі беларускай рыфме. Бо геній.

*14 студзеня, чацвер*

На *Вузду. Магільнае*. Казачніца, скакуха, пяюха Лідзія Васілеўна Цыбульская. Муж Мікалай Канстанцінавіч выкладае ў школе працу. Робіць дачцы мэблю. Крэслы, столік. Як цацачкі. Расказвала казкі, пяяла песні. Абое на чысцюткай беларускай мове гавораць. Поруч з хатай на ўзгорку Нёман. Сапраўды хатняя рэчка.

* [Запісы за Л. Цыбульскай:] «К вашаму прыезду зубы выкінуліся. І вышыванкі мае, і гафтаванкі мае. Па праўдзе трэба рабіць. Трэ, каб вы былі за рукамі, на ўсім гатовым. Мая мама валачэбных катоў назбірала, а-ей, як вясёла было! Маладая яшчэ, да замужы. Як налёг, забраз мяне ў райком. Мне яшчэ на абдум далі год. І дом, а не адчуваеш, што замужам. У мяне бацька быў спявака добры. За стрыплі (плечы) закінула. Была

---

[1] Няхамкіна Анна Давыдаўна (псеўд. Краснапёрка; 1925–2000), беларуская пісьменніца, публіцыст; былы вязень Мінскага гэта.

[2] Б. Сачанка быў прызначаны гал. рэдактарам выд-ва «БелЭ».

[3] Пятроўскі Сяргей Уладзіміравіч (1937–1999), беларускі кінааператар і рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. З 1965 г. на Кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981).

[4] Вальеха С. Чорныя геральды. Мінск, 1993. Пер. Р. Барадуліна. *Вальеха* Сэсар (1892–1938), перуанскі паэт, драматург.

[5] Дзямешка Зінаіда Г., навук. рэдактар выд-ва «БелЭ».

гушкаʹнка ў хаці, як сталі гуʹшкаць, пасадзіўшы на гушкаʹнку. Ягад чуць не поўны кашэлік, а мы дазбірваем. Яна яшчэ дазбірвае тыя ягадкі. Выйшаў на двор, цікуе ў тую вёску, адкуляй яна. Іх разматлашыў на кускі».

*15 студзеня, пятніца*

Праца. Серафім [Андраюк] увёў у рэдкалегію «Скарбаў [сусветнай літаратуры]».

*16 студзеня, субота*

Міколу Чарняўскаму[1] — 50. […] Вечарам у Міколы. Па-хатняму цёпла, забыта, а таму асабліва міла, па-правінцыйнаму непасрэдна і ў тостах, і ў песнях, і ў скоках.

Званіў Васіль. Ягоны аптымізм: будзе кепска і дужа кепска, а ў людзей яшчэ горай, ні хлеба, нічога, і вайна ў дадатак.

Пачаў Следам Апостала Паўла[2].

*17 студзеня, нядзеля*

Сядзеў дома. Пісаў верш пра Даменіку ў [час.] «Пралеску». Раніцай запытала ў кошкі: «Кім ты будзеш быць?» Баба адказала, што ўрачом, бо кіпцямі робіць ўколы. Даменіка сказала, што будзе выхавацелькай.

Званіў Тарас. Вова Карызна[3] ходзіць збірае подпісы за далучэнне да бондараўскага чарнасоценна-кэдэбісцкага саюза. Блізнюкі-браты: партыя і КДБ не спяць. Усё ставіцца на ранейшыя рэйкі прадумана. Каманды з прастольна-лапатнай ідуць.

Зачытваюся апосталам Паўлам. Машыністкі часам лепшыя паэткі. Вычытваю слова пра Юрася Свірку, замест *першасцежкі* надрукавана *вершасцежкі.* Хай так і будзе! «І сашчэпіць нячысцік зеўры…»[4]

*18 студзеня, панядзелак*

Праца. У новай змены свае праблемы. […] Пішу Следам Апостала Паўла[5].

---

[1] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. З 1989 гг. літ. рэдактар час. «Вясёлка».

[2] Гл.: Следам Апостала Паўла: Не верце ні лёсткам, ні брэху… (16.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 35.

[3] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–2001 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[4] Гл.: Следам Апостала Паўла: І сашчэпіць нячысцік зеўры… (17.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 35.

[5] Гл.: Следам Апостала Паўла: Азёры ніяк не развесці вінамі…; Потым прыходзіць тугапарадніца…; Дораг цень свой кожнаму дрэву…; Покуль пчол руплівых гуд не астыг… (18.01.93) // Тамсама. С. 36–38.

*19 студзеня, аўторак*

Кепскі стан. Галава, як звон, на кавалкі развальваецца. Пісаў Следам Апостала Паўла[1]. Адзін верш яўна не ўдаўся. І працаваць не варта.

*20 студзеня, серада*

Лятучка. Гаварыльня. Вальеху трохі тыражу збіраецца. Трэба прадмову да выбраных перакладаў Уладзімера Дубоўкі. Зраблю. Ён варты ўсякае пахвалы і ўхвалы.

Зноў следам Апостала Паўла[2].

*21 студзеня, чацвер*

Паўдня аббегаў, шукаючы, дзе можна зрабіць ключы. Нідзе. На працу. Сёння віталі лаўрэатаў. З-за […] Грахоўскага не пайшоў. Добра гучыць *целабіржа — бардак.* «Кожны лёсу дагадзіць стараецца…», «І калі аб крэмень спатыкнецца крэсіва…»[3].

*22 студзеня, пятніца*

На працу. Адпрасіўся ў Андраюка, каб не быць на лятучцы ў сераду. Еду з кіношнікамі на Браслаўшчыну, дзе на сорам мой ніколі не быў. «Відаць…»[4]. І зноў Следам Апостала Паўлы[5]. Званіў Васіль. Трэба паслаць ліст у падтрымку Аскоцкага[6] супроць […] Бондарава.

*23 студзеня, субота*

Раніцай аб'ездзіў майстэрні, каб зрабіць ключ. Глуха. Да поўначы дачытваў апостала Паўла. Усё-ткі трэба новы пераклад, сёмухаўскі. Бо асабліва Паўла перакладзены недакладна, з расейскай мовы, некалькімі чалавекамі, тэксты не зведзены. Шмат адсябяціны. Словы выдуманыя не ў законах мовы. Прыйшло ў галаву, што расійскае *чтиво* льга перакладаць як *чытаніна.* Усё-ткі зноў вярнуўся да аднаго верша з Апостала. Замяніў памер. І, здаецца, па-людску загучаў. Бо было шкада асобных радкоў[7].

---

[1] Гл.: Следам Апостала Паўла: Хоць прысак у прыцемку не атух… (19.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 38.

[2] Гл.: Следам Апостала Паўла: Спрадвечнасць вымяраецца гадамі; Святло аж лілося ў Тварца з вачэй… (20.01.93) // Тамсама. С. 39.

[3] Гл.: Следам Апостала Паўла: Кожны лёсу дагадзіць стараецца…; І калі аб крэмень спатыкнецца крэсіва… (21.01.93) // Тамсама. С. 40.

[4] Гл.: Відаць… (22.01.93) // Тамсама. С. 351.

[5] Гл.: Следам Апостала Паўла: Каму салодка і ў палыне… (22.01.93) // Тамсама. С. 41.

[6] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (1931–2010), рускі крытык, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1968).

[7] Гл.: Следам Апостала Паўла: Не ўзірайся на свет варожа… (19–23.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 41.

Што датычыцца Зянона,
Тут ён — белая варона.

*24 студзеня, нядзеля*

Хоць трохі снегу выпала. Але на душы мокра. У «Вожык» на Марыю Захарэвіч[1]. Яшчэ верш Следам Апостала Паўлы[2]. І колькі цеплыні ў Другім пасланні Паўлы да Цімахвея (4, 13): «Плашч, што пакінуў я Троадзе ў Карпы, ідучы, прынясі, дый кнігі, асабліва скураныя». Фраза, як залатыя зáшчапкі на старадаўняе кнізе. Альбо колькі чалавечнасці: «Дый не пі адну ваду, але ужывай крыху і віна дзеля жывата твайго і частых тваіх недамаганняў» [1 Цімафею, 5, 23]. Лепей было б *немачы* ці *недалугаў.*

«Маці наша», «Каб светла стала, так трэба мала…»[3].

*25 студзеня, панядзелак*

Праца. Заходзіўся Васіль. Яму дасюль не могуць знайсці канцоў з грашыма, выдавецтва перавяло, а ў касе няма. Быў Карлас. Наконт абароны Алексіевіч. На яе «афганскія» маці падалі ў суд. У «Маладосць» занёс слова пра Юрася [Свірку]. Вечарам колькі слоў пра Васіля ў Нобелеўскі камітэт. Чытаю па тэлефоне Васілю. Кажа, што гэтак цёпла пра яго ніхто не пісаў. І тут жа дадаў: «Гэта дужа згадзіцца… на некралог». Васіль у сваім характары. Унутрана трымтлівы, а вонкава суровы. Сам сябе трымае ў чорным целе. Каб не расслабіцца, не размякчэць.

«Адна ў небыццё і ў быццё дарога…»[4]

*26 студзеня, аўторак*

Выезд з відэацэнтрам. *Вілейка.* Цікава, што мясцовыя кажуць Вялейка. У вёску *Пýтрычы.* Балцкі корань у назве. Цымбаліст Іван Іваноў сын Узгорак. Упершыню чую такое прозвішча. Цымбаліст. Самаробныя цымбалы. Арганнае нейкае гучанне. Жонка ягоная, калі разгаварыліся: «У Расіі такая галайстрá» (голь). У вёсцы Тáлуць танцуюць танец «ліцьвін», скачуць «ліцьвінá». З прадаўніны. Жонка Узгорка: «А то сяджу як абух». У Талуці Дом культуры, як музей. Былы маёнтак. І дыванкі, і посцілкі саматканыя. Пра нейкую кажуць: «Добрая жанчына, але п’яню́ля». Пачалі трапаць лён. А мне мама прыгадалася. І рукі ейныя. Вурчыць калаўрот, прылада сукáць цэўкі. Трэплюць *рутку* (пасму). Цікава рыфмуе

[1] Захарэвіч Марыя Георгіеўна (н. 1936), беларуская актрыса; выкладчык. Прафесар (1999). З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984). Гл.: «І камісаршаю была…» (24 .01.93) // Асобы рознай пробы. С. 16.

[2] Гл.: Следам Апостала Паўла: І адплыве ад берага спагады… (24.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 42.

[3] Гл.: Крывічанка; «Каб светла стала, так трэба мала…» (24.01.93) // Тамсама. С. 95; 389.

[4] Гл.: Следам Апостала Паўла: Адна ў небыццё і ў быццё дарога (25.01.93) // Тамсама. С. 42.

народ: «А мяняла сваю долю тры разы на тую п….лю — на сваю матулю». Брахуха настаўніца паўтарае: «Ё бліны!»

* В. Быкаў: «З гадамі болей цэніш добрую пагоду і лагоду душэўную, нячым барацьбу».

*27 студзеня, серада*

Вілейка. Ціхі зімовы дзень у мястэчку. Насупроць гатэля касцёл і царква. Каля царквы абавязкова чортава кола. Камсамольска-кэдэбісцкія мазгі. Спытаў у дзядзькі, дзе аптэка, павіталіся, нават парукаліся. Растлумачыў. Касцёл зноў аддалі вернікам. Яшчэ крыжоў няма. Забыта-спакойны рытм. У крамах і нічога няма, і нешта ёсць. Захаваліся кавалачкі вуліц старых. Саветызацыя ўсё знішчыла. А якія маглі быць у нас мястэчкі. Гэта тыя ж самыя маленькія гарады Еўропы. Бо мы ж не маскалі-лапцюжнікі.

І ў Вілейцы апостал Паўла са мной[1].

*28 студзеня, чацвер*

*Паставы. Вёска Камáі.* Каменны крыж XVI ст. З ялінкай у сарцавіне. Манументальна-абарончы касцёл Іаана Хрысціцеля (1603–1606). У сцены клалі ядры са шведскае вайны. Літоўская застава. Не пусцілі да святога каменя. Давялося ў аб'езд.

Вёска *Каптарýны.* Лес. Вывараці. Балаціста. Дзюравы камень. У ім заўсёды вада. У засуху бралі адсюль ваду і выклікалі дождж. У каменнае пазусе манеты. Ахвяры і іншыя прыносілі. Непадалёк ёсць яшчэ Шчапáны камень. Нібыта шчапалі, калі брук клалі. І наогул сістэма камянёў. Касмічная арыентацыя.

[Вёска] *Лы́нтупы*. Корань балцкі *ире* — рака. Трэба паглядзець *лынт*. Нас суправаджае энтузіястка беларускасці Таццяна Гвідонаўна Гарошка (у дзявоцтве Татарчук). Да халасцяка (яму пад 80), арганіст, робіць пудзілы. Прыносяць паляўнічыя. Распавядае пра кожную. Сава трапіла ў капкан. Куніца перабягала дарогу. Трапіла пад колы. Пачаў з маленства. Ляпіў птушак з гліны. Галубінае пер'е знаходзіў ля касцёла. Устаўляў хвасты гліняным птушкам. Пяе для нас польскую песню шлягернага плану і па-расійску ў нейкім перакладзе. На развітанне частуе. Гарэлка. І нешта моцнае, закрашанае. Спірт, відаць, кажа, што міліцыянты прынеслі. Ян Янавіч Карэйва (папярэджвае, што ён не Іван Іванавіч, кажа, што папольску прозвішча праз два *о*. Пра ксяндза, здаецца, Яна, што збагдарыў старыя абразы пяцівяковай даўніны. Гэты ж ксёндз у Паставах (кажа Таццяна) у казані крыўдзіўся, што яму без чаргі не далі булачку. Намякае арганіст, што ксёндз прысланы недзе ў 84-м з Масквы, яўна ж кэдэбіст.

---

[1] Гл.: Следам Апостала Паўла: Калоссе араллю скасоўвае...»(25–27.01.93, Вілейка); Да дня бяжыць прывітаць дзяннік... (27.01.93, Вілейка) // Евангелле ад Мамы. С. 43.

Вёска *Мягу́ны*. Станіслаў Валяр'янавіч Высоцкі. «Са старой. … Састарэлі, жыць некалі. *Курштэ́нім* са сваёй старой. Слаба зрабілася, аж хіляюся. Ветр вялікі, зімна…» Гаспадыня пытаецца: «Можа, лепшае святло ўключыць?» Пытаюць у спадара Станіслава, што яму падабаецца. «Баба мая… Жыццём дадзена, але адабрана. Усё гэта баба павыткала. Выбраў з цэлай вёскі лепшую…» На пытанне: хто ён — беларус ці не? «Калі маладзейшы быў, дык палякам пісаўся. Бо 4 класы польскай школы. І жонка таксама…» У нас ніколі не было сваёй школы, то палякі, то маскалі, як у мяліцы лён, мялі крывіцкую душу. Каланізатары ведаюць, з чаго пачаць. Гаспадар пляце капялюш: «Цяпер няма добрай саломы. Яна павінна жжацца ўручную. … Трэба салома роўная, а то адна грубая, а другая ценькая. Малаточкам выпрасолівасць. Калі ўбіралі шнуравое, зямля шнуркамі была падзелена. Снапы на плечы — акоцце (асцюкі) сыплецца, дык у капелюшы зручна. Сена сенаваць таксама. Суседзі, знаёмыя сыйшлі з гэтага свету, пайшлі лепшага шукаць. Нас завуць, але ўпіраліся-ўпіраліся дый ўпёрліся».

*29 студзеня, пятніца*

У гатэлі няма святла. Лямпу ледзь знайшлі, бо няма лямпачак. Узялося на мароз. Вёска *Цёплыя [Кадукі']*, якраз на сцюжу. Шурпік Сяргей Анатольевіч, хоць па пашпарце Арсень. Малюе дыванкі, малюе на шкле. Насычаны зялёны колер. Фарбы былі яшчэ з Германіі. Ваяваў. Старая сказала добрае слова — *засуве́нь,* што засоўваюць — печку, грубку … днішочка, што крышы́ць… таўкучка, што камы таўчы… На развітанне пажадала: «Шчасліва вам і ў дарозе, і ўсюдых!» Падвезлі старую ў краму і назад. У маладога каваля (Ілонкін аднагодак, здаецца) — Юры Фурс. Бацька прыйшоў — Антон Фурс, за беларускасць з жонкай сядзеў з 47-га па 56-ты. Жонка запрашала і жартам спытала, як я апынуўся ў гэтым ГКЧП. Прасіла, каб Ул. Арлоў адаслаў назад даведкі, што на рэабілітацыю, бо трэба пенсію афармляць. Копіі не прыдатныя. З цёмным дасталіся ў *Браслаў.*

*30 студзеня, субота*

*Браслаў.* Ціхі куточак. На возеры вароняцца рыбакі падлёднага лову. Як цацачка, драўляны музей. Малады хлопец шчыры беларус. Аж душа адтае. Вёска *Лабу́цеўцы*. Рэгіна Вінцэнтаўна Важнікоўская. Выдатна баіць казкі. Прадзе на калаўроце бурачнага колеру лаўсан. Кажа, што на лаўсане лягчэй навучыцца прасці. Мова выдатная, крывіцкая. Яшчэ захавалася. Ды ўсё знікае. Відаць, баліць галава звечарэламу ляску ад тлуму варання.

[* Запісы за Р. Важнікоўскай:] «Шафа яшчэ купляная, мая дзявоччына. Добра, што плітачку змуравалі. А во абадва сыны. Даўней на папра́духах сядзім, каб кудзеля віда́лася, сяджу за калаўротам. Ці раблёная, ці куплёная цадзілка як зрадзеіць, я яе тады на анучку. Лаўсан куплёны, бо няма фарбы. Адна авечка, бо пашы німа, німа дзе пасвіць. Пра белага лася і басня ўся, — слухаюць унукі. Як пасадзіў дзед з бабай бабінку́ і гарашчынку́, рассунулі столь, рассунулі крышу, аж у неба лезлі-лезлі і зваліліся. І сягоння іх костачкі блішчаць на марозі. Каза асобна жыла і поўная вуліца малачка, поўныя рожкі тваражка. Кавалёк дарагі, скуй мне тоненькі галасок. У захалусці сядзём, людзей не бачым».

*31 студзеня, нядзеля*

З раніцы ў гатэлі шум. Усе на базар. А там усё даражэй удвая, чымся ў Менску. Калі дадаць, што нічога няма. Ад’езд. У Паставах да маладзіцы, якая яшчэ пячэ баранькаў, буслоў, зайчыкаў. У кавярні прашу лыжку. Кажа: «30 рублёў». Думаў, жартуе, а яна: «Гэта залог». Бо лыжкі крадуць. Наогул, Паставы ўнікальны куток. Уплыў вайсковых і сваіх манкуртаў. Дэпутат Вярхсавета Чэпік[1] сказаў не спяшацца з беларускай мовай. «Яшчэ паглядзім, што будзе». У аддзеле культуры падрыхтавалі даведку на роднае мове, намесніца галавы раёна (была Фердынандаўна, стала Фёдараўна) запатрабавала перакласці на мову партыі. Асвятляльнік з Міра наш не зусім забыўся мову: «... На́лыса састрыглі... Труціць (калі манета залатая з выцягнутым нутром) ... У яго няма мяса на галаве... *Лясёнка* — пасцілка, хуста і рагі завязваюцца ў залежнасці ад патрэбы ці сена, ці на грыбы... Пад’язджалі пад Заслаўе». «Не чуе...»[2]

Ледзь зайшоў дадому — адразу стала цёпла. [...] Званіў Васілю. У «Звяздзе» 100 так званых членаў СП падпісалі зварот, што хочуць у бондараўскі саюз. Васіль жартуе, што такімі партыямі не варта засвячаць камуністаў і стукачоў, хоць гэта адно і тое ж. На пачатку спіса Танк і Шамякін. Нават [...] цэкоўскі Прыгодзіч[3]. Званіў Сёмуху. Ён мне даў цудоўны эпіграф з апостала Паўлы. Якраз да беларусаў стасуецца: «Бо вы, людзі разумныя, ахвоча церпіце неразумных, вы церпіце, калі хто вас паняволівае, калі хто вас аб’ядае, калі хто вас абірае, калі хто вас за нікчэмнасць мае, калі хто б’е вас па твары» [2-е Карынфянам 11, 19–20]. «Суцеха»[4].

---

[1] Чэпік Васіль Васільевіч (н. 1948), дэпутат ВС 12-га склікання (1990–1995).

[2] Гл.: Не чуе... (31.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 354.

[3] Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч (н. 1944), беларускі пісьменнік. Кандыдат філасофскіх навук (1984). У 1992–1996 гг. гал. рэдактар час. «Гаспадыня». Заслужаны журналіст РБ (2002).

[4] Гл.: Суцяшэнне (31.01.93) // Евангелле ад Мамы. С. 84.

*1 лютага, панядзелак*

На працу. Эпіграф: «Трыкірый…»[1] Званіў Сяргей Пятроўскі. У сераду трэба ехаць у Вушачу. Здымаць Марыю Рыгораўну.

*2 лютага, аўторак*

На працу. Заходзіўся Кастусь Цвірка. Ён прапанаваў даць «Трыкірый» у 7-мы «Полымя».

Званіў Васілю. Ён зноў казаў, што засвяцілася столькі стукачоў у лісце 100 ў «Звяздзе». Чыгрынаў у калідоры Дома кнігі тлумачыў, што яму трэба выхад друкавацца па-расійску. Як быццам бондараўцы дапусцяць каго.

Яшчэ Следам Апостала Паўла[2].

3 лютага, серада

На *Ушачу!* У велізарнай дрогкай машыне дамоў. З Пятроўскім. Да Марыі Рыгораўны. Яравыя яблыкі.

Следам Апостала Паўлы[3].

*4 лютага, чацвер*

Ушача. Запісвалі Марыю Рыгораўну. Вечарам гутарка з Іванам Роўбам. Уночы сніўся Міхась Стральцоў. Следам Апостала Паўлы[4]. За Марыяй Рыгораўнай запісваў… Яравыя яблыкі…

*5 лютага, пятніца*

Запісвалі Марыю Рыгораўну. Кадры на дзянніку. З казой, з курамі. На фоне разбуранага касцёла. З Іванам Роўбам на магільнік да мамы. На колькі хвілін да старшыні савета Барунова Івана Іванавіча[5]. У камсамоле, здаецца, не працаваў, а ўсе замашкі да вонкавага выгляду камсамола-[…]. Усе ўшацкія кручкі[6] кінуліся будаваць катэджы, укладваць грошы ў маёмасць. Ад'езд.

---

[1] Гл.: Трыкірый: Следам Эклезіяста; Следам Прыпавесцяў Саламонавых; Следам Апостала Паўла (1.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 6.

[2] Гл.: Следам Апостала Паўла: Валоў ацішаюць ярмом і пашамі (2.02.93) // Тамсама. С. 44.

[3] Гл.: Следам Апостала Паўла: У зацьменне свядомасці… (3.02.93, Ушачы) // Тамсама. С. 44.

[4] Гл.: Следам Апостала Паўла: Пакіне адчаю жыццё… (4.02.93, Ушачы) // м. С. 45.

[5] Баруноў І. І. (н. 1952), у 1989–1991 і (з перапынкам) 1991–1996 гг. старшыня Ушацкага раённага Савета дэпутатаў.

[6] Рыгор Іванавіч казаў, што ў даўнейшыя часы ўшацкія ўсіх чыноўнікаў празывалі кручкамі.

*6 лютага, субота*

З раніцы хадзіў атаварваць талоны. Маразок падціскаў. Слізгавата, але бадзёра і крамяна. Дамінічка расце. Гаваруха, балбатуха, шчабятуха. Ні хвіліны ўседу няма. Як званочак звініць у хаце і ў сэрцы.

«Дым»[1].

*7 лютага, нядзеля*

Хварэю. Схапіла жывот. Нічога не хочацца робіць.

*8 лютага, панядзелак*

Праца. Званіў Васіль. Прыехалі Драч[2] і Паўлычка[3]. Сустрэча ў саюзе. Гэта, каб пакрасавацца Нілу як дзярждзеячу. Не пайшоў. Украінскія дэмакраты спрытнейшыя за нашых — ухапілі болей. «Самоту ўзаруць домыслу лемяшы»[4].

Успомнілася, што Юрка Броўкаў[5] патрабаваў музей ў Пуцілкавічах змяніць экспазіцыйна, зменшыць бальшавіцка-савецкі ўхіл. Дык той жа Роўба сказаў: «Мы ж не можам з Петруся Броўкі зрабіць святара». Партыя ж усё яму дала, і ён партыі слугаваў верна на ўвесь талент, які меў. Я магу толькі засведчыць, што Пятрусь Броўка заставаўся беларусам, які рупіўся пра беларушчыну, жагнаючыся партбілетам. Гэта не Глебка[6], які прапіў і мазгі, і ўсю беларускасць.

*9 лютага, аўторак*

З раніцы да абеду ўстаўлялі замок з Уладзімірам Ролічам[7]. На працу. Грошы нідзе не даюць. Як пачынаў жыццё са страху голаду, так і заканч-

---

[1] Гл.: Дым (6.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 374. Верш прысвечны М. Р. Трафімавай.

[2] Драч Іван Фёдаравіч (1936–2018), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

[3] Паўлычка Дзмітро (Дзмітрый Васільевіч; н. 1929), украінскі паэт, перакладчык, крытык, палітычны дзеяч, дыпламат. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя М. Астроўскага (1961), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1977). Герой Украіны (2004).

[4] Гл.: Следам Апостала Паўла: Самоту ўзаруць домыслу лемяшы (8.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 45.

[5] Броўка Юрый Пятровіч (н. 1936), беларускі вучоны-юрыст, выкладык; грамадскі дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1991). Прафесар (1993). У 1982–2005 гг. дырэктар Літаратурнага музея П. Броўкі. Сын П. Броўкі.

[6] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1957).

[7] Роліч Уладзімір Мікалаевіч, муж Г. Роліч. *Роліч* Галіна Васільеўна, у 1972–2002 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

ваю. Ніякой перспектывы. А яшчэ расце страх за Дамінічку. Як яна будзе без дзеда з бабай пры дурных бацьках. [...]

Працягваю Паўла[1].

*10 лютага, серада*

Праца. Званіў Васілю. Віншаваў Міхася Тычыну з 50-годдзем. Нідзе не даюць грошай. А нават няма заплаціць за тэлевізар пракатны. Пятля сціскаецца. Галеча. А з-за спіны назірае голад. Ён страшней за камуністаў. Учора для «Звязды» пераклаў Хаіма Нахмана Бяліка: «Схіленая галіна»[2].

*11 лютага, чацвер*

Дамінічка нешта накруціла ў «дыпламаце». Не адчыніць. А там частка новай кнігі Лявона Дранько-Майсюка. Ледзь не паўдня ўвесь Менск абышоў, пакуль адчыніў адзін умелец. Аж на вуліцы кэдэбіста Берута[3]. Заплаціў за пракат тэлевізара амаль 10 тысяч. Пакуль хадзіў, пісаў верш[4].

*12 лютага, пятніца*

Званіў Карлас. Наконт абароны С. Алексіевіч ад партхунты, якая ўчыняе суд над пісьменніцай. ПЭН наняў адваката.

Пазваніў Майсюку, каб выкупіў гарэлку па картках. Бо як быццам з 15-га ўдвая ўзрасце не ў моцнасці, а ў цане. Расчуліла ягонае шкадаванне, што трэба ісці да Ягоўдзіка, трэба падарунак на дзень нараджэння, а грошы ўвобмаль. Як у сапраўднага паэта ўсіх эпох і народаў. Успомнілася маладосць, хоць і пад старасць грошы не дужа дакучаюць мне сваёй прысутнасцю. Хадзіў па горадзе. Цэны растуць, толькі на вітрыны льга бясплатна глядзець. «Звыкаюць сівець аблачыны...»[5]

*13 лютага, субота*

Сойм БНФ. Адкрывае *Пазьняк*. Спавешчанне. «Адбылася сесія ВС — сесія тупіка. Усе пытанні правалены, акрамя рэанімацыі структураў КПСС. Дэградацыя і маральная, і палітычная дэпутацкага корпусу. Перспектывы для эканомікі Беларусі звузіліся да катастрофы. Закон аб прыватызацыі без зямлі не будзе дзейнічаць. Набліжаемся да расійскіх ваўчэраў. Напачатку наменклатура супроць Беларусі, напрыканцы перамянілася эканамічная палітыка — прыкрываючыся пераходам да рынку,

---

[1] Гл.: Следам Апостала Паўла: Не схаваць берагі ў асацэ (9.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 46.

[2] Гл.: Барадулін Р. Толькі б яўрэі былі!.. С. 80.

[3] Берут Баляслаў (1892–1956), палітычны і дзяржаўны дзеяч Польшчы. У 1954–1956 гг. 1-шы сакратар ЦК ПАРП.

[4] Гл.: Там, дзе Нёман б'е хвастом (11.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 165.

[5] Гл.: Пад ціхую старасць (12.02.93) // Тамсама. С. 393.

скупліваецца ўся маёмасць. Трэба рабіць радыкальныя крокі. Бо будзе развал дзяржавы. І на першы план выходзіць дыктатура, бо на арэну [выходзіць] крымінальны свет. Спроба прэзідэнцкай улады. У канцы сесіі — прэзідэнт усю ўладу выканаўчую, а парламент непрафесійны, як і цяпер. Маскоўскія камуністы палітыку гэтую вядуць. Ваенны саюз з Расіяй, каб стаць палігонам мілітарысцкае Расіі. Кітайская мадэль камунізму. Стаць калоніяй Расіі ўзамен гарантыі ўласнае ўлады. Наменклатура фактычна кіравала. Цяпер цвёрды курс на дыктатуру, легалізацыя адбылася. Час камуфляжу, дэмагогіі скончыўся. Народ прывык бачыць толькі рэзка акрэсленае чорнае ці белае. Камнаменклатура давяла народ да галечы, яны хаваліся за шыльду міфічных дэмакратаў. Задачы нашыя — асвятленне камуністычных наменклатуршчыкаў. Усе дэмсілы павінны аб'яднаць свае высілкі. Камуністы неўзабаве [узнімуць] пытанне пра маёмасць. Крок да грамадзянскае вайны. Уладныя структуры дэмаралізаваныя. Армія робіцца палітычнай сілай, армія палітызуецца. У нас палітызацыя чужой арміі. У любы момант падтрымае слабую наменклатуру. Нам трэба заняцца арміяй. Не дапусціць дыктатуры і палітызацыі войска. Мы не павінны дапусціць перадвайны, калі як авечак вялі ў Курапаты. Камунізм — гэта чума. У Еўропе не было дыктатуры камуністаў, там не знішчана 70 млн. Камуністы ў нас як антынародныя сілы аплёўваюць нашае этнічнае існаванне. Кароткі перыяд рэстаўрацыі старой ўлады».

*Лявон Баршчэўскі:* «Дзеянні наменклатуры з пазамежжам. Тэзіс двухмоўя, часова хаваюць. Сабатаж рэферэндуму. Ніводная расійская газета не спрыяла. Сабатырваны ўсе эканамічныя рэформы, у першую чаргу аб зямлі. Правальванне канстытуцыі адкрытае. Група «Беларусь» [кантактуе?] з Бабурыным[1] і іншымі. Стаўка на Кебіча пры слабым парламенце, думка пра пасаду прэзідэнта. Хай прэзідэнт, але размежаваць уладу. Кебіч распачаў кампанію. Трагічнасць фігуры Шушкевіча, у руках яго было не дапусціць аднаўленне КПСС, паўторыць лёс Гарбачова, толькі ў аперэтачным варыянце, бо за Гарбачовым былі ўсё-ткі пэўныя моцныя сілы. Стаўка на чужыя дзяржавы, на чужыя сілы. Канстытуцыя будзе прынята, але пад дыктоўку. Атрымаць прарасійскага прэзідэнта, каб знішчыць незалежнасць Беларусі як дзяржавы. Сам факт аднаўлення структур КПСС-КПБ — запалохаць правінцыю. Але сваёй палітыкай камуністы будуць сябе дыскрэдытоўваць».

*А. Трусаў:* «Камуністы пачнуць змагацца за маёмасць. І гэта добра, бо пакажа іх. Ужо ёсць у прэсе, што суды будуць прымаць іск на маёмасць. На Захадзе пытанне, ці ставіць на Расію і аддаць Беларусь і Украіну Расіі, ці падтрымаць БЧС. Звярнуць увагу на фармальныя адзнакі незалежна-

[1] Бабурын Сяргей Мікалаевіч (н. 1959), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1998). Заслужаны дзеяч навукі РФ.

сці, і ў тым ліку і на беларускую мову. У сакавіку возьмуць рэванш. Трэба вярнуць увагу й на этыкетку. Назвы вуліц, населеных пунктаў».

[Малюнак В. Быкава:] Гэта Васіль У. Быкаў паказаў, як выступае Трусаў, сядзіць Зянон.

*Сяргей Міхно:* «Прэса ўбіла ў галаву пра талерантнасць бел. народа, які працуе лепей, чымся іншыя, а б'юцца БНФ і камуністы. Асноўная небяспека не ад камуністаў-артадоксаў, ад мафіёзнай бізнес-наменклатуры, у якіх ужо мільярды. Станоўча [трэба ставіцца] да нацыянальнай буржуазіі, не апускацца да люмпенскага разумення ўсіх, хто сядзіць у крамах. Новая буржуазія антыбеларуская. Маёмасць набыла кражай. Валютныя крэдыты прапілі і праелі. Трэба і старшаму брату даць нешта ўкрасці на Беларусі. Да праблемаў людзей звярнуцца пільней. Трэба грамадскія аб'яднанні, каб супрацьстаяць мафіёзным структурам. Працаваць у кантролі за гандлем і саветамі з шараговымі камуністамі».

*Кастусь Лабко*[1]*:* «Чаму мы губляем аўтарытэт? Забыліся зрабіць псіхалагічны аналіз становішча. Чаму не прыходзіць народ на плошчу? Тварам да народа павярнуцца, бо на дэпутатаў і законы мала спадзяванняў».

*Сяргей Антончык*[2]*:* «Крытычныя заўвагі. Фронт стаў падобным да партыі. Наменклатура гэта адчула. Як нам вярнуцца ў народ, а не быць палітычнай сілай. Збіраць наклейкаў [?]— не самае важнае. Чаму «Грамада» з прафсаюзамі заігрывае, якая супроць Беларусі?»

*Малько [Вячаслаў Аляксандравіч]:* «Змяніць першапачатковы праект ухвал, падкрэсліць, што азначае моцная прэзідэнцкая і ўлада, і непрафесійны парламент, бо гэта не самастойная дзяржава, а пратэкторыя. Важнасць апазіцыі ў парламенце».

*Зданевіч*[3]*:* «Магчымасці працы апазіцыі вельмі слабыя. Удзел апазіцыі спрыяе легетымацыі большасці рашэнняў. Прыватызацыя зямлі ў гэтым парламенце не можа быць нармальнай. І апазіцыя спрыяла завалу пытання прыватызацыі зямлі. Гэтым ВС не можа быць прынята канстытуцыя. Апазіцыя колькасна зменшылася. Трэба мяняць тактыку. Адмежавацца ад таго, што робіцца ў ВС, бо ў апазіцыі няма ўлады».

*Віктар Івашкевіч:* «Адносіны з прадпрымальнікамі. Фронт замёр. Замкнуўся на апазіцыі. Прапагандысцкая праца згорнута. Раней наменклатура ўспрымала апазіцыю як сілу, за якой стаіць плошча, а цяпер як 10 % у парламенце. Прадпрымальнікі спалохаліся вяртання камуністаў, і прадпрымальнік можа падтрымаць БНФ фінансава».

---

[1] Лабко Канстанцін Мікалаевіч (н. 1946), беларускі навуковец. Кандыдат хімічных навук (1983). Выкладчык БДУ.

[2] Антончык Сяргей Антонавіч (н. 1957), апаратчык хімводаачысткі Мінскага вытворчага аб'яднання імя Леніна. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[3] Зданевіч Лявонцій Ульянавіч (н. 1955), беларускі архітэктар. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га скліканняя. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2004).

*Уладзімір Базан*[1]*:* «У Берасці актывізацыя камуністаў. Пытанне адраджэння газеты».

*Кулік:* «Усе, хто выйшаў з Фронту, мусяць аб’яднацца. Ісці ў народ. Магчымасць утварэння партыі, партыі адраджэння».

*Заблоцкі:* «У стратэгічным плане ўсё рабілі правільна. Не страціць патэнцыял рэспублікі, даводзіцца працаваць у кантакце з урадам. 280 млрд у Расіі за тры месяцы тэхнічнага крэдыту [атрымалі], ужо кожны і малеча па 28 тысяч [вінны] Расіі. Жыццё ў доўг. Цэны на энергарэсурсы да сусветных, а сельгаспрадукцыя ў 10 разоў меней. Падкормліваць рабочы клас за незапрацаванае. Не выкананы закон на размежаванне ўладаў. Палітыка сённяшняя прывядзе да знікнення рэспублікі як дзяржавы».

*Сяргей Навумчык:* «Ці не варта жорсткую апазіцыю з выхадам са структураў?»

*Голубеў:* «Прафсаюзы і камуністы трубяць, што яны, калі былі, клапаціліся пра народ. Вяртанне партыі КПБ-ПКБ і аблегчылі працу. Сітуацыя з канстытуцыяй. Не варта выходзіць з канстытуцыйнай камісіі. У красавіку КПБ хоча аднавіць СССР».

*Зянон Пазьняк:* Падвядзенне вынікаў. «Рэанімацыя КПБ. Праект КПБ на галасаванні не прайшоў. 171 голас, а трэба 173. Шушкевіч аж ускрыкнуў: «Ну, усё, панове!» Апазіцыя толькі ў кантрольных камісіях, а не ў структурах улады. З парламента не выходзіць. Гістарычны прыклад з Італіяй, калі прыйшоў фашызм. У нас пытанне аб існаванні. Скарачаецца апазіцыя, гэта натуральна, бо былі папутчыкі. Памылка Фронту — выхад з саветаў».

Аляксей *Марачкін*. Няма.

*Трыгубовіч*[2]*:* «Аргкамітэт па арганізацыі сустрэчы беларусаў свету. Аб перадачы паўнамоцтваў БНР ураду Беларусі. Заява «Бацькаўшчыны» ў ліпені — ініцыятыва склікання з’езда беларусаў свету. *Сукілойць*[3] з Амэрыкі за тое, каб БНФ сам склікаў з’езд».

*Зянон:* «Да 4 лютага іншая сітуацыя, а пасля злачыннай КПСС рэабілітацыі псіхалагічная сітуацыя змянілася. Як паводзіць сябе мусіць БНФ».

*Шаўцоў* (Вільня): «Камуністы легалізаваліся і ў Літве. Рэзка адмовіцца ад правядзення з’езда нельга. Трэба фестываль культуры замежжа».

*Марачкін:* «Ніякіх кампрамісаў з урадам. Аб святкаванні 75-годдзя БНР. План мерапрыемстваў 19 сакавіка. Акадэмія у СП. 21-га ўрачыстае шэсце. 23 -га — выстава. 24-га — Палац мастацтва, а 17-й выстава «Па-

[1] Базан Уладзімір Сяргеевіч (н. 1953), беларускі мастак, фотажурналіст. У 1989–2007 гг. гал. рэдактар газ. «Віцебскі кур’ер».

[2] Трыгубовіч Валянціна Андрэеўна (н. 1947), беларускі мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. У 1980–2002 гг. супрацоўніца час. «Мастацтва». Жыве ў ЗША.

[3] Памылкова, Шукелойць Антон Антонавіч (1915–2017), грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ЗША.

гоні». 25-га Тэатр оперы й балета. Мяркуецца выезд у Прагу. 27-га выезд у Вільню — помнік братоў Луцкевічаў[1]».

*Хадыка:* «130-годдзе паўстання 1863–64 года».

*Зянон:* «З'езд БНФ правесці 15–16 траўня сёлета».

*Бурак[2]:* Прапановы па структуры і зместу праграмы БНФ.

*Крукоўскі[3]* пра геральдыку.

*Зянон:* «Мне падабаецца, што шмат якія выступанты. Утвараюцца касты, якія замыкаюцца на сабе. Фронт расшыраецца ў перыяд грамадзянскай актыўнасці. Як сітуацыя стабілізуецца, прыхільнікі не прыходзяць. Заўсёды ёсць рэзерв прыхільнікаў. Партыя ствараецца па элітарнай сістэме, а ў Фронта іншыя магчымасці».

У першай палове доўгасядзення Васілю стала кепска. Навумчык давёз на сваёй новай японскай машыне, прыгнанай з Нямеччыны, да трамвая. Казаў Васілю, што купіў за 500 даляраў.

*14 лютага, нядзеля*

Крыху на вуліцы пабыў. Мяккі мароз. «Пачулася…»[4] І яшчэ адзін верш напісаў Следам Апостала Паўла[5]. Трэба ўсё разам звесці і паглядзець, што атрымаецца. З самай раніцы ўспомніў, што сёння дзень нараджэння майго светлага сябра Міхася Стральцова. Нават успамін пра яго грэе душу, цепліць вочы. Пазваніў Звонаку. Ён у адзін дзень з Міхасём нарадзіўся. Перадачытаў эсэ Дранько «Стомленасць Парыжам». Стала на душы светла — ад разумнага таленту Лявона.

*15 лютага, панядзелак*

Праца. З Лявонам над ягонай кнігай[6] пасядзелі крыху. Мае такія-сякія заўвагі прыняў. З гадамі такія радкі ідуць: «Мы сваёю здаволімся пашаю…», «Дзюравы камень…»[7]

---

[1] Луцкевіч Іван Іванавіч (1881–1919), беларускі палітычны дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст. Адзін з пачынальнікаў і ідэйны кіраўнік беларускага культурна-асветнага, грамадскага і палітычнага руху на пач. ХХ ст. *Луцкевіч* Антон Іванавіч (1884–1942), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, крытык. Ініцыятар абвяшчэння незалежнасці БНР. Рэпрэсаваны.

[2] Бурак Мечыслаў Іосіфавіч (н. 1947). Кандыдат тэхнічных навук (1983).

[3] Крукоўскі Уладзімір Якаўлевіч (н. 1937), беларускі мастак-плакатыст. З 1989 г. мастацкі рэдактар час. «Спадчына». Разам з Я. Кулікам аўтар дзяржаўнага герба «Пагоня».

[4] Гл.: Нашча: Пачулася… (14.02.93) // Евагелле ад Мамы. С. 379.

[5] Гл.: Следам Апостала Паўла: Пражэрліваму ашчэру… (14.02.93) // Тамсама. С. 46.

[6] Дранько-Майсюк Л. Стомленасць Парыжам. Мінск, 1995.

[7] Гл.: «Мы сваёю здаволімся пашаю…» ; «Дзюравы камень…» (15.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 361; 317.

*16 лютага, аўторак*

На кінастудыю. Сяргей Пятроўскі добра зняў Марыю Рыгораўну. Што значыць — беларуская душа. Яна чуе аднакрэўную душу. І з падтэкстам, і з шмат якімі планамі. А якія маналогі. Чыстае золата крывіцкае мовы. А проста іканапіснае аблічча, як выразанае гадамі з суцэльнага кавалка дрэва жыцця.

У прабальшавіцкае газэтачцы «Позиция» без каментару перадрукавалі ліст тады маладых нас супроць так званых бебурнацаў[1]. Пісалася ў КДБ — КПБ, па тэлефоне паведамлялі, што за нас падпісалі. Хай цешацца. Усе мы па-ранейшаму застаемся заложнікамі КДБ, ці так ці гэтак.

*17 лютага, серада*

Праца. Ліст у абарону дэмакратычнага СП у Маскве падпісалі яшчэ і Жук, і Законнікаў, і Лойка, і Сачанка, і нават палахліва-шараʼхлівы Янечка Сіпакоў. Сустрэў Ліду Брыль[2]. Сказала, што дужа сумныя вершы пішу.

*18 лютага, чацвер*

Раніцай адыходжу. Даю прымерыць шапку Дамінічцы, цалую ў галоўку, а яна й кажа: «Якая ў цябе вусатая барада!»

На вялікім экране глядзелі матэрыял пра Марыю Рыгораўну. Якая годная старасць, яе й немач не можа адолець. Старасць — яна наравістая, абы каго чакаць не будзе. Яе ўвагу трэба заслужыць.

*19 лютага, пятніца*

Крутня з лістом Чубайсу[3] ў падтрымку маскоўскіх дэмакратаў. На працы ўтрасанне планаў. Не змог пайсці да Васіля Макарэвіча на радыёзапіс. Кепска з галавой. Відаць, адзін Ніл Гілевіч думае, што з яго галавою ўсё ў парадку. Прачытаў у «Звяздзе» палемічную дры.ню. Яшчэ ўверсе — «народны паэт». Сорамна хадзіць у адной упражцы з такімі. Проста кілзае словы, як калючых яджгуроў на сухую лазіну.

*20 лютага, субота*

Дамінічцы сніліся воблакі, зоркі, неба, сонейкі і хмары. Ужо нешта сніцца. Гэта клопат ідзе ў птушынае сэрца ўнучачкі. Цэлы дзень займаўся «Трыкірыем».

---

[1] Бебурнац — беларускі буржуазны нацыяналіст. Гл.: І коскі з месца не зрушу!.. // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 196.

[2] Карамазава (Брыль) Лідзія Мікалаеўна (н. 1938), у 1974–1993 гг. літаратарны супрацоўнік час. «Полымя». Пляменніца Я. Брыля. Жонка В. Карамазава.

[3] Чубайс Анатоль Барысавіч (н. 1955), расійскі дзяржаўны дзеяч. У 1991–1994 гг. нам. старшыні ўрада РФ.

* * *

Беларушчына — гэта воля
Для бароў, для муроў, для завей,
Галубоў аблачыстае волле,
Стомленасць закаханых вей.

Беларушчына — думка Скарыны,
Каліноўскага[1] ясны гнеў.
Беларушчына — крык чужыны.
Для Пегаса рублены хлеў.

Беларушчына — ліст апалы
На курганы,
Што як прывід узнік.
Незатушаны космас Купалы,
Багдановіча маладзік.

Беларушчына — вешчы Быкаў,
Караткевіч — нябесны вой.
Бог у неба зірнуць паклікаў
Позіркам Еўфрасінні[2] святой.
Успамінамі, снамі, сынамі
Мы паўторымся для эпох.
Беларушчына ў нас і з намі.
З намі наш Беларускі Бог![3]

*21 лютага, нядзеля*

Да дзядзі Радзі, як называе Дамінічка. Яму спадабалася першая частка «Трыкірыя». Вячэра. На дарогу далі мне на паспытак італьянскае бульбы. Беларусі толькі гэтага не хапала.

*22 лютага, панядзелак*

Званю Васілю, пытаюся, ці не адарваў ад працы, адказвае: «Калі [б] ты мяне адарваў ад добрай чаркі, а то адрываеш раба ад яго тачкі».

Усю суботу не даваў спакою верш [«Беларушчына — жаль птушыны...»]. Хадзіў у «Вожык». Па дарозе напісаў для шаржа на Палюховіча[4],

---

[1] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[2] Еўфрасіння Полацкая (свец. Прадслава; каля 1101–1167), полацкая князёўна, асветніца, беларуская святая.

[3] Праўн.: «Беларушчына — жаль птушыны...» (20.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 56.

[4] Гл.: «Палюховіч — цёзка пана Сміта...» (22.02.93) // Асобы рознай пробы. С. 26. *Палюховіч* Адам Пятровіч (н. 1957), беларускі праграміст, бізнесмен. Заснавальнік кампаніі па вытворчасці кампутараў «Дайнова» (1989).

што ў «Дайнове». На стале ў выдавецтве запрашальны білет на Гарэцкага і нечаканы па сваёй бяздарнасці вершык Ніла. На ўзроўні «Звязды» 50-х гадоў і яшчэ слабей.

«Не разгадаў я ласку акварэлі...»[1] У падборку «Дурноты» пра Грахоўскага: «Таварыш: Ён любіць кан’юнктурныя вятры...» [у дзённіку].

*23 лютага, аўторак*

Раніцой Дамінічка заявіла: «Холадна ў гэтай бясконцай хаце без канькоў і без лыжаў». Днём цікава спявала песеньку пра курачку і ляснога братка пеўніка. Разам з яе ростам у душы расце радасць, у душы расце страх, што яе чакае? «Адну!: Двухмоўе дай старому партуну!» [у блакноце].

*Наш парламент*

Што такое наш парлямант:
З выступоўца пара й лямант,
Дзе паставіць кропку з коскай,
Дзе знайсці кантакты з вёскай,
Як ваду ў ваду наліць,
Рэферэндум заваліць.
Толькі й чутна: як і дзе, —
Справа ж быццам як ідзе.

*24 лютага, серада*

Мне сёння 58. Наадварот наўрад дацягну. Дамінічка віншавала: «Дзедзя, вінчую з днём нараджэння!» Пасядзелі з дзяўчатамі ў рэдакцыі. Быў Дранько, Сёмуха. У натарыуса аформілі на прыватызацыю кватэры.

*25 лютага, чацвер*

Да вечара прачакаў, як навязаны, ад’езду на Гродзеншчыну. Няма бензіну. Ён ёсць, але чакаюць падвышэння цэнаў. Вечарам да Тараса. Аднёс Рэні [Тарас] верш у [газ.] «Культуру». Пачаў пісаць «Ушацкія показкі».

*26 лютага, пятніца*

Зноў чаканне ад’езду на Гарадзеншчыну. Мяне прыемна ўсцешыла, што Лявону Дранько падабаліся пераклады Мандэльштама. Гэта надае мне веры, і буду рабіць паралельную кніжачку Мандэльштама[2], як Пастарнака.

---

[1] Гл.: Тлумачальная запіска (22.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 245.

[2] Задума выдаць дзвюхмоўную кнігу О. Мандэльштама не спраўдзілася.

Званіў Радзік. Яго паслалі ад Уладзіміра Ільіча (Лапцёнка[1]), да Надзеі Канстанцінаўны («Кнігарня [пісьменніка]») наконт тыражу ягонага зборніка. Ён правільна зазначыў, што ў такім стасунку трэба быць Феліксам Эдмундавічам [Дзяржынскім].

Для Рэма ў Фамоў[2] зборнік зрабіў дзве эпіграмы [на А. Лабуша і Б. Герлавана[3]]. Цікава гучала б: *выпіграма.* Цікава, што дама з так званых кнігалюбаў, цёзка жонкі Леніна, даказвала: «Маладое пакаленне кніжак не чытае». «Старасць»[4].

Нарэшце бензін ёсць. Едзем. За вокнамі зіма. І здаецца, што еду дамоў. І сустрэне мама. З цёмным дабіліся да *Свіслачы.*

*27 лютага, субота*

Свіслач. Родныя, радзінныя мясціны Кастуся Каліноўскага. Гіпсавы аблезлы, як вайсковая вопратка, бюсцік. Гімназія, дзе вучыўся, у запусценні. Інструктарка аддзела культуры расказвала, як іхні загадчык культуры ў прэзідыуме на пытанне пра жыццё адказаў: «Ху.ва. У туалет ходзім, як баба, бо няма за што трымацца». Голас у інструктаршы пракурана-прапіты. Гэта нашая культура на раёне. І не толькі. Паехалі да Івана Апанасавіча Буфаліка, бандара. Паказваў, як бочкі робіць. Показку расказаў, як няўмелы бондар збіраў бочку: сам дзве заклёпкі ўзяў, жонка — дзве, дзве дочкі па дзве. А далей хоць ты дзяцей новых стругай. А другі няўмека прывёз прадаваць хлебніцу. Маладзіца купіла дый пытаецца, а дзе вечка? Ён пачаў рыцца ў возе дый кажа, што ўкралі. А ён яго, вечка, не зрабіў, бо не мог.

Паехалі ў *Поразава.* Ганчары Шопікі. Два браты. Старая кажа: «Старому ні холад, ні *горач* не страшны. Вачыма рабіў бы». Вадзім [Купрыянаў] здымае нейкі кадр на вуліцы. Аднарукі дзядзька йдзе па ваду: «Фатаграфуй, як вядро цячэ, трыста рублёў [каштуе]. І купіць няма як». Дарэчы, ганчар паказаў на хату, дзе ладзіцца зрабіць *працоўню,* і пры хаце трое хлявоў. «Гэта граматыка жывая. Я люблю сваю прафесію. Гаршчок — важная штука. Вясной буду яшчэ рабіць, як не памру». У печы чырвоныя [гаршкі] аж да дна.

---

[1] Лапцёнак Уладзімір Ільіч (1938 — ?), 1-шы нам. старшыні ГА Беларускага таварыства «Кніга».

[2] Варанецкі Фама Сільвестравіч (н. 1938), беларускі акцёр, педагог, мастак. У 1971–1998 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Адначасова ў 1990–2014 гг. выкладчык БДАМ. Заслужаны артыст БССР (1990).

[3] Гл.: «На сцэне свой запал не ўвесь...»; «Ён бачыць свет не раззлавана...» (26.02.92) // Барадулін Р., Варанецкі Ф. Неакадэмічная калода: Сяброўскія шаржы. Эпіграмы. Мінск, 1993. (Выданне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Без нумарацыі. Тэксты выпраўлены, чарнавікі захоўваюць варыянты і дадатковыя эпіграмы).

[4] Гл.: «Старасць...» (26.02.93) // Евангелле ад Мамы. С. 318.

*Якушоўка.* Дзе быў маёнтак Каліноўскіх. Нацыянальныя апоры нарадзіліся ці не па задуме Бога на краях Беларусі, каб заслупаваць межы духу беларускага. Каліноўскі, Багушэвіч, Гарэцкі, Караткевіч. І недзе ўсярэдзіне Купала. Бо дзе гукаў першы крык нашых апосталаў, там зямля нашая. Па спадчыне.

*28 лютага, нядзеля*

Свіслач. З самае раніцы. Як у нас казалі: чорт не біў яшчэ ў кулаʹчыкі, устаў. Як у маладыя гады пасля п'янкі. Учора сапсавалі настрой дробныя жабракі з відэацэнтра Вадзім і […] Галя[1]. Ды яшчэ дадаў званок дамоў. […] Узяўся напісаць верш пра Якушоўку. Хацелася на гэтай зямлі, абражанай і амаль вынішчанай нашчадкамі тых, супроць каго змагаўся Каліноўскі. «Якушоўка»[2]. Па дарозе пераклаў «Тум-балалайке». […] Адно, што трымае мяне, — Дамінічка.

*Васіль Зуёнак*

У хамут не б'е, не рве пастронак,
Цягне воз пісьменніцкі Зуёнак,
Быццам бы такая цішыня,
Аж пусціць ахвота авадня
На занадта ціхага каня.

У саюзе пры ціхманым кормчым
Геніяў з сябе сур'ёзна корчым,
Аж жадаецца сказаць «саюзь»,
Каб паўней зарыфмаваць «аюсь»[3].

*Свіслач — Менск, дарога*

*1 сакавіка, панядзелак*

На дварэ пачало ўграваць. На працу званілі з Ізраільскага пасольства ў Маскве. Наконт паездкі. Як ні набіраў, як ні заказваў — не дазваніцца. Правільна Радзік сказаў: «Пакуль апошні яўрэй не выедзе з былой імперыі (яно й не былой), дазваніцца да пасольства будзе нельга». Да начы перакладаў яўрэйскія народныя песні.

---

[1] Старавойтава Галіна Мікалаеўна, адміністратар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» Кінастудыі «Беларусьфільм».

[2] Гл.: Якушоўка (28.02.93, Свіслач) // Евангелле ад Мамы. С. 69.

[3] Параўн.: «У хамут не б'е, не рве пастронак…» (28.02.93) // Асобы рознай пробы. С. 37.

*2 сакавіка, аўторак*

Праца. Па магазінах — атаварваць талоны. [...] Закончыў верш[1], пачаты ў Поразаве ў працоўні, як ён называе, Шопіка. [Адрозненні ад канчатковага варыянта:]

Ля Поразава, ля Пліна,
Ля Лепеля, ля Азярніцы
Свярбіць падчарэўе ў гліны —
Пачухай, ганчар, з правіцы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ганчарству — чарству зямному
Зайздросцяць нябесныя чары.
Дык выпі, прагнаўшы стому,
Ганчар,
З пазлачонай чары!

*3 сакавіка, серада*

Сёмуха сёння расказваў мне, як робіцца чорнае ганчарства. Смалякі. Печы асаблівыя. Узоры на чорным ганчарстве яшчэ йдуць з бронзавага веку. Перарабіў верш «Чорныя чары». Цікава, што пазваніў Вялюгін у выдавецтва і павіншаваў з вершам «Мальба»[2] ў «Полымі» пра Ілону. Відаць, сваю дачку ўспомніў, што згарэла. Жонка выкінулася. Сышоўся з [...[3]] Паўнее.

Званіў Роўба: можна паехаць заўтра ў Вушачу. Не выпадае.

*4 сакавіка, чацвер*

Раніцай званю Васілю. Гутарым пра бензін, што Расію выратуюць злодзеі. Пра сход беларусаў свету, пра КДБ пачалі ўспамінаць. Гудкі ў тэлефоне. Дзявочы голас раптам: «Гаварыце цішэй, ваш тэлефон праслухоўваецца». На чыстай мове нашай. Відаць, сімпатызуе беларусам тэлефаністачка. Дзякуй ёй! Сёмуху расказаў, сказаў, што верша варта. У рэдакцыю заходзіў Васіль і цвяроза падвёў вынік, што гэта проста КДБ напамінала пра сябе, нейкім чынам нават палохаючы.

У галаву прыйшло, што Сёма Букчын выдае порхатую газету: она порхает. І наогул яўрэі зрабілі ўплыў на расійскія быліны: «Ой ты, гой, еси...» Ты ёсць гой альбо нават заклік з’есці гоя.

---

[1] Гл.: Чорныя чары (2–3.03.93) // Евангелле ад Мамы. С. 105.

[2] Гл.: Мальба (17.07.92) // Тамсама. С. 290.

[3] Другая жонка — Людміла Мікалаеўна Вайцяшэня, былая загадчыца карэктарскай выд-ва «Мастацкая літаратура».

*5 сакавіка, пятніца*

На працы адзначалі дзень жанчын. Прамовы. Дробязь падарункаў. У нашай рэдакцыіі абед, як дома.

Перачытваю Кастуся Цвірку. Трэба колькі слоў перадмовы. Грунтоўна, але трошкі сумнавата піша Кастусь. Ягоны характар у ягоных вершах ёсць.

*6 сакавіка, субота*

Чытаю Цвірку. Прымерваюся напісаць слова. Як і сам Кастусь, вершы ягоныя паджарыя, рухавыя, зацята-грунтоўныя. Паэму «Хат вячысты дар» ратуюць адступленні, канкрэтыка, дзе ўводзяцца ў паэму жыўцом і Ліс[1], і Грынблат[2], і Цішчанка[3]. Цікавы і лёс пяюх, казачнікаў. Трэба і такое.

*7 сакавіка, нядзеля*

Заходзіўся Віктар Стрыжак з новай жонкаю. Як галубка. Віктар атрымаў хату ў Менску.

Дачытаўся ў Цвіркі да добрай паэзіі. І ён мне пачаў падабацца. Закончыў для Рэма пераклад куплетаў у п’есу.

Напісаў верш[4].

*8 сакавіка, панядзелак*

Напісаў слова пра Кастуся [Цвірку] «Аратай, які пасвіць аблокі...»[5]. Так і назаву сваю кнігу артыкулаў, эсэ, вясёлых успамінаў.

*9 сакавіка, аўторак*

Дамініка пайшла ў дзіцячы садок. Прывыкае цялятка да людскога статку. А статак гэты бязлітасны. Божа, глянь на яе ласкавым вокам Сваім! Яна ж у мяне адна. Яна ж зусім безабаронная. Яна ж баліць мне.

На кінастудыі глядзеў варыянт фільма пра Марыю Рыгораўну. Афарызмамі кажа. «Відаць, Ленін грэшнік быў, што яго зямля не бярэць». Новы варыянт прымаўкі: не да парасят свінні, калі на агонь нясуць. Сёмуха сёння расказваў, як паехаў на рынак сваім птушкам корму. Гусь на

---

[1] Ліс Арсень Сяргеевіч (1934–2018), беларускі фальклярыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. У 1962–2015 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Грынблат Майсей Якаўлевіч (1905–1983), беларускі фальклярыст, этнограф, гісторык. Лаўрэат Дзяжаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Цішчанка Іван Кірылавіч (1930–2001), беларускі фальклярыст, літаратуразнавец, крытык. З 1992 г. заг. кафедры Беларускага ўніверсітэта культуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[4] Гл.: «Маё маленства — маё маленства...» (7.03.93) // Евангелле ад Мамы. С. 353.

[5] Гл.: Каб араллёю пахлі аблокі... (8.03.93) // Аратай, які пасвіць аблокі... С. 86.

базары ўжо каштуе 9 тысяч, курыца — 1 тысячу. Ад гэтакіх цэнаў сам загегечаш і закудакчаш. Жах! «Радня»[1].

*10 сакавіка, серада*

60-годдзе Андраюка. Чамусьці прыпёрся міністр Краўчанка. [...] Са свіной мордай Лукша. Як не сорамна такую морду насіць!

Сігнал быкаўскай «Сцюжы». Афармлена кепска! І ўсё ж розніца між юбілеем і хаўтурамі тая толькі, што юбіляр чуе няшчырыя словы, а нябожчык, відаць, не чуе. «Не дужа!»[2]

*Ці можа?*

Ці можа ў хаце жыць крынічка
І радасцю звінець да дна?
Калі крынічка — Дамінічка,
У нас ужо звініць яна!

*11 сакавіка, чацвер*

*Ушача!* З кіношнікамі дамоў! Вечарэе. З садка вядуць малога, крычыць амаль на дземянцееўцы, а вымаўленне — крывіцкае, нашае. Дзяўчаткі-школьніцы: «Тады Быкаў як заржэць...» Быкаўскае прозвішча на роднай зямлі мае працяг. Святы і родны Васіль, хай імя ягонае свеціцца ў вяках!

*12 сакавіка, пятніца*

На снеданне ў Марыі Рыгораўны клёцкі, як некалі ў мамы. Стараўся запісаць як болей слоў і выразаў. Апошняя мая крыніца ўшацкае мовы. На магільнік да мамы. Ужо вясной і на магільніку патыхае. Снег няпэўны, рыхлы. Ад'езд. Марыя Рыгораўна: «Рыба куплена і воз накрыт». Канец. Старая дарога на Лепля — цэлая паэма. Дзядзька з паперкай з аб'явай у нашай газеце шукае вуліцу, дзе прадаецца жаробачка. Напісана Кастрычніцкая вуліца, ён прачытаў Калінінская. «Сагнуліся»[3].

Кнігары: *на псярню ў кнігарню, кукарэку ў бібліятэку, іга-га кніга — іга, як ні гаўкай, за кнігаўкай. Ад хамутовага іга мне дапаможа кніга.*

*13 сакавіка, субота*

Дамінічка разліла малако: «Малако не бачыла, што я тут стаяла».

Сойм БНФ. Адам *Мальдзіс* пра сустрэчу беларусаў свету.

*Баршчэўскі*: «Правесці 3-ю палітычную канферэнцыю».

---

[1] Гл.: Радня (9.03.93) // Евангелле ад Мамы. С. 383.
[2] Гл.: Не дужа! (10.03.93) // Тамсама. С. 372.
[3] Гл.: Сагнуліся (12.03.93, Ушачы — Мінск, дарога) // Тамсама. С. 270.

*Голубеў:* «З’езд, ці сустрэча, ужо зафіксаваны ў дзяржаўных структурах. Ні ў якім разе не праводзіць палітычную канферэнцыю паміж 8-м і 9-м ліпеня. Падтрымаць ідэі паліткaнфэрэнцыі».

*Зянон:* «Правесці канферэнцыю 3–4 ліпеня. Фронт будзе рыхтавацца да 3-га з’езда. Як рух у 88-м годзе, спачатку ў Эстоніі. Барацьба супроць камуністычных сілаў. Мелі значэнне разавыя акцыі, хлёсткія лозунгі. Цяпер найбольш поўна і жыццёва захаваўся БНФ. Франты Балтыі дасяглі мэты. У Эстоніі 4 партыі выйшлі з Фронту, яны ўзначалілі ўрад, а потым [зліліся] у адну партыю. Аналагічна ў Латвіі. У Літве іншая сітуацыя. КДБ і камуністычныя структуры нанеслі ўдар па магчымай партыі, і «Саюдзіс»[1] не мог супрацьстаяць. Добра, што быў Бразаўскас[2]. «Саюдзіс» не тая сіла. Народны фронт Эстоніі. Украіна. Найбольш перспектыў у рэспубліканскай партыі. Народны фронт Таджыкістана — пракамуністычны цалкам. БНФ не памыліўся ў жніўні і не падтрымаў наменклатуру. «Рух»[3] падтрымаў Краўчука, які паставіў на незалежнасць. У нас усе сродкі інфармацыі ў руках наменклатуры. На нашых соймах пра ўмацаванні структураў. БНФ — шырокі народны рух, які мае арганізаванае ядро. Цяпер не можам адмовіцца ад шырокага народнага руху, бо ў нас існуе таталітарна-наменклатурная структура. БНФ — сумяшчэнне ідэалогіі народнай партыі і шырокага народнага руху. Асноўны дэвіз — незалежнасць, адраджэнне, свабода. Нам неабходна нацыянальная дзяржава. Бо ўнутрана грамадства да жаху слабое, можа не ўзняцца, калі страцім дзяржаву. Свабода народа. Задача стварэння дзяржавы, сацыяльнай супольнасці, эканамічныя патрэбы, сацыяльнае жыццё. Ініцыятыва ў руках дзяржавы, а дзяржава ў руках наменклатуры. Прынцыпы народнай партыі. Свабода — сінтэз правоў і абавязкаў у свабодным грамадстве з паняццяў чалавека, сям’і. Паняцце свабоды выводзіць на сацыяльную эканоміку. Сацыяльнасць эканомікі. Салідарнасць усяго народа. Адмаўленне падзелу на класы, на сац. групы. Кожны чалавек павінен мець падтрымку на ўдзел у агульнай справе. Развіццё ад руху да болей разгалінаваных структураў. Непрацiўленне насіллю насіллем урада, адкрытасць палітыкі. Будучыня працуе на нашую карысць. Чалавек як боскае стварэнне. Канцэпцыя чалавека Еўропы ставіць чалавека вышэй за суверэнітэт. Напрыклад, у Бельгіі пытанне на мультыкультуру. Аснова для ўзнікнення фашызму. Не трэба слепакамі йсці за Еўропай. Парытэт правоў чалавека й суверэнітэта».

[1] «Саюдзіс» — грамадска-палітычны рух Літвы (1988–1990).

[2] Бразаўскас Альгірдас (1932–2010), літоўскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук (1974). У 1990–1992 гг. прэм’ер-міністр Літоўскай Рэспублікі.

[3] «Народны рух Украіны за перабудову» — грамадскі рух, створаны ў 1989 г.; першы старшыня паэт І. Драч.

*Міхно:* «Акцыі праверкі злоўжыванняў уладаў».

*Вінцук Вячорка:* « Трэба ў праграме дзяржаўнае будаўніцтва Беларускае Дзяржавы. Прыватызацыя. Зямельная канцэпцыя БНФ. Вайсковае будаўніцтва, [распрацаваць] геапалітычную канцэпцыю БНФ. Ацэнка таталітарызму».

*Івашкевіч:* «Да свабоды, незалежнасці, адраджэння дадаць — сям'я, праца, парадак трэба. У каго кулак з куфаль, таго й праўда. Маральнае разбэшчванне анархіяй».

*Гурыновіч*: «Трэба ў праграме знешнюю палітыку [абазначыць]. Лібералізацыя эканомікі, усяго жыцця. Нацыянальнае выхаванне. Трэба выходзіць на Захад».

*Васіль Крапіўка* (МУС): «У 70-я гады — 36 тыс., 80-я — 55 тыс., 92-гі — 96 тыс. злачынстваў. ¾ маёмаснага злачынства. Крыміналізацыя грамадства. Палітызацыя злачыннасці».

*Юры Шаўцоў:* «Мы жывем у Эўропе, а не йдзем у яе. Надзей на Захад няма. Не лепей за Расію ён ставіцца да нас. На Усходзе сусед будзе нам пагражаць. Мы арыентаваны на Усходнюю Эўропу».

*Сяргей Антончык*: «Правесці маніфестацыю супроць карупцыі».

*Зянон* падводзіць вынікі дыскусіі. Купала. Пра святкаванне 75-х угодкаў БНР.

Вечарам маленькімі глыткамі, як некалі каньяк, піў Бёля[1] ў перакладзе Лявона Баршчэўскага.

*** Лявон Башчэўскі размаўляе на 7-мі мовах, чытае на 20-ці.

*14 сакавіка, нядзеля*

Даводзіў да ладу, перадрукоўваў куплеты для купалаўцаў, яўрэйскія песні для Рэма. Ад'язджае. Шкада. Ён шмат дабра мне рабіў на працягу гэтулькі гадоў. Вонкава сарамяжлівы, разважлівы, нават запаволены, а ўнутрана настойлівы, імклівы Рэм Нікіфаровіч мне заўсёды быў падтрымкай патрэбны, парадай неабходны, гутаркай лагодны.

*15 сакавіка, панядзелак*

На працы перадаў інтэрв'ю «Свабодзе». Галя Айзенштадт звязала з Мюнхенам. Чутнасць, як з Вушачай. Яшчэ і лепей.

Перачытаў Ізі Харыка. У сераду весці вечар. Ахвяра ідэалогіі і фізічна, й творча. Вятрак, які меле вецер.

[1] Бёлль Генрых (1917–1985), нямецкі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1972).

*16 сакавіка, аўторак*

Запіс для тэле відэацэнтрам ў СП. Недалёкі, але шчыры Бойка[1] ставіў у адзін шэраг: Быкаў, Адамовіч, Алексіевіч. Ад недалёкасці мазгоў. Ці яшчэ — фатаграфаваць Быкава з Лозкам у кнігу інтэрв'ю Лозкі[2]. Трэба шанаваць нават самое ўпамінанне святога імя Васіля Быкава. Ён адзін у Беларусі й не толькі ў Беларусі. Небам пасланы на зямлю грэшную.

Напісаў слова[3] пра Ізі Харыка. Крыху застудзіўся. А заўтра трэба весці вечар Харыка. Карлас дазваніўся да Ізраіля. Мне запрашэнне на чэрвень паслалі. А я нічога не ведаю. […] Краўчанка, як гавораць інтэлігенты, круціць яйцамі. Дакруціцца!

*17 сакавіка, серада*

Вечар Ізі Харыка ў саюзе. Зацягнулі. У канцы мастакі, якія вывучылі ідыш, беларускія хлопцы хацелі пачытаць вершы. Не далі ім. Затое аж 3 песні з «Шукальнікаў шчасця»[4]. Бо, бачце, Ізі прысутнічаў на абмеркаванні сцэнару. Моладзі не было, старыя яўрэі. Мова мёртвая, не гучыць нават з вуснаў яўрэяў. Амаль усе на расійскай.

*18 сакавіка, чацвер*

Хадзіў у «Вясёлку». На працы тое-сёе рабіў. Ідзе вясна, галеча дыхае над вухам. Бліжэй ды бліжэй. Няма ніякага выйсця. Нікому не трэба вершы. Дый іх перавытворчасць.

*19 сакавіка, пятніца*

У відэацэнтры прагляд адзнятага матэрыялу. Як з гэтага зробіцца фільм, сказаць цяжка.

* * *

На Лепля дарога старая.
Яшчэ зімовая. Яшчэ лядком падкутая.
Завея курыцца. Цяпер здаецца,
Што гэта дымок над кавай.
А калі паехаць у думках назад,
Дык гэта — пара над мешанкай

---

[1] Бойка Уладзімір Андрэевіч (1932–1996), беларускі мастацтвазнавец, крытык, паэт, мастак, сцэнарыст. У 1979–1990 гг. аўтар і вядучы радыё- і тэлевізійных перадач.

[2] Дакладней, Ю. Залозка. Залозка Ю. Дыялогі з Васілём Быкавым: Інтэр'ю, эсэ. Мінск: «Мастацкая літаратура», 1995.

[3] Гл.: І кожны ў мур цаглінай лёг жывой… (1993) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 39.

[4] Фільм 1936 г. па сцэнару Р. Кобеца. *Кобец* Рыгор Якаўлевіч (1898–1990), беларускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1935). Быў двойчы рэпрэсаваны.

Ці над вотрынамі,
залітымі нішчымным варам.
Алешына, што з возу ўпала,
Рудзеецца свежым зрэзам,
Нібыта гадзюка з галавою адцятай.
Маладзіца едзе ў развалках.
Просім праехацца перад кінакамерай.
Пытаецца, а ці не будзе відаць,
Што яна ў свякроўкі выпіла?
Возера Ворань.
Вёска Юркоўшчына. Сюды
Мама пасля вайны хадзіла
Шукаць нашую карову,
Якую забралі пад час блакады.
Старалепля. Тут недзе быў канцлагер.
Жанчыны, сабраўшы ў хатулькі,
Што яшчэ мусілі ў іх забраць
Немцы ды партызаны,
Хадзілі і за сваіх прызнавалі
Ваеннапалонных, якіх на пачатку вайны
Адпускалі немцы дахаты, да маткі.
Ахова брала яйкі і сала з маладзіц,
у якіх былі добрыя сэрцы…
На Лепля дарога старая
Яшчэ йдзе стараной лясною.
І разам са мною
Сама сябе ўспамінае…

*20 сакавіка, субота*

Фактычна цэлы дзень у ложку. Нейкі вірус ходзіць. Стаў хадзіць часцей і розны й ад Чарнобыля, і ад розных атамных, якія абклалі Беларусь, як ваўка якога. Вечарам такая халепа — і вецер, і снег. Дзень у мяне згубіўся. А шкада. Бо не дужа, думаю, іх адвёў мне Госпад.

*21 сакавіка, нядзеля*

Шэсце ад плошчы Незалежнасці да Купалавага сквера ў гонар 75-х угодкаў БНР. Пазнаёміўся з Вячкам Станкевічам[1] — шэфам беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода». У ім адразу пазнаецца ўнутраная еўрапейскасць. Гэта не нашыя Трусавы. У Купалавым скверы мітынг. Не абышлося без штатнага выступоўцы Трусава. Затое як шчыра, як на споведзі, выступаў Зянон! Бо чысты, бо сумленны, бо светлы. Дзякуй Богу,

---

[1] Станкевіч Вячка (н. 1932), беларускі грамадскі дзеяч замежжа. З 1949 г. у ЗША. У 1990–1998 гг. дырэктар беларускай службы Радыё «Свабода».

што ў нас ёсць Зянон! Бронзавы Купала[1] задуменны, замроены, запацелы ад дажджу. Помню, як уночы апошнія штрыхі да помніка завяршаў Анікейчык. А Янка Раманоўскі, ужо дужа хворы, здзіўляўся, якія вусы (з сябе хіба што) зрабіў дзядзьку Анатоль. Добра, што ёсць мейсца, асвянчонае імем і паставай Янкі Купалы. Добра, што на змену Купалу Бог даў Васіля Быкава — святога й роднага апостала нацыі!

*Прымак*

І даводзіцца парсюку
Трапезу падзяліць сырую:
Чорны бусел у хлеўчуку
Да наступнай вясны кватаруе.
Не дагнаў сваёй чарады,
Падвяло крыло маладое.
Неба падала ў чараты,
Ахіналася чарнатою.
А з вакна хлеўчука квадрат
Неба,
Роўны ўшыркі ды ўдоўжкі.
Бусел звяў, як палонны салдат,
Што прыстаў прымаком да ўдоўкі.
І да першых чорных слядоў
Прасівее ўдава-зімавуха.
Не збялеюць ад халадоў
Чорны бусел
І чорная скруха.

*22 сакавіка, панядзелак*

Сёння дзень кары Каліноўскага. Камуністы адзначаюць Хатынь. Ужо хочуць звярнуць Курапаты, нібыта беларускія нацыяналісты расстралялі гамбургскіх яўрэяў. Крымінальнікам усё можна. Званіў Рэм. 2-га адʼязджае (адлятае, дакладней) у Чыкага. Для «Звязды» колькі слоў напісаў пра Вальдка Калініна[2]. Званок з Іспаніі. Чутнасць выключная. Кэдэбісты, відаць, не ўключыліся. Наконт выдання Шагала.

*23 сакавіка, аўторак*

Прагляд адзнятага матэрыялу ў відэацэнтры. Праца. Прыйшлі лісты аднатомніка [«Трэба дома бываць часцей…»].

---

[1] Помнік Я. Купалу працы А. Анікейчыка.

[2] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыгаская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

*24 сакавіка, серада*

Радыёмост Менск — Варшава. Мама казала Аршава. З Варшавы Баршчэўскі[1], Латышонак[2]. Адсюль Смулкава[3], Літвін; га.ністы, бо прозвішча так і кажа — Гавен[4] ([...]), кіраўнік так званых палякаў у Беларусі. Ён ужо на мільёны лічыць іх, касцельных палякаў. Яшчэ адна пятая калона ў Беларусі.

У Музеі Янкі Купалы. Была і слова казала Ядвіга Юльянаўна Раманоўская. Чытаў вершы Казінін[5]. Выключны ансамбль «Рунь»[6]. Шчырае золата, валютнае. А сікушкі й сікункі з тэхнікума нейкага ледзь не свісталі. Працоўныя мазгі. Гэта вечныя шуфлікі (саўкі). У іх ні каранёў, ні роду, ні племя. Маса.

Адкрыццё выставы суполкі «Пагоня» ў Палацы мастацтваў. Выступаў Быкаў. Ніл стаяў як закончаны твор мастацтва сацрэалізму. Быў Данчык[7]. Убурэў патроху. Слава загайдала. Альбо ўжо звыкся з ёй, як старую жонку ўспрымае.

*25 сакавіка, чацвер*

Вечар у філармоніі да 75-х угодкаў БНР. Шушкевіч выступаў. Язэп Сажыч[8], Данчык. Быкаў як заўсёды мудра. Ніл вёў вечар і ўвесь час цягнуў коўдру на сябе. У зале С. сядзеў з каменнай мордай. Па службе прысутнічаў. А нутро рэзала.

*26 сакавіка, пятніца*

Выйшаў «ЛіМ». На першай старонцы Ніл і Быкаў. Васіль расказваў, калі быў мітынг[9], Ніл на нейкі момант блізка падышоў да яго і задыхаў

---

[1] Баршчэўскі Аляксандр Андрэевіч (псеўд. Барскі Алесь; н. 1930), беларускі паэт, літаратуразнавец, фальклырыст, драматург, публіцыст, перакладчык, педагог. Доктар філалогіі (1986). Прафесар. Польша. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991).

[2] Латышонак Алег Юр’евіч (н. 1957), беларускі гісторык у Польшчы, грамадска-палітычны дзеяч. Доктар гістарычных навук (1996).

[3] Смулкова Яніна Эльжбета (н. 1931), польскі мовазнавец, беларусіст. Прафесар (1988). У 1992–1995 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол РП у РБ.

[4] Гавен Тадэвуш (н. 1951), падпалкоўнік памежных войскаў у адстаўцы. У 1990–2000 гг. кіраўнік «Саюза палякаў у Беларусі» (добраахвотнага нацыянальна-культурнага аб’яднання грамадзян Беларусі польскага паходжання; з 1986).

[5] Казінін Міхаіл Антонавіч, беларускі акцёр.

[6] «Рунь» — ансамбль песні і танца (з 1984) Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.

[7] Андрусішын Багдан Паўлавіч (н. 1958), беларускі спявак (Данчык), журналіст, грамадскі дзеяч (ЗША).

[8] Сажыч Язэп Сымонавіч (1917–2007, ЗША), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч замежжа. У 1982–1997 гг. старшыня Рады БНР.

[9] Мітынг, прысвечаны чарговым ўгодкам Чарнобыля.

на яго. У гэты час фотакор (было, відаць, задумана) шчоўкнуў. Ніл на выпадак, калі родныя камуністы пахаладзеюць да яго, пакідае месца на адступленне. Красаваўся на фоне ўгодкаў, а сам душыў БНФ, падтрымліваў ідэі партыі бальшавікоў-крымінальнікаў.

*27 сакавіка, субота*

Да Рэма. У хаце пуставата-раскідзіста ўсё. Рэм ад'язджае ў Чыкага да жонкі. Бярэ з сабой маці. Паехалі да Васіля. Рэм захацеў развітацца. Сумны і самотны наш Апостал нацыі. Добра, кажа, што ўжо мала засталося. Жартуе, што я ў трубу вылечу, бо часта стрыгуся. Ён нядаўна аддаў 280 рублёў за стрыжку. Сумныя прагнозы ў Васіля. Ішлі з Рэмам па Рэспубліканскай, насупроць пажарнай быў дом, дзе нарадзіўся Рэм. Як пачалася вайна, першымі бомбамі быў знішчаны родны дом. Успамінаў, як за руку завёў Барыса Заборава ў Палац піянераў да Каткова[1]. Там займаліся й Данцыг[2], і Анікейчык. Сумна, што ўсе едуць. Рэм шмат зрабіў для нашае культуры. На развітанне Васіль падзякаваў Рэму за ўсё дабро.

*28 сакавіка, нядзеля*

Мокры снег. Золь. З раніцы глядзеў па тэле колькі фільмаў відэацэнтра. Пра Быкава добры. Таму што сам Быкаў гаворыць. І падводы Бойкі не могуць сапсаваць уражанне. Як страшна жыць у сённяшнім дні, які не абтросся ад учарашняга з яго жахамі, з яго цынізмам, з яго верай! «Жыццё — пераезд з небыцця ў небыццё...»[3]

*29 сакавіка, панядзелак*

Праводзіны Рэма ў Купалаўскім [тэатры]. Раніцай паглядзеў канчатковы варыянт «Ой, ляцела шэра перапёлка...». Цудоўны абразок. Дзякуй Сяргею Пятроўскаму! На вечары Рэма Чыгрынаў пацвердзіў маю здагадку, што нашыя лідары эміграцыі працуюць не толькі на КДБ, а яшчэ на колькі разведак. Ясна, што ласкі ў іх да мяне быць не можа. А Чыгрынаву наконт нашых эмігрантаў-лідараў казалі кэдэбісты ў ААН. Матукоўскі сказаў, што мае ксеракопію, дзе Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч адракаецца ад бацькі. Значыць, кэдэбісты-камуністы падрыхтавалі для нейкай акцыі. Павадок у Шушкевіча ўсё карацее. Матукоўскі на маю заўвагу, што трэба ўлічваць год і ўзрост, запярэчыў, што ён, бач, «ворага народа»

---

[1] Каткоў Сяргей Пятровіч (1911–1976), беларускі мастак, педагог. Заслужаны настаўнік БССР (1966).

[2] Данцыг Май Вольфавіч (1930–2017), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак РБ (1995). З 1958 г. выкладчык БДАМ. Прафесар (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола БССР (1968).

[3] Гл.: Толькі (28.03.93) // Евангелле ад Мамы. С. 321.

сын ад бацькі не адрокся. А як жа тады да такіх партыйных пасадаў дайшоў? Мутна вода во облацех.

Часам думаю, што руская мова як наркаманія для беларускага асабліва народа. Сусветныя веды, сусветную класіку [атрымлівалі] толькі праз яе. А не праз сваю родную, крэўную. А яшчэ вялікадзяржаўны шавінізм — рак крыві нацыі. І ўсё на беларускую душу! Наогул, трагедыю ў іншых культурах творцаў ніколі добра не даследавалі. Гогаль[1] у расійскай культуры, Міцкевіч[2] — у польскай. Хай там што ні кажуць палякі, а ніхто за язык не цягнуў вялікага земляка Адама казаць на лекцыях у Парыжы пра беларускую мову. Душа гаварыла. Пакуль будзе нацыяналізм (слова гэтае бальшавікі абварацалі), датуль будуць існаваць народы. А значыць — свет будзе.

*Рэму Нікіфаровічу*

Па бойнях ведалі Чыкага,
Па Рэму зведаем цяпер.
Начны каўбой — сама адвага
Меў Рэм у смелых дам давер.
Яго натхняў Шэкспір і Мрожэк[3]
І першчалавек Адам.
Як перакладчык, з ложка ў ложак
Умеў ён перакласці дам.
Вядома, без тэлекенезу
За акіянам наш каўбой
Дасць прыклад кволаму жалезу,
Як падымацца на двубой.
Хай падымаецца заўсёды,
Сэр Рэм, твой гонар!
Рупна дбай
Пра ўсе дзялянкі асалоды.
Працуй!
Не забывай!
Good bye!

*30 сакавіка, аўторак*

На радыё з Рэмам запіс яўрэйскіх песняў. На відэацэнтр. У Марыі з вялікага матэрыялу атрымаўся калаж. Трэба перарабляць.

Учора падабалася ймя й не толькі. «Дазвольце…»[4]

[1] Гогаль Мікалай Васільевіч (1809–1852), рускі пісьменнік.
[2] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.
[3] Мрожэк Славамір (1930–2013), польскі пісьменнік, драматург, эсэіст, мастак.
[4] Гл.: Марына (30.03.93) // Евангелле ад Мамы. С. 433.

*31 сакавіка, серада*

Віншаваў з днём нараджэння. Сёння, выходзіць, вершам. Натоўпы ў хлебных аддзелах. Чорнага няма. Відаць, чарговы сюрпрыз. Званіў Васіль. З раніцы да падвячорка стаяў у чарзе, бензіну не хапіла. Кажа, раней горшала з кожным годам, цяпер горшае з кожным днём. Дамінічка кажа (я купіў падушачку): «Адкупі яе назад».

*Забудзе*

Вячэра ці горкая, ці салодкая
Была,
Да снедання забудзе —
У чэрава памяць кароткая.
Вурчыць, як сабака ў будзе.
Спадман трасе, як казёл бародкаю.
І вытыркаецца думка сумная:
У чэрава памяць кароткая.
Працуем на чэрава,
Чэравам думае.

*1 красавіка, чацвер*

Дзень смеху сумнаваты. Па радыё маладзёжная рэдакцыя разыграла, што будзе сур’ёзнае спавяшчэнне. Дамініка прыйшла з садка і заявіла: «Я не хачу, каб на мяне глядзеў Макаўчык». Першае какетаванне. Яшчэ неўсвядомленае.

Пішу казку «Як воўк калядаваў»[1].

*2 красавіка, пятніца*

Праца. Прыходзіў Зуёнак. Быў у Польшчы. Прыходзіў самазакаханы Б. — ідзе, аж звон стаіць, увесь бронзавы. Званіў Васілю. Добра сказаў пра партыю «Згоды»[2], згоды з камуністамі.

*3 красавіка, субота*

На тэлестудыю. З Сяргеем Пятроўскім колькі слоў перад паказам фільма «Ой, ляцела шэра перапёлка…». Будзе па тэле недзе ў траўні.

*4 красавіка, нядзеля*

Выстаяў чаргу, узяў дзве буханачкі хлеба. Цэны на ўсё падскочылі як шалёныя. Людзі злыя, знерваваныя.

---

[1] Гл.: Як воўк калядаваў (1.04.93) // Ішоў коця па канапе. С. 257.

[2] Партыя народнай згоды — палітычная партыя левай арыентацыі.

Напісаў казку «Буслова нарачонка»[1] і слова пра маму [«Дзякуй! Даруй…»[2]]

*5 красавіка, панядзелак*

Зноў глядзеў на відэацэнтры матэрыял на «Існасць»[3]. Здаецца, нешта атрымаецца. Сустрэў былога міністра МЗС Гурыновіча. Наконт выступлення Шушкевіча спытаў. Нашыя вінаваты самі. Выйграла Расія. Наконт перамоў з перакладчыкамі. Міністр сказаў, што перакладчыкаў усе лічаць кэдэбістамі і даверу ніякога быць не можа. Пра нашага цяперашняга міністра-петушка: выпускнік універсітэта экзамен здаў і веды здаў.

*6 красавіка, аўторак*

Быў Васіль на праглядзе фільмаў дакументальных на кінастудыі. Яму спадабаліся ўсе, асабліва пра Слуцкае паўстанне і пра Марыю Рыгораўну. Некалі, сказаў ён, дужа прыдадуцца фільмы. Пра Марыю Рыгораўну і пра род Радзівілаў[4] сказаў: «Хоць гэта рознае, але лёс і ў яе, і ў іх нечым аднолькавыя па абдзеленасці».

*7 красавіка, серада*

У выдавецтве рэдсавет. Прэміі выдавецтва. Беднага Борачку Сачанку абышлі. Не ўсё згроб. Чыгрынаў пры ўсёй паказной прыдуркаватасці мазгі мае. Пра эміграцкую літаратуру сказаў, што ён пасля перачытання землякоў прыйшоў да высновы: нашая класіка на радзіме. А сёння ж за паседжаннямі не натыхаўся святым Дабравешчаннем. Ішоў дождж. На ўраджай як быццам. Для «Існасці» пісаў тэкст[5].

Свой след на снезе пакідаюць сані,
Як мы свой след на цаліку жыцця.
Сівейшая за хмары і паданні
Калыша сум дуброва забыцця.
У гліне, ў дрэве, ў фарбе затрымацца
На момант прагне ветрагонны час.
Пануе над усім краса і праца.
Надзённы хлеб яднае з небам нас[6].

---

[1] Гл.: Буслова нарачонка (4.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 394.
[2] Гл.: Дзякуй! Даруй… (4 —13.04.93) // Тамсама. С. 297.
[3] «У чым жа існасць існавання?» — дакументальны фільм па творчасці Р. Барадуліна.
[4] Радзівілы, княжацкі род Вялікага княства Літоўскага (з XIV ст.), затым Рэчы Паспалітай, у XVIII — XX стст. Расіі і Прусіі.
[5] Гл.: Існасць ([1993]) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 130.
[6] Зняты пачатак верша: «І свечкі — у святла святыя служкі…» (7.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 57.

*8 красавіка, чацвер*

Запісалі тэкст да «Існасці» з Марыяй.

*9 красавіка, пятніца*

Хадзіў па крамах, атаварваўся. Ужо мех звычайны больш за 300 рублёў, падпілак — 223. Баліць галава.

*10 красавіка, субота*

Невераемныя болі. Званіў Васіль, сказаў, што яму дужа кепска. Калі ўжо гэтак кажа, мне страшна. Госпадзі Усемагутны, паспрыяй нашай апоры нацыі. Не можа, відаць, яшчэ адысці ад учарашняй сесіі Вярхсавета. «Учора самы чорны дзень у нашай гісторыі. Хаўтуры па беларускай незалежнасці, — сумныя словы Васіля, сына Уладзімера. — Трэба гэтакія нервы мець, як у Гілевіча: прыгожа выступіць і задаволены сабою».

*11 красавіка, нядзеля*

Каталіцкі Вялікдзень. Праваслаўная Вербніца. Самы натуральны снег. Бог на зямлю, відаць, угневаўся. Перачытваў Бяліка. Пачаў па-беларуску перапісваць — дапісваць слова пра Барыса Заборава.

*12 красавіка, панядзелак*

Крыху па харчовых крамах. Слова пра Заборава. Купіў білеты на Вушачу. У адзін канец два білеты — 1500 р. Адчуванне нейкага канца. Нацыя разбурана свядома, мэтанакіравана. Мышленне й тое абмаскалена. А маскалёўшчына — гэта вычварны, пачварны гібрыд азіятчыны з горшымі адзнакамі славяншчыны.

* Дамініка: «Трэба вызваліць крэсла ад парадку».

*13 красавіка, аўторак*

Неяк ехалі ў тралейбусе. Малы кажа: «Там робат стаіць». А гэта помнік крываваму дзядулю Калініну[1], які чаёк з хадакамі нібыта піў. На працы крутаніна. Нейкае зацішша, як перад разрухай. Званіў Карлас. Трэба колькі слоў для буклета пра Васіля. Напісаў. Перадрукаваў, правячы, верш «Дзякуй! Даруй…» Матукоўскаму ў «Рэспубліку».

*14 красавіка, серада*

Першы дзень красавіка па прыроднаму нашаму календары. Але зябка. Прыходзіў Казлоў. Робіць афармленне. Быў прафсаюзны сход. «Дурноту» напісаў:

---

[1] Калінін Міхаіл Іванавіч (1875–1946), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1944).

*Зусім адзін*

Няшчырая розных падхлебнікаў шаць.
І ён ад думкі няўтульнай млее:
У памяці мулкае будзе ляжаць
Адзін,
Як Ленін у Маўзалеі.

Званіў вечарам Веры Вярбе. Перабіваецца. Прадае з запасаў каракулевыя шкуркі, пярсцёнкі. У яе кабель рэдкае пароды. За адну злучку — 30 тыс. Жартуе, што за зборнік меней атрымае. Відаць, кажа, давядзецца заняцца сабачым промыслам. Усё з ног на галаву перакулілася.

*15 красавіка, чацвер*

Здавалі фільм «Існасць». Фральцова[1] правільна заўважыла, што ў нас школа аператараў рэпартажная. Тым болей Вадзім Купрыянаў. Яму гэта ўсё не дарага. Расійскі люмпен, перакаці-поле. Дзе хлеб, там і радзіма. Наогул, нашае кіно састарэла, не набыўшыся маладым. Савецкія мазгі ледавіковага паходжання.

«У свата цераз плячо…»[2]

*16 красавіка, пятніца*

На працы замочвалі прэмію Арлова[3]. Святы гомельскі наіў Кусянкова: расчулена расказваў, як нейкі генерал прапанаваў выпіць за дам стоячы. Сам гомелец гэтага не ведаў. […] каб меней думаць пра паганку, пісаў нешта светлае[4].

*17 красавіка, субота*

Званіў Васілю. Віншаваў з Вялічкам, што йдзе ўжо. Сястра[5] з дому прыслала яму пасылачку з гароднінай. Ірына Міхайлаўна ўсцешана морквай — даўно ўжо такое не бачыла. Казалі пра Адамовіча. У бальніцы піша аповесць. Васіль кажа, што гэта ўжо не беларуская рыса, а хутчэй яўрэйская, нямецкая. Мне, кажа, каб пісаць, трэба добрае надвор’е, душэўная лагода, добры настрой. Заўтра такое вялікае свята, […]. Дамінічка ў пакой свечку ўнесла, як анёл добрую вестку. «Унесла мне ў суботу Дамінічка…»[6]

---

[1] Фральцова Ніна Ціханаўна, беларускі мастацтвазнавец. Доктар філалагічных навук (2003). Прафесар (2006). У 90-я гг. гал. рэдактар Кінастудыі «Беларусьфільм».
[2] Гл.: «У свата цераз плячо…» (9–15.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 320.
[3] Літаратурная прэмія імя У. Караткевіча выд-ва «Мастацкая літаратура».
[4] Васілю Быкаву ў светлы дзень (16.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 340.
[5] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.
[6] Гл.: Багавейнае (17.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 322.

*18 красавіка, нядзеля*

Сёння святое Вялічка. Свята ўсіх святаў. Хрыстос васкрос. Віншаваў Васіля, Бурсава. Заўтра з Сёмухам пойдзем у царкву. Бо сёння не ўваб'ешся. [Малюнак.] А гэта Дамінічка намалявала мне каня-прыгажуна. Спачатку сказала, што качка, а пасля паправілася: конь-прыгажун.

*19 красавіка, панядзелак*

Да Радзіка. Ягоная карэктура. Як, дарэчы, трэба за сабой сачыць. Даганяе мяне ў пераходзе метро Якуба Коласа беларускі інтэлігент. Пытаецца, ці я гэта. І дадае: «Вы пра маці пішаце, пра іншае, а на прыпынку трамвая з жонкай стаялі і сказалі: «Няхай гэта быдла рассасецца»«. Ну, я патлумачыў, што пад быдлам я не меў на ўвазе народ, а проста натоўп, прытым рускамоўны ў асноўным. А асадак на душы застаўся кепскі.

*20 красавіка, аўторак*

Уладзімір Роліч ставіў замок у дзверы. Я дапамагаў мітусіцца. На Вялічка адказаў на пытанні «Комсомолки»[1]. Па радыё сёння доўга і нуднавата, стамлёным ад славы і глыбокадум'я голасам выступаў Ігар Бабкоў[2]. Яго аб'яўлялі: паэт, культуролаг, фундатар Інстытута Эўропы. У маладых мышленне больш савецкае, чым у партфункцыянераў. Хочуць запоўніць нішы структур савецкае імперыі, у прыватнасці, лакейскай Масквы. А робяць выгляд, што дэмакраты, антыкамуністы. А вушы аслiныя выдаюць па генах перададзены ім савецкі дух. Ужо розныя Камаі[3] ды Сачанкі, члены ЦК, больш паслядоўныя. […]

«Горад — той жа гарод…»[4]

*21 красавіка, серада*

Праца. Лятучка. Прапанаваў, як адзначыць выхад 3-томніка нашай паэзіі[5]. Каб вёў Ніл. Тады […] будуць асвятляць на радыё й тэле. «ЛіМ» будзе даваць фота, дзе паказана, як падаюць цені ад велічы. Вядома ж, выступіць Грахоўскі й Дзеружынскі. Усе тры паэты аднаго рангу. Бутэвіч падтрымае […]. Такім чынам выдавецтву танна абыдзецца.

Заходзіў Б. па сігнал другога тома. «Што, каб цяпер Вам прынёс творы Талстой». Гэта да сябе прымервае. Акуратна падабраў лісты — на расклейку. Падлічыў, як шмат зарабляюць машыністкі. Лаўлю сябе на дум-

---

[1] Гл.: Калі нямому вяртаюць мову…: З інтэрв'ю газеце «Комсомольская правда». 1993 г. // Аратай, яі пасвіць аблокі. С. 126.

[2] Бабкоў Ігар Міхайлавіч (н. 1964), беларускі паэт, празаік.

[3] Камай Аляксей Сцяпанавіч (н. 1936), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1990–1991 гг. 2-гі сакратар ЦК КПБ.

[4] Гл.: «Горад — той жа гарод…» (20.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 104.

[5] Анталогія беларускай паэзіі: У 3-х т. Мінск, 1989–1993.

цы, што ніколі нікога не пахваліў [...]. Ва ўсіх недахопы. […] Але прысутнічае ў літаратуры з асалодаю. Фігура. Высокі. Мажны. Важыць на вагах шмат.

*22 красавіка, чацвер*

Сёння радасць камуністаў. Нарадзіўся Вова [Ленін]. Дзякуй Богу, ні мітынгаў, ні шэсцяў. Толькі засядаў рэдакцыйны савет па пытанню падняцця заработнай платы. Як яе ні падымай, яна як член у імпатэнта. Нічога не можа. Бо цэны растуць як на лес гледзячы.

Аддаў Вользе Ягоравай[1] з «Камсамолкі» адказы на пытанні. Перадрук 10 старонак 600 рублёў. Расце дабрабыт. Дык вось Вольга Ягорава параіла мне, каб галава не балела, дараваць усім, хто пакрыўдзіў мяне, і папрасіць даравання ва ўсіх, каго пакрыўдзіў я воляй ці няволяй ад маленства да апошніх гадоў. Каго помню, наколькі помню. Я задумаўся. Відаць, у мне сядзіць ўсё ж паганец мацней, чымся хрысціянін. І цікава, і сумна, бо не змагу зрабіць гэтага. «Асяніны»[2]. Чытаў Радзіку і Тарасу. Падабаўся, здаецца. У Тараса была прапанова даць падзагаловак хатнім вершам: «Тыдзень». Параіўся з Радзікам, і трэба будзе назваць нізку «Дамініка», а падзагаловак: «Хатнія вершы».

*23 красавіка, пятніца*

Бегаў па лекі Дамінічцы й сабе. Званіў Гілю, што Ніла ў «Дурнотах» не падразумляваю нідзе. Трымае трэці месяц. Званіў Васілю. Ён рады цеплыні. Выстаяў у чарзе. Заліў бак бензіну й шчаслівы. І гэта наш Апостал нацыі. Да чаго ж здрабнела нацыя! Разгаварыліся пра таленты і літначальства. Васіль заўважыў, што не час марна абышоўся з імі. А яны свой талент ператварылі ў парахню, у труху. Як толькі ўперад нагамі выносяць, выносяць нават з упамінанняў у літаратуры, як быццам іх ніколі й не йснавала.

*24 красавіка, субота*

Да 20° цяпла. Шаленства. Адчуваю, што цягне да зямлі. А ногі баляць. А рукі баляць. Амаль як у вершы Шклярэўскага, апошняга паэта імперыі. Учора добра расказвала Святлана Прыгодзіч[3]. Яна пра палітыку, пра рэферэндум у Расіі, а дзядзька кажа: «Я думаю, каб пчолы выжылі, каб

---

[1] Ягорава Вольга Аляксандраўна (псеўд. Вольская Вольга; н. 1953), беларуская журналістка, спецкарэспандэнт газ. «Комсомольская правда» (1985–1995). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1984).

[2] Гл.: Асяніны (22.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 319.

[3] Прыгодзіч Святлана Рыгораўн (н. 1947), рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Жонка З. Прыгодзіча.

ячмень пасеяць ды самагонку выгнаць». Гэта болей трывала, чымся ўся палітыка, уся гаварыльня. Перарабляў верш «Засынаючы»[1].

*25 красавіка, нядзеля*

З рання тым займаўся, што звыкаў да нечаканай спёкі. Па мерках красавіка. Знайшоў свой верш недзе 1989 года «Адвіхурыцца сцюжа…»[2]. Пад вечар па класічнай схеме дождждык такі-сякі. Нават гром. Зіме ўжо не вярнуцца. Цёпла!

*26 красавіка, панядзелак*

Сёння чорны дзень нацыі. Чарнобыль. Падарунак камуністаў. «Паштоўка»[3]. Перад Радаўніцай чарнобыльскі дзень выпаў. Званіў Сёмуху. Наш святы пакутнік у працы над Бібліяй, вычытвае замежную карэктуру. […] Успомнілі Рэма. Як ён там? Безумоўна, яўрэйскі менталітэт розніцца ад нашага. І ў нас яўрэі ў асноўным задавольваліся малым, былі як ні кажы не дома. Дык, можа, і ў Амерыцы ім таксама, як тут. Славяншчына — і праклён, і наканаванне. Праклён — любіць гэтую сваю зямлю да фанатызму і ў радасці, і ў горы; у горы, відаць, болей. Наканаванасць — ад Бога. Жывіце, трымайцеся зямлі сваёй. Трывайце, пакутуйце, але нікуды вы не ўцячэце з зямлі свае. Відаць, у азіятаў меней фанатызму ў іхняе любові да зямлі свае.

*27 красавіка, аўторак*

Сёння Радаўніца. Валя зрабіла рытуальны стол. За сталом была й Дамінічка. Парастачак мой зніцелы. Потым запаліў свечку і ў душы маліўся за ўсіх. «На Радаўніцу свечку запалю»[4]. Напісаў нешта накшталт успамінаў. Трэба запісаць, што засталося ў памяці. Можа, калі каму-небудзь прыдасца.

*28 красавіка, серада*

Вечар Рыгора Рэлеса[5]. 80 год. Чытачы ягоныя, дзякуючы Кастрычніку, які хвалілі асабліва яўрэйскія паэты, глуханямыя хіба што сэрцам могуць чытаць. Гэта суцяшэнне слабое. Сын меламеда, добра, што ён не забыўся сваю мову. Амаль не гучала яўрэйская мова. Болей на «международном языке» з местачковым акцэнтам. Момант сумнага камізму ў гэтым ёсць. Янка Брыль сказаў па-чалавечы. Традыцыйна не красу-

[1] Гл.: Засынаючы (27.07.92–24.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 349.

[2] Гл.: Не хочацца (01.1989) // Тамсама. С. 242.

[3] Гл.: Паштоўка (26.04.93) // Тамсама. С. 100. У блакноце верш прысвечаны У. Верамейчыку.

[4] Гл.: На Радаўніцу (27.04.93) // Тамсама. С. 305.

[5] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт. Гл.: Іскра ў попеле ([1993]) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 171; Рыгор Рэлес (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 38.

ючыся й не слухаючы сябе. Артур Вольскі як узяў манеру па-піянерску дзяцініцца, так да сівых яец акторнічае. Артур чытаў пра гусей пераклад свой, а Брыль усміхаецца: «Яўрэй недзе думаў, колькі шмэльцу паляцела за мора». У Брыля, калі яго не нясе хваля самалюбавання, вялікая сіла абаяння, улада схіляць нязмушана да павагі. Фелікс Баторын чытаў пераклад верша «Дзікі Пегас»:

За сонцам будучых дзён
Ён не спыняе пагоні.
І дзе будзе заўтра ён,
Хто можа сказаць сягоння?

А зайграў быў верш у канцы сваім, калі б пабаламуціцца: «Хто можа сказаць? Коні!»

І заключнае слова сваё разумнае юбіляр казаў на чашніцкай расійскай мове. Не дай бог дажыць да такога ніводнаму нацыянальнаму паэту. Гэта прыжыццёвая смерць.

*29 красавіка, чацвер*

На радыё й на тэле ў сувязі з вечарам Васіля Быкава. Каб былі запісы. Трохі пазнавата спахапіліся. След было за 2 тыдні. Ну, нешта зробяць. Раптоўная цеплыня не зусім радуе, як і ўсё раптоўнае. Адно хіба што раптоўнае можа ўсцешыць, гэта каханне, мілосць. Мілосць з гадамі пачынае глядзець на цябе з нейкае скептычнай усмешкаю. І ўсмешкі гэтае ці насмешкі пачынаеш баяцца, як і ў маладыя гады. Яшчэ болей, хоць робіш выгляд, што табе гэта хоць бы што.

«Гэта, пэўна, прыкідваў і Ной…»[1]

Гаварылі з Васілём Сёмухам. Нейкая ерась ці што ўзнікае: чым болей горнемся душой да Бога, тым меней жадання йсці ў царкву, асабліва ў нас. Я сказаў Васілю, што ніколі з дому не выйшаў я, не пераксціўшыся, не прашаптаўшы словы да Бога, а вось людна гэтага зрабіць не магу. Бо ў гэтым нейкае акторства ці што. Вера — самотніца маўклівая.

*Васіль Быкаў*

Камуністам ды стукачам
Быкаў,
Быццам быкам чырвонае.
Хочацца капытам, лычам
У загонах хадзіць калонамі.
Га′ды юшацца, ліпне тля,
Падваротня хрыпне ад крыкаў.

---

[1] Гл.: «Гэта, пэўна, прыкідваў і Ной…» (29.04.93) // Евангелле ад Мамы. С. 343.

Свет гаворыць пра Васіля:
«Беларусь — гэта там, дзе Быкаў».

*[27–30 красавіка]*

*30 красавіка, пятніца*

Дамініка, каб паддобрыцца, прапанавала: «Хочаш, я табе намалюю Быкава? — Пасля перапытала: — Мурзатага Быкава?» Бо перад гэтым яна малявала мурзатую Дамініку, мурзатую маму, мурзатага дзеда. Эпітэт гэты яўна па-свойму разумее.

«ЛіМ» учора даў «Дурноты». Пра Сачанку чамусьці не памясцілася. […] Пісаў як дзіцячы [верш], толькі, відаць, у «Дурноты» лепей. «Баран на баране: Баран стаяў на баране…» [у дзённіку].

*1 траўня, субота*

Дзень міжнароднае салідарнасці. Хоць не трэба выкручвацца ад дэманстрацыі. Чытаю «По западной Двине и Днепру в Белорусии»[1]. Вялікадзяржаўны шавінізм так і прэ. Паустоўскі[2] (цытата з гэтага генія) дапісаўся, што Беларусь — сярэдняя Расія. Някрасаў[3] правільна казаў: «Люди холопского звания сущие псы иногда». У дадзеным выпадку ланцуговы сабака вялікадзяржаўя. А па тэле камуністы бойкі ў Маскве ладзяць. Хочуць развязаць славянскі Карабах.

Выступаў па «Свабодзе», браў інтэрв'ю Юры Дракахруст[4].

*2 мая, нядзеля*

Косцю паслаў на ўчастак. Сам хвор. Нарэшце вясновыя дажджы залажылі. І халады вясновыя абавязковыя вярнуліся. Ад усяго ўцячы няма куды. Кола замкнулася й вузее, як гарлавіна ў таптусе. Толькі ў сон уцякаць. А калі яшчэ сон з мамай і, вядома ж, дома. Засынаючы, прачынаючыся, пісаў верш пра сон «Жыццю непадуладны сон…»[5].

*3 мая, панядзелак*

Па заданню Радзіка ў Кіеў на нейкі падручнік напісаў верш «Беларуская мова»[6]. Карлас прывозіў білеты на Быкава. Пасля абеду йду на працу. У вестыбюлі натоўп. А гэта адкрыццё выставы кнігі. Краўчанка зноў на

[1] Алексеев Л. В. По западной Двине и Днепру в Белоруссии. М., 1974.
[2] Паустоўскі Канстанцін Георгіевіч (1892–1968), рускі пісьменнік.
[3] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877/78), рускі паэт і празаік.
[4] Дракахруст Юрый Аляксандравіч (н. 1960), беларускі журналіст і палітолаг. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1986). У 1991–1993 гг. ст. навук. супрацоўнік Інстытута эканомікі НАНБ. Сын А. Дракахруста.
[5] Гл.: Непадуладны (2.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 387.
[6] Гл.: «Ты ад маці, ты матчына…» (3.05.93) // Тамсама. С. 191.

ўсю глотку партапаратчыка заявіў, што я еду ў Ізраіль, каб перакладаць Бяліка. Падышоў, пытаюся, што, білеты ёсць каму аплаціць? Глядзіць на Бутэвіча, Бутэвіч на Краўчанку. Водзяць за нос. […] Хай пацешацца!

Дамінічка сёння сказала, што Макаўчык выскачыў на *голую вуліцу.*

* «Без Вас у Бога будзе пуста» (Радзік).

*4 мая, аўторак*

Выступалі ад выдавецтва ў бібліятэцы Якуба Коласа ў Серабранцы. Арганізатарам і натхняльнікам нашых перамоў быў Л. Дранько. Па-маладому любіць ён сябе. І добра! Гэта дае ўпэўненасць у тым, што робіць. Арлоў на гэты раз не прадаваў крыж Еўфрасінні. Чытаў нешта пад прозу пра Серабранку. Пацвердзіўся парадокс. У школьных бібліятэках няма беларускіх кніг, а заказы па 200 экз. Байкатуе гандаль. Ненавідзіць усё беларускае чынавенства яшчэ ад партыі.

Зноў «дурноту» зрабіў:

*За роўнасць*

Моль пралетарскага паходжння
Пад гнётам цемры векавое
І не чакае распагоджанне,
А есць што лепшае якое.
Яна амаль па-чалавечы
Стаіць за роўнасць у галечы.

*5 мая, серада*

Беганіна, тузаніна. Хваююся заўсягды перад выступленнямі: трэба было адкрываць вечар Васіля Быкава ў Палацы чыгуначнікаў. Баяліся, што завялікая зала. Але, дзякуй Богу, народу трохі прыйшло. Увесь час перажываў за Васіля. Звыш 2-х гадзін адказваў на пытанні стоячы. Пачынаў ужо садзіцца голас, адчувалася задышка. Але правёў свой вечар Васіль па-быкаўску грунтоўна, выдатна. Было пытанне, ці вядзе дзённік. Коратка адказаў, што не вядзе, бо лічыць гэта непатрэбным заняткам. Малады кэдэбіст стараўся дапячы довадамі, што ВПК — не такі ўжо й звер, што ў Штатах 40 % ВПК. Адыходзячы, папрасіў мяне ўзяць запіскі, бо з пустымі рукамі прыйшоў. Вечарам пазваніў, ці не забыўся я ўзяць абразок, які падаравала яму Раманькова[1]. Была на вечары Васіля, быў Радзік. Да Васіля пасля ўжо за аркай падышоў п’янаваценькі Някляеў і рэзюмаваў: «Дурыў Вас, Васіль Уладзіміравіч, ЦК, цяпер ПЭН-цэнтр». Гэта, відаць, адгалоскі лабазніка ад культуры Дударава.

[1] Раманькова Тамара (пам. 1998), выкладчык фізікі; ініцыятар стварэння Магілёўскага філіяла аб’яднання «Мартыралог Беларусі».

А вечарам Васіля ледзь не дабіў тэлевізар. Уключыў, а там выступае Антановіч[1] супроць рэферэндуму, за згоду, за адзінства. Нясе Ельцына. На сцэне Васіль заявіў, што нагі ягонай не будзе на тэлебачанні, паколькі там Чыкін[2] вучыць.

*6 мая, чацвер*

Раніцай званю Васілю з работы. Кажу, што запіскі й абразок узяў. Запіскі, кажа, парві, абразок вазьмі сабе. Але ж ён, кажу, табе падпісаны. «Тады неяк перадасі». Васіль ніколі не турбаваўся пра архівы. У адпаведнасці з радкамі Барыса Пастарнака. На вечар не прыйшоў ні заходнебеларускі […], ні Сачанка, ні даўгацыблы. Зайздрасцю, як чорнай скарынкаю, ажно давяцца. Усё ім Быкаў вялік.

Учора напісаў «Пасланне Радзіславу Лапушыну»[3].

*7 мая, пятніца*

Па гаспадарцы. Учора мне Дамінічка дала адуван, а сабе пакінула адуванчыкі.

«Ціха прывыкаеш да красы…», «Я па чарзе зняволенай вадзе…»[4]

*8 мая, субота*

Сойм БНФ (Беларуская гімназія). Адчыняе *Зянон Пазьняк*. Справаздача ўправы сойма БНФ.

*Івашкевіч:* «Няма суполак у 17-ці суполках [?]. 83 паездкі ў 52 цэнтры».

*Зміцер Жданюк:* «Сувязь са сродкамі масавай інфармацыі, з прадпрыемцамі».

*Мурог.* Фінансава-гаспадарчая дзейнасць, замежныя сувязі.

*Хадыка:* Заўвагі.

*Анцулевіч.* Рэпліка.

*Галіна Вашчанка:* «Ва ўправе адсутнічае ініцыятыва, энергія. Адсутнічае крытычны аналіз, рэклама дзеянняў Фронту. Выкарыстанне дэпутацкіх магчымасцяў на ўсіх узроўнях».

*Яўген Кулік.* Пра архіў БНФ.

---

[1] Антановіч Іван Іванавіч (н. 1937), беларускі філосаф, сацыёлаг, дзяржаўны дзеяч. Доктар філасофскіх навук (1973). Акадэмік сацыялагічных навук Расіі (1997). Прафесар (1977). У 1993–1995 гг. дырэктар Беларускага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу. Заслужаны дзеяч навукі РБ (1996).

[2] Чыкін Віктар Валянцінавіч (1949–2012), беларускі палітычны дзеяч. У 1990–1992 гг. 2-гі сакратар Мінскага гаркама КПБ.

[3] Гл.: Расчуленае перадзім’е (5.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 259.

[4] Гл.: «Ціха прывыкаеш да красы…»; «Я па чарзе зняволенай вадзе…» (7.05.93) // Тамсама. С. 241; 384.

*Вінцук Вячорка.* Пра працу палітычнае камісіі БНФ. «Рэдактар «Навінаў [БНФ]» часова выконвала. Відаць, будзе 2 разы на тыдзень. Хочацца, каб штотыднёва».

*Валянціна Трыгубовіч:* «Камісія па замежных сувязах. На грамадскіх асновах. У актыве 15 чалавек. А калі трэба, прыцягваюцца да ўдзелу людзі. Кантакт з пасольствамі ў Беларусі, з беларускай дыяспарай за мяжою».

*Міхно.* Камісія па сувязях з рухамі моладзі.

*Бабкоў.* Пытанні эканомікі. «Фронт не мусіць займацца стварэннем камерцыйных структураў. Уцягваць у свае мерапрыемствы прадпрыемцаў».

*Галіна Вашчанка:* «Дзецям Чарнобыля»[1]. Аздараўленне дзяцей у Беларусі й за межамі. Дабрачынная дзейнасць. Здароўе дзяцей сяброў БНФ.

*Юрась Беленькі[2].* Вынікі рэвізіі.

*Анцулевіч.* Пра распаўсюджванне «Навінаў».

*Хадыка:* «Трэба ўважлівей слухаць справаздачу. Пра «Навіны». Трэба стварыць вайсковую камісію, сацыялагічную службу. Сацыялогія, называючыся навукай, працуе на ашуканства».

*Адам Мальдзіс.* Пра архіў. Пра замежную камісію.

*Зянон Пазьняк.* Падводзіць вынікі працы камісій. «Каб быў ініцыятыўны чалавек, а не засынаў на хаду. Яшчэ й свядомасць трэба, бо ў нас жа не Польшча. Інфармацыйны цэнтр патрэбен абавязкова. Кулік сумленна збірае матэрыялы для будучага архіву. Арыгіналы сабе, а аддамо ў архівы копіі. Трэба камісія па абароне правоў чалавека».

*Чуйко[3].* Змены ў Статуце Фронту.

*Анцулевіч.* Статут партыі БНФ.

*Зянон:* «Партыя БНФ — палітычная абстракцыя, перыядычная шырма пад час удзелу ў выбарах».

*Апрышка.* Пра партыю БНФ.

*Вячорка.* Праграма БНФ.

*Івашкевіч.* Падрыхтоўка да з’езда.

*Пецiна[4].* БЖХДГ [?].

---

[1] Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» (з 1989). Заснавальнік і старшыня Г. Грушавы. *Грушавы* Генадзь Уладзіміравіч (1950–2014), беларускі філосаф, грамадскі дзеяч. У 1991 г. прарэктар Інстытута сучасных ведаў. Доктар філасофскіх навук (1994). Прафесар (1995). Дэпутат ВС РБ (1990–1995, 1996).

[2] Беленькі Юрый Адамавіч (н. 1960), беларускі палітык; дэпутат ВС РБ (1990–1995) 12-га склікання.

[3] Чуйко Вера Андрэеўна ( 1950–2015), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. З 1973 г. супрацоўніца Інстытута фізіка-арганічнай хіміі НАНБ. Кандыдат хімічных навук (1984).

[4] Пеціна Людміла (н. 1950), інжынер. У 1991–1995 гг. дырэктар турыстычна-экскурсійнай фірмы «Сусвет-тур».

На перапынку падышоў да Ірыны Багдановіч[1] і адразу ж з адказам як бы запытаў: «Гэта ж не Вы напісалі пра Арсеньеву у «Біябібліяграфічным слоўніку»?[2] Яна сумелася: «Адкуль Вы ведаеце?» Пасля па сакрэту сказала, што толькі ейнае прозвішча, а тэкст [...] Адама Мальдзіса, без каго не адбываецца ніводная прэзентацыя, ніводнае зборышча. […] Ён жа сапсаваў Ірыне рэпутацыю. […] падпісаў ейным прозвішчам. Як жа цяпер будуць на паэтку глядзець паплечніцы? Не па-мужчынску.

Еду ў метро. Нейкі п'янавата-ахламоністы сівец з даволі зграбнай чарнявачкай. Туліцца па-барановаму да яе галавой. Потым тлумачыць, чую, беларускія месяцы. Зірк, аж гэта Яня Кляўкова[3]. Яна мяне першая пазнала. Хвіліна няёмкасці. Добра, што трэба было выходзіць. Калі пры жыцці, бывала, Генадзь некага выпорваў на кухні ў рэстаране ці сама якая з бур'яноў выскоквала й вешалася на шыю, лічылася нармальным. А тут неяк абразіла мяне. Сам не магу растлумачыць, чым. Жонка — радня халодная. А тым болей сучасныя. Дзеці — той вузельчык, што звязвае, але не заўсягды трывала. Часта вузельчык ірвецца. «А жонка сябрава з другім…»[4]

Вечарам уключыў радыё. Знаёмы голас. Прыжывалка ў літаратуры пра міжнародную канферэнцыю ў Польшчы пра Эрас.

Напісаў «дурноту»:

*Міжнародны клопат*

Канферэнцыя па Эрасу
Міжнародная. Таму
Нешта прымаўка шашэжыцца
Пра галодную куму.

*Хто ж герой?*

Хто зорны герой, якраз
Адкажа па часе час:
Ці той,
Хто ўзбройваў космас,
Ці той,
Хто мройліва коз пас.

---

[1] Багдановіч Ірына Эрнстаўна (н. 1956), беларуская паэтэса, крытык, літаратуразнавец. У 1983–1997 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Кандыдат філалагічных навук (1985).

[2] Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік: У 6-ці т. Мінск: «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», 1992–1995.

[3] Жонка Г. Кляўко. *Кляўко* Генадзь Якаўлевіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык.

[4] Гл.: «А жонка сябрава з другім…» (8.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 249.

*9 мая, нядзеля*

Дзень Перамогі. Смутны дзень. Бацька галаву склаў за чужую, крывавую імперыю. На вуліцах аперэтачнасць ветэранаў. Шкада іх. Што заслужылі? Бочку мякіны. На ордэны й медалі іхнія «гнойныя мухі» так званага турызму глядзяць, як на магчымыя долары.

У Доме кнігі прэзентацыя нашага выдавецтва. Уручалі дыпломы лаўрэатаў. Кусянкоў вёў занудліва. У Саюзе пісьменнікаў весялей хаваюць.

Валодзя Арлоў расказаў, як яны ў маленстве куплялі марожанае за манеткі, што кідалі ў святую крынічку, дык вось калі пачала карміць яго святая Еўфрасіння. А потым пачалася распрадажа Крыжа па ўсім дзетолькімагчымых выданнях.

Лецка казаў, што бачыў дакладную Дземчука[1] Кебічу пра першы сход, які арганізоўваў «Бацькаўшчыну». Так бы мовіць, нацыяналісты канаводзяць, антыдзяржаўнікі. [...]

*10 мая, панядзелак*

На працу. Сёмуха нейкі разгублены. Зноў пачынае ў хамут біць. Шчырая, непрыкаяная душа.

«Час папрасіў»[2].

*Юр і Эрас*

Наш тутэйшы дзядзька Юр
Кажа госцю з міфаў Эрасу:
— Я налью табе ўкаптур
Хоць цабэрак, ды не херасу —
Мазгакрута першака,
Што мацней ад канька.
І ў пярыне, і на верасе
Будзь наверсе,
Пане Эрасе!

** Нарадзіўся ў канюшні — пах не адмыеш.*

---

[1] Дзямчук Міхаіл Іванавіч (1946–2016), беларускі вучоны-фізік, дзяржаўны дзеяч. У 1991–1994 гг. нам. старшыні СМ РБ . Доктар фізіка-матэматычных навук (1983). Прафесар (1985). Член-карэспандэнт АН БССР (1986). Заслужаны дзеяч навукі РБ (1996). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Гл.: Час папрасіў (10.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 346.

*11 мая, аўторак*

Валянцін Рабкевіч расказаў страшную рэч пра Фёдара Янкоўскага[1]. Яму ў свой час Барыс Лапаў[2] расказаў. Пад час вайны спалілі хату з сынком і жонкай Янкоўскага. Ён жа партызаніў, узначальваў разведку. Дык астанкі гэтыя балючыя ён недзе перахоўваў, ці ў сябе, ці недзе зямлі аддаў іх. І свой чалавек быў у КДБ, і беларусам застаўся. Не маглі ніяк узяць. Нават член-кара не далі. Усё-ткі ў ім чулі беларускі дух.

*12 мая, серада*

Учора Андраюк сказаў, што, відаць, дарогу ў Ізраіль выдавецтва возьме на сябе, чаго б мне дужа не хацелася. А сёння раніцай іду ў выдавецтва, а мяне ўжо пытаюць наконт паездкі, служба інфармацыі лепей пастаўлена, чымся на Кубе.

Анатоль Белы папрасіў нешта сказаць пра паэтаў-эмігрантах, будзе вечар клуба «Спадчына» 28 мая. Каб было карацей, напісаў колькі радкоў у рыфму «Паэтам на чужыне»[3].

*13 мая, чацвер*

З кіношнікамі да Пімена Панчанкі. Ногі адняліся. Жонка пад рукі водзіць, куды трэба. Почарк пасля інсульту сам ледзь разбірае, калі запіша што ў блакноцік, што некалі прывёз яму з Таліна. Што гады й хвароба робіць з чалавекам! Дзе той ільвісты Пімен? Адчуванне бездапаможнасці наклала нейкі адбітак ледзь не крыўдлівасці. Кіно пра тое, як цэнзура лютавала. З архіва ЦК канкрэтныя дакладныя Галоўліта[4]. Там скрозь Пімена вучаць, знаходзяць недахопы. Расказваў, як выклікаў у ЦК нехта Буслаў[5] (здаецца, лічыўся савецкім філосафам), выгаворваў за Быкава. Зачапіўся й за тое, што Пімен выпівае. Той пярэчыў, што на працы ніколі. Буслаў працягваў, што дакладалі: ад Пімена часта пахне. На гэта Пімен адказаў: «Не там нюхалі». Разгаварыліся. Цэнзура — кепска, але й такі разгул уседазволенасці, які цяпер гуляе й на радыё, й на тэле, таксама — не дэмакратыя. Пімен яшчэ застаў лепшыя традыцыі беларускага народа. І дзяўчаты нашыя лічыліся лепшымі нявестамі. Шмат вайскоўцаў таму й асела. Дый выбіралі маладую. Калі ў родзе нехта ці краў, ці што благое рабіў, не маглі такую сватаць. А цяпер уплыў маскалёўшчыны, са-

---

[1] Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч (1918–1989), беларускі мовазнавец, пісьменнік. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навук БССР (1972).

[2] Лапаў Барыс Сцяпанавіч (1925–1967), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1955).

[3] Гл.: Паэтам на чужыне (12.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 94.

[4] Галоўліт — Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў.

[5] Буслаў Казімір Паўлавіч (1914–1983), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1966). Акадэмік АН БССР (1978). Заслужаны дзеяч навук БССР (1978).

мых горшых завядзёнак так званага старэйшага брата. На свята надзеў скарынаўскі медалёк, а ён бедненька выглядае. Сэканомілі. Пенсія ў Пімена недзе каля 18 тыс. Разгонішся як сабака ў торбе. А ўжо ў яго праўнукі пайшлі. І ўсе цягнуць з бацькі, з дзеда, з прадзеда. А што цягнуць? [...] Пімен чытае вершы, якія зняла цэнзура. Некаторыя да сёння не надрукаваныя. Пра Косціка-прахвосціка (здаецца, гэтак называецца) — гэта пра [...] Кірэенку[1]. У свой час Кузьмін[2] ([... Кірэенка] ездзіў з ім на рыбу) раіўся: трэба даць званне народнага Кірэенку. Пімен запярэчыў рэзка.

У «Звяздзе» беспадобны артыкул Зянона пра бальшавіцкіх [...] на чале з крывавым Валодзем. Стрымана, доказна, з цытатамі. Ворах па целе йдзе ад бальшавіцкіх жахаў. Зноў удзельнікі штурму Зімовага будуць ліць памыі на светлую галаву Зянона, абараняць крывавага куміра, мерцвяка, страшнейшага за Гітлера[3]. Задоўга да Гітлера 5 верасня 1918 г. быў прыняты дэкрэт СНК аб утварэнні канцлагераў.

*Наталлі Давыдзенка*
*(на «Трэба дома бываць часцей...»)*

І мудрай, і яшчэ чароўнай,
З паэзіяй хіба што роўнай
Наташы, і яшчэ Марыне
Ў натхнення быць на прыпаміне!

*13.V.93, Менск* *Рыгор*

*14 мая, пятніца*

Першы дзень траўня [па старому стылю]. Спёка не адпавядае месяцу. Бегаў па гаспадарчых справах. Карлас сказаў, што з паездкаю ўсё добра. У МЗС дужа спрыяе Палупанаў[4]. Дзякуй яму. Дужа не люблю перадзборны час. Ужо хвалявацца пачынаю за паездку. Маладзейшымі гадамі хапала гадзіны на зборы. А цяпер, як дрэва, урос у побыт, у абставіны. І з каранямі сябе кожнага разу выдзіраем. А гэта нялёгка. Сум і смутак штодня ступаюць следам. І не адстаюць. Як падумаеш — неўзабаве 60. А ўсё яшчэ нечага чакаеш.

---

[1] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1972).

[2] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1971–1986 гг. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] Палупанаў Уладзімір, супрацоўнік Міністэрства замежных спраў.

*15 мая, субота*

Хвароба навалілася на плечы, як мядзведзь, і не пускае з сваіх абхапцаў. У вачах і галаве ўсё стаіць Пімен. Бездапаможны, гатовы, здаецца, заплакаць ад маленькае крыўды якое. Трэба ехаць на лехі, хоць нешта ўскапаць. Не магу. І ногі мяне падводзяць, і галава. Ілона з зяцем [...]. Абяцалі ж участак ускапаць, нешта пасадзіць. Ды дзе там!

*16 мая, нядзеля*

Ракам-бокам неяк падняўся. З'ездзіў з Валяй на лехі. Па дарозе ў Заслаўе. Марыя дала бульбы, дужа дапамагла й капаць, і садзіць бульбу. З Валяй пасадзілі яны трохі цыбулі. Заходзіў да Тараса. З Рэняй, як кот з коткай на каптуры ў сваёй чырвонацэглай хацінцы. Па дарозе цэкоўскі недаростак Пашкоў аж зубамі дзярэ зямлю. Побач капітан КДБ Грышановіч таксама шчырэе. Гэта іхняе сапраўднае прызначэнне, а яны яшчэ ў паэзію лычы торкалі. Лычагаловыя цэкоўскія халуі. Усіх падбіралі ростам пад крывавага Валодзю. Як расшабуняешся, дык і прыемна трохі папрацаваць. Векавы інстынкт селяніна праяўляецца праз вякі. У альтанцы сядзіць квадратны Вялюгін. [...] Чакае.

*17 мая, панядзелак*

Праца. У Сёмухі памерла цётка ў 104 гады, якая была яму за маці.

Ірына Быкава добра сказала: «Васіль як смоўж на патэльні ад тэле, інтэрв'юераў і іншых».

Казалі з Васілём Сёмухам пра самалюбаванне Брыля. Ён сам у сабе задушыў пісьменніка, [...] а Караткевіч не шкадаваў сябе, не дбаў пра сябе. І ўвайшоў у беларускую літаратуру, каб застацца ў ёй класікам. Брыль можа быць цікавы наступнікам хіба што моваю. [...]

Часта думаю, як гэта пры нашае векавое талерантнасці мы захаваліся. Забываюся пра адно: захоўвалі рэлігіі (веравызнанні), не дазвалялі рабіцца мяшанцамі, былі сем'і, векавы ўклад жыцця. Бальшавікі якраз і пачалі са знішчэння рэлігіі, разбурэння сем'яў, укладу жыцця. Ім перашкаджалі нават хаты, маёнткі — зносілі, каб засяліць сацыялістычна-кантрацыйныя баракі. Дзе усе сачылі адзін за адным, дзе ўсе былі амаль аднолькава прыціснуты й задаўлены. А тут яшчэ выдуманая дружба народаў. Народ, які любіць сябе, толькі такі народ можа паважаць іншы народ. А ў бальшавікоў усё йшло наадварот. На словах дазвалялася любіць сябе толькі расійцам. Бо яны — старший брат. Пісаў для «Вожыка» [на А. Марачкіна, А. Кудраўца[1]]. Рэдактар настойвае, каб было пра Б. Лепей не ча-

[1] Гл.: «Як бэнээфавец і як мастак...»; «Старэюць святы, чэзнуць юбілеі...» (17.05.93) // Асобы рознай пробы. С.20; 39.

пацьні ўхвалаю, ні ўшчыканнем. Ён ужо, на сваю думку, жыве ў вечнасці. На здароўе! «І»[1].

*18 мая, аўторак*

У Літфонд — узносы й за паліклініку. Да Навума. Мудры. Самотны. Амаль забыты нават самім сабой. А мне ён такі дарагі й блізкі, бо лепшыя маладыя гады йшлі побач, поруч, поплеч. Дзякуй яму за падтрымку! З раніцы бралася на дождж. Настрой кепскі. […] У саюзе аб'ява, што вечар эстраднай песні й песняры Бадак, Дранько, Шніп. Лявона пацягнула на песні, як ката на варацакі. Імя гучыць, працэнт звініць. Звон.

«Старыя»[2]. «Мухі: Мухі гнойныя турызму…» [у дзённіку].

*19 мая, серада*

Прыходзіў на працу Крук[3]. Зрабіў фота на новы білет. Будуць ужо свае, а не саўімперскія. А сутнасці не мяняе. Навошта сакратары ў саюзе? Гэта ж […]партыйныя цівуны ў ідэі сваёй. Дый слова *саюз* асацыіруецца з чырвонай імперыяй. Хаця б якая суполка пісьменнікаў, супольнасць ці нешта іншае. «Свята»[4]. Гэтым вершам пачаў дзень пасля 12-ці. Баюся, каб не было кашчунства. Бо крыж упамінаецца. Трэба праверыць на Сёмуху. Рабкевіч сёння расказваў, як хавалі Лупсякова[5]. Выносяць труну са старога будынку пісьменнікаў, а Б. заламвае вугал і чэша некуды. Нізка яму правесці ў апошні шлях сапраўднага пісьменніка. Наогул, колькі ні чуў ад Б. пра Лупсякова — толькі пра п'янку й дзівацтвы. А пра сябе толькі як пра анёла.

* * *

Пазваніць, пачуць і — не сустрэцца,
Хай на попел жар перагарыць.
Сум,
Як прывід Старажытнай Грэцыі, —
Не ўстурыць, не перагаварыць.

Прысягаць маўклівасці самотнай,
Марай, а не караю караць
Успамін,
Што падступае ўпотай.

---

[1] Гл.: «І чаго давялося…» (17.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 138.
[2] Гл.: Нашча: Старыя (18.05.93) // Тамсама. С. 377.
[3] Крук Уладзімір Андрэевіч (1927–2008), беларускі фотамайстар.
[4] Гл.: Свята (19.05.93. [N.]) // Евангелле ад Мамы. С. 136.
[5] Лупсякоў Мікола (Мікалай Радзівонавіч; 1919–1972), беларускі пісьменнік.

Дакараць сябе — і
Дагараць.

*20 мая, чацвер*

Пачытаў Радзіку ўчора вечарам. Пасля ягоных заўваг перарабіў верш «Сум, як прывід Старажытнай Грэцыі…»[1].

Хадзіў на відэацэнтр. Праз тыдзень трэба здаць сцэнар пра Дзвіну. Цвяткоў едзе, здаецца, у Маскву. Радзік цяпер дзень з ноччу крыччу сядзіць над кандыдацкай.

Нешта складалася ў спёку: «Як і конь у даўнюю пару…»[2] Можа, на тэкст у фільм пра Дзвіну прыдадуцца радкі:

Ад суседзяў выцякае,
Як дзяўчына трапяткая.
Паняй толькі ў нас яна,
Уцякае да суседзяў,
Самавітая, як лэдзі,
Дзіваносная Дзвіна.
Хоць да мора прыхінецца
Даўгавай,
А застанецца
Беларускаю да дна.

*21 мая, пятніца*

Цэлы дзень рабіў беспарадак, робячы парадак. Думаў і прыйшоў да вываду, што ўсе так званыя кніжнікі ад КДБ, бо на мытнях рэдкія кнігі адбіраюцца, а пачалося з канфіскацыі і розных прафесарскіх збораў. Пад выглядам кнігамана лягчэй завязаць кантакт, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі. Адсюль Лужаніны, Сачанкі, Краўчанкі й розныя Марцінкоўскія. Пры млыне й незапыленыя.

*22 мая, субота*

Прыехаў з Германіі Васіль. З ім быў міністр культуры [Вайтовіч], Ваніцкі, пры міністры Волечка Йпатава[3], яшчэ ансамбль з Гародні «Белыя росы». Было шмат сустрэчаў і езданіны. Міністр і Ваніцкі вялі сябе замкнута. Калі ў машыне задавалася якое вострае пытанне, адкідваліся на спінку й рабілі выгляд, што дрэмлюць. Воленька — асоба кручаная [...]. Пры любых рэжымах жыць умее. Бог з ёй! Мне прыемна, што пазваніў

[1] Гл.: «Сум, як прывід Старажытнай Грэцыі…» (20.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 345.
[2] Гл.: «Як і конь у даўнюю пару…» (20.05.93) // Тамсама. С. 61.
[3] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца. У 1991–1996 гг. рэдактар газ. «Культура».

раптам Арон Якаўлевіч Скір[1]. Спецыяліст па Бяліку, ведае іўрыт. Абяцаў дапамагчы.

Раніцой сумная рэч. Сканала нашая любімая кошка Рыжуля. Ёй, здаецца, каля 18-ці гадоў было. Яшчэ з Рэспубліканскай пераехала з намі. Учора ўжо ледзьве жывая лягла была мне на руку ў ложку. Паспрабавала легчы. Усё жыццё пражыў з катамі ў хаце. У мамы заўсягды былі каты. Сабаку малому хацелася — самім есці не было чаго. А недзе ў канцы саракавых сканаў быў кот, здаецца, Мірон. Дык я малы схапіў кофту бабулі Маланні[2] й загарнуў яго. Так і закапалі. Потым, калі рыхтаваўся ў універсітэт, кошка Каця са мной як не вучыла білеты. Пасля, калі паехаў, мама казала, крычала дужа. Шукала мяне. Не стала мамы. Каця па гарышчах і нашай хаты, і чужых кацілася. У 79-м годзе на 70-годдзе мамы 10 чэрвеня прыехалі з Полацка на таксі. Селі да стала. Аднекуль бяззубая старая вылезла Каця на дзень гаспадыні. Галодная. Аж давілася кілбасой, ледзь не рэзала сабе рот капронавай кішкой. Потым ужо ніколі болей яе не было. Сёння закапаў пад дрэвам Рыжулю. Мірона былі закапалі пад бацькавым вязам. Як жывой душы не стала ў хаце. Не сустрэне ўжо ніхто галодным мявам. І хочацца папрасіць прабачэння, што парой псікаў, крычаў, нават выспятка даваў, калі мачылася не там, дзе трэба. Прыйшоў дамоў, а вуха яшчэ ловіць мяў.

*23 мая, нядзеля*

На лехі не паехалі. […] Даперачытаў Пяцікніжжа. Шмат што праясняе ў характары яўрэяў. Але ж дужа крывавы Веташковы запавет. Званіў Сёмуху, ён растлумачыў, што Веташковы ставіць дыягназ, а Маладзічковы лякуе.

Займаўся Дзвіной. А то кончык халодны. […]

*24 мая, панядзелак*

Раньком пайшоў, каб сустрэць Васіля, а сустрэў ужо ў пад'земным пераходзе. Ён рыхтуе нам 6-ты том свайго збору. Хацеў было некалькі артыкулаў даць па-расійску. Адраіў яму гэтае рабіць, каб не мець звягі. Быў Карлас. У яго нейкія вялікія ідэі выпрацоўкі метадаў абароны пісьменніка камп'ютарным розумам. Васіль думае йнакш: проста Карласа дураць вучоныя, якім няма працы. А ў ПЭН-цэнтры ні грошы, ні памяшкання. Зрабіў надпіс на «Выбраным» [В. Быкаву]:

Не магу цягацца з зоразнаўцамі,
Проста так скажу без пахвалеб:

[1] Скір Арон Якаўлевіч (1913–1996), выкладчык БДАМ. Кандыдат філасофскіх навук (1967).
[2] Гайко Маланння Несцераўна (1887–1947), бабуля па маці.

Быкаў — васілёк у жыце нацыі,
Наш духоўны, наш надзённы хлеб.

Вечарам званю Васілю, і ён с сумнай іроніяй кажа: «Будзем мы бананавай рэспублікай, толькі без бананаў». Я расказаў расійскую папеўку пра семкі ў кішэні. Дык ён вясёла заўважыў: «Гэта яшчэ добра, што хоць семкі ёсць. І іх не будзе». «Сарочкай, досвіткам недаспаным забытаю…»[1] І на сон нешта ўзроставае роілася: «Туга ў вачах згасае ціха…»[2]

*25 мая, аўторак*

Абрыдла з гэтай паездкай. Сапраўды, як у нас казалі: «Я такую ласку і ў жыда знайду». Зноў праблема грошай. […] Адна радасць, што хоць дожджык прасеіўся спорны. Густы. Бо зноў, як летась, усё гарыць. А кошкі мне не хапае ў хаце.

*26 мая, серада*

У Нацыянальнай бібліятэцы прэзентацыя «Трэба дома бываць часцей…». Выступілі Зуёнак, міністр Бутэвіч, Глеб Артханаў. Галіна Дзягілева[3] па кнізе пачытала старыя вершы. Былі пытанні. Трохі пасядзелі. Пахвала — рэч прыемная, але дужа цяжкая, асабіста я доўга не магу яе трываць. Не дайшоў да стадыі Гілевіча, калі сам сябе падабаешся.

Раніцай Васіль прынёс 6-ты том Збору твораў. Вечарам па тэлефоне наконт тарашкевічаўкі й жалезнай наркомаўкі[4] размова. Адна, наркомаўка, русіфікуе, а тарашкевічаўка, асабліва ў вымаўленні (плян, кляса) як бы паланізуе. У нас як з рэлігіяй тут атрымліваецца. «Серп і кій»[5].

Пра бульбу думай, ці пра жыта,
Ці пра малочную раку,
Ды ўцям адно: жыццё пражыта
І час табе як жабраку
Падкідвае па медзяку,
І ты яшчэ жывеш нібыта,
Бо час з паўнюткай калітой

---

[1] Гл.: «Сарочкай, досвіткам недаспаным забытаю…» (24.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 247.

[2] Гл.: «Туга ў вачах згасае ціха…» (24.05.93) // Тамсама. С. 251.

[3] Дзягілева Галіна Аляксееўна (н. 1947), беларуская актрыса. Заснавальнік, дырэктар і мастацкі кіраўнік беларускага паэтычнага тэатра «Зніч» (з 1989).

[4] «Тарашкевіца» — правапіс беларускай мовы, прапанаваны Б. Тарашкевічам у 1918 г. *Тарашкевіч* Браніслаў Адамавіч (1892–1938), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, мовазнавец, перакладчык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны. «Наркамаўка» — з 1933 г. афіцыйны правапіс беларускай мовы. Назва ўтворана ад слова наркамат — Народны камісарыят асветы.

[5] Гл.: Серп і кій (26.05.93) // Евангелле ад Мамы. С. 141.

Спяшаецца да маладзейшых,
Іх і багатай калядой,
І стравай корміць саладзейшай,
І час смяецца, калі той
Ступае сцежкаю хлудзейшай.

*Пасля 26 мая*

*27 мая, чацвер*

Сустрэча з Аронам Якаўлевічам Скірам. Наконт Бяліка. Рэдкай эрудыцыі чалавек. Бібліязнаўца.

*28 мая, пятніца*

Клуб «Спадчына», вечар памяці Максіма Багдановіча. Выступаў. Павінен быць Быкаў. Не было. Ці не захварэў, крый Бог. […]

*29 мая, субота*

III з’езд БНФ у Купалаўскім тэатры. Гучыць «Магутны Божа»[1]. Адчыняе *Зянон [Пазьняк]*, уступам вітае *Васіль Быкаў*. «Барацьба наша ў самае пільніцы. Нацыя і воля». Вядзе Зянон. Арганізацыйны момант.

*Трыгубовіч* чытае віншаванне.

Справаздачу робіць *Зянон Паьзняк*: «Сумесна існаваць у рабстве — гэта не значыць быць разам з народам. Ідуць за тым, хто ідзе ўперадзе. Вольны чалавек у вольнай Бацькаўшчыне».

*Юрась Беленькі*. Справаздача Рэвізійнае камісіі.

*Віталь Гедрановіч* (Наваполацк): «Прадпрымоўцы хутчэй пераводзяць грошы за мяжу. Увядзенне беларускага рубля ў суадносінах 1:2. Выбух будзе ў Беларусі, бо эканоміку загоняць у барановы рог».

*Трусаў*. Прапановы.

*Грыцук:* «Няма прафесійнага апарату кіравання. Як арганізаваць рух наперад. Маруднасць інфармавання першага намесніка й даручыць яму справу».

*Тамара Раманькова:* «Камісію па ахове ахвяр рэпрэсій ўзначальвае Піскароў[2]».

*Мікола Буснюк*. Папраўка аб вылучэнні дэлегатаў на з’езд.

*Васіль Незагарэльскі:* «У нас няма ні грошай, ні бічоў, як у камуністаў. Няма на чым пад’ехаць у глыбінку».

---

[1] «Магутны Божа» (1943) — адзін з твораў, які прапаноўваўся на гімн РБ. Муз. М. Равенскага, сл. Н. Арсенневай. *Равенскі* Мікалай Якаўлевіч (1886–1953, Бельгія), беларускі кампазітар, дырыжор, музыкальны крытык. З 1944 г. у Германіі, з 1950 г. у Бельгіі.

[2] Піскароў Віктар Аляксеевіч (1929–2018), беларускі дзяржаўны дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1984; з 1991 г. у адстаўцы). Кандыдат юрыдычных навук (1980). Заслужаны юрыст РБ. Дэпутат ВС БССР.

*Сяргей Міхно:* «Вехі БНФ. Фронт страціў ініцыятыву».

*Генадзь Быкаў* — старшыня Незалежных [Свабодных] прафсаюзаў. Праблемы рабочага руху.

*Сяргей Гальфер:* «Каб сяброў рады выбіралі там, дзе жывуць. Падрыхтоўка кадраў, замены ўсіх узроўняў, калі перамогуць дэмакратычныя сілы».

*Кастусь Лабко:* «Рыхтаваць народ да ўсенароднага страйку. Не да канца прадумваем тактыку».

*Апрышка* аб НДП**.**

*Наталля Рослава*. Здымае сябе.

*Грудніцкі*[1] *Рыгор:* «Адсутнасць членства фіксаваных складак пачынае перашкаджаць руху. Нармальныя адносіны паміж цэнтрам і суполкамі».

*Мікола Грышан*[2]*:* «Наша Беларусь не свабодная. У нас генералаў хутка будзе болей, чым салдатаў».

*Ян Матусевіч:* «Як Бог дазволіць, каб хто ў прэзідыуме тут, стаяў на галаве дзяржавы. Боскае бласвенства ўсім».

566 чалавек дэлегатаў. 451 мужчын. 416 — з вышэйшай адукацыяй. 34 беспрацоўных. Адзін прадпрымальнік. 41 — Віцебшчына. Пасля перапынку *Зянон Пазьняк.* Падрахунак выступаў. Абмеркаванне праграмы БНФ, *Юры Хадыка.*

*Вінцук Вячорка:* «Менш — не, больш — так! Большасць народа партафобы. У нас наменклатурная рэстаўрацыя — значыць, знікненне дзяржавы. Бананавая ці бульбяная рэспубліка не накорміць нашых грамадзянаў. Нацыянальна-дзяржаўная свядомасць. Нацыянальна-незалежніцкасць. Балтыйска-Чарнаморскі пояс».

*Уладзімер Заблоцкі:* «Канцэпцыя эканамічнае рэформы. Тэмпы спаду вытворчасці ў 93-м годзе ў параўнанні з 92-м годам 10 %. Ёсць патэнцыял у Беларусі. Дзяржава павінна ствараць умовы для працы. Уводзіць рынкавыя механізмы трэба. Сацыяльную рынкавую эканоміку. Праблема ўласнасці. Уласнасць — капітал, які прыносіць прыбытак. Размеркаванне ўлады. Дзяржава можа вызначыць цану без кампенсацыі. Агульны рынак. Але спачатку рынак, а пасля агульны. Клірынгавыя пагадненні, калі няма валюты. Свая валюта. 2 млрд. долараў, каб [набыць] устойлівасць, і 8 млрд, каб эканоміку зрушыць. Калгасы: хай людзі самі вырашаюць. Экспартны патэнцыял трэба павысіць».

*Лазар:* «Падтрымка сялян слабая».

---

[1] Грудніцкі Рыгор Давыдавіч (н. 1947), беларускі філосаф. Заг. кафедры філасофіі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філасофскіх навук.

[2] Грышан Мікалай Паўлавіч (1933–2017), настаўнік беларускай мовы і літаратуры; паэт (г. Дзятлава Гродзенскай вобл.).

*Ян Грыб*[1] — нацыянальны прадпрымоўца. «Мала інтэлігенцыі тут. Мала ўвагі ўдзелена экалёгіі. «Дзядзечка, дазволь пераначаваць у маёй хаце хоць пад лаўкаю».

*Анатоль Кулік:* «У нас звялася гістарычная памяць. Раней страйкі, мітынгі, галадоўкі. І народ нас падтрымліваў. Народ нас чакае побач. Нельга абысці ўвагай ветэранаў. Увага моладзі, цяжка ўладкавацца на працу».

*Анатоль Фёдараў. Тадэвуш Гавен.* Ад палякаў Беларусі.

*Міхась Булавацкі*[2]*:* «Не могуць жабракі стварыць багатую дзяржаву. Новая сістэма нацыянальнай адукацыі. Мэтай новай адукацыі мусіць стаць чалавек свабодны».

*Алег Трусаў:* «Зацікавіць праграмай інтэлектуальную частку грамадства».

*Анатоль Рылько.* З Талачына. «Партызаны забілі амаль столькі, колькі немцы».

*Юры Куневіч*[3]*.* Фонд дэмакратычных рэформаў. Пра кіраванне й самакіраванне, адміністрацыйная структура. «Сістэму адміністрацыйных судоў стварыць. Выбары, рэферэндум, грамадская ініцыятыва — гэта дэмакратыя».

*Голубеў:* «Народ ужо сам пабачыў, што яны робяць. Працай і паводзінамі паказаць людзям, за кім ісці. Дзяржава фармальна створаная, але яе трэба абараніць, захаваць нацыю».

*Ананьеў:* Сацыяльныя даследаванні. Незалежная фірма «Адлюстраванне».

*Малько. Сяргей Навумчык.* Свабода прэсы.

*Зянон Пазьняк* дае слова *Веры Чуйко* аб статутнай дзейнасці.

*Валеры Грыцук*. Удакладненне. Функцыі старшыні й наменнікаў.

Падсумаванне робіць *Юры Хадыка:* «Дадаткаў да праграмы прагучала няшмат. Крытыка аб недастатковым радыкалізме».

*Уладзімер Крукоўскі* тлумачыць эмблематыку БНФ.

*Ландсбергіс*[4]*.* Вітае з’езд. «Дваістасць і траістасць адносін беларускага ўрада. Я маю слабасць гаварыць адкрыта. У нас агульная гісторыя на працягу вякоў. Наменклатурна-навуковыя колы хацелі пасварыць нас. Два назова літоўцаў. Для чаго гэта? Мы за незалежную й нейтральную Беларусь. А не мець ваенны блок тут жа за мяжой. Захаваць за Літвой еў-

---

[1] Грыб Ян Янавіч (н. 1961), былы вайсковец, беларускі пісьменнік і прадпрымальнік.

[2] Булавацкі Міхаіл Пятровіч (н. 1947), беларускі журналіст, пісьменнік.

[3] Куневіч Георгій Георгіевіч. У 1990–1998 гг. дэпутат Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў.

[4] Ландсбергіс Вітаўтас (н. 1932), літоўскі музыказнавец, публіцыст, палітычны і дзяржаўны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1969). Ганаровы старшыня савета сойма «Саюдзіса» (з 1991). Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1976). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1982).

рапейскі кірунак. Стварэнне спрэчак з Літвой будзе штурхаць Беларусь не на захад, а на ўсход».

Вылучэнне кандыдатур.

*30 мая, нядзеля*

*Аляксей Анішчык*[1] (Вільня): «Трэба раіцца. Каб мазалі на руках былі, з імі парайцеся. Парламент беларускі мусіць быць беларускім. Хочаш на рускай мове — едзь, калі ласка, мы яшчэ білет заплоцім».

*Чарнавіл*[2]. Вітае з'езд. «КПСС — найбольшы калектыўны злачынца XX стагоддзя. Аднаўленне імперыі пад выглядам СНД да агульных беларускіх Курапат. Аб'яднаць на эканамічнай аснове аднаўленне супольнасці. Не выдумляйце новых этнасаў. Партыі, дзе большасць лідэраў і іхніх сяброў. Каб Беларусь не стала імперыялістычным клінам паміж Украінай і Балтыяй».

*Барбара Кустачэнка* (Саюз палякаў). Вітае з'езд. «Кропля пераважвае часам тое, што ёсць у бакале, і бакал развальваецца. Пункт адносна нацыянальных меншасцяў варта пашырыць. Народ пачынаецца з інтэлігенцыі. Не дазволіць чалавеку гаварыць на мове Айчыны, на ягонай мове — значыць забіць яго. Не царкву ад дзяржавы аддзяліць, а школу ад камуністычнай ідэалогіі. Сацыялогія яшчэ не навука, яна яшчэ служанка невядома ў каго».

*Думітру Осіпаў*[3] (Малдова): «Прымітыўны капіталізм. Калі ў Маскве сустрэнуцца з малдаванінам на базары, дык, значыць, яны будуць ствараць аўтаномію. Не хочам, каб нас вызвалялі. Бо кожнае вызваленне дорага абыходзіцца Малдове, людзьмі асабліва. Я думаю, што я не адзін на вашым з'ездзе, хоць зарэгістраваны адзін (кэгэбісты ёсць, вядома). У адну калону — марш СНД. Каб СНД пайшоў у гісторыю за БЧС! Я двойчы быў у Беларусі, а першы раз у вас пачуў беларускую мову».

*Алег Латышонак* (з Польшчы, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў Польшчы). «Дзед ідзе на забаву, кашулю на сабе йрве і крычыць: «Я — беларус!» Бабка ўспамінала. А прадзед пытаўся: «А навошта табе Беларусь?»

Ад клуба «Спадчына» *Яўген Гучок*[4]*:* «Больш увагі на эканоміку. Не хапае здаровага, нармальнага экстрэмізму».

---

[1] Анішчык Аляксей Сцяпанавіч (1912–2007), беларускі настаўнік, журналіст, паэт і мемуарыст (псеўд. Андрэй Чэмер і А. Шпак). Быў рэпрэсаваны (1948–1962).

[2] Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч (1937–1999), украінскі журналіст, палітычны і грамадскі дзеяч; адзін з заснавальнікаў Народнага руху Украіны. Герой Украіны (2000, пасмяротна).

[3] Осіпаў Думітру (н. 1954), малдаўскі эколаг.

[4] Гучок Яўген Сяргеевіч (н. 1940), беларускі паэт. У 1971–2001 гг. рэдактар, вядучы рэдактар выд-ва «Народная асвета».

* Анішчык Аляксей. Вільня, 232051, вул. Жырмуну, 52–32, тэл. 75–86–06. Міх. Мінковіч[1], т. 23–21–40.

*Трусаў* ад «Грамады».

АДПБ. *Аляксандр Дабравольскі*[2]*:* «Б[еларуска-]Ч[арнаморскі] нафтавы калектар. Аб'яднанне дэмакратычных сіл».

Беларуская сялянская партыя, *Лугін:* «Адрадзіць сяло й сялянства, каб на зямлі быў гаспадар. Па галоўных пытаннях мы адзіныя. Племя, якое не мае нацыі, акупавала Беларусь. Чым больш людзей забірае зямлю, тым меней улады ў манкуртаў».

Саюз прадпрымоўцаў — *Карагін*[3]*.*

*Заблоцкі:* «Ручны саюз Кебіча».

*Мікола Статкевіч*[4] ад БЗВ: «Недапушчэнне выкарыстання войска супроць людзей».

*Вінцук Вячорка* па праграме БНФ.

З Васілём у госці да Каляды[5]. Васіль: «Ідэалогія камунізму, яна страшнейшая за мангольскія орды».

*Вынікі галасавання:* за — супраць

Зянон Пазьняк 511 — 7
Юры Хадыка 506 — 9
Уладзімір Заблоцкі 507 — 8
Валянцін Голубеў 502 — 13
Васіль Быкаў 511 — 7
Адам Мальдзіс 437 — 81
Артур Вольскі 437 — 87
Лявон Баршчэўскі 509 — 9
Рыгор Барадулін 478 — 40

---

[1] Мінковіч Міхаіл Ліпавіч (н. 1923), беларускі фотакарэспандэнт.

[2] Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч (н. 1958), беларускі радыёфізік, юрыст. У 1991–1995 гг. старшыня Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ). Заснавальнік Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.

[3] Карагін Уладзімір Мікалаевіч (н. 1952), старшыня Мінскага сталічнага Саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў. Рэктар Незалежнай акадэміі парламентарызму і прадпрымальніцтва.

[4] Статкевіч Мікалай Віктаравіч (н. 1956), беларускі вайсковец. Падпалкоўнік запасу (з 1993). Старшыня БЗВ. Кандыдат тэхнічных навук.

[5] Магчыма, Каляда Анатоль Данілавіч, фотамайстар.

*Зянон* дакладае пра стварэнне партыі БНФ. «Прэвентыўны ход. Юрыдычны парасон над нашым рухам».

*Уладзімір Анцулевіч* па Статуту партыі БНФ. «Каб паставіць Фронт у юрыдычна аднолькавыя ўмовы з іншымі арганізацыямі ў выбарах. Каб не прывесці да расколу наш рух. Фармальна сябра БНФ [стаецца] сябрам партыі БНФ. Партыя не мае свае праграмы, яна здзяйсняе праграму БНФ».

Заключэнне ў дырэктарскай Івана Іванавіча.

Зянон, калі спявае, харашэе, пяшчотнее, маладзее. Васіль, калі выходзілі, кажучы пра высокую інтэлігентнасць Анцулевіча, зазначыў: «Апошнім часам меней гляджу на дзяўчат, бо яны ўсе аднолькавыя, ці дужа прыгожыя, ці меней; болей гляджу на мужчын».

*31 мая, панядзелак*

Прынесла рукапіс Данута[1] ў суправаджэнні Чобата[2]. Абодва ўяўляюць з сябе шляхту, але мужыкі, хлопы добрыя. Засцянковасць нікуды не схаваеш. […] Вечарам званіў Васілю. Яму на з'ездзе наш археолаг Ш. расказаў, што цяпер КДБ вярбуе з абітурыентаў. Чаму на плошчы Незалежнасці ніколі амаль няма студэнтаў. Раскуплены, як парасяты ў кашалі. Абітурыенту абяцаецца спрыянне. А пасля можна й не старацца. Хто праходзіць, думае, што дапамаглі. І кадр надзейны. Хто праваліўся — ну й Лаўрэнцій Паўлавіч[3] з ім! Думаюць.

Заходзіў Лучанок, рыхтуе бязлікі вечар. Не падзяліў ці славу, ці грошы з Машэрашкай[4]. Вечарам ля помніка Багдановічу, адкрыццё фестывалю песні й паэзіі ў Маладзечне, які будзе. Прамая трансляцыя па тэле. Значыць, без Дранько нельга. Хутка, відаць, пеўні не будуць кукарэкаць без выступлення Лявона. Шустры, дай Бог яму здароўя. Аркестр Фінберга[5] выконваў оперу на словы Багдановіча. Музыка Ігара Паліводы[6].

[1] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. У 1982–1995 гг. ст. навук. супрацоўнік, заг. літаратурнага аддзела (Музея М. Багдановіча) Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

[2] Чобат Алесь Фёдаравіч (н. 1959), беларускі пісьменнік. У 1990–1995 гг. у друку.

[3] Берыя Лаўрэнцій Паўлавіч (1899–1953), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Міністр унутраных спраў СССР (1938–1945), адначасова нам. старшыні СМ СССР (1941–1953). Расстраляны.

[4] Машэрава Наталля Пятроўна (н. 1945), выкладчык БДУ. Доктар філасофскіх навук. У 1991–1994 гг. прэзідэнт Беларуска-расійскага саюза імя П. Машэрава. Дачка П. Машэрава.

[5] Фінберг Міхаіл Якаўлевіч (н. 1947), беларускі дырыжор. З 1971 г. выкладчык БДАМ. Прафесар (1997). З 1987 г. мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1990), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[6] Палівода Ігар Ігаравіч (1950–1996), беларускі кампазітар, піяніст. З 1988 г. у Дзяржаўным аркестры сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ.

Аўтарам лібрэта аб’явілі […] Лявона Пранчака. У чым тая лібрэтнасць? Аднаму Богу вядома.

*1 чэрвеня, аўторак*

У *Заслаўе.* Выстава Марыі Андруковіч. Мастацкае вязанне. Сапраўды, паэтычна й нацыянальна. Пасядзелі ў застоллі з модніцамі. Выставы цікавыя беларускіх вяселляў і застолляў, музычныя прылады. Габелены Дзёмкінай[1] пра міты Алены Кіш[2]. Быў у доме — хаце завозніка, у млыне, які не спыняўся з 15-га года, з года свайго заснавання. Пах малонай мукі трывожны, хатні, пракавечны.

Вечарам званіў Васіль, абураўся справаздачай пра з’езд БНФ Жданка ў «Звяздзе», у «Мы и время»[3] […] Савіцкімі — сынам[4] і бацькам. […]

*** Пяяць, апяваць, адпяваць. Без песні няма ні хрэсьбін, ні застолля, ні хаўтураў. Песня — жаўранак у блакіце душы людское. Жыццё такое, што заўсягды ёсць што апяваць, што адпяваць. Але будзьма болей пяяць, бо як казалі ў нас на Ушаччыне: якая песня ды не песня, а ўсё ж лепшая за зваду. Пакінем сабе песню, ворагам — зваду.

*2 чэрвеня, серада*

Праца. Чобат напісаў да Дануты прадмову, як тост на кухні. Прытым тост грузчыка ці сантэхніка.

«Бабульцы нялёгка стаіць…»[5]

*3 чэрвеня, чацвер*

На працы. […] Прыехаў Яша [Серпер]. Усім кажа, што не можа дазваніцца. Гэта проста жыдоўскія балаболкі, як у нас казалі. На развітальнае вячэры я адчуў, што ён ачужэў. Ён ужо ў іншым свеце, у іншым вымярэнні. Так чалавек задуманы. Забыцца на ўсё. Пачаць знава.

«Як у сцюдзёную раку…»[6]

*4 чэрвеня, пятніца*

У «Полымя» карэктуру аднёс. Па дарозе з Клышкам [сустрэўся]. Са студэнцкіх гадоў усё-ткі дружбацтва моцнае. Аж памаладзеў, пагаварыў з Анатолем. У «ЛіМе» самапахваленне Сачанкі. Настолькі ўбурэў, што

---

[1] Дзёмкіна Вольга Васільеўна (н. 1953), беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

[2] Кіш Алена Андрэеўна (1896–1949), беларуская народная мастачка.

[3] «Мы и время» — грамадска-палітычная і інфармацыйная газ. (з 1990), у 1991–1996 гг. незалежная левая газета.

[4] Савіцкі Андрэй Міхайлавіч (1964–2015), беларускі мастак-графік. Сын М. Савіцкага.

[5] Гл.: «Бабульцы нялёгка стаіць…» (2.06.93) // Евангелле ад Мамы. С. 390.

[6] Гл.: «Як у сцюдзёную раку…» (3.06.93) // Тамсама. С. 5.

не ўлічвае пра жывых сведкаў. [...] Васіль з агідай успамінае, як Сачанка ў «Полымі» дапамагаў Галоўліту, правячы аповесці Васілёвы. У Васіля нідзе не ўжывалася слова камуніст, а Сачанка яго ўстаўляў у тэкст, калі ў «Полымі» нявечыў творы. [...] Адным словам — паляшук.

*5 чэрвеня, субота*

Думаў, што звар'яцею ад галаўнога болю. Праз сілу пісаў сцэнар для відэацэнтра пра Заходнюю Дзвіну. За вячэрай прыйшоў верш: «Люблю гліняныя міскі...»[1]

*6 чэрвеня, нядзеля*

Расклейваюся патроху. Сёння хапіў жывот. Напісаў вясёлае слова пра Петруся Броўку. Званіў Мікалай Казлоў. Здаў афармленне «Азбука — вясёлы вулей». Дзякуй яму. Чытаю кнігу Ісуса Навіна. Адно мейсца незразумелае. Блудніца, якая жыла ў сцяне Іерыхонскай. Сцяна рухнула. Як жа яна з сям'ёй ацалела?

«Эміграцыя»[2].

*7 чэрвеня, панядзелак*

У майстэрню да Казлова. Добра аформіў «Азбука — вясёлы вулей». Ён рускі карэнны, а Маскву не любіць. Гэта савецкая залатая арда, куды прымушалі ездзіць на паклон з дарамі. Званіў Васіль. У пераходзе каля фінскае запраўкі чорнай фарбай: «Лидеры БНФ — жиды!» А ў парку, дзе сядзіць вялікі пралетарскі [пісьменнік Горкі]. На скамеечцы, казаў Радзік, напісана: «Быков — гнида сионизма». Адзін почарк партыі — КДБ. Спрабаваў па «Свабодзе» паслухаць інтэрв'ю Лукашука з Быкавым, не ўдалося. Асобныя словы. Глушаць, як у светлыя часіны.

*8 чэрвеня, аўторак*

Відэацэнтр. Аддаў сцэнар. Учора званіў Яша [Серпер]. Абяцаў сёння, не пазваніў. Васіль прынёс драму ў 6-ты том Збору твораў. Баліць галава. Няма нідзе спакою.

*9 чэрвеня, серада*

У Галі Роліч дзень нараджэння. Дзяўчаты крыху паслабіліся. Пайшлі ўспаміны, якая бедная маладосць у кожнага пакалення савецкай так званай моладзі.

«Колькі разоў»[3].

---

[1] Гл.: Люблю (5.06.93) // Евангелле ад Мамы. С. 52.
[2] Гл.: Эміграцыя (6.06.93) // Тамсама. С. 344.
[3] Гл.: Колькі разоў (9.06.93) // Тамсама. С. 316.

*10 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень нараджэнне мамы па пашпарту. Думаў, успамінаў, у думках маліўся з ўпакой душы.

*11 чэрвеня, пятніца*

*Ушача*! Аб адзін дзень у Вушачу й назад. Марыя Рыгораўна слабая. Пятро недзе п'е. У крамах гола. Мястэчка галадна-насцярожанае.

*12 чэрвеня, субота*

Сойм БНФ у ліцэі. Васіль: «Рыцары фраз. Бальшавікі — рыцары дзеяння, хоць і фразай валодаюць».

Адчыняе *Зянон.* Зацверджанне па камісіях. «Увага на работу з моладдзю. Бо калі моладзь не пойдзе на выбары, выбары прайграем. Новую камісію па сувязі з рабочым рухам. Эканамічную камісію ўзначаліць спадару Заблоцкаму».

[Малюнак В. Быкава:] «В. Б. Ідуць на сойм БНФ. 12.VI.93».

Падкамісію па зямлі, стварыць камісію па экалогіі. Няма спецыялістаў. Групу пры сойме. Галасаванне за камісіі, за ўправу. Зацверджанне канчатковага тэксту праграмы БНФ. Зварот «За беларускае войска, супраць пераследу патрыятычнага афіцэрства».

*Абразцоў*[1]*:* «Па прафсаюзах 24 чэрвеня страйк завода аўтаматычных ліній. Мяркуецца, што падтрымаюць трактарны й МАЗ. Патрабаванні пакуль эканамічныя. Можа, будзе за рэферэндум, за адстаўку ўрада й роспуск ВС. Узровень рашэння праблемаў на сваім прадпрыемстве, а не на ўзроўні дзяржавы. На заводах ідзе парушэнне Кодэкса аб працы».

*Зянон:* «Толькі эканамічны страйк, ён прывядзе да яшчэ большай інфармацыі. Трэба адстаўка ўрада, Кебіча, тады правісае ВС. Адмена незаконнай пастановы аб забароне рэферэндуму. Знішчыць манаполію на інфармацыю. Кансалідацыя сілаў, акрамя камуністычных. Незалежная дзяржава й суверэнітэт. Мова. Рынкавая эканоміка. Няўдзел ні ў якіх блоках».

*Хадыка:* «Выбарчая кампанія ўжо пачалася фактычна. Паўсюдна нарастаюць імкненні да арганізацыйнасці. З 3 —5 тысяч фронтаўцаў трэба давесці хоць бы да 15 тысяч. А па-добраму, дык і 30 тыс. Спрасціць працэдуру выдачы пасведчання. Палітычны ўніверсітэт, паліталогія, інстытут культуры».

«Помах»[2].

---

[1] Абразцоў Зміцер, інжынер-металург завода «Зеніт» (г. Вілейка).

[2] Гл.: Помах (12.06.93) // Евангелле ад Мамы. С. 124.

*13 чэрвеня, нядзеля*

Па тэле фільм пра Купалу. Напачатку стваральнікі. Георгі Колас. Тлусты Скалабан[1]. […] Процька[2] дзякуе КДБ, што нешта паказалі. Дзякаваць кату за вяроўку ці за сякеру. КДБ робіць двайны бізнес крывавы. Спачатку знішчала людзей. Цяпер ледзьве не мецэнатнічае, паказваючы краёчкі дакументаў. […]

*14 чэрвеня, панядзелак*

Да Васіля. Занёс яму трохі ўшацкай цыбулі ў пер'ях і ў галоўках. Родныя прысмакі. Васіль у гаражы вычышчае, глянцуе машыну. Ва ўсім любіць парадак. У суботу перад соймам дамовіліся сустрэцца а палове адзінаццатай. Прыехаў на 5 хвілін пазней і пачаў тлумачыць, што па 10 хвілін перапынак паміж цягнікамі метро. Аж мне няёмка.

У «ЛіМе» вершы Дранько. Цытаты з Авідзія выдатныя. Працуе на вычытаным. Таксама можа быць і гэткі накірунак у паэзіі. Цытатны жанр. Ды ён крыху краматорны. Занёс у «ЛіМ» падборку Свірку. На працы зноў выступаў […] Грахоўскі. Ніяк […] не сунімаецца. Візы яшчэ няма. Як і ў добрыя часы імперыі — з Масквы трэба чакаць. Вось і ўся незалежнасць.

*15 чэрвеня, панядзелак*

Праца. Званок у Гародню. У Голуба інсульт. Шляхцянка Данута [Бічэль] дала згоду, каб нехта пра яе напісаў. Дзякуй яснавяльможнай! Дачытаў рукапіс Арона Скіра. Разумныя яўрэі ўмеюць напісаць пра Тору і Талмуд, пра ўсё яўрэйскае. А дзе нашы браткі-беларусы? За чубы бяруцца, хто лепшы? Даходзіць да дзівацтва. На афішы львоўскага тэатра прысвячэнне Артуру Вольскаму як патомнаму шляхцічу. […]

*16 чэрвеня, аўторак*

Нарэшце прыйшоў пашпарт з візай. У панядзелак, калі Бог дасць. У неба й на Святую Зямлю. У выдавецтве ўзяўся ўкласці томік паэзіі Якуба Коласа. Самому цікава, што з гэтага атрымаецца.

*17 чэрвеня, серада*

У Карласа забраць пашпарт і ўсё, што звязана з камандзіроўкай. Праца. Вечарам да Радзіка. Ён заўтра едзе ў С.-Пецярбург. Наконт дысерта-

---

[1] Скалабан Віталь Уладзіміравіч (1947–2011), беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст. Кандыдат гістарычных навук (1987). У 1972–1995 гг. супрацоўнік, заг. рэдакцыі выд-ва «БелЭ».

[2] Процька Таццяна Сяргееўна (н. 1951), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, праваабаронца. Кандыдат філасофскіх навук. У 1992–1994 гг. супрацоўніца Беларускага радыё.

цыі. Андраюку аддаў рукапіс Арона Якаўлевіча Скіра пра яўрэяў на Беларусі. Трэба было б, відаць, мець кнігу «Яўрэі на Беларусі».

*18 чэрвеня, чацвер*

З раніцы званіў Васіль, яму падабалася інтэрв'ю ў сённяшняй «Комсомолке». Прыйшла карэктура Пімена, пазваніў. «На старасці ты пацешыў мне душу… Пачынаю старэць — 75, 76. Ужо рыхтуюся да адлёту».

Заходзіў да Навума. Снедае салам. Тарас тлумачыць, што па мяса такія чэргі, што нервы ў Навума не вытрымліваюць. Пра кашэрнае й казаць не даводзіцца саветызаванаму гэбрэю.

*19 чэрвеня, пятніца*

Дзень нараджэння Васіля. Ледзь знайшоў букецік васількоў. Былі Зянон, Вера [Чуйко], Хадыка, Анціпенка[1]. Васіль у адным з тостаў: «Віп'ем за нашую шматпакутную Беларусь, хай ёй адгукнецца!» Зянон расказваў, як упершыню пакаштаваў ікру на 100-годдзі Цёткі[2]; як Ніл шчэміцца да камуністаў, а яны яго адпэнджваюць, бо па-беларуску гаворыць. У свой час па парадзе Васіля, бо ён сам адмовіўся ўзначальваць Аргкамітэт БНФ, прапанаваў Зянон Нілу, як ён круціўся, як вуж на патэльні, але адмовіўся. Потым прыводзіў Краўчанку адмаўляць ад рашучасці праграмы, за саюз з камуністамі.

Вечарам да Палякова. Паказваў свой фільм пра Ізраіль. Пра Іерусалім сказаў, што гэта горад, які плюшчыўся ад сонца. Быкаў даў мне як талісман срэбраны рубель з выяваю Янкі Купалы. На дарогу.

*20 чэрвеня, субота*

З Валяй хадзілі на базар. Дарагоўля. Шклянка чарніц 350 рублёў. Да Навума. Перадаў лісты да сястры. Валька [Тарас] расказаў анекдот пра грэцкі і какосавы арэх.

*21 чэрвеня, нядзеля*

* Ля ўзлётнае паласы бусел нешта шукае ў лужынцы. Іерусалім, даліна Суднага дня, царква Узнясення Хрыста.

*Іерусалім.* У аэрапорце выявілася, што забыўся запрашэнне. Паўнюткі самалёт — выцякаюць мазгі. Здагадзіліся б і нам. Праз тры гадзіны *Тэль-Авіў.* Сустрэў пасол Міхаіл Абрамавіч Фарфель[3] і Сяргей Арсеньевіч

---

[1] Анціпенка Аляксандр Ільіч (н. 1953), беларускі філосаф. Кандыдат філасофскіх навук (1986). Каардынатар праграм Фонда Сораса. Інстытут «Адкрытае грамадства», Фонд Сораса — міжнародная дабрачынная арганізацыя, якую заснаваў фінансіст і філантроп Джордж Сорас (н. 1930; ЗША, Вялікабрытанія).

[2] Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876–1916), беларуская паэтэса.

[3] Фарфель Міхал Абрамавіч (н. 1949). У 1992–1996 гг. пасол РБ у Ізраіле.

Супаненка. Нейкае, нібы ў сне, чаргаванне пустэльні каменнае з ручным аазісам. На камянях пасаджана. Па дарозе мяне ахаладзілі адразу. Запрашэнне мэра своеасаблівае. Гатэль і снеданне. А рэшту — ратуйся, як можаш. Болей нікуды не паеду, жабраком быць надакучыла. Білет, відаць, пераробяць на тыдзень з двух. Бо ногі выцягну. Але гэта побыт. А дух — галоўнае. Прысутнасць Бібліі на кожным кроку. Стаім над далінай, дзе мусім сабрацца пад час Страшнага суда. А на процілеглым баку царква. Адкуль узнёсся Хрыстос. Калі Ізраіль называюць вокам Зямлі, дык Іерусалім — зрэнка. Уся эміграцыя не зрушыць Ізраіль. Старых церпяць, пакуль перамруць, а маладыя праз мову, праз дух народа робяцца зацятымі патрыётамі. Пакуль у нас не будзе дзяржаўнаю мова, ні пра якую нацыю й незалежную дзяржаву не можа й быць ніякое размовы.

*22 чэрвеня, панядзелак*

Іерусалім. Сімпозіум па пытаннях Бібліі. Сустрэў Талстога. (У кого крест наружу, тот всех хуже.) Даклады традыцыйныя. Пасля Сяргей Супаненка павёз мяне ў царкву Гасподняе Дамавіны. Пры ўездзе на сцяне: «Смерць арабам». Еўрашуфлікі напісалі. *Гасподняя Дамавіна*. Не верыцца, што Бог дазволіў мне прыпасці да халоднага каменя, які ацверажае і ўзносіць дух у іншае вымярэнне, апасцініць. Паставіў свечку ў памяць мамы і бацькі, за здароўе Дамінічкі. Потым да *Сцяны Плачу.* Парослая кустоўем, зморшчаная, паскіпаная, убірае ў сябе жаль і смутак. Побач у сінагозе моляцца хасіды. Пагойдванне, пагойдванне, пагойдванне. Уражвае зацятасць веры.

Вечарам прыём ў Міжнародным Хрысціянскім пасольстве. Прафесар з Венгрыі, калі пачула пра Беларусь, адразу загаварыла пра Быкава. Яшчэ маладзенькай званіла яму ў Гародню з Менска з канферэнцыі, Васіль тлумачыў, як даехаць. Дасюль шкадуе, што пабаялася ехаць, прапусціць слуханне дакладаў. Быкава ў Венгрыі ведаюць, чытаюць курс у ўніверсітэце. Цікава, што МХП ў Іерусаліме з'яўляецца прадстаўніцтвам хрысціянскіх сіяністаў з болей як 70 краінаў, што дзейнічаюць на дабро народа Ізраіля й яўрэяў усяго свету. «Каля Гасподняй Дамавіны»[1].

*23 чэрвеня, аўторак*

Іерусалім. Крыжык свой учора паклаў быў на вечка Гасподняй Дамавіны і неяк па-новаму адчуваю ягоную сілу й ласку. «Ерусаліму: Не сталіўшыся маліць, малю…»]Закрэслены накід.]

Уночы сніўся Быкаў. Я яму неўзнарок канцом нажа ўкалоў да крыві вену на назе. І трымаў у руках ягоную босую нагу. Снілася Валя.

---

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Каля Гасподняй Дамавіны… (22.06.93, Іерусалім) // Евангелле ад Мамы. С. 277.

Раніцай у Тэль-Авіў. Нашае пасольства. Пагоня. Бел-чырвона-белы сцяг. Аж у душы пасвятлела. Пасля абед з намеснікам мэра й ветэранамі. Хто з Літвы, хто з Адэсы, хто з былой Заходняй Беларусі. Палкоўнікі. На развітанне адзін мне раіў ехаць сюды, бо ў нас справы будуць дужа кепскія. І без яго ведаю, што будуць кепскія, але я сябе не ўяўляю нідзе, акрамя Беларусі. Пакінуць маміну магілу — выкінуць душу на ўзвейвецер.

Старая *Яфа. Царква Пятра.* Персей і Афрадыта. Мора з сіняй славянскай усмешкай. Сяродземнае. Па дарозе на Тэль-Авіў Сяргей [Супаненка] завёз мяне ў *манастыр Latrun*, манастыр малчальнікаў. Там даюць абет маўчаць пяць, дзесяць гадоў. Нашаму б Вярхсавету, асабліва Л. й народнаму трыбуху Трусаву. Фарфель добра сказаў, што можна блукаць, але па дарозе дамоў, такі блук — як ён сказаў цікава — не страшны.

Заходзіла Вольга, дачка Палякова. Абжываюцца, круцяцца, і срачкі падцірала, і падлогі мыла, але хату купілі, муж з кампаньёнам купіў некалькі тэлефонных ліній. З прафесій былой імперыі тут прыдаюцца толькі медсёстры й камп’ютаршчыкі, якія могуць складаць праграмы. Ёсць медыцынскае абгрунтаванне, нават ля галоўных святыняў медпункты, бо ў Іерусаліме й Фларэнцыі ёсць хвароба — вар’яцтва ад прыгажосці. «Ён ступаў…»[1]

Тут араба можна пісаць як *а раб*. Дырэктар банка ўзяў пазыку, каб лячыць дачку, пераліваць кроў і іншае лекаванне дарага. Вярнуць не мог. Прапанавалі: ці вярнуць, ці на 5 гадоў сесці ў турму. Сеў у турму, седзячы, гуляе на біржы й лечыць, на выйграныя грошы, дачку, трымае сям’ю.

Фарфель расказваў, як у вернасці й любові кляўся Лукша — заслужаны антысеміт рэспублікі. Бутэвіч таксама лепшы сябра яўрэйскага народа. Камуністу праклясціся ў любові, як за вугал схадзіць. У гатэлі ўрада, дзе я жыву, усё хараша, як у келлі. А сюды ж некалі пад аўтаматамі заганялі жыць, бо побач быў арабскі Іерусалім. «Сцяна Плачу»[2].

* Супаненка, отец Арсений Андреевич, мать Александра Сергеевна. Т. 43–59–38.

*24 чэрвеня, серада*

Іерусалім. Прыём у рэстаране, загадчык аддзела Усходняе Эўропы, новы пасол у Беларусі Valk[3]. Бліны, а ўнутры марожанае, збоку гарыць цукар. Канец свету. Калі казаў я, што шкада, што выцякаюць мазгі, мудры рыжы Мазэль заўважыў: «У вас жа было столькі вякоў ацаніць і зрабіць яўрэяў сваімі». Цікава, што перасяленцаў завуць алімамі. А хто нарадзіў-

---

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Ён ступаў… (23.06.93, Іерусалім) // Евангелле ад Мамы. С. 278.

[2] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Сцяна Плачу (23.06.93, Іерусалім) // Тамсама. С. 278.

[3] Валк Эліяху (н. 1944), у 1994–1996 гг. пасол Дзяржавы Ізраіль у РБ.

ся тут — сабра. Гэтак завецца кактус: калючы вонкі й мяккі, пяшчотны ўсяродку. Пасол вучыўся ў Мінску, нарадзіўся ў Рызе. І цікава, што папрасіў знайсці яму ў Менску выкладчыка, каб вывучыць беларускую мову. Тут некага знайшоў, і жонка ўжо вучыць мову. А нашыя лапці разбэрсаныя сваёй роднай не ведаюць і ведаць не хочуць. Трэба яму параіць Ірыну Ідэльчык.

Потым на *Салёнае [Мёртвае] мора.* 395 м ніжэй за ўзровень мора. На 1 л вады 300 грамаў солі. Праязджалі блізка ля Іерыхона. Як белыя крыгі перад лёдаставам скрылеўе солі. Хвалі няма, толькі бруёк. Фінікавыя гаі. У арабаў кажуць не ссекчы пальму, а забіць, бо яна карміцелька. Абапал дарогі камяні гістарычныя з нумарамі навуковых даследаванняў. Недалёка Садом. На процілеглым баку — Іарданія. Шмат джыпаў, на якіх салдаты аб'язджаюць граніцу, якая йдзе пасярод мора. *Яўрэй* перакладаецца як *з другога берага,* прыхадзень значыць. У гарах пячоры, дзе хаваліся ясеі. Жартам, што ў Мёртвым моры можна было б саліць гуркі на ўсю Беларусь і вечна галоднай Расіі хапіла б. Вада салёная, як шчолак. Некалі й мама перад тым, як кідаць гуркі ў салёную ваду, клала яйка: плавае — солі даволі. Дык я, як тое яйка, усплываў. Ляжаш на спіну — падняцца немагчыма. Памагалі. Трэба трэніроўка. Расказвалі, як нашаму парт]…] паказалі сінагогу, дзе маліўся Хрыстос. Той ашалеў, як гэта: Хрыстос у сінагозе, а не ў царкве. Калі яму сказалі, што Хрыстос быў яўрэем, яму й мову адняло.

* Іерусалім. Па каменнай сцяжынцы бяжыць яшчарка й хаваецца ў зялёнае кустоўе. Кошачка ў траве й зацені. Думаў, есць мышыну, а гэта яна п'е з арашальнай кропельнай сістэмы. Папіла, абтрахнулася, пайшла цяньком. Заходняя калючка крас[?] сябе сама бароніць ад спякоты.

*25 чэрвеня, чацвер*

Іерусалім. Сёння дзень нараджэння Броўкі і Шклярэўскага. Помню. З раніцы ў Тэль-Авіў. *Дом Бяліка*. Дырэктар, ён жа й тлумачыў, Дубасарскі. Сустрэўся з Раяй Кульбак[1]. Перадала Машы тое-сёе. Бялік пра пераклад: «Тое самае, што цалаваць дзяўчыну праз хусціну». Бялік быў другім чалавекам, чыім імем пры жыцці была названа вуліца. Першы (не расчуў) сказаў: «Калі назвалі вуліцу, цяпер на мяне кожны можа пляваць, а раней не маглі». Дубасарскі вясёла запытаўся, ці названа маім імем вуліца. Вясёла параіў выдаць 4 тамы, як Бялік, і купіць (пабудаваць) гэткі дом. Жарт сум скрашвае. Па дарозе расказалі. Мэр Іерусаліма: «Калі па трапу сходзіць алім не з футаралам, значыцца піяніст». Па традыцыі ў звестках пра Бяліка Валожын [значыцца] у Літве. Вядома ж, не ў гістарычнай.

---

[1] Кульбак Раіса Майсееўна, дачка М. Кульбака. *Кульбак* Майсей Саламонавіч (1896–1937), яўрэйскі паэт, драматург, перакладчык. Рэпрэсаваны.

Абед у Сяргея. І — Сяродземнае мора. «Курыных багоў» [каменьчык з дзюркай], якіх любіў збіраць Валодзя [Караткевіч] — тут процьма. Канцэнтрацыя солі ў вадзе малая, яўрэяў — як у Мёртвым моры. Сёння ж пачынаецца шабат. Заўтра выходны дзень у яўрэяў. Адпачываць умеюць і любяць. На здароўе! У іх хоць маленькая радзіма, ды свая. А мы ў сябе дома, як у гасцях.

Званіла дачка Платнера[1]. Сумна. Беспрытульна. Да пенсіі яшчэ трохі. Даглядае старую хворую. Нешта мае. Жонка Платнера. 93 гады. Адна. Сумна. Іўрыт ёй ужо не вывучыць, а ідыш тут так патрэбен, як у Вушачы фарсі. Нейкія вечары на ідыш бываюць. Няма ёй з кім схадзіць. Мае 2 праўнукаў. Прадукты саўсістэмы хутка псуюцца ў захавальніках капіталізму.

* Тэль-Авіў. Дом Бяліка. Пабудаваны ім самім. Усё сапраўднае. Падарункі Леаніда Пастарнака[2]. Бібліятэка. Усё акуратна. Простыя драўляныя паліцы. Нічога лішняга. Кабінет таксама просты, зручны. Нічога зноўтакі лішняга. Па даўняй традыцыі Валожын называе Беларусь Літвою. Шкадуе дырэктар, што пласт еўрапейскае яўрэйскае культуры не выкарыстаны. Маска Бяліка, зроблена ў Вене, а па яўрэйскае традыцыі нельга было рабіць. Партрэт Бяліка са слоў ягоных вершаў і паэмаў. Таксама забарона была й на выявы. Дырэктар музея пра пераклад, што казаў сам Бялік: «Цалавацца з жанчынай праз хусцінку». А можа, гэта болей гігіенічна?

Прыйшла на сустрэчу Рая Кульбак. Я перадаў ёй ад Машы сувеніры, яна мной перадае ёй. Шчырая, спагадлівая. Пачала торкаць грошы. Бо так бы мовіць — сама з Саюза. Рэдкае душы чалавек тут, бо вырасла ў нас. На вуліцах Тэль-Авіва й на йскрыпачцы йграюць дамы з Саюза. [...] У музеі падарыў дырэктар факсімільнае выданне першае паэмы Бяліка. Дакладней, не выданне, а рукапіс Бяліка, які ён перасылаў для друку. Бялік быў другім чалавекам, каму ў Іерусаліме назвалі вуліцу пры жыцці. Першы казаў: «Цяпер на мяне як на вуліцу плююць, а раней багавелі». Дырэктар запытаў (дасціпны й вясёлы чалавек Дубасарскі): «А Вашым імем вуліца не названа?» Паказвае мне чатырохтомнае выданне й раіць выдаць таксама, тады змагу пабудаваць такі ж дом, як у Бяліка. Відаць, калі б у нас і выдаў чатырохтомнік, дык заробку б хапіла на маленькія вароцейкі ў плоце. Дык хто цяпер што выдаваць будзе! Усё жыццё будаваў паветраны замак, у асноўным на праспекце камуністаў, дык паветра й маю. І тое атручана й камуністычным рэактарам, і чарнобыльскім. Невядома яшчэ, які з іх мацнейшы па сваёй шкоднасці. Настолькі адчуваеш

[1] Платнер Ісак (Айзік Хаімавіч; 1895–1961), яўрэйскі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.
[2] Пастарнак Леанід Осіпавіч (1862–1945, Англія), рускі мастак і графік. Бацька Б. Пастарнака.

сябе нікчэмным, жабраком у асноўным-такі нармальным свеце. Сапраўды, усё — лоўля дзьмушак і марната з марнаты.

*26 чэрвеня, пятніца*

Снедаю, і грэшная думка, што яйка, як і жанчыну, трэба ўмець распрануць. З цярпеннем. Пазванілі. Выходжу. Дужа важны стары яўрэй. Гэта гід. Сын банкіра; калі было некалькі гадоў, вывезлі з Пінска. Вучыўся ў Парыжы. Ваяваў у англійскай арміі. Дужа баіцца, каб не вырас жывот. 77 год. «Мерсэдэс» у розных сабачках. Рушылі. Прыпыніліся ля *Іардана*. Агатавы ад ценю дрэваў. Ласкавы разлітай у ім светласцю. Абмываю твар, чало. Кшчуся. Малюся. З сабой у пляшачкі святое вады.

*Тыберыя.* Руіны амфітэатра, гладыятары. *Капернаум. Дом Пятра*. Камяні ад сценаў, ад падмурка, калі можна так сказаць. Не дужа ўтульна, цеснавата, відаць, жылося. Напалову разбураная сінагога. Непамерна вялікая, з маленькім уваходам. На карнізах выявы раслін, зорка Давіда і пяціканцовая, масонская пасля, масонска-бальшавіцкая яшчэ пазней, а гэта піфагораўская[1] выява чалавека ў коле: расстаўленыя рукі й ногі, і галава.

Па дарозе, калі ехалі, бедуіны — цыганы пустэльні. Арабы ўхітраюцца з турыстаў браць 2 шэкеля за тое, што залезеш [на вярблюда] і 20 шэкеляў, што злезці. *Гара, адкуль Хрыстос з Нагорнай казаню звяртаўся*. Даволі высока. Унізе разложыста-ўрачыста дасюль. Цяпер тут царква. Утульная. Старыя платаны разрастаюцца. Ім горача, рвуць на сабе кашулі. І вось яно — *Галілейскае мора!* Вада цёплая, цёмная, насычана-блакітная. Навокал горы спякотна-выгаралага колеру. «Затрапятаўся, быццам дабравесце...»[2] Уволю, як на Ваўчэнскім возеры, паплаваў у Галілейскім моры.

* Горад Тыберыя[3]. Юры Ільіч: «Рэлігія — другі ўрад». Дзе біліся арабы, вераць з заплюшчанымі вачыма. Дзе разбілі крыжакоў Тыберыя.

Бялік кепска гаварыў на іўрыце з нямецкім вымаўленнем. Адсюль паказка: гаварыць, як Бялік, значыць — кепска.

*27 чэрвеня, субота*

Кібуц мае свой гатэль 3 зоркі. Выпускае медпрыборы. Калі мора трохі адышло, тут знайшлі човен, якому звыш 2000 гадоў. Які, можа, і Хрыста помніў, ды памяць заліло вадой, ілам зацягнула. *Галанскія вышыні*. Магі-

---

[1] Піфагор Самоскі (VI ст. да н. э.), старажытнагрэчаскі мысліцель, рэлігійны і палітычны дзеяч, матэматык.

[2] Гл.: Стане Віфліемам сэрца...: Над Галілейскім морам (26.06.93, Іерусалім) // Евангелле ад Мамы. С. 280.

[3] Тыберый (42 да н. э. — 37 н. э.), рымскі імператар (з 14).

лы загінулых танкістаў сімвалічныя, бо згараюць у танку без астанкаў. Гэта была вайна танкаў. *Гара Хермон* на 3 дзяржавы.

Кібуц *Кацрын.* Славутая вінарня. Робяць віно, з 10 % усяго ізраільскага віна, што яны робяць, 40 % ідзе на экспарт ад усяго Ізраіля. Дакладнейшая навейшая тэхніка, электроніка. «Русалка»[1].

* Горы колеру вярблюда. Назад у Іерусалім. Тэмпература +50° з хвосцікам. Тут, як казаў Святлоў[2], можна піць.

Вечарам званіла Рая Кульбак. Выдаюць бацьку ў 4-х тамах. Нічога пра Сталіна не напісаў. Сумуе па Беларусі. Жывуць адным днём. Моляцца Богу, што сонца ўзышло, што зайшло ў міры. Успамінала Анікейчыка.

Званіла дачка Платнера. Званіла Рая Кульбак. Жывуць адным днём. Дзень пражыў — дзякуй Богу. Званіла Вольгачка Палякова. Сын заняў першае мейсца па плаванні ў Іерусаліме. Палепшыў рэкорд на 4 секунды. Маленькія радасці.

Званіў сын Скіра. Прасіў павіншаваць бацьку з днём нараджэння, бо ліст можа не дайсці. Калі ліст не дойдзе, павіншаваць бацьку з днём нараджэння 14 ліпеня. У голасе сум. Хацеў бы наведаць Менск, ды грашовыя праблемы. У галасах сум.

*28 чэрвеня, нядзеля*

Іерусалім. Ахалодная раніца. Кошка хоча злавіць варону — варон і ловіць. Ад Іерусаліма зыходзіць нейкі душэўны спакой. Тэль-Авіў. Аэрапорт. Менск. У гарачцы, ашалеўшы ад гевелду, прывёз дамоў чужы чамадан. Да паўночы разбіраўся.

* Раненька пайшоў пагглядзець у ахалодзе. Рыжая кошка, як некалі наша Рыжуля, хоча злавіць варону. Вароны цвеляцца, і яўна гэты занятак ім падабаецца. Вераб'і такі чаркат узнімаюць, што аж галінкі гайдаюцца. Яны колеру пагоркаў, выцвілых на сонцы. Паліваецца аўтаматычна парк. Нейкі ферт сабаку прагульвае ці наадварот. Даліны й узгоркі ў смузе ранішняй. Спускаюся ніжэй у гатэль. Камяняр б'е зубілам па каменю. Відаць, як тысячу гадоў назад. Хто каго. Ідзе адзінаборства.

* *** Дора Ільінічна: «Бедная краіна багатых людзей».

*Добра блукаць па дарозе дадому...*

*29 чэрвеня, панядзелак*

Праца. Разлічыўся за камандзіроўку. Дома ўсё добра. Дамінічка радая, што дзедзя прыехаў асабліва.

---

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца...: Русалка (27.06.93) // Евангелле ад Мамы. С. 280.

[2] Святлоў Міхаіл Аркадьевіч (1903–1964), рускі паэт, драматург.

*30 чэрвеня, аўторак*

У параўнанні з Ізраілем у Менску й халодна, і галодна, але дома. Як з самалёта ўбачыў лес, зайшлося сэрца. Настальгія — не літаратурны тэрмін. Відаць, і цвіку прыемней садзіцца ў старое гняздо, хоць па галаве малатком б'юць.

*1 ліпеня, чацвер*

Званіў Фарфель з Тэль-Авіва, пытаўся, як заехаў. Да чаго ён сімпатычны й родны мне. У магазінах і па картках няма гарэлкі. Завод на рамонце. Цэны на ўсё скачуць. У Вярхсавеце камбальшына коціць цэбар на Шушкевіча. Парт[…] асмялелі скрозь. Працягваю пісаць вершы пра Святую Зямлю. «Ерусалім»[1]. «Страх свой не абтрасеш, як прах…», «Прыгадваю гарыстыя Бычкі…»[2].

*2 ліпеня, пятніца*

Дамінічка казала, што яна дасць Божаньку пагуляць свае цацкі. Пыталася, а што Божанька скажа? «Іардан»[3].

*3 ліпеня, субота*

Трэба было ехаць у Вязынку. Не змог. Хваробы нейкія ціснуць мяне. Стараюся выпроствацца. Без мяне там хопіць аднаго гарладзёра Грахоўскага, апоры Ніла.

*4 ліпеня, нядзеля*

З раніцы званю Васілю. Кажа, што піша выступленне на адкрыццё палітычнае канферэнцыі 6-га ў Купалаўскім тэатры, што ладзіць БНФ. А Ірына Міхайлаўна, кажа, цвеліцца з яго, што робіцца як Шамякін. Пярэчу: Шамякіну пісалі, і ён муць нёс, а Васіль сам піша й разумнае. На тым і пагадзіліся.

Званіў Янка Запруднік. Прыехаў на Злецішча беларусаў свету. У аўторак пабачымся. Цягну нізку. Бог памагае — нешта пішацца. «Камяняр камень крута куе…»[4] Заўтра Дамінічцы 4 гады. Значыць, дачакаю, калі напісаў замест 4 — 5.

---

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Ерусалім (28.06. — 1.07.93, Іерусалім — Мінск) // Евангелле ад Мамы. С. 281. Верш прысвечаны М. Фарфелю.

[2] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Страх свой не абтрасеш, як прах…; Прыгадваю гарыстыя Бычкі… (1.07.93, думаючы пра Васіля Быкава) // Тамсама. С. 282.

[3] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Іярдан (2.07.93) // Тамсама. С. 283.

[4] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Камяняр камень крута куе… (4.07.93) // Тамсама. С. 283.

** * **

Аднойчы багадатнае яно
Прыйшло,
Да небакраю разлілося.
Каб цемра, шчэрачыся, адпаўзалася.
Ерусалім — распятае вакно
У космасе жывым
І ў кожным лёсе!
Над ім няўладны ты,
Няшчадны лёсе!

Датуль жаўцець і зелянець траве,
Трывала роду доўжыцца людскому,
І каменю скрышыцца немагчыма,
Пакуль і ў сэрцы, і ў вачах жыве,
На цемру наганяючы аскому,
Святарнае святло Ерусаліма.

Спачатку было напісаў такі верш. Але магу яго падарыць каму беднаму.

*Латрун*

Бесперапынны гаварун,
Не дужа пры ў начальнікі.
Падайся ў манастыр Латрун,
Манахі там — маўчальнікі.
Яны маўчаць далі зарок,
Пятнаццаць год нямтурацца.
Гавораць помах, зрок і крок,
Ажно язык натурыцца.

Балбатуноў бы ды настыр
З так званага парламенту
Прасіць бы ў гэты манастыр.
І меней стане ляманту.
Ды манастырскае віно
Не мірыцца з абразаю:
Адно за ўсіх шуміць яно,
Нам языкі развязвае.

«Манастыр Латрун»[1].

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца...: Манастыр Латрун (4.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 286.

*5 ліпеня, панядзелак*

Сёння Дамінічцы — 4! «Ерусалім…»[1] У рэдакцыю прыходзіла Іна Снарская. Прыехала на Злецішча беларусаў свету. Поўная энергіі, парыванняў. Жыве ў Палтаве. Як і ў бальшыны паэтак нешта, відаць, не ладзіцца […]. Гэтакі ўжо, відаць, кон у паэтак. Сыну тры гады. Хочацца ў Менск. Але цяпер гэта амаль немагчыма. Кватэра.

*6 ліпеня, аўторак*

У Купалаўскім [тэатры] ІІІ Усебеларуская палітычная канферэнцыя. Адкрыў Васіль Быкаў. Паслухаў Сідарэвіча й Запрудніка. Малады хлопец запытаўся, ці мае вершы пра партыю ў «Мы и время». Не чытаю гэтую газетку. Былі вершы пра партыю. Быў грэх. А малады максімалізм нічога не хоча дараваць. Вечарам на радыё. Купальскі энергетычны ланцуг. Чытаў верш.

* * *

Ад ускоту да закоту
Сонцу хапае сілы трымаць спякоту,
І свой настрой прыўзняты,
Як бы цыбатацене паўдзён ні рос.
Ерусалімскія схілы,
Быццам непад’ярэмныя асляняты.
І мроіцца:
На неаб’езджаным недзе
У горад едзе Ісус Хрыстос.

*7 ліпеня, серада*

Праца. Прыходзіла Іна Снарская. Працавалі над рукапісам. Прыходзіла Аўгіння Кавалюк[2]. Хоча зборнік выдаць. Усе хочуць. Званіў Додзіку [Сімановічу] наконт гатэля. «Шкадаванне»[3]. Вечарам у галаву ўлез дзіцячы несур’ёзнічак:

*Ён і я*

Ён траву
Ірве і раве.
Не ў ірве,
А ў рове

---

[1] Гл.: Стане Віфліемам сэрца…: Святарнае святло: Трыпутнік. 1. Ерусалім… (4.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 284.

[2] Кавалюк Аўгіння Трахімаўна (1934–2007, Санкт-Пецярбург, РФ), беларуская паэтэса; настаўніца. Жыла ў Рызе.

[3] Гл.: Шкадаванне (7.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 133.

Ён ірве карове
Сакавітую траву.
Ён рагоча,
Я раву,
Бо ці ў рове,
Ці ў раву
Я напаў на крапіву.

*8 ліпеня, чацвер*

З'езд беларусаў свету. Выдатна сказаў Васіль. Як заўсягды. Непаўторна Зянон, добра Запруднік, Алесь Барскі. А рэшта — як у імперскія часіны. Канцэрт бяздарны. Закончылі спекулятыўнай песняй «Жыве Беларусь» на словы [...] Жанчака[1] на матыў «Ленин всегда живой». Наогул, уражанне сумнае. Усё гэта болей самадзейнасць нагадвае. Летуценнікаў пасля палка тугі па радзіме абдалі халадзёнкай усё яшчэ савецкай рэальнасці. Зменаў мала.

*9 ліпеня, пятніца*

БНФ абнаўляў, нарэшце, свой куток. Пад бокам у міліцыі. Пасля пайшлі з Васілём да Ан. Белага. Клуб «Спадчына» даваў банкет на ўсю кавярню Дома літаратара. У БНФ па-студэнцку сціпла, а ў «Спадчыне» сталы ломяцца. Дамоў завёз здаравіла на навюткай машыне БМВ. Толькі што з Германіі за 28 тыс. даляраў. Усе нашыя намаганні выйсці ў свет праз эміграцыю марныя. Мы там госці.

*10 ліпеня, субота*

Да Навума. Фэлікс Кучар[2] перадасць праз жонку ([яго ...] чамусьці не пусцілі) Забораву відэапрывітанне. Перадаў яшчэ «Нёман» са словам пра Барыса й «Міласэрнасць плахі»:

Душа,
Ад нецярплівасці згарыш,
Захочаш
Вобраз паўтарыць абрысавы,
Папросішся
Ў забораўскі Парыж,
Чупрыністы,
Ірыніста-Барысавы.

---

[1] Жанчак Барыс Іванавіч (1937–2013), настаўнік беларускай мовы і літаратуры Беларускага ліцэя мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Беларускі і рускі паэт.

[2] Кучар Фелікс Айзікавіч, сын А. Кучара. *Кучар* Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), беларускі крытык, драматург, сцэнарыст.

*Навуму Кісліку*
*(на «Міласэрнасці плахі)*

Засведчыць гэта можа Тора:
Навум — глыбокіх дум апора,
Не любіць рэбэ тлуму й глуму.
Паэзіі сапраўднай куму,
Чарнабародаму Навуму
Ад пасівелага Рыгора.

*[7 ліпеня]*

* Фелікс Кучар, т. 27–78–51. 452801, Rīga. Адольфа Жук.

*11 ліпеня, нядзеля*
Канчаюся ад галаўнога болю. Хадзілі ў магазін. «Куртаты ўнуччын…»[1]

*12 ліпеня, панядзелак*
На працу. Зборы ў дарогу. Карлас прывёз лекі. На вакзал. На Віцебск. У Воршы стаянка. Як пасля вайны. Шпана. Падонкі. Нейкі ўчарнелы бомж падаўся ў бок хацінак. Жудасна й няўтульна. А гэта ж горад незабыўнага Уладзімера [Караткевіча].

*Віцебск.* Сустрэў Додзік [Сімановіч]. Добра, што ён ёсць. Без яго горад быў бы пусты.

*13 ліпеня, аўторак*
Віцебск. Аблкнігагандаль. Тэлебачанне. Запіс для радыё. У кнігарні. Беднай сіратой паўсюль беларуская кніга. Як самім Госпадам наканавана нашай кнізе сіроцтва. Як не ў сябе дома і ў імперыях, і без іх.

Вечарам ў Давіда. Звечарэлым Віцебскам па ціхіх вулачках. Нейкая асабліва родная сэрцу лагода разліта ў гэтым вечна загадкавым горадзе. Не хочуць лічыць яго сваім і маскалі, і ляхі, а ён крывіцкі, беларускі й толькі! Гэта арыец сярод еўрапейскіх гарадоў былых імперый, царскай і бальшавіцкай. Ён адзін з усіх гарадоў, дзе быў я, змушае сэрца біцца часцей, заміраць у невытлумачальнай асалодзе. Гэта фактычна славянскі Іерусалім. Быў на восьми холмах. Бальшавікі знявечылі.

*14 ліпеня, серада*
На магілу Пэна. Выстава «Пэн і яго вучні».

Садзьме вятрамі часу пену,
Бо ў свеце глыбіні замала,

[1] Гл.: «Куртаты ўнуччын…» (11.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 362.

І слава знойдзе месца Пэну —
Перашанастаўніку Шагала.

Выстава Язэпа Драздовіча. Непрачытаны, неразгаданы геній-самавук чакае свайго зорнага часу. І ён будзе. «А гарады, як мужчыны ў гадах…»[1] Пасядзелі крыху ў гатэлі з Давідам і Мішам Шмерлінгам[2]. Потым вакзал. Як у маладыя гады, аўтобус бяруць штурмам. Аж трашчыць ад бабак, вёдзер, кошыкаў — прывозілі прадаваць ягады ў Віцебск. Па дарозе дождж, які пераходзіць ў залеву, а залева пераходзіла ў дождж.

*[Ушачы.]* Сустрэў Пятро. Марыя Рыгораўна гнецца да зямлі. Нават калі пад'язджалі да Ушачы, усё наўкол раднела й ласкавела. І дождж цёплы, і сонца ахалоднае, гэта не Ізраіль.

* * *

Позірк — паломнік, страх — пілігрым.
Іх разумее здарожаны подзіў.
Віцебск — расхрыстаны Ерусалім —
Слухае неба на схілах стагоддзяў.

* «Тры дні была пагода, дык такі касанулі сена (аўтобус Віцебск — Ушачы)… Я падняў нагу стаяла, як варона на калу… У бацькі ружовая торбачка, у партызаны йшоў; недзе ў Леплі ці ля Лепля жыве хлапчук, якога бацьку майму далі».

*15 ліпеня, чацвер*

Ушача. З Іванам Сцяпанавічам у Пліна. Па дарозе рэчка Альзяніца. Зноў балцкі корань. Вузенькая, чорненькая, знявечаная бальшавіцкімі стуібнямі. На Плінскім возеры спаймаў аднаго акунька. Іван — дзве плотачкі. Аддалі кату. Сам чорны, малады, усе чатыры лапкі беленькія, вусы белыя. Гальштук белы, пад носам белыя падпаліны, зялёныя вочы. Прыгажун. Пад вечар ціша, усё стоць галавой стаіць, вяслом чапаем чуб чароту. За сталом зноў пенсіянер [казаў], што З'езд беларусаў свету — паліцаі; супроць герба, сцяга; камуністы выдрысіравалі халуёў.

*16 ліпеня, пятніца*

Ушача. З Іванам Сцяпанавічам да кнігагандляроў. Абяцалі звярнуць увагу на беларускую кнігу. На магілу мамы.

---

[1] Гл.: «А гарады — як мужчыны ў гадах…» (14.07.93, Віцебск) // Евангелле ад Мамы. С. 350.
[2] Шмерлінг Міхаіл Маркавіч (н. 1946), беларускі фотамастак.

*На магіле мамы*

Званочкі, рамонкі, суніцы
І дзікая яблынька, й бэз
Растуць,
Можа, хочуць прысніцца,
Каб свет табе сном уваскрэс.
І я, што ссівелы дзядоўнік,
Стаю на падступнай вярсце.
Яшчэ на зямлі я назоўнік,
А мне ўжо займеннік расце.
У лад са званочкам займеннік
Званіцьме працягам радні,
Яны без твае цеплыні,
Скамянелі й каменні.

З магільніка зайшоўся ў краму. І там нейкі стары партун звягае пра дэмакратаў. Пры камуністах, бачыце, усё было, а што далі дэмакраты? Цёмныя, непісьменныя, галава, як патэфон, куды тупую йголку паклалі, адну пласцінку й круцілі да ачмурэння. І ачмурылі. Ім здавалася, што жылі пры камунізме. Гэта як уражанне, што ўсё у маленстве было смачней.

Ад'езд. Праводзіла Марыя Рыгораўна. Пятро на аўтобуснай ківаўся, як наліты колас. П'е да ўпору. Дарогай гайдаў радкі:

*Возера Пліна*

Берагам палынна,
Водам ціхаплынна.
Як астрог
Былых бароў,
Пасярэдзіне астроў.
Возера Пліна.
Вёслам, быццам кпіна,
Чаратоў чупрына.
Галавой дагары
Свет зялёны, шум сыры.
Возера Пліна.
Зорка, як пыліна,
Вечнасць, як хвіліна.
Рыбакоў сезонны сум.
Камарыны сонны зум.
Возера Пліна[1].

*Ушача — Бегамля*

---

[1] Параўн.: «Берагам асачыста й палынна...» (24.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 122.

*Хто лепшы?*

Усяго пры камуністах было.
А што дадуць яны, дэмакраты?
Сапраўды, у дэмакратаў грошай гало
На калючы дрот, на цесныя краты.
Камуністы ў перафарбаваных шкурах
Стараюцца
У камерцыйных структурах.

*Ушачы — Плешчаніцы, дарога*

Прыехаў. [...]
* Вочы выгаліў (аўтобусная, Ушача).
*На вуліцу выйсці, што ў космас адкрыты*.

*17 ліпеня, субота*

У краму. Таго-сяго з'есці купіў. Прыходзіў сусед [...]. Ні чытаць, ні пісаць. Як на пенсіі жыву. Званіў Васілю. Хваліў падборку ў «ЛіМе». Раіў скласці зборнік з вершаў пра маму. У мяне й была гэтакая задумка, а Васіль падмацаваў яе сваім словам. Дзякуй яму, святому зямлі нашае! Васіль хваліў загаловак Дануцін «Божа мой, Божачка...»[1]. Зборнік добрае ўражанне пакінуў, але асабліва Васілю спадабаўся загаловак. Дамінічка ўсё дапытвалася, ці трэба мне яшчэ ўнучкі, нешта казала пра п'яныя ногі...

*18 ліпеня, нядзеля*

Сёння дзень нараджэння Ілоны. Яе няма. Яна ў Паўночнай сталіцы імперыі [Санкт-Пецярбургу]. Званочкам звініць Дамінічка. Цэлы дзень перадрукоўваў вершы. Аж пальцы анямелі, бо ў два таўку.

*19 ліпеня, панядзелак*

Андраюк прачытаў Скіра. Будзем выдаваць. Да Навума. Аднёс падборку «Стане Віфліемам сэрца ціхае...». Заходзіў Сёма Букчын. Як пагаварыць — нармальны чалавек, а ў газеце яго нясе, як зайца са слановым членам.

*Адкрываючы помнік Ул. Караткевічу ў Віцебску*

У Віцебску з раніцы звоняць званы,
Ты ў бронзе, Паэце, прачнуўся сягоння.
І дужа завоблачны, й дужа зямны
У цёплага неба ў высокім палоне.

---

[1] Бічэль Д. Божа мой, Божа... Мінск, 1993.

Суседам муроў ацалелых і дрэў
Ты стаўся ў вятроў за апіною скупою.
Шляхетнай душою ты бронзу сагрэў.
Табе падарожжам падданай ступою

Няцяжка на ганак каменны ўзысці
У хату, дзе вечнасць, як маці, чакае.
Не гнаўся за славаю ты пры жыцці,
Цяпер цябе слава сама даганяе.

*20 ліпеня, аўторак*

Прыехаў Радзік з Масквы. Страшэнны галаўны боль. Даходжу. […] Як у яму пасадзілі. Нікуды не ўцячэш — любімае стварэнне Дамінічка трымае моцнай вяровачкай. […]

*21 ліпеня, серада*

Лятучка. Тлум. «Выходзіць»[1].

*22 ліпеня, чацвер*

Аддаў падборку ў [час.] «Зрок»[2]. Прыязджаў Карлас. Наконт прыёму ў ПЭН-цэнтр замежнікаў нашых з дыяспары. Пытанне казытлівае. Фактар вайны. Удзел дзе? […] «Будуюцца…»[3]

*23 ліпеня, пятніца*

Рэпетыцыя сусветнага патопу. Лье, лье, лье. Адпаведны настрой. З Гародні прыехаў Васіль. Дамініка раніцай распагодзіла настрой сваёй нейкай казачкай, дзе былі й вераб'і.

*24 ліпеня, субота*

Па дарозе на працу мне адна з «Юнацтва» расказала, як на Маскоўскім магільніку рушаць агароджы, зрываюць і крадуць пліты, хаваюць на пахаванні, асабліва калі яўрэі выехалі. Быццам бы Дземянцей сваіх бацькоў пахаваў на яўрэйскае пахаванне. Камуніст — усё можа быць. Хадзіў па магазінах купіць чаго з'есць, цэны шалёныя. Пытаюся чай, думаю 1700, а ён 17 тыс. Перапісаў па заданню Радзіка верш «Берагам сачыста й палынна…»

---

[1] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Выходзіць… (21.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 257.

[2] «Зрок» — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі час. Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (з 1991).

[3] Гл.: Упартасць (22.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 140.

*25 ліпеня, нядзеля*

Сойм БНФ. Васіль з ценькімі вусікамі. Нешта ледзь улоўнае змянілася ў абліччы Васіля. Выступалі *Пазьняк, Заблоцкі, Хадыка, Зданевіч.* Артадоксы, ліберал-камуністы, нацыянал-камуністы.

*Гурыновіч* супроць, няма нац.-кам. (Сачанка, Ніл, Краўчанка — і ўсё). Трэба вызначыць, што расціць. Напрыклад, лён, які даражэй за бавоўну, сухое малако.

*Вячорка* пра цяжкі ўваход у Еўропу. Мур з Чэхіі, Польшчы, Угоршчыны ад Расіі. Санітарны пояс.

*Навуменка:* « Толькі яднанне неімперскіх народаў зможа супрацьстаянне зрабіць добрае».

Выступоўцы-дакладчыкі ў заключэнне.

*Хадыка:* «Ценявы кабінет ва ўрадзе ў праекце толькі. Ліберал-камунізм — пачварнае словазлучэнне. Камунізм — каставае грамадства. Адміністрацыйнае падпарадкаванне замяніць рынкавай гаспадаркай для сябе. Расія з глыбокімі імперскімі традыцыямі — на зброі й на дыпламатыі, на раздзяленні і панаванні. Аднавіць традыцыю соймавых канферэнцый».

*Пазьняк* адказвае на пытанні. Камісія на чале з Унучкам вядзе палітыку на знішчэнне незалежнасці Беларусі. Перадаюць Расіі нафтаправоды. Няма геапалітыкі, няма канцэпцыі дзяржавы».

«Аднойчы ўвайшоўшы…», «І дагэтуль…»[1].

*26 ліпеня, панядзелак*

Чэргі ў крамах, у ашчадкасах на здачу паганых расійскіх грошай. І варта, бо пра свае не падумалі, дурні. Пятля нястачы зацягваецца на шыі пакорнага люду, які выракся й самога сябе, і мовы свае…

«Зыход»[2].

*27 ліпеня, аўторак*

Да Навума. Данёс колькі вершаў на пераклад. Невераемны галаўны боль. Няўжо гэта блізка канец? Здаецца, толькі пачаў збірацца жыць. Званіў Васілю.

*28 ліпеня, серада*

На працу пайшоў з паўдня. Абміраў ад галаўнога болю. А тут яшчэ Дамінічка залівaецца слязьмі — не хоча йсці ў садок. Цэны растуць. Жах.

---

[1] Гл.: Стане Віфлеемам сэрца…: Святарнае святло. III. Раскрыжаваныя рукі…; І дагэтуль… (25.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 285; 286.

[2] Гл.: Стане Віфлеемам сэрца…: Выхад (26.07.93) // Тамсама. С. 287.

*29 ліпеня, чацвер*

Забраў у Навума пераклады. Учора па тэле йшоў фільм пра Марыю Рыгораўну. Навуму падабаўся. А Тарасу хацелася, каб насустрач Марыі Рыгораўне бег хлопчык. Як светлае будучае. Журналісцкае мышленне.

Рабіў для «Вожыка» [на Л. Шчамялёва, А. Жука[1]]. [...]

*30 ліпеня, пятніца*

Разбітасць, стома, трывога. Няўтульна. Як на вакзале ў гэтым жыцці адчуваю сябе.

*31 ліпеня, субота*

З'ездзіў на лехі. Як і трэба на пенсіі, пачуваюць сябе Дракахруст, нават наравісты, аглоблеломны Тарас аціх. Савіцкі [Алесь] з камуняцкай лагодай памалу, але мякка старэе. Кусянкоў і на лехах адчувае сябе галоўным рэдактарам і перастрахоўшчыкам. Неяк цягне да спакою й да зямлі, а праклятыя клопаты штурхаюць у бок, як маладая жонка старога мужыка. Адышоў малады век, а з ім і радасць, і надзея, і бесклапотнасць. Толькі адгалоскамі яго й жывеш.

*1 жніўня, нядзеля*

Сядзеў правіў і перадрукоўваў «Стане Віфлеемам сэрца...». Дапісаў яшчэ адзін верш у нізку: «Чым Бог бліжэйшы да зямлі...»[2] Пазваніў Грынчыку[3] — яму 70. Дай Бог яму здароўя!

*2 жніўня, панядзелак*

Сёння Ілля. Укінула ў рэчку ільда. У мяне таксама. З раніцы прыязджаў Карлас. У асяроддзі эміграцыі нейкае супрацьстаянне часопісу «Полацак». Маўляў, ён арганізаваны пэўнай арганізацыяй. А мы з Быкавым у ганаровых сябрах рэдкалегіі. Белы мітусіцца. Эміграцыя таксама добрыя цацы, на некалькі разведак ледзь не кожны актыўна працуе, а тут не падзялілі сферу ўплыву, відаць. Хай самі вырашаюць. Як у тым анекдоце пра мядзведзя й цешчу. Яшчэ Карласу загілела прыняць у ПЭН эміграцыю. Васіль правільна сказаў: «Калі вернуцца камуністы, большасць з ПЭНа на Калыму пойдзе. І тады пытанне з сяброўствам у ПЭНе само

---

[1] Гл.: «І шчамялюе, як шчамель, штодня..»; «Ён не зважаў на цені літбудоў...» (29.07.93) // Асобы рознай пробы. С. 23; 40.

[2] Гл.: Стане Віфлеемам сэрца...: Чым Бог бліжэй да зямлі... (1.08.93) // Евангелле ад Мамы. С. 288.

[3] Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1980–1999 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977).

адпадзе». Па радыё мярзотную так званую п’есу Глебкі «Святло з Усходу» рэамавалі. Камуністы не спяць. Дзюба[1] стараецца.

*3 жніўня, аўторак*

На працу. Да Валі на працу.

Сумую па Дамінічцы. «Хай слёзы ці бобам, ціградам…»[2]. Самота й сум — гэтая двойца неўпрыкмет робяцца сваімі.

* * *

І лежма ляжаць
Камяні-пацьмякі,
Засватаныя вякамі.
Ды самы нязрушны
І самы цяжкі
Адзін толькі ў свеце камень.
Ляжыць ён на сэрцы,
Каб вецер не знёс,
І сэрца, і нас, ветрагонаў,
І меле
Тым жорнавым каменем лёс
Авёс
З неўзараных загонаў[3].

** Самы са′мень — камень.*

*4 жніўня, серада*

На працу. У «Звяздзе» аб’ява. Нейкі пенсіянер хоча сустрэцца з Быкавым. Запрашае ў Капыль. Званю Васілю, смяецца, гэта як масажыстак-дзяўчатак запрашаюць. Чытаць не хочацца, раней ЦК пасылала пісьменнікаў, цяпер новы від паслуг. Дамовіўся з Галяй [Шаранговіч], што па ейнай рэдакцыі выдам зборнік «Евангелле ад Мамы». Падзагаловак трэба нешта з саборам — сабор паэзіі, сабор вершаў ці проста — сабор. Трэба параіцца з Сёмухам, каб не было кашчунства.

«Убачыў ісціну на дне застою…»[4] [на А. Дударава].

* Зарвала, як жабе на зі′му.

---

[1] Дзюба Уладзімір Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт і драматург. З 1980 г. супрацоўнік Беларускага радыё.

[2] Гл.: «Хай слёзы ці бобам, ці градам…» (3.08.93) // Евангелле ад Мамы. С. 360.

[3] Параўн.: «А камень на сэрцы…» (2.08.93) // Тамсама. С. 293.

[4] Гл.: «Убачыў ісціну на дне застою…» ([1989] — 4.08.93) // Асобы рознай пробы. С. 24.

*Былы*

Адчуўшы, што болей не будзе ў сябрах
З ідэяй, якая ўсе сілы забрала,
Былы будаўнік камунізму — жабрак
Кранаецца ў наступ, падняўшы жабрала.

*5 жніўня, чацвер*

З Сёмухам раіўся. Сабор нельга ўжываць у адносінах да вершаў. Мне ў галаву прыйшло назваць *вершабор.* Бор, вершаліны, вершы, здаецца, стасуецца ўсё. Заходзіў да Навума. Фёдар Яфімаў[1], Шумаў[2] і Навум п'юць і спрачаюцца пра палітыку. Як і ў застойныя часы. Адказам на спрэчкі эміграцыі й нас, хто болей любіць Беларусь, напісаў верш «Вядома...»[3]. Званіў Ігар Голубеў, ён скульптар, які рабіў помнік Караткевічу, цяпер зрабіў Драздовічу. «Язэп Драздовіч...»[4]

*6 жніўня, пятніца*

Адкрыццё помніка Язэпу Драздовічу ў Траецкім прадмесці. Выступаў Васіль. Сапраўды, падумалася мне, памёр у зрэб'і, каб ажыць у бронзе. Але з Васілём у адно падумалі, ці ўстоіць. Каля самае дарогі. Бронзы давалі багата. Шаранговіч[5] казаў, што з герба БССР, што тырчэў над Гарсаветам. З сумнымі думкамі пайшлі да Пімена Панчанкі ў Лечкамісію. Сёння 45 год, як ён узяў шлюб з Зояй Кірылаўнай. Занёс яму сігнал выбранага аднатомніка[6]. Ягонага. Нарэшце. Адно вока ўжо не свеціцца. А чытае ўсё. Жахліва й трывожна, на сябе прыкідваючы, глядзець, як нядаўна яшчэ баявіта-задзірысты Пімен сядзіць бездапаможны, слабы. Добра, што такая жонка, як галубка. [...].

*7 жніўня, субота*

Выходны дзень. Люблю пахадзіць па прыціхлым Менску. Як бы той ён, што і ў гады маёй маладосці. Чым старэйшы горад, тым ён болей раўнівейшы да маладосці. Адразу ж забірае яе, зайздрослівы.

---

[1] Яфімаў Фёдар Архіпавіч (н. 1933), беларускі паэт, перакладчык, крытык.

[2] Шумаў Міхаіл (сапр. Шульман Міхаіл Іосіфавіч; н. 1923), беларускі пісьменнік. З 1994 г. жыве ў ЗША.

[3] Гл.: «Вядома...» (5.08.93) // Евангелле ад Мамы. С. 64.

[4] Гл.: «Язэп Драздовіч...» (5.08.93 ) // Тамсама. С. 91.

[5] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1989–1997 гг. рэктар БДАМ. Прафесар (1981). Народны мастак Беларусі (1991). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[6] Панчанка П. Выбранае. Мінск, 1993.

Рабіў такі-сякі парадак. […] У сераду ж трэба везці Дамінічку ў Вушачу […]. Званіў Пятро. Родная душа чакае мяне, прывязу, ведае, «вогненнае вады». Апошняя радня па бацькавае лініі. Хутка 70. Сірацею на сяброў. Сірацею на радню. Жонка […] радня, як казалі ў нас: пень гарэў, а воўк ср.ку грэў.

«Усходняя калючая краса…»[1]

*8 жніўня, нядзеля*

З Ганадам Чарказянам на лецішча да Васіля. Па-быкаўскі ўсё акуратна. У двары растуць бярозы. Дужа пайшла ў рост хваінка, якую Васіль прывёз у багажніку. Васіль распавядаў, як Слюнькоў[2] даверліва сказаў: «Для мяне ці паэт, ці педэраст — усё адно». Ці, можа, таму, што зяць[3] [… паэт]. Ці проста ад кам. пераконанасці.

«Завулак»[4].

*9 жніўня, панядзелак*

На працу. […] Зрываецца паездка ў Вушачу. […] Няма нікога свайго. Усе чужыя, хай сабе й добрыя. Зябка мне ў гэтым свеце, а на тым не сагрэюся тым болей. «Стаміцца ў варажбе…»[5]

Лявону Дранько падабаўся пераклад Сэсара Вальехі. Ён правільна сказаў, што сельскі настаўнік пагартае й адкіне. Бо гэта — каньяк паэзіі. Толькі для абраных. Абраных самой паэзіяй. Цяжка было перакладаць, яшчэ цяжэй выдаць, бо тыражы на перакладныя кнігі ў нас мізэрныя. Такая публіка.

«Як цяжка было данесці буханку…»[6]

*10 жніўня, аўторак*

Яшчэ забегся на працу. Нарэшце падпісаў у друк Стрыжака[7]. Паставілі 1 тыс экз. Калі Б. можна з 3-х заказаных па ягоных просьбах можна рабіць 9 тыс.

---

[1] Гл.: Стане Віфлеемам сэрца…: Усходняя калючая краса… (1.08.93) // Евангелле ад Мамы. С. 288.

[2] Слюнькоў Мікалай Мікітавіч (н. 1929), беларускі партыйны дзеяч. У 1987–1890 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

[3] Кошаль Пётр Агеевіч (н. 1946), рускі пісьменнік, гісторык, перакладчык (Масква). Ураджэнец Беларусі.

[4] Гл.: Нашча: Завулак (8.08.93) // Евангелле ад Мамы. С. 378.

[5] Гл.: Урэшце (9.08.93) // Тамсама. С. 357.

[6] Гл.: «Як цяжка было данесці буханку…» // Тамсама. С. 63.

[7] Стрыжак В. Рэха журбы. Мінск, 1993.

*11 жніўня, серада*

Заўтра, калі дасць Бог, на Вушачу. Дождж. На душы даждліва. [...] Бедная мая ўнучка. Па ёй душа разрываецца. І ў Вушачу [...] не як дамоў едзеш. Толькі Пятро чакае выпіць. Чакае Марыя Рыгораўна — крэўнікі мае апошнія. Учора перачытваў Цютчава[1]. Вытанчанасць і глыбіня, але такая вялікадзяржаўнацкасць. Фанабэрліва-зняважлівае стаўленне да іншых народаў. Русапятам павінен асабліва за гэта падабацца.

*12 жніўня, чацвер*

*Ушача!* З Аркадзем[2] і Карласам дамоў! Сустрэў Пятро. Разгавеў яго. Раней, калі мама была, дом быў раднейшы, цяплейшы. Цяпер крыху халаднаваты. І, відаць, болей жадання й цяпла ў памкненнях паехаць дамоў, у ранейшае, як здаецца.

*13 жніўня, пятніца*

Запісваў ад Марыі Рыгораўны словы. Перачытваю «Легенды і паданні», хачу ўвайсці ў настрой. Проста адпачываць не ўмею й не навучуся, пэўна, ніколі.

*14 жніўня, субота*

Да мамы на магільнік з Валяй схадзілі. Палолі магілку. Неяк паспакайнела на душы. Успомнілася, як Дамінічка па дарозе ў Вушачу казала пра свой сон: «Убег і выбег».

Вечарам званіў Васіль. Сёння быў сойм БНФ. [Чарнамырдзін[3]] даў тэлеграму, з 15-га ў сувязі з даўгамі Беларусі адключаюць газ. Лепей бы адключылі мазгі (іх прызнакі) нашаму ўраду! Якое гэта шчасце, што ў нас ёсць Васіль Быкаў — самы святы сын Беларусі. Вечны пакутнік за ўсіх нас. Як мала засталося ў мяне сапраўдных сяброў. Як дрэва з адсечанымі сукамі, яшчэ шумлю па інерцыі. Ці проста здаецца, што шумлю, а на самой справе глухну, моўкну. Дый дрэва перасаджанае ўжо. І ў Менску не зусім прыжылося, і дома зямля з каранёў, родная зямля, абсыпалася. Увесь час ні дома, ні ў гасцях. Толькі й жыву думкамі, што вярнуся дамоў. А карані ўжо не прымуцца. Ілона — галіна, якая чужой стала, адзіная надзея на атожылачак — Дамінічку. Пакуль чужая стане, мяне не стане...

«Завошта?»[4]

---

[1] Цютчаў Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт.

[2] Шафёр Пэн-цэнтра.

[3] Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч (1938–2010), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1992–1998 гг. старшыня ўрада РФ.

[4] Гл.: Завошта? (14.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 108.

*15 жніўня, нядзеля*

На Ваўчэнскае возера. Нацянькі, травелымі сцежкамі ўжо не дабрацца. Скрозь будуюцца хаты, хаціны, харомы. Асаблівы размах у чырвоных памешчыкаў і ў савецкай, партыйнай сваякаты. Нарэшце дарваліся! Возера таксама глушэе, зарастае, бузянее, бросьнее. Няма чысціні першароднасці ці й неабходнай для душы дзікаватасці. І спаганенае, і забытае, як і ўсё. «Трава...»[1]

Зладзіў сабе такі-сякі стол, бо не было на гарышчы ў што аблакаціцца. Здаецца, успаміны для кніжкі пайшлі. Каб не сурочыць!

*16 жніўня, панядзелак*

З Дамінічкай у паліклініку. У гаспадарчы магазін. Усё кусаецца цэнамі. Куб вагонкі каля 80 тыс. «Ноч выбралася спаць...»[2] Закончыў успамінаць пра Кайсына Куліева[3].

*17 жніўня, аўторак*

Правільна казала мама: хата рагата. Прагніла падлога ў сенцах. Узадраць узадралі, а дошак няма. Цяпер ходзім, як буслы па балоце, каб дзе не ўляцець. Званіла Марыя. На пачатку верасня, калі будзе бензін, запускаем фільм пра Дзвіну. Жыву раслінным жыццём, рэадаптуюся. Нейкі я адарваны ад нечага, няма спакою.

*18 жніўня, серада*

Раздабылі дошкі на падлогу. Валеры Карпоўскі, дзякуй яму, прывёз. Пасядзелі. Расказваў: абхазец, што ў нас жыве і, вядома ж, пры малым прадпрыемстве, прывёз з Грузіі машыну зброі. Хутка збыў. Адно з самых вялікіх і маляўнічых вазёраў, Чарсцвядскае, купілі кааператары. Над возерам вісіць верталёт і пільнуе, каб ніхто рыбу не лавіў. Нейкі дырэктар з ВПК Піцера прыехаў у калгас і прапанаваў, што ён купляе ўсіх калгаснікаў разам з старшынёй. Калгаснікі не захацелі райскага жыцця. Тады ён пабудаваў сабе замак на беразе возера. Наняў вартаўніка, прыбіральшчыцу, абслугу. Узяў у арэнду 100 га, прывозіць на лета з галоднага Піцера пралетарыят, і яны сабе вырошчваюць чего покушать. Наш лес ідзе на бартар у Фінляндыю ў абмен на электрапілы, вадзяныя маніпулятары. Усё прадаецца, ідзе дымам. «Возера пры дарозе...», «Кактуса, спякотай абсмаленага...»[4]. Іван Сцяпанавіч Роўба казаў, што ўкралі вінтоўкі з «Пра-

[1] Гл.: «Трава...» (15.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 109.
[2] Гл.: «Ноч выбралася спаць...» (16.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 110.
[3] Гл.: Як я быў Кайсынам (16.08.93, Ушачы) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 217.
[4] Гл.: «Возера пры дарозе...»; «Кактуса, спякотай абсмаленага...» (18.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 111; 112.

рыву»[1]. Бронзавыя былі. Бізнес па-шуфлікаўску. Цікава, што нідзе ні крывавага Вову Леніна, ні іншых не ўкралі.

«Трысцё, дрыжучы ў расе…»[2]

*19 жніўня, чацвер*

Сягоння Іспас яблычны. З'еў яблык з мамінага саду. Маме на магілку не занёс — цэлы дзень рабілі падлогу ў сенцах. Цяпер, здаецца, не праваімся, як у багну. Павел Сцяпанавіч Лёля, які рабіў падлогу, казаў, падганяючы дошкі: камар яйцы не падточыць. Пайшоў цянькамі. Гэта неяк свяжэй, чым нацянькі. «Пасля вайны…»[3] Па страсе лупіць дождж. Але ён добры, пад роднай страхой нічога не страшна. Здаецца, толькі пачынаюцца твае дажджы, слоты, маразы. «Жыццё задумала…»[4]

* Дамінічка заказвае казку: дзед баран-галаван, унучачка авечачка. Глядзіць у люстэрка й радасна крычыць: «Бачу Ушачу! Бачу Ушачу!»

*20 жніўня, пятніца*

Сніўся Парыж. Ці, можа, таму, што дождж лупіў па шыфернай страсе радкамі «Інтэрнацыяналу». Вечарам званіў Васілю. Перадаў яму паклон ад роднай зямлі, і ён сказаў: «Кланяйся роднай зямельцы». Паліў вечарам печку. Нейкая магія ёсць у гэтым. Агонь наогул ніколі сам сябе не паўтарае. Ён заўсёды новы. А вуголле, перад тым, як ачахнуць, пераліваецца незямнымі гарачымі ценямі. Золата, хоць яго ніколі не меў і не бачыў шмат, толькі нікчэмны водцень жару ў печы. На золаце й пот, і кроў, а на гарачым вуголлі позірк нетутэйшы. У нас пра кепскае паленне печы казалі: тапленне, як кашынае я.ленне. «Ушацкі сон»[5].

*21 жніўня, субота*

Учора Парыж. А сёння снілася зборышча нейкае. Адзіна прыемнае, што была там Ядвіга Юльянаўна Раманоўская. І раптам пачаў драць горла […] Грахоўскі. Прачхнуўся з галаўным болем. Удзень прыходзіў лірычны алкаголік, які, казаў, як запівае, ідзе ў лес. Раіў і мне хадзіць. Хацеў ска-

---

[1] «Прарыў» (1974) — мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву нямецкай блакады партызанамі ў красавіку — маі 1944 г. (Ушацкі р-н Віцебскай вобл.) Скульптар А. Анікейчык, архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін. *Градаў* Юрый Міхайлавіч (н. 1934), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1970). *Левін* Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Ленінскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[2] Гл.: «Трысцё, дрыжучы ў расе…» (18.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 113.

[3] Гл.: «Пасля вайны…» (19.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 114.

[4] Гл.: «Жыццё задумала…» (19.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 115.

[5] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Вушацкі сон (20.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 255.

заць, што па ідэі ён не павінен з лесу й выходзіць. Прынёс нейкіх буракоў і папрасіў ці віна, ці на віно тысячу з хвосцікам. Бескарыслівыя аматары паэзіі. «Наважыўся…»[1]

*22 жніўня, нядзеля*

Нясу Дамінічку. Просіць: «Нясі мяне, як неба». Значыць, каб яна бачыла неба, звесіўшы ўніз галавешачку сваю.

«Аж»[2].

*23 жніўня, панядзелак*

Сёння дзень нараджэння Пімена. Далі тэлеграму за трыма подпісамі: я, Валя, Дамініка.

Пачынаецца самае макраццё. Па радыё раптам уключыўся ўшацкі радыёвузел: «Знойдзена цялушка, гаспадару трэба звярнуцца ў аддзяленне міліцыі, будзе ўказана, дзе знаходзіцца жывёла…» Замілаванне адно ад гэтакіх аб'яў. Люблю паліць печку, папярэдне пастараўшыся дроваў. Усё створанае Богам самае чыстае — вада, зямля, неба. Таксама самы чысты й вагонь.

«Чарната»[3].

*24 жніўня, аўторак*

Дзень пачаў а першай ночы вершам у нізку «Выдыхаючы Парыж…»: «Памінанне Міхася Стральцова»[4]. Сёння Петраку дзень нараджэння. 24 жніўня 1924 года. Дзве лічбы паўтараюцца. Даў бутэльку спірту. Праз гадзіны дзве прыйшоў, каб яшчэ адну. Ушацкія яшчэ могуць. На здароўе! Яму адна радасць — «вогненная вада». Ні жонкі, ні дзяцей. Ён ды Марыя Рыгораўна, маці. Яна з 1905 года. Па пашпарту. Марыя Рыгораўна сказала вясёлую прымаўку, дужа вобразна дакладную: п'ець, як у бот ліець.

*25 жніўня, серада*

Званіў Васілю. «Время и мы» ўжо ў другім нумары перамывае мне косці. Значыць, заела. Няхай. Як казаў Сталін: «… а караван идёт…» «Мывременские» музыкі йграюць учарашнюю музыку. Караван сапраўды пайшоў.

«Неба», «Прымаўка»[5].

---

[1] Гл.: Наважыўся… (21.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 117.
[2] Гл.: Аж (22.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 118.
[3] Гл.: Чарната (23.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 119.
[4] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Памінанне Міхася Стральцова (24.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 253.
[5] Гл.: Неба; Прымаўка (25.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 120; 121.

*26 жніўня, чацвер*

Званіла Марыя. Бензін ужо 1,5 тыс. за літр. Далёка не ўедзеш! Цягну ўсё сваё «На таку майго веку»[1]. Яно эпахальныя раманісты павінны быць з чыгуннымі азадкамі.

*27 жніўня, пятніца*

Ад Марыі Рыгораўны пачуў і такі выраз: насіць коцы-боцы, гэта тое ж, што бэндзі, бандыкі. Малы садзіцца на спіну й бярэ цябе за шыю. А ты яго падхопліваеш пад срачку. Колькі слоў пайшло ў пясок, вякі вытрываўшы. А бальшавізацыя, яна ж русіфікацыя, усё хутка знішчыла.

«У краіне ценяў…»[2]

*** У гэтым капелюшы, як вярэпаўка пад лапухом.

Малы ідзе і пытае: «Амерыканцы, гэта дзе немцы?.. Дзеда, а дзеда, а восы мёд прыносяць?»

*28 жніўня, субота*

Сёння Прачыстая. Плюхаўка, бо веснавая — нюхаўка. Але з раніцы хоць восеньскае, але сонца. Сяджу на сваім «Таку…» і канца не бачу. Не рад, што ўзяўся. Дзён мала застаецца. «Сасна»[3].

* Даменіка: «Я дужа люблю на руках насіцца». «Дамінічка, абуйся». — «А Наташа разбутая». Дамінічка патлумачыла, што яна аб вуліцу запэцкала сукенку.

*29 жніўня, нядзеля*

Усё малачу «На таку…». Пылу шмат, а ці заўважацца зярняты? «Навэлы»[4]. Дождж у полі й дождж пад страхой матчынай хаты розныя. Слухаю, як грукаецца.

*30 жніўня, панядзелак*

Званіў Макаловіч[5] з «Народнай [газеты]», трэба выступленне супроць Лукашэвічаў розных — боталізаў Расіі. Сапраўды, прычапіўся як сляпы к плоту. А плот даўно згніў.

Развесяліў Пятро. Раніцай выпіў. У абед прыйшоў: «Дай яшчэ». Кажу: «Паспі, прыйдзеш вечарам». — «Дома мама прымусіць нешта рабіць». Сынок баіцца мамы. Сынку без года — 70, маме без двух — 90. Амаль варыянт горскага анекдота.

---

[1] Гл.: На таку майго веку (08–09.93) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 240.
[2] Гл.: «У краіне ценяў…» (27.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 116.
[3] Гл.: Сасна (28.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 123.
[4] Гл.: Навелы (29.08.93, Ушачы) // Тамсама. С. 125.
[5] Макаловіч Іван Пятровіч (1940–2017), беларускі журналіст. У 1990–1995 гг. нам. галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

*31 жніўня, аўторак*

Апошні дзень жніўня, у маладыя гады ехаў вучыцца. Раніцай хадзіў да Марыі Рыгораўны малака казінага. Пачаставала малаком і дзвюма загадкамі: сядзіць Савасцей без скуры, без касцей (куча га.на); дзед карчы драў, корч выдраў, а дзюрку панёс (сядзеў за вуглом, ср.аў).

Званіў Васіль. Пад пагрозай незалежнасць Беларусі. Ужо лукашэвічы розныя выступаюць не за канферэнцыю, а за «нармальны саюз дзвюх рэспублік — Расіі й Беларусі».

*1 верасня, серада*

Не магу нікуды дазваніцца. Нешта з тэлефонам. Ці не КДБ зноў? Цэлы дзень амаль капалі з Валяй бульбу. Трохі адпусціла галаву. Зноў малачу «На таку…». Дождж малоціць па шыферу грунтоўна.

*2 верасня, чацвер*

З раніцы званіў Васіль. Масквічы ладзяць круіз па Чорным моры. Яму прапанавалі, адмовіўся й параіў мяне. Дазваніўся да Залыгіна[1] — ён усё арганізуе. Абяцаюць узяць. Было б здорава!

«Хмарыцца цёмнааблока…»[2]

*3 верасня, пятніца*

Званілі з відэа. Едуць. Чакаю. Спрабаваў нешта з рэплікі Марыі Рыгораўны зрабіць:

*Кароткі маналог*

Не знаю радзін сваіх,
Не знаю мянін сваіх,
Кавалераў сваіх не бачу.
Раней кавалеры былі, зубы ж былі.
І каторыя не кавалеры,
Даўно паўміралі…

Прыехалі з відэа. Спачатку *Вула.* Паром. Канат напінаецца й выходзіць з вады, нібы ўзялася вялізная рыбіна й тузае вуду. На пароме стаіць трактар у якасці цяглавага каня. *Бешанковічы.* Здымаем вулічны базар з бананамі й грыбамі. П’яныя Васі: «Чаму нас здымаеце?» Зноў паром. Пачуў добрае слова *пры'парамак,* гэта да чаго паром прыстае. Нават пераехалі з паромшчыкам рыжаватым, якога выклікаюць з берага: «Гэй, Рыжы!» Разбураны на другі бок прыпарамак. Па дошках сыходзяць. Нават двух

[1] Залыгін Сяргей Пятровіч (1913–2000), рускі пісьменнік. Акадэмік РАН (1991). Герой Сацыялістычнай Працы (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1968).
[2] Гл.: Выкні! (2.09.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 356.

чалавек вязе. Бясплатна. Паліва не шкада — усё яшчэ па-савецку. Ля школы ля гіпсавага Валодзі Леніна жывыя кветкі. Як у лепшыя часы. Дуб, ля якога Напалеон[1] піў чай. І белы конь пасецца. Яшчэ дасюль чакае Напалеона. У Вуле разбураная царква. У Бешанковічах царква цэлая. Але да яе не приступіцца. Абгароджаная, заціснутая дамамі й дратамі. Вечарам у Віцебск.

*4 верасня, субота*

Дзякуй Додзіку, паказаў усё. Помнік Караткевічу амаль гатовы. Зуёнак ціхенька прыязджаў адкрываць у дні так званага славянска-кэдэбісцка-партыйнага базару. Цішайшы. Рэм Додзіку падсунуў Рамукоў[2], каб начавалі, каб карміў, вадзіў, вазіў, паказваў. Бо гэта трэба яму, а што Додзіку гэта цяжка, Рэму ў Чыкага й зусім з галавы вытлуміла. Не па-яўрэйску зусім. «На змярканні»,»Як у мястэчку час, ідзе паром…»[3].

Пад'язджаем да рэпінскай[4] дачы. Высока на даху варыўні сядзіць сабака. Аператар пачаў здымаць. І гэтак ён сабаку спадабаўся, што той калі пачаў здымаць, сабака морду ў аб'ектыў, ён адцягваць, а сабака ўшчапіўся за вус і давай шкуматаць. Ледзь адбіўся. Каб гэты кадр зняць.

*5 верасня, нядзеля*

г. *Сураж.* Зноў паром. На Дзвіне човен: чаўнар, сабака ў яго за спіной і маладзіца. Маладзіца палошча бялізну. Замчышча зарасло. Каспля ў Дзвіну ўліваецца дужа ўнізе. Прыгажосць неймаверная. Паслядаждлівае ймглістае надвор'е. Сельсвет. На краме аб'ява: прадаецца маладая авечка. Наш дырэктар Шчаглоў[5] расказваў пра бацьку, вядомага прафесара, аўтара падручнікаў па бухуліку. Навучыўся чытаць гадоў у 24 на рабфаку. Калі яго хвалілі, што падручнікі [напісаў, казаў:] «Мне ў 17 гадоў бацька давяраў на расе архірэя вышываць петлі».

*Полацк.* Сафійка чаруе, колькі ні глядзі на яе. Вечарам прайшоў трошкі горадам. Пажарная каланча, якую помню з давайны. Але няўтульна, вусцішна. А быў жа такі мілы горад спакойны.

*6 верасня, панядзелак*

Полацкі музей кнігі. [...] Прыязджаў Навум Гальпяровіч. Падабаецца ён мне. Каб болей было гэтакіх яўрэяў, якія за нашую мову й культуру.

---

[1] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).

[2] Рамукі Вітаўт (1914–2010) і Вера (1931–2010), дзеячы беларускай дыяспары (ЗША).

[3] Гл.: На змярканні (Верш прысвечаны Міколу Плавінскаму); «Як у мястэчку час, ідзе паром...» (4.09.93, Віцебск) // Евангелле ад Мамы. С. 355; 139.

[4] Здраўнёва — дача-музей І. Рэпіна. *Рэпін* Ілья Яфімавіч (1844–1930), рускі мастак.

[5] Шчаглоў Леанід Барысавіч (1937–1994), беларускі кінематаграфіст. Дырэктар фільма Кінастудыі «Беларусьфільм».

Асаблівая, крывіцкая аўра Полацака. І яе не ўдавалася й не ўдалося нікому знішчыць, ні маскалям, ні ляхам. Як ні стараліся. Вядома, страшней за маскалёў і за ляхаў бальшавікі. Хоць фактычна бальшавікі — гэта новае аблічча маскалёў. Далакопы крывіцкай зямлі, крывіцкага роду, яны капалі глыбока, яны падсякалі карані. Новая рэлігія — марксізм-ленінізм-сталінізм яшчэ люцей за праваслаўе знішчаў усё нацыянальнае. Яшчэ трэба падумаць, што страшней: ці бальшавізм, ці Чарнобыль. Абодва жахлівыя. Абодва супроць нас, нашае нацыі. Цяжка зрабіць саркафаг для Чарнобыля, але тут маглі б у прынцыпе дапамагчы тыя ж Японія ці хто іншы. А вось саркафаг для бальшавізму нельга зрабіць. Пасля яго дыхання — адны руіны ды помнікі крываваму Вову Леніну. «Замчышча, як бульбяная яма...»[1]

*7 верасня, аўторак*

*г. Дрыса*[2]. Касцёл. Царква. Хоць гэта захавалася. Яўрэі далі свету Аскназі[3]. Тут пра земляка ні слова, ні рэпрадукцыі. Аляксандр Пальмбах[4] стварыў тувінскі алфавіт. А якія нашыя ймёны: Шадурскі[5], Лапацінскі[6], Храпавіцкі[7]. Зноў на пароме праз Дзвіну. Па такой дарозе, што й апошнія думкі з мазгаўні вытрасе, даехалі да *Лявонпаля*. Лясная вёска. Магільнік у лесе. Калона ў гонар Канстытуцыі 1791 года[8] настолькі зарасла лесам, што здаецца добра абгабляванай сасной. Надпісы русскоязычных барбараў. Анёла на галаве няма. Некаму перашкаджаў.

*8 верасня, серада*

З раніцы ў Дрысінскі лясгас. Далі, за грошы вядома, трохі бензіну. Можа, даедзем дамоў. Шчыры беларус паляўнічазнаўца Мікола Уладзімераў Шушкевіч. Павазіў нас на мотачаўне. Дзвіна халодная й пустая. Дубы на беразе з падмытымі каранямі, як ніцыя. І другі беларус, краязнаўца

---

[1] Гл.: «Замчышча — як бульбяная яма...» (6.09.93, Полацк) // Евангелле ад Мамы. С. 217.

[2] З 1962 г. г. Вехнядзвінск.

[3] Аскназій Ісак Львовіч (1856–1902), яўрэйскі мастак.

[4] Пальмбах Аляксандр Адольфавіч (1897–1963), вучоны-цюрколаг, пісьменнік, перакладчык. Стваральнік тувінскай пісьменнасці (1930). Прафесар (1960). Заслужаны дзеяч літаратуры і мастацтва Тувінскай АССР (1963). Ураджэнец Беларусі.

[5] Шадурскі Станіслаў (1726–1789), беларускі і польскі філосаф.

[6] Лапацінскі Эўзэбіюш (1882–1961), беларускі і польскі гісторык мастацтва, бібліяфіл, калекцыянер.

[7] Магчыма, Храпавіцкі Ігнат Яўстахіевіч (1817–1893), беларускі фалькларыст, грамадскі дзеяч.

[8] Канстытуцыя 1791 г. — асноўны закон Рэчы Паспалітай, прыняты 3 мая 1791 г. Канстытуцыя абвясціла суверэннасць РП як унітарнай дзяржавы, ліквідавала падзел на Карону і ВКЛ.

Антон Францаў Бубала[1]. З ім паехалі зноў у Лявонпаль. Палац Лапацінскіх перабудоўваецца пад касцёл. Ватыкан усюдых паспявае. Зноў здымалі калону ў гонар Канстытуцыі 1791 г.

Цераз паром трэба перагнаць камбайны. Будуюць новы прыпарамак. Давялося ў аб’езд ехаць.

У Вушачы забралі Дамінічку й Валю й зцёмным былі ў Менску.

«Тастамент напісаць хачу, але баюся…»[2]

* * *

У хляўчыстым гатэлі Дрысы,
У пакоі настылым, як дамавіна,
Я твае прыгадаю рысы,
І гэта ты адчуваць павінна.

*9 верасня, чацвер*

Праца. Выдавецтва ў цяжкім становішчы. Том абыходзіцца выдавецтву 10 млн, а датацыі палова. Як жыць, як выдаваць кнігі? Мне азбуку залічылі за кнігу й баяцца, каб не пераашчасlівіць. Званіў з «Сахнута» Леў Рудэрман[3], муж Фіры Мальцінскай[4]. Запрасіў на святкаванне Ём Кіпура[5] 12 гэтага месяца. Схаджу.

Дамінічку ўкладваў спаць: «Казка добрая, але даўгая й шырокая, даўгая, як дарога».

*10 верасня, пятніца*

У «Сахнут». Кіраўнік Леў Рудэрман. Выпусцілі [у Ізраіль] толькі калі павінен быў прыехаць Ніксан[6] у Менск. Рабіў фотакопіі ўсіх вершаў Хаіма. На мытні праверка некалькі сутак. Дамовіліся, нехта кінуў каменьчык у газ, загрымела. Мытнікі кінуліся глядзець, у гэты час укінуў плёнку ў скрынку й пачаў забіваць цвікамі. Хаім выдаў аж 6 зборнікаў вершаў. Садзіўся на кефір і батон у нейкім горадзе — і пісаў. У МЗС паседжанне ўрадавай камісіі па 50-годдзю знішчэння гета. Вёў Краўчанка. Моцная галава, гэтулькі кожны дзень гаварыць нешта й нават складна. […]

---

[1] Бубала Антон Францавіч (н. 1942), беларускі грамадскі дзеяч, настаўнік, паэт, краязнавец (г. Верхнядзінск).

[2] Гл.: Баюся (8.09.93, Дрыса [Верхнядзвінск]) // Евангелле ад Мамы. С. 400.

[3] Рудэрман Леў, галава прадстаўніцтва «Сахнут» (1993–1995).

[4] Мальцінская Фіра Хаімаўна, дачка Х. Мальцінскага. *Мальцінскі* Хаім Ізраілевіч (1910–1986, Тэль-Авіў, Ізраіль), яўрэйскі паэт, драматург. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Хаім Мальцінскі (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 62.

[5] Йом Кіпур — ці Судны дзень, Дзень збавення (Новы год).

[6] Ніксан Рычард Мілхаўз (1913–1994), прэзідэнт ЗША (1969–1974).

*11 верасня, субота*

Набыў цяжкі па вазе даведнік «Архітэктура Беларусі». Па-савецку яшчэ зроблена, хоць падпісаны ў набор у 1990 г. Станцыі метро на фота толькі па-расійску. У канцы фота й даведкі пра так званы Саюз архітэктараў Беларусі. Усіх тых, хто знішчаў нашыя храмы, нашыя святыя мясціны. Беларусаў месцам нараджэння дзьмушка, а рэшта з Расіі, Украіны, нават у Кітаі некаторыя нарадзіліся. У Кітаі яўна ж у кэдэбісцкіх сем'ях. «Жыві!»[1]

Адзін Дзеружынскі пасля майго любага Радзінькі пазваніў і сказаў добрае слова пра «Трыкірый». А ўсе — маўчаць.

*12 верасня, надзеля*

Сабраўся йсці на сустрэчу яўрэйскага Новага года. Вярнуўся дамоў. [...] Сядзеў дома. Час ідзе, а ў такой атмасферы, як у мяне дома, нічога рабіць не магу. Рукі апускаюцца. «Я — пасівелы бацька дзён маіх...»[2]

*13 верасня, панядзелак*

На працы. Шукаў канцы, якія заблытаў гомелепат Кусянкоў. Службіст, у якога цяжка праходзяць думкі, калі яны й здараюцца. Панядзелак і 13-е — шчаслівы дзень у мяне заўсягды.

«І пакуль мы старэем, датуль і жывем...»[3]

*14 верасня, аўторак*

У «Нёман» данёс верш і фота. Прыляцеў Васіль з Нямеччыны. Лёту паўтары гадзіны, а з аэрапорта у Менск каля пяці дабіраліся.

Ішоў з суседам з магазіна, ён валжанін родам, успамінаў, як яму некалі казаў Алесь Вечар[4]: «У Беларусі зімой не змерзнеш і летам не сагрэешся».

*15 верасня, серада*

Лятучка. Гомелепат доўга й нудна нешта вёў, аж канца не было відаць. У МЗС камісія пра 50-годдзе знішчэння Менскага гета. [...]

* * *

Час яблыню мілосці скалане,
І ападуць і яблыкі, і лісце.

---

[1] Гл.: Жыві! (11.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 401.

[2] Гл.: «Я — пасівелы бацька дзён маіх...» (12.09.93) // Тамсама. С. 402.

[3] Гл.: «І пакуль мы старэем, датуль і жывем...» (13.09.93) // Тамсама. С. 403.

[4] Вечар Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; 1905–1985), беларускі навуковец, паэт. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1975). Доктар біялагічных навук (1951). Прафесар. Член-карэспандэнт (1959), акадэмік АН БССР (1966).

А я тулю надзею, што мяне
Ты прыгадаеш, мройная, калісьці.

*16 верасня, чацвер*

У саюзе забраў новы членскі білет. Няма былое радасці. Халоднае пасведчанне. І не болей. Зайшоўся да Навума. Другі дзень бабінага лета, а яго няма. Быццам і пацяплела, але дажджы. Сыра на душы. Жыццё адыходзіць ад мяне й рукой не думае памахаць на развітанне. […]

«У горадзе сеюць траву…»[1]

*17 верасня, пятніца*

У Міністэрства замежных спраў зноў камісія па 50-годдзю знішчэння Менскага гета. Краўчанка даў указанне […], каб зрабілі новы пашпарт. 4 фота ў колеры 16 тыс. Адна мафія з міністэрствам. У Саюзе пісьменнікаў прэзентацыя Беларускага тэатра песні. Аб'яднаўся Карлас з Лучанком і Зуёнкам. […] ўсё гэта нагадвае мастацкую самадзейнасць у сённяшні дзень. Моладзь не пойдзе. Старэйшыя таксама. Сумна. Нешта Карласа заносіць на дружбу з Лучанком. Гэта баяніст, які йграў пасля пленумаў ЦК розным Слюньковым песні […] камсамольскай маладосці. Сябра Лук'янава[2]. «Трамвайшчык…»[3]

* Краўчанка. Т. 37–00–98.

*18 верасня, субота*

Ранішнім горадам на плошчу, якая носіць імя парт]…] Мяснікова[4]. Там яшчэ на маёй памяці была маленькая цесная цэркаўка. Хадзілі з Іванам Пехцеравым[5] на Вялікадне. Перашкаджала бальшавіцкаму выроддзю. Знеслі. Менск пасляваенны, які застаў я, быў утульны й яшчэ беларускі. Цяпер сацыялістычны, як і хацеў Машэраў […]. «Паклон»[6]. Няпэўнасць грызе душу, гняце мой спакой. Няма самастойнай Беларусі, няма дзяржаўнае мовы, няма зацятых беларусаў, няма мяне. Няма.

«І хочацца дабрадзею…»[7]

---

[1] Гл.: Vita (16.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 145.

[2] Лук'янаў Анатоль Іванавіч (1930–2019), расійскі палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1979). Прафесар МДУ (2004). Заслужаны юрыст РФ (2012). Паэтычны псеўданім А. Осенеў.

[3] Гл.: «Трамвайшчык…» (17.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 220.

[4] Мяснікоў Аляксандр Фёдаравіч (сапр. Мяснікян; 1886–1925), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, літаратар. У 1919 г. 1-шы старшыня ЦВК БССР.

[5] Пехцераў Іван Ягоравіч (1938–2013), беларускі журналіст, паэт. Лаўрэат прэміі імя А. Пысіна.

[6] Гл.: Паклон (18.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 405.

[7] Гл.: «І хочацца дабрадзею…» (18.09.93) // Тамсама. С. 271.

*19 верасня, нядзеля*

Званіў Васілю. Ён таксама выказаў сваё абурэнне, што Карлас ПЭН-цэнтр звязвае з Лучанком. Такая радасць была Васілю разразаць стужку разам з […] Лучанком.

Вечарам да Радзіка. Чытаў яму вершы. Шмат што спадабаў. Я дужа шчаслівы.

Ішоў дамоў і знайшоў верш: «Тры цені»[1].

*20 верасня, панядзелак*

Сфатаграфаваўся на зампашпарт. Да Масквы не дазваніўся. Званіў Бурсаву. Можа, да яго заедзе Радзік. Тэле хоць не ўключай, радыё таксама — камуністы паднялі галовы й канкрэтна сіпяць.

*21 верасня, аўторак*

На кінастудыю. Фільм пра Дзвіну. Мантаж ідзе. Здаецца, тое-сёе знялі. Дазваніўся да Масквы наконт круізу. Па тэле расійскім «танкіст» (з перапою, як праз шчыліны, глядзіць) Ель-цын заяву зрабіў рашучую. А нашыя халуі за саюз.

*22 верасня, серада*

На выдавецтва ў адкрытай паштоўцы на машынцы праз капірку самага нізкага ўзроўню бруднае пісьмо ад нейкай Каці з віцебскага скурвенерычнай бальніцы на маё ймя. Камуністы-кэдэбісты брудней не змаглі. Падонкі. Значыць, нечым ўшкуры'ў іх. Я ўяўляў, колькі вытрываў і вытрываць мае Васіль. Некалькі дзесяцігоддзяў КДБ і партыя злачынцаў цкуюць светлага апостала нацыі.

*23 верасня, чацвер*

Праца. Запіс тэкстаў да «Дзіваноснай Дзвіны». Даў кароткае інтэрв'ю ў падтрымку[2] расійскага племенніка [Ельцына].

Аляксандр Уладамірскі[3] расказаў, як парт[…] Краснова[4] заявіла на першай лекцыі ў ін'язе: «Не чакайце, што буду казаць пра выдуманую дзяржаўнасць Беларусі, пра перамогу над маскоўскімі войскамі». І ўсё па-расійску. Цэкоўская […] некалі была пастаўлена за старанне […] рэктарам ін'яза. Не выгналі.

---

[1] Гл.: Тры цені (19.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 407.

[2] Абвастрэнне супрацьстаяння Вярхоўнага Савета і прэзідэнта РФ.

[3] Уладамірскі Аляксандр Барысавіч (1950–1997), беларускі акцёр. З 1993 г. артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларусі. Сын Б. У. Уладамірскага.

[4] Краснова Ніна Георгіеўна (1928–2012), у 1971–1990 гг. рэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моваў.

*24 верасня, пятніца*

Паўдня аддаў хаданіне па пашпарт. Яшчэ не ўсё. Званіў Карлас — Каршукоў[1], Пашкоў, Каржанеўская[2] супроць таго, што на адкрыцці Тэатра песні Наліваеў[3] спяваў [бы] яўрэйскую песню, якой 3 тыс. гадоў. Хай напішуць пратэст, будзе добра як рэклама. Наогул, ПЭН у будынку саюза вельмі кепска. У вужоўні самае.

Васіль прастаяў 12 гадзін і не здабыў бензіну, хоць ён ужо па 500 рублёў за літр. Надоўга задумана машына ленінска-сталінская. Доўга яшчэ йржа яе не сточыць. Узяць той жа Саюз пісьменнікаў. Пацукоў і павукоў сабралі разам у дужа цесным месцішчы, каб адзін аднаго нішчылі.

*Услед*

Дзяўчо,
Як ля старога памяла,
Ідзе каля мяне
І не зважае.
А не заўважыў сам,
Калі прайшла
І маладосць мая,
Нібы чужая.
Гляджу я ўслед
Забытай маладосці,
Развага шэпча смутку:
«Адзайздросці…»

*25 верасня, субота*

Сойм БНФ. Прыняцце заявы пра палітычную сітуацыю ў Беларусі ў сувязі з падзеямі ў Расіі. Цікавы даклад доктара Ан. Грыцкевіча[4] пра геапалітыку Беларусі. Як працягнулі лапу воўчае дапамогі маскоўцы яшчэ ў XVIII ст., да гэтага часу душаць і гандлююць нашай зямлёй.

Праводзіў Васіля да метро. Каб Бог даў яму здароўя!

«Восень паспела»[5].

---

[1] Каршукоў Яўген Іванавіч (1932–2018), беларускі пісьменнік, перакладчык. З 1989 г. кансультант СП БССР.

[2] Каржанеўская Галіна Анатольеўна (н. 1950), беларуская пісьменніца, публіцыст, крытык, перакладчык. У 1984–2000 гг. карэспандэнт, заг. аддзела, аглядальнік газ. «Літаратура і мастацтва».

[3] Наліваеў Анатоль Аляксандравіч (н. 1931), мастак, рэстаўратар, музыкант. Арганізатар музея «Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка».

[4] Грыцкевіч Анатоль Пятровіч (1929–2015), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (1986). Прафесар (1987). У 1975–2006 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

[5] Гл.: Восень паспела (25.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 219.

*26 верасня, нядзеля*

Да Навума на дзень нараджэння. Мастак Абрам Рабкін расказваў, як у Стрэшыне дачка-медсястра ўпякла бацьку ў вар'яцкі дом, каб атрымліваць ягоную пенсію й прадаць хату. Свет звярэе, асабліва свет сацыялізму.

Навум чытаў верш з настальгіяй па вялікай радзіме. Мала яўрэям было ад гэтай вялікай. Чалавек нічому не вучыцца. Правільна сказаў Фёдар Яфімаў: час расійцам не называць сябе вялікім народам, а быць роўнымі з усімі, дык пыха расійская горы сваім лычом зрые. Цяпер праверка нацый на трываласць. І ці вытрымаем мы як беларусы, ад гэтага залежыць: быць ці не быць нам.

*27 верасня, панядзелак*

Сёмуха чытаў ліст ад дачкі з Амэрыкі. Разумная, падглядлівая, адукаваная. Цікава пра стрыечнага брата Васілёвага Боба. Вывучыў колькі беларускіх слоў, штудзіруе слоўнікі. Называе сябе беларусам. У музеі Леся растлумачыла яму, што Тадэвуш Касцюшка[1] не паляк, а беларус. Не магла адарваць ад партрэта. Фатаграфаваў і фатаграфаваў. Пасля выклікаў музейных людзей і закаціў скандал, чаму не пішуць, што гэта беларус. Паабяцаў пісаць скаргі вышэй. І Леся не сумняваецца, што напіша. Вось так голас крыві крычыць праз час і ўсе напластаванні.

«Шкада», «А мама багіняй была…»[2].

* (Трамвай:) «Абухом як упя′рыў, усё размажджэрыў у лісе′ пад ліст!»

*28 верасня, аўторак*

У МЗС занёс усе паперы на пашпарт. Абяцаюць. Званіў Васілю. Па радыё праграма «Постфактум», купленая, як і ўся прапаганда […] Кебічам, изголялась накшталт: «Беларусь назваў Вандэяй адзін масквіч беларускага паходжання». Хай укусяць Адамовіча за адпаведнае мейсца. Вечарам чытаў Дамінічцы беларускія народныя казкі. Самому, здаецца, цікавей было, чымся ўнучачцы-сучачцы. Відаць, зраблю яшчэ нешта па кнізе Іова. Як Бог дасць.

*29 верасня, серада*

Паседжанне зноў з яўрэямі наконт угодкаў знішчэння гета. Настолькі саветызацыя пайшла па генах, што хочуць, каб паседжанне, слова было

---

[1] Касцюшка Тадэвуш (1746–1817), ваенны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, удзельнік Вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы (1775–1783), кіраўнік польскага вызвольнага паўстання 1794 г. супраць Расійскай імперыі. Нацыянальны герой Польшчы, Беларусі, ЗША. Ураджэнец Беларусі.

[2] Гл.: Шкада; Багіня (27.09.93) // Евангелле ад Мамы. С. 404; 411.

й урачыстае. Атрымаў нарэшце зампашпарт. На відэацэнтры здалі фільм «Дзівосная Дзвіна». Плаціць будуць слёзы. Фінансавая пятля ўжо халодзіць мне горла.

*30 верасня, чацвер*

Праца. Сустрэча з групай студэнтак, якія быццам будуць спецыялізавацца па выдавецкай справе. Мудра й слушна казаў Андраюк, Кусянкоў хацеў па традыцыі быць глыбакадумным. Гомельская рыса.

Хадзіў на відэацэнтр. Прапануюць плату за сцэнар, як у Вушачы казалі: тры п..ды попелу. Вечарам званіў Васілю.

*1 кастрычніка, пятніца*

На працу. Прынеслі з АН першы том Янкі Купалы[1]. Хоць выданне генія славянскага свету апраўдае існаванне нашае рэдакцыі й прыглушыць грахі, што выдаем трохтомнікі сіпачкоў[2].

Ехаў тралейбусам. На будынку КДБ герб БССР. Герб неіснуючай дзяржавы на будынку той арганізацыі, якая ўсё робіць, каб вярнуць імперыю. Яшчэ большы герб на Доме ўрада. Там […] Кебіч з парт[…] толькі і марыць пра імперыю, а каб час не траціць дарма, ловяць буйную рыбу нажывы ў збузянелай вадзе. […] Каля айсберга КДБ ідзём, як каля чацвертага блока Чарнобыля. Саркафаг грамадскай думкі хісткі, а саркафага закону фактычна няма.

*2 кастрычніка, субота*

Дамінічка прачхнулася й просіць: «Зрабі мне залаты чоўнік, срэбранае вясельца, буду рыбу лавіць». Запомніла казку.

Прыходзіў Стрыжак з жонкай. Пераехалі з Веткі. Росту як у паэта на жаль няма. Як і быў. Раён савецкі засмоктвае.

*3 кастрычніка, надзеля*

Хварэў. Глядзеў па тэле й слухаў «па галасах»[3] пра падзеі ў цэнтры азіятчыны — у Маскве[4]. Нашых бы падхвосьнікаў Масквы падсмажыць.

*4 кастрычніка, панядзелак*

Праца. Званіў Васілю. Нарэшце так званы Белы дом пачарнеў ад агню. Хочацца маскалям называць белым дом, як у Амэрыцы. Азіяту хочацца

---

[1] Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. Мінск, 1995–2003.

[2] Сіпакоў Я. Выбраныя творы: У 2-х т. Мінск, 1995–1997.

[3] Маюцца на ўвазе трансляцыі замежных радыёстанцый.

[4] Падзеі ў Маскве 3–4 кастрычніка, калі быў расстраляны Дом Саветаў і арыштаваны члены распушчанага ВС і ўдзельнікі супраціўлення палітыцы прэзідэнта Б. Ельцына.

называць сябе лордам. Зноў, можа, суд пачнуць, як над ГКЧП да пасінення. У нашых камуністаў, вядома, жалоба. Расія спрадвечна была той дзяжой, дзе ўчынялася цеста ўсіх разладаў і звадаў.

*5 кастрычніка, аўторак*

Інтэлігенцыя спрыяла ўсім лепшым зменам, а цяпер нікому не трэба. А ў нас асабліва. Ні ў нас нацыянальнай буржуазіі, ні ў нас нацыянальнай царквы. Парткэдэбэнаменклатура. Заняўшы ўсе пасады, помсціць інтэлігенцыі за тое, што спугнулі з наседжаных сукоў. Узляцелі і з каркатам селі на тыя ж сукі. А інтэлігенцыі кукіш. Дзяржава не бярэ пад апеку, бо дзяржава — гэта ж тая наменклатура, камуністы-кэдэбісты.

«Алешнік»[1].

*6 кастрычніка, серада*

Праца. Званіў Васілю. Сцяпан Міска [Міско] здорава сказаў: «У Расіі заўсёды біліся, двор на двор, сяло на сяло. І ў Маскве тое самае». [...] А так званыя службы думкі грамадскай апытваюць, хто за Руцкога[2], хто за Ельцына.

«Яно»[3].

*** [Без даты.] Рускамоўную рэкламу:

Тот, кто утром кофе пьёт,
Целый день не устаёт.

І былі пераклалі:

Той, хто ўранні каву п’е,
Цэлы дзень не ўстае.

Ад чаго — ад хваробы ці ад ляноты? А варта было б перакласці хоць бы так:

Вып’еш зранку шклянку кавы,
Будзеш цэлы дзень рухавы.

*7 кастрычніка, чацвер*

*п. Паставы.* З кінагрупай у Паставы. Вуліца Дубоўкі ў новым раёне. Дамы, як гулагаўскія баракі, усе аднолькавыя. І тут савецкае чынавец-

[1] Гл.: Алешнік (5.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 54.

[2] Руцкой Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1947), расійскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Генерал-маёр (1991). Герой Савецкага Саюза (1988). У час вераснёўска-кастрычніцкага крызісу 1993 г. аб’явіў сябе в. а. прэзідэнта РФ. Зняты з пасады віцэ-прэзідэнта і асуджаны «за арганізацыю масавых беспарадкаў» 3–4 кастрычніка. Амніставаны ў 1994 г.

[3] Гл.: Яно (6.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 406.

тва адзін перад адным будуюць гмахі. Крадуць, цягнуць. Савецкая зараза страшней за СНІД.

Адно што магчыма,
Стуліцца ад ліха,
Сустрэцца вачыма,
Пагутарыць ціха
Аб тым, што збылося,
Што легла ў пракосе
Травою самлелай…

*[5–9 кастрычніка]*

*8 кастрычніка, пятніца*

*с. Манькавічы*. У школе некалі вучыўся Дубоўка. Школы няма. На мейсцы яе дырэктар пастаўскага мясакамбіната збудаваў цагляны гмах — і лецішча, і зімнішча. Быў млын. Удзячныя нашчадкі разабралі на дровы. Яшчэ такія-сякія металічныя дэталі засталіся. Кіношнікі — сумесь цыганоў і галодных жабракоў кінуліся купляць бульбу.

Нарэшце в. Агароднікі, 30 двароў. Не ва ўсіх хатах жывуць. Хата Дубоўкі (тая згарэла ў 43-м), перавезеная з хутара. Вокны на вуліцу забітыя. Убога-безгустоўная шыльда, што тут нарадзіўся Дубоўка. Іржавее дрот дзікага вінаграда. Залобак зашыты драніцамі. Збуцвеў. Плот надумаўся валіцца[1]. Перад нашым прыездам сусед субожыўся і трохі падбіў, каб не забурыўся. Братавая Ніна Ігнатаўна (пад 80) адна. Помніць, як прыязджаў Уладзімер. Яшчэ Крапіва[2]. «Цяпер прыязджаюць шмат, абяцаюць адкрыць музей. Хай бы, хоць бы вокны ўставілі. А мне ўжо мала засталося». Прапануе мне бульбы пуды са два, бо ў горадзе ж трэба ўсё купіць. Насупраць міліцыянер з Паставаў, родам адсюль, бацька быў брыгадзірам, будуе дачу, каб прыехаць, калі дзеці падрастуць, а дзецям пакінуць кватэру ў Паставах. Праз дом хату купіў прапаршчык-украінец пад дачу.

Падышоў дзядок няголены. Успамінаў пра запольскія часіны. У хаце Дубоўкі быў «Огонёк» з вершамі паэта. Няма. Была «Палеская рапсодыя», забрала, здаецца, настаўніца, якая наладзіла гасцёўню ў блізкай вёсцы. Па дарозе з аддзела культуры дзяўчаты ўспаміналі, як ўзбуйнялі вёскі. Дык прусакі цераз мост ішлі да сваіх гаспадароў на наваселле. У прусакоў хватка, як у камуністаў. Моцная.

---

[1] Гл.: Негабляваная дамавіна (9.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 82.

[2] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

*9 кастрычніка, субота*

Сяджу дома. Званіў Васілю. Сёння быў сойм БНФ. Шкада. Хацеў бы быць. Відаць, Бураўкін будзе міністрам культуры. Хадзіць будзе пад Нілам. «Паступовасць»[1].

* Дамінічка: «Гэта птушка ці галубей?»

*10 кастрычніка, нядзеля*

Перачытваю Апалінэра. Пра ягоныя беларускія карані ў расійскіх талкавальнікаў ні слова. А нашыя вучоныя маўчаць. Коўдру цягнуць на сябе то палякі, то расійцы. Добра, што хоць называлі, што прарадзіма Беларусь.

*11 кастрычніка, панядзелак*

На працы з Сёмухам гутарка пра прамежкавасць нашай літаратурнай змены. Мітусяцца пад кліентам. Новае пакаленне не прыйшло. А яны прамежкавыя. Так і скруцяцца, не знайшоўшы сябе, не зрабіўшы свае працы. Шкада. Відаць, адзін Баршчэўскі Лявон — сапраўдны. Мне шкада Арлова. Па драбязе хапае. Прадае й перапрадае Крыж Еўфрасінні Полацкай. Сёмуху шкада свайго земляка, які, як кажа Сёмуха, гатовы рэкламаваць туалеты, абы быць у тэлекадры. Бесчась спараджае прамежкавыя фігуры ці фігуркі. Гэта нешта накшталт мітульгі.

«З адной і той жа прыгнечанай гліны…»[2]

*12 кастрычніка, аўторак*

Не хадзіў нікуды. Галава развальваецца. Як пенсіянер, здаў малочныя бутэлькі. Некалі, калі піў, чарга ў гэны аддзел была роднай.

Дамінічка пачынае рыфмаваць: «Пайшоў казёл у агарод і знайшоў ён анекдот; абяз'яна закрычала: Лана!»

«Пазыка»[3].

*13 кастрычніка, серада*

Праца. Сёння прэм'ера п'есы Гоццы, якую перакладаў. Не змог пайсці — галава разломваецца.

Кожны раз Дамінічка просіць чытаць казку пра Піліпку-сынка.

*14 кастрычніка, чацвер*

Вечар Язэпа Драздовіча. Якраз на Пакроў ён і нарадзіўся. Вёў Марачкін. Добра сказаў Максім Танк, які помніць Драздовіча. З мацюгамі ве-

---

[1] Гл.: Паступовасць (9.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 58.

[2] Гл.: «З адной і той жа прыгнечанай гліны…» (11.10.93) // Тамсама. С. 409.

[3] Гл.: Пазыка (12.10.93) // Тамсама. С. 410.

ршы чытаў Сыс. Заносіць хлопца. Добра сказаў дзядзька ў фільме пра Драздовіча: «Ён быў не багаты, а рукаты».

Вечарам званіў Васілю. Па-курвечы паводзіць сябе карэспандэнтка «Комсомолки» Ягорава ў адносінах да Алексіевіч. Наогул, і газета не мяняе назву. З надзеяй на старарэжым’е.

*15 кастрычніка, пятніца*

Праца. Колькі слоў для «Беларускай маладзёжнай» пра ўстаноўчы сход «Мартыралога»[1] і Аргкамітэт БНФ. Думаю, як выкруціць сцэнар пра Налібоцкую пушчу.

*16 кастрычніка, субота*

У Нацыянальную бібліятэку [паглядзець] матэрыял пра Налібоцкую пушчу. Вырашылі з Васілём не хадзіць на чарговае паседжанне па аб’яднанню ўсіх антыімперскіх сілаў. Чарговае сумніцельнае стабуненне.

*17 кастрычніка, нядзеля*

У бібліятэку. Накідаў такі-сякі сцэнар. Званіў Васілю, добра ён сказаў пра Шушкевіча: «Шушкевіч шматгранны, аж круглы». Зянон правільна робіць — празмерны радыкалізм можа выратаваць рахманых беларусаў.

Гартаў блакнот са старымі запісамі словаў яшчэ ад мамы. І натрапіў, аж павесялеў: адзін бульбу садзіць роўна, а другі — як бык сцыць… Ні на якую еўрапейскую мову не перакладзеш, сам не выдумаеш.

«Зялёны ўспамін», «Быццам», «8 верасня 1514 года»[2].

*18 кастрычніка, панядзелак,*

Аднёс на відэацэнтр сцэнар «Зялёны ўспамін» — пра Налібоччыну. На працу прыходзіў Сяргей[3]. Кіно пра Дубоўку. Званіў на радыё — голасу Дубоўкі няма. Ёсць шмат Лужаніна, Грахоўскага […].

*19 кастрычніка, аўторак*

Сёння ў штабе БНФ брыфінг у сувязі з 5-годдзем Аргкамітэта БНФ. Не змог быць, хвароба, як раўнівая жонка, пачынае мяне трымаць дома. Дый люблю хадзіць болей туды, калі небяспечна, калі забараняюць. Ра-

---

[1] «Мартыралог Беларусі» — грамадскае гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяраў камунізму і сталінскіх рэпрэсій у Беларусі (з 1988).

[2] Гл.: Зялёны ўспамін: Пушча…; Быццам; 8 верасня 1514 года (17.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 260–261. 83.

[3] Галавецкі Сяргей Анатольевіч (н. 1959), беларускі і рускі рэжысёр-дакументаліст, сцэнарыст. У 1991–1999 гг. рэжысёр дакументальнага кіно Кінастудыі «Беларусьфільм». З 1999 г. жыве ў Маскве.

ней гэта была рызыка, а цяпер — брыфінг. Гэта для розных Вольскіх, якія ўсё жыццё — дробная меладрамка.

Прыехала Ілона. Адбілася ад рук. Шкада. Што б ні казаў на Валю — яна апора сям'і; мама яшчэ наказвала — раз ўзяў, глядзець: вочы назіралі, што куплялі. Яна ўсё-ткі ніколі не патрабавала ад мяне йсці халтурыць, умела перабівацца з вады на квас маўчком.

*20 кастрычніка, серада*

Ідуць лісты 4-га тома Васіля. Трэба ж да юбілею выдаць. Званіў яму. Казаў, што па радыё не чуў майго выступлення. Значыць, не далі. Цэнзура як была, так і засталася. Цяпер толькі кебічэўская. У нас усё да камедыі зводзяць. Ці гэта самі, ці нейкі лялькавод з таго ж КДБ ці з перафарбаванага ў Саўмін ЦК прадумана кіруе ўсім. Пра БНФ па тэле Артур Вольскі. Гэта ж камічна. Што — няма Хадыкі, Баршчэўскага, калі не сам Зянон? А тады мы нешта хочам, каб паважалі. Сын генерала КДБ — звышпатрыёт. Аналогія са святым апосталам Паўлам тут кашчуйна гучала б. Ці яшчэ Артур хоча, каб выбралі ў Вярхсавет. Налета 70. Пярэчыць, што Рэйган у 72 гады быў прэзідэнтам. Вось так і дагуляемся ў дзяржаўнасць.

Прыходзіла Ілона. Зацямненне ў лёгкіх. Худая. Працуе як праклятая. Даганяе эфемерную славу. Гэта як наркаманія. Мне пачало балець сэрца па ёй. Кроў мая, характар мой. А я, працуючы ўсё жыццё, не магу ёй даць хоць якіх грошай. Жабрак з званнем народнага паэта. Цяпер за дзве істоты душа пад ільдом — унучка й дачка. Вяроўка адчаю зацiскаецца на шыі маёй. Раблюся класічным паэтам — жабраком. Адно што засталося ў мяне — сон, куды хоць на ноч уцякаю ад усяго жахлівага й беспрасветнага. Але ж у запасе вечны сон, а цяпер трэба прачынацца. Жыць — даганяць прывід, пакуль сам не зробішся прывідам. Калі сам апынаешся ў пастцы нястачы, пачынаеш разумець болей, колькі свайго жыцця паклала мама, каб зрабіць цябе чалавекам. Рабіла ўсё гэтак, што сын не адчуваў горычы й адчаю мамы. Такое адчуванне, што мяне пасадзілі, як у казках і песнях, у бочку, бочку забілі й пусцілі з гары. Грукат і цемра. І грымакі. А калі бочка спыніцца, ні яна, ні я не ведаем. Скачам.

* П. Панчанка: «Твой голас падыходзіць да сённяшняга надвор'я». «...калі ігралі Равэля[1]...» (Дужа любіў Равэля.)

*21 кастрычніка, чацвер*

*г. Валожын.* З кіношнікамі ў *Першаі.* Нават камяні зрушаны ад былое славы. Рачулка ручайком цячэ. Як і некалі, глыбокае жыццё. Перад Валожынам могільнік. Капліца на ўзгорку. Ідзе рамонт. Пасля надпісаў на плітах і помніках вечарам слухаю радыёперадачу віншаванняў Валожы-

---

[1] Равэль Марыс (1875–1937), французскі кампазітар.

нскага радыё. Прозвішчы гучаць, а на надпісах яны мёртвыя. На могільніку выразна й русіфікацыя, і паланізацыя. І на той свет беларускія душы йдуць раздвоеныя. За іх да канца змагаюцца два зайздроснавокія суседы — маскалі й палякі.

У ешыбоце, дзе вучыўся Бялік, цяпер «Кулінарыя». Яўрэйскія могілкі дзівам ацалелі. Камяні пахіліліся, апалі. Белы конь, тры авечкі, як ажылыя камяні. Дзве казы пасвяцца. Скубуць траву, што прарасла з праху. Наогул на магільнікі трэба хадзіць часцей, каб бачыць сваю светлую будучыню.

* Валожынскі могільнік. Каб дзе па-беларуску; то па-расійску, то па-польску. «Юлия Балашка. На 20 г. жизни 20/VI 1936 г. зверски убита Свержицким. д. Гончари».

Яўрэйскія могілкі. […] На абымшэлых ужо камянях дагасае зорка Давіда. Менора, як восці, пахіленыя і паваленыя камяні.

*22 кастрычніка, пятніца*

*г. Івянец.* Івянецкі музей крывавага Фэлікса [Дзяржынскага]. У ім залу адвялі Апалінару Пупку[1]. Некалі быў у яго. Сёлета 100 гадоў будзе. Лічылі за блазна. Асабліва не маглі цярпець камуністы. У райкоме абураліся, як гэта яму пенсію даваць. Цяпер мёртвага нібы шануюць. Казаў некалі: «Як шпурну палена, дык мой балван аж да Масквы даляціць». Шмат цікавых жанравых сцэнак. Уразіла «Бусел, хопіць!». Сякера ў калодзе тырчыць, галава бусла пад пахай, а ў вачах адчай. У дрэве ажылі й Скарына, і Купала, і Колас, і Багдановіч, Чачот[2], Д.-Марцынкевіч[3]. Яшчэ ў 80-я гады Пагоня скача ў майстра.

«На валожынскіх могілках»[4]. Сяджу у аднапакаёвым, ці аднамейсцавым, нумары без стала, замест яго збітыя козлы, засланыя бруднай сурвэткай. Стол ці ўкралі, ці прадалі.

«Гэта як з цыганчынай маны…»[5]

У вёсцы *Старынкі* жыве апантаны беларус, краязнаўца Генадзь Антонавіч Равінскі[6]. Запісвалі яго. Дачушка з 72 года, ужо мае маленькага сынка, сама яшчэ дзіця. У нас на Ушаччыне ды й на Віцебшчыне гэтакіх апантанцаў няма.

---

[1] Пупко Апалінарый, беларускі народны разьбяр. Гл.: Дзённікі і запісы. Вып. 3. 1979–1982. Мінск: «Кнігазбор», 2016. С. 226.

[2] Чачот Ян Антон (1796–1847), беларускі і польскі паэт, фалькларыст, этнолаг.

[3] Дунін-Марцынкевіч Вінцэсь (Вікенцій Іванавіч; 1808–1884), беларускі паэт, драматург.

[4] Гл.: Зялёны ўспамін: На валожынскіх могілках (22.10.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 261.

[5] Гл.: Зялёны ўспамін: Гэта як з цыганчынай маны… (22.10.93, Івянец) // Тамсама. С. 262.

[6] Равінскі Г. А. (1933–1999), настаўнік, краязнавец.

*23 кастрычніка, субота*

Івянец. З раніцы дождж. Абышоў збольшага Івянец. Ля касцёла ўся радзіна Пупкі й сам ён. Усе надпісы па-польску. Беларускія душы на таргах між расійцамі й палякамі. Як унію ні клянуць — яна нашая рэлігія. Таму праваслаўная, пракэдэбісчаная царква супроць яе. Івянец — мястэчка чыстае, утульнае ў прынцыпе. Але камуністы сапсавалі ўсё, што можна й што не можна. Псаваць яны майстры. На ўсім абліччы гэтага лепей сказаць места адбітак забытасці, каланіяльнасці расійскай. «І вянец, і вянец, і яшчэ вянец…»[1] Здымаць у дождж немагчым — паехалі дамоў.

*24 кастрычніка, нядзеля*

Да Радзіка. Ён абараніўся. Усе фармальнасці зроблены. Кандыдат філалагічных навук. Дай Бог яму шчасця!

Учора вечарам хвост праграмы застаў, выступалі з нашага выдавецтва. Дранько ўсё замінаюць старэйшыя паэты, як адпаведнаму танцору. Рана ў яго злосць пачала капаць з кончыка языка.

*25 кастрычніка, панядзелак*

Званіў Васілю. Усе лісты 4-га тома прыйшлі. На вечары, дзе бальшына антысемітаў на чале з Кебічам і Краўчанкам кляліся ў дружбе, Ніл не быў запрошаны, але прыйшоў і хацеў сесці каля […] Кебіча. Аж там Левін. Тады Ніл сеў на другі рад, але паміж Кебічам і Шушкевічам, каб воблападобная галава была ў кіна-, тэле-, фотакадрах траплялася. Мала славы, як солі алкаголіку.

На працу прыходзіла дачка […] Грахоўскага, сам […] трапіў пад машыну. Хай жыве сто гадоў і дзвесце ракам поўзае!

Сустрэў Пецю Драчова[2]. Шаранговіч, выходзіць, меркаваўся сябрам Краўчанкам у Новую Зеландыю паслом. Дужа ж хочацца пляменнічку прадажнага стаўленніка Масквы[3] якога-небудзь крэселца. Хацеў дужа быць і міністрам культуры. Цырк па-беларуску.

«Думаецца, што й ваўку сярмяжка…»[4]

* Быў Сярэбраны век расійскае паэзіі, а цяпер пластмасавы. Яркі прадстаўнік Андрэй Вазнясенскі.

---

[1] Гл.: Зялёны ўспамін: І вянец, і вянец, і яшчэ вянец… (23.10.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 262.

[2] Драчоў Пётр Мікалаевіч (1937–2005), беларускі графік. З 1992 г. супрацоўнік «Беларускага гістарычнага часопіса».

[3] Шаранговіч Васіль Фаміч (1897–1938), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1921–1926 гг. нам. наркама юстыцыі, пракурор БССР, у 1930–1934 гг. 2-гі, з 1937 г. 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б. Рэпрэсаваны. Дзядзька В. Шаранговіча.

[4] Гл.: Думаецца (25.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 408.

*26 кастрычніка, аўторак*

Занёс слова пра Цвірку ў «Маладосць». Ілона збіраецца ехаць у Пецярбург. Шкада яе, захапленне яе да хваробы ва ўсіх значэннях. Як бярэзінка адна ў полі на вятрах. Безабаронная. З Косці толку, як у нас казалі, як з кілы мазгоў. Адзінае, на што быў здатны — на дачушку. І ў мяне цяпер ёсць самая любімая ў свеце Дамініка.

*27 кастрычніка, серада*

Старэю й хварэю. Настрой самы кепскі. Баліць душа па Ілоне. А тут яшчэ Дамінічка. Відаць, гэтак ужо задумана панам Богам, каб радасць балела, тады яна яшчэ даражэйшая. Званіў Васіль. «Наша слова»[1] прайшлося па ім мімаходзь. Сапраўды, Ніл цяпер толькі й сочыць, каб не забыліся нідзе яго ўпамянуць. [...]

*28 кастрычніка, чацвер*

Пазваніў Шклярэўскаму. Як га.на наеўся. Крыўды, што не пазваніў, калі ён быў у чорнай яме — прабадная язва. А з Менска былі нават урадавыя тэлеграмы. Усё яшчэ сябе лічыць паэтам імперыі. Усё добрае, што рабіў, настолькі помніць, што лепей бы не рабіў. Хворы чалавек. Цікава сказаў, што такі боль зваліў яго з ног і кінуў у бяспамяць, што ён у думках дараваў усім здраднікам, бо іх катавалі болем.

Прыходзіла Ілона. Толькі душа разбалелася.

Званіў Васіль. У саюзе вахцёр перадаў яму ананімнае пісьмо, дзе нехта О. Аляхновіч піша, што парваў і кінуў у смеццеправод усе ягоныя кнігі і шмат хто іншы зрабіў гэтак жа. Але яшчэ й не гэта зробяць. Называюць яго чарнасоценцам, чаму не выступіў у абарону нявінных руцкіх і хасбулацікаў[2]. Дабіваюць генія.

*29 кастрычніка, пятніца*

Прыходзіла Ілона. Пасварыліся. Не можа ніколі трымаць слова, прыходзіць у час. А спазняцца ў наш час асабліва нельга, калі нешта думае зрабіць.

З Сёмухам сумавалі разам, што адыходзіць наша эпоха, якая адной нагой стаяла яшчэ ў старасвеччыне, паганстве й шчырай веры ў Бога. Тыя, што ўслед ідуць, ужо без комплексаў сораму й жалю ў бальшыне сваёй. Амерыканізацыя йдзе па свеце. І мы не выключэнне. [...]

---

[1] «Наша слова» — грамадска-асветная газ. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (1990–1997).

[2] Хасбулатаў Руслан Імранавіч (н. 1942), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; эканаміст. У 1991–1993 гг. старшыня ВС РФ. Член-карэспандэнт РАН (1991).

*30 кастрычніка, субота*

Валя ездзіла ў Вушачу. Машына лёгкая — дваім ды паклажа яшчэ, цяжка. Забрала маці сваю й прывезла дароў ушацкага саду. […]

Званіў Карлас. І да яго дайшло, што з Лучанком не варта звязвацца. […] Ніякіх зменаў у нашым, так бы мовіць, грамадстве не будзе, пакуль усім будзе па-ранейшаму кіраваць КДБ, толькі штогоду хітрэй і скрытней, але нахабна.

*31 кастрычніка, надзеля*

Удзельнікі штурму Зімовага [палаца] ніяк не могуць набрацца ў запас хлеба. Як быццам гэта магчыма. Ледзь з абеду знайшоў у адным склепе хлеб. Прыходзіла Ілона. Шкада яе. Ад тых дзядоў прывезлі Дамінічку — радасць маю, маю надзею, у якой не расчаруюся, бо не дажыву да расчаравання.

Глядзеў кавалачак праграмы «Воскресенье» (замест «Итогов»). Плач па бедных русскомычащих. Кыргізы крыўдзяць. Яны ж ехалі з высакароднымі мэтамі — асіміляваць і выцесьніць кыргізаў з іхняй жа зямлі. Арганізоўвалі ВПК — страшыдлішча, мацнейшае за азіяцкага дракона.

«І пасыплецца клопат…»[1]

*1 лістапада, панядзелак*

Галута пасівела ад шараску. Зіма неўзабаве. Дамініка сёння казала, што з мяне наварыць усяго — з нагоў, з рукоў, з вух. І гасцей пакліча, і свечкі запаліць. Цвеліцца з раніцы. Ілона мусіць ад'язджаць у Пецярбург. Перад ад'ездам пасварылася са сваім Косцем. Але паехалі разам. Куды?

*2 лістапада, аўторак*

Дзяды. Каплічка каля КДБ. Сказаў колькі слоў Лукашуку для «Свабоды». На могілках адкрыццё помніка Міхасю Ткачову. Шатэрнік[2] зрабіў чарговую халтуру. Васіль быў і выступаў ля каплічкі. Быў і на адкрыцці помніка. Потым пешака на Курапаты. Выступіў Шушкевіч, Ніл расказаў, што дзядька пацярпеў. Не расказаў, праўда, што бацька назваў яго Нінел — Ленін задам наперад. Сястра Ідэя, брат Марат, адзін Мікола не назваўся Феліксам у гонар Дзяржынскага. Усё слаў праклёны ў адрас нейкіх нелюдзяў. Ты ж, калі такі смелы, скажы пра камуністаў ці кэдэбістаў.

Я сказаў колькі слоў, адрасуючы гэта Нілу, падкрэсліў, што нацыю не выратуюць ні нацыянал-камуністы, ні нацыянал-кэдэбісты. Нарэшце выдаўся выпадак перадаць Шушкевічу сувенір ад Фарфеля — тры ка-

---

[1] Гл.: «І пасыплецца клопат…» (12–31.10.93) // Евангелле ад Мамы. С. 412.

[2] Шатэрнік Аляксандр Сяргеевіч (н. 1940), беларускі скульптар.

лоды картаў[1]. Ледзь падышоў да Шушкевіча, ахоўнікі як бульдогі дыбка сталі. Перадаю сувенір, Шушкевіч секунду трымае ў руках і аддае ахоўніку, а раптам там выбуховае што. Рытуал. Страх. Шушкевіч неўзабаве падаўся да машыны, следам даўгалыгім ценем Ніл. А Зянон, які, дарэчы, выступіў як заўсягды бліскуча, да канца стаяў голагаловы, калі служылі службу каталіцкі, праваслаўны, уніяцкі святары. Ніл і Шушкевіч у стандартных партнаменклатурных паліто, Зянон у танным, халодным паліточыку, але акуратным. Правільна сказаў Васіль: «Зянон дадзены нацыі Богам». На могільніку зноў пацвярджаецца думка, што шавец без ботаў. Анікейчык гэтулькі помнікаў паставіў, а ягоная магілка так-сяк дзёрнам абкладзеная. ЦК і КДБ не паспелі зрабіць помнік раку крыві нацыі — Крапіве.

* Прыёмная Шушкевіча, т. 29–35–14.

*3 лістапада, серада*

На працы лятучка. Цэны на паперу растуць. Нацыянальнае выдавецтва мусіць выдаваць расійскамоўную камерцыйную макулатуру — працэс русіфікацыі, задуманы яшчэ царом і ўмацаваны камуністамі, дзейнічае. Аднёс Айзенштадт колькі слоў пра падзеі ў Маскве і пра нас.

[…] Толькі сон — адзінае выйсце з усіх страхоццяў на вуліцы й дома.

* * *

Курапаты —
Курок энкавэдзіста
Паўтараў надброўе ахвяры.
Падаў лес людзей —
І вырас лес,
Сыры ад слёз,
Зялёны ад шуму.
Свечка пацепвае
Векам успалымнелым —
У гарачае вока
Заляцела
Парушынка ляманту.
Крыж паўтарае
Паставу Хрыста.
Старыя хіляцца каласамі,
З якіх
Павыдзеўбаныя зярняты.
Позірк долу абніжаны,
Думкі да Госпада ўзняты.

---

[1] С. С. Шушкевіч — калекцыянер ігральных карт.

Пачытаў Радзіку. Параіў скараціць, і атрымалася: «Свечка пацепвае…»[1]

*4 лістапада, чацвер*

З Віктарам Стрыжаком шклілі вакно й фортку. На гэты раз у Віктара ўсё атрымалася. Дазваніўся да Казіка[2], можа, Віктара дзе на працу прыткнуць. Павіншаваў з днём нараджэння Р[ыну]. […]

*5 лістапада, пятніца*

У відэацэнтр. Нейкія грошы атрымаў. Жабрачыя. У Таварыстве дружбы вечар кампазітара Копітмана[3]. Сказалі, з Ізраіля. Гэта наш, саўковы, паехаў туды. Зады авангарду. Салістка з Аўстрыі (Котляр). Сімпатычная й добры голас. На другую частку канцэрта прыйшоў пасол Ізраіля ў Беларусі Валк з жонкаю. Хапіла розуму ўзяць маленькую ростам жонку, яшчэ ніжэйшую за самога. Наш дурань узяў бы дылду на дзве галавы вышэйшую […]. Пасол дзівіўся, што многія міністры беларускія пагардліва ставяцца да беларускай мовы. Гэта ж камуністы-кэдэбісты. Што дзівіцца. Лучанок прыводзіў у Саюз кампазітараў […] Данілава[4] агітаваць за абноўленую нібыта кампартыю й за саюз з Расіяй.

*6 лістапада, субота*

Вечарам іду з крамы, старая партай]…], і ля яе маленькі ўнучак, клеіць заклік на кастрычніцкае свята. Раскідалі ўлёткі, дзе яны хварэюць за нацыянальную культуру супроць мафіёзна-камерцыйных структураў. А ў гэтых структурах адны камуністы-кэдэбісты запраўляюць.

Званіў прафесар Скір. На прыёме ў памяць расстрэлу гета Краўчанка зноў пачаў клясціся ў любові да яўрэяў. Тады адзін з яўрэяў і сказаў: «Жадаю Вам і родным Вашым усяго таго, што Вы жадаеце яўрэям». Краўчанка разгубіўся, забыўся, што ён як бы дыпламат і пытаецца: «За што гэта Вы праклінаеце мяне?» Выходзіць, што інтэлігентныя яўрэі разумеюць кебіча-краўчанскае шоу, мэта якога праз яўрэяў выйсці ў камерцыю асабіста ў першую чаргу. Дамінічка мне малявала крыжыкі [у дзённіку] й тлумачыла: «Гасподзь маліʼцца Божаньку». Гэта лепей, чым бы яна малявала «чырвоны дзень календара». «Змеі бываюць крандзіліны, бандзіліны й ландзіліны», — кажа Дамінічка.

---

[1] Гл.: Курапаты (3.11.93) // Евангелле ад Мамы. С. 81.

[2] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1988–2002 гг. заг. аддзела, нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

[3] Копытман Марк Рувімавіч (1929–2011, Ізраіль), кампазітар, педагог, музыказнавец. Кандыдат музыказнаўства (1958). Заслужаны дзеяч мастацтваў Малдавіі (1991).

[4] Данілаў Генадзь Ільіч, дзяржсакратар па пытаннях абароны і нацыянальнай бяспекі.

*7 лістапада, нядзеля*

За вокнамі, як у млыне, — мукавата ад зазімка. Перачытваю ўсе зборнікі Казіміра Камейшы, папрасілі напісаць слова ў «ЛіМ». Валодае дэталлю, мае мову. Мог вырасці ў выдатнага паэта. Віною час і сістэма, з якіх не маглі вырвацца не толькі ён. І ўсё ж ад паэзіі Камейшы светла й беларусіста. Сам ён чалавек светлы, майстар завіханак. З ім некалі дужа любіў я піць. Нейкі светлы хмель ахінаў усяго. Сярод сваіх аднагодкаў — ён першы паэт.

* * *

Вар'яцеючы ў цішыні
І ўцякаючы ў забыццё,
Бажбе
Права на выхадныя дні
Памяць заваявала сабе
У гаспадыні працы.
І я стараюся,
Не турбуючы час,
Думкамі да цябе вяртацца,
Калі мая памяць,
Яшчэ жывая,
Адпачывае якраз.
Успаміны адны
Не дужа раяцца з намі,
Не каяцца,
Не заікаюцца,
Сустракаюцца — і яны
Называюцца снамі.

*8 лістапада, панядзелак*

Сазваніўся з Алесяй Адамаўнай Бабарэкай[1] — наконт фільма пра Дубоўку. Хадзіў на кінастудыю. Трэба здаць сцэнар пра Васіля Быкава. Сам ён не дужа хоча фільма пра яго.

Дамінічка раніцай казала, што сніўся ёй дзедзя любімы, які чытаў ёй казкі, спяваў песні й гушкаў. І дзеду светлага настрою хапіла на ўвесь дзень.

Пазваніў Тамаш Варанецкі — выйшла нашая кніжачка, дзе шаржы на актораў Купалаўскага тэатра ягоныя, а эпіграмы мае. Ён вядзе ў БелАМ курс, яны ставяць «Застолле пад час чумы» ў маім перакладзе.

«Хвалям разгубленага ўспаміну...»[2]

---

[1] Бабарэка Алеся Адамаўна. Захавальніца спадчыны У. Дубоўкі. Дачка А. Бабарэкі. *Бабарэка* Адам Антонавіч (1899–1938), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны.

[2] Гл.: «Хвалям разгубленага ўспаміну...» (8.11.93) // Евангелле ад Мамы. С. 392.

*Наталлі Давыдзенка*
*(на «Неакадэмічнай калодзе»)*

Наталачка!
Прымі калоду,
Май ад усмешкі асалоду!

*6.ІІ.2011* *Рыгор*

*9 лістапада, аўторак*

Да Скіра. Малітва XVI ст., выконвае вядомы кантар, запіс 40-га года. Усяго колькі слоў тэксту, а выконваецца каля дзесяці хвілін. Незямная музыка, ачышчаешся душой, калі чуеш. І мне пачулася, што спявае кантар не ў Еўропе, а недзе на Іерусалімскіх схілах. І словы так бы мовіць выраслі там, і мелодыя там. Проста неба падарыла гэты спеў мудрай сваёй старажытнасцю землі.

Вечар у рэстаране ў сувязі з 70-годдзем Аляксандра Абрамавіча Дракахруста. Чаму я шчыра зайздрошчу, дык гэта таму, якія добрыя й разумныя ў яго сыны. Асабліва рыжы чорт Юра. Ён папрасіў перакласці яму выраз *деловая хватка.* Прапанаваў *спрыт у справе*. Даўно я ўжо не сядзеў ў гэтакай добрай кампаніі.

Ноччу пазваніў Васіль — у Маскве ўспомнілі, што мне трэба заўтра а 20-й гадзіне выязджаць на Адэсу, а потым у круіз. Вядома, што не паспеў. Тут трэба ці спецсамалёт, ці спецрэйс цягніка.

*10 лістапада, серада*

Раніцай на працу пазваніў Васіль. Я рады, што й ён пагадзіўся, што за такі тэрмін немагчыма сабрацца й быць у сталіцы былое імперыі. Васіль прыходзіў у выдавецтва. Пачаў з ім размову пра фільм пра яго. Не хоча. Кажу: вясной. Смяецца: «Я, як стары яўрэй, планую толькі да суботы свае дні». З Валяй былі на выставе яўрэйскіх мастакоў. Ёсць цікавыя працы. Але мала нацыянальнага духу, таму й бальшына агульна-без’аблічная.

*11 лістапада, чацвер*

З раніцы да Васіля. Занёс яму лекі й ўшацкіх яблыкаў. Васіль пачаставаў мяне ўшацкай бульбай, яшчэ тым гатункам, які вёўся ў ягонай мамы. І я адчуў ушацкі смак, і Васіль казаў, што яна зусім інакшая, на ёй жа ён вырас. Што б там ні казалі, як бы ні кпілі іншыя разумнікі, а ўшацкія людзі — гэта асаблівая парода, асаблівая каста, і толькі самі сябе мы разумеем, хоць і не да канца. Васіль казаў, што перачытвае дзённікі Буніна[1]. Бунін дужа любіў і, можа, як ніхто апісваў месяц. А дзе ў горадзе ў нас

[1] Бунін Іван Аляксеевіч (1870–1953), рускі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

ўбачыш нармальны месяц? Бунін, казаў Васіль, піша, як да яго на вілу прыходзілі расійскія ваеннапалонныя й частавалі яго каньяком. Еўропа, зусім інакшы палон. Бунін увесь час жыў з літаратурнае працы, нават у вайну здымаў вілу. А што далі Саветы Васілю? Трохпакаёвачку, дзе сабака можа разгуляцца як у торбе, калі крыху перарабіць прымаўку. Ірына Міхайлаўна казала, што захоўвае выпіску з бальніцы, калі Васіля бралі. Кашуля, майка, яшчэ тое-сёе і «прощай молодость» — так і напісалі пра Васілёвы лямцаваныя пашлапні, якія ён дужа любіць. Між іншым, Васіль з сумам сказаў, што лепей за ўсю публіцыстыку, за ўсе выступы й наступы было б весці дзённік, дзе ўсё натаваць, затрымліваць час. Але ўжо, калі не сабраўся раней, цяпер позна. Які ён вялікі, які ён глыʹбісты й у выніку — самотны. Вяршыні, глыбіні й глыбы заўсягды самотныя, бо роўных ім няма.

Прыйшоў дамоў вечарам, а Дамінічка мне кажа, што цяжка маляваць ворагаў. Цікавае стварэнне расце. Бог паслаў на маю цёмную старасць такую святлінку. Дзякуй Госпаду!

*12 лістапада, пятніца*

г. *Івянец.* З відэацэнтрам у Івянец. Па дарозе двойчы блудзілі — шукалі Генадзя Равінскага. Нейкіх двух маладых мужчын падвозілі. Цікава кажуць пра Стаўбцоўскі раён — Стаўпецкі. Болей па-беларуску. Зіма ўзялася крута й рана. Не дужа прагрэс крануў нашыя вёскі — па-ранейшаму драўляныя, гібеюць пад халодным небам. У гэтым спаконвечным краявідзе гэтулькі роднасці й хатнясці. З гэтым свет убачыў, з гэтым і знікну з яго. Крыху перапісаў верш: «У паваеннай мамінай хаце...»[1]

*** «Стаўпецкае сала, а не стаўбцоўскае, — кажа на Камароўцы маладзіца. — А Стоўбцы — расейскае».

*13 лістапада, субота*

г. Івянец. Равінскі ды ўсе мясцовыя кажуць Івеʹнец. Ці ўплыў польскага вымаўлення, ці, можа, спаконна гэтак і вымаўляўся. Паехалі ў Налібокі. Зноў-такіНаліʹбакі кажуць ўсе тутэйшыя. Тады й народная этымалогія на ліʹпаўкі права мае. У *Прудах* Вадзім [Купрыянаў] залез на 40-метровую вышку. Хацеў і я, але са сваімі габарытамі, асабліва ў ветэранскай паддзёўцы, не пралез нават да прыступак. Раніцай паехалі ў *Пятрова* на млын. Равінскі з 4-х гадзін раніцы ўжо займаў чаргу. Млын з селікатнае цэглы. Абвязваюць мяхі пад латаком, як усё роўна ўнуку чаравік зашнуроўваюць. Равінскі, запылены, з пасівелымі азяблымі рукамі, тлумачыць дзядзькам пра значэнне й абнаўленне пушчы. Іх болей цікавіць чарга. Кожны з бутэлькай млынару прыязджае. Нехта на веласіпедзе прывёз

---

[1] Гл.: Матрыярхат (5–12.11.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 50.

два мяшэчкі. Былы чырвоны старшыня калгаса, чырвоны памешчык ці райкомавец у белых абрамянёных бурках. Кажух да пятаў, зверху дублёны пад скуру. У авосьцы зелянееецца бутэлька.

Едзем у Налібакі. Рамантуецца касцёл. На пачарнелых рыштаваннях трое дзядзькоў, размова такая мяшаная — беларускія словы з польскімі. Польскія стараюцца заглушыць беларускія. Як на зямлі, гэтак і пад небам.

Возера Кромань. Тут перагукаюцца словы кром — сіла, і крэмень, і крамянасць. Не замярзае, хоць мароз добры. Мае сілу. Па берагах змерзлыя на костку бярозкі. Усё наўкол скурожана, пазнішчана. Савецкі Саюз у дзеянні. Да былога дырэктара Налібоцкае школы Адама Янавіча Сіякевіча, яму 67 гадоў. Яшчэ моцны. Ясны позірк хітравата-разумны. Двое сыноў вывучыў. Адзін начфінчасці палка, другі ў камерцыі ў Менску. Трымае парсюка. Мае машыну, два матацыклы, адзін трактар, было два, адзін прадаў. Падворак дагледжаны. Мы ў істопку зайшліся — пачаставаў самагонкай, салам, яйкамі, каўбасой. Кажа, у былой Заходняй яшчэ не зусім развучыліся працаваць, не гэтак, як ва Усходняй. У дзьвюх палавінах хаты рогі аленяў і ласёў. Цікава, што ў балотнага лася рогі таўстой лапатай, а ў палявога, як былкі нейкія. Абураўся, што адвучылі людзей ад зямлі. І цяпер, як і раней, калі ў школе трэба нешта зрабіць — толькі праз бутэльку.

Равінскі, толькі я падумаў пра гэтае, калі мы ехалі да яго назад, пачаў казаць, што ён гол як сакол і не шкадуе. З самага пачатку свайго жыцця свядомага ён ведаў, што ў яго нічога не будзе. І такі няма. Жонка ўжо 5 гадоў як развялася. Яна наверсе, ён унізе жыве. Казённы барак ёсць, што застаецца ад сям'і (дзяўчаты на баку маці), хоць прадукты купляе ён. Калі-нікалі памые яму кашулю ці прасціню. Яна б, кажа Генадзь Антонавіч, была б шчаслівая, каб муж быў трактарыстам ды прывозіў дамоў якіх буракоў ці бульбы. Ён толькі й жыве Адраджэннем, а яна ні ў што не верыць. Узяў, бо пашкадаваў некалі, што яе пад час вайны пакінулі трохгадовым дзіцем пры дарозе. Гадавалі чужыя людзі. Прымусіў, каб завочна скончыла педінстытут. Дробная дэталь. Прыйшлі нейкія капейкі за артыкульчык недзе. Сказала, што купіла на іх цукерак унукам. Ён сказаў: «Ці пачытала ты хоць, пра што артыкул?» Адказала, што няма часу. А ў яго хворае сэрца, высокі ціск. Яно не дзіва, бо ціснулі на яго камуністы гэтулькі гадоў за ягоную беларускасць. Расказваў, як нахабна паводзяць сябе праваслаўныя святары, і чуць не хочуць пра беларускасць. Падахвочае іх [...] Філарэт. Радуецца, што адваявалі Белы касцёл. Філарэт употай прыязджаў на ўзгледзіны. Праваслаўны святар скончыў ГПТВ механізацыі. Абклаў мацюкамі ксяндза. [...] Кебіч з гэтых мясцінаў. Мянушка ўсіх ягоных аднакаленнікаў — апалонікі — жабы будучыя. Калі

ў Менску ўзначальваў адзін з заводаў ВПК, наладзіў зімовы сад (па прыкладу многіх ваенных заводаў імперыі), тым уразіў прыгожую легенду партапарата — Машэрава. Быў заўважаны й аблашчаны.

Сяджу ў халодным гатэлі. Радыё. Суцэльны сум па імперыі. Расійскія песні. І зноў літаратурная прыжывалка Турбіна[1] з кампазіткай Гарэлавай[2]. Турбіна — асколак «залатога веку». Расійскамоўныя абмылкі падаюцца на фоне музыкі як адкрыццё. Жах, дый годзе! Няхутка йдзем да сябе.

«Завоз», «Пушчанскае возера Кромань...»[3] Ля Кроманя партызаны, ашукаўшы, разбілі атрад Арміі Краёвай[4] па заданню Панамарэнкі[5]. Дырэктар расказваў, што хату ў Налібаках паставіў са зруба. Немцы не палілі, калі не было даху.

*14 лістапада, нядзеля*

Раньком у *Люцінку*, ці ў *Малую Люцінку*. Ліпа, пасаджаная Д.-Марцынкевічам, калі верыць Равінскаму, у 1840 годзе, не ацалела. Абліў саляркай і падпаліў старшыня сельсавета Чэрнік у 1984 годзе. Ліпа гарэла, а п'янаваты сабака з савецкай псярні са сваім аднахвосьнікам жартаваў да адказнай за культуру: «Прынясі кумпяк, звэндзім». І не з «страны рабов, страны господ», а недалёкі мясцовы. Саветызацыя мацней за гарэлку адбірае мазгі й рэштки іх. Цяпер ад ліпы застаўся адзін пень, і той прадупліўся. Як застылыя языкі полымя, аскялёпкі абалоні. Праўда, пасля мастак Алег Раманоўскі расказаў легенду, чаму не захаваўся пень, чаму пень згніў — на яго плакаў Равінскі, дык слёзы й пабілі пень. Былі пасадзілі маладую ліпку, дык сельсавецкія актывісты панадрэзалі кару, каб засохла. На мейсцы, дзе стаяла хата Дудара Беларускага, аляпаватасавецкі помнік. Ля яго й свінні пасвяцца, і каровы свае бакі чэшуць, і свінні. Равінскі павёў мяне да Кулікоў — іхнія дзяды былі прыгоннымі ў Д.-Марцынкевіча. Жонка далёкая радня Равінскага, з палякаў з Польшчы.

[1] Турбіна Любоў Мікалаеўна (н. 1942), руская паэтэса, перакладчыца. У 1984–2000 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Кандыдат біялагічных навук (1971). Жыве ў Маскве.

[2] Гарэлава Галіна Канстанцінаўна (н. 1951), беларускі кампазітар. З 1980 г. выкладчыца БДАМ. Прафесар (2009). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (2004). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[3] Гл.: Зялёны ўспамін: Завоз (верш прысвечаны Г. Равінскаму); Кромань (верш прысвечаны К. Камейшу; 13.11.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 263; 264.

[4] Армія Краёва — падпольная ваенная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1942–1945 гг. на акупаванай фашысцкай Германіяй тэрыторыі Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Падпарадкоўвалася польскаму эміграцыйнаму ўраду ў Лондане.

[5] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны і дзеяч. У 1938–1947 гг. 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б, адначасова з 1941 г. начальнік Штаба партызанскага руху.

Захавала рэшткі шляхетнасці, дужа чыстая на гукапіс мова ў спадарыні. Муж Кулік у кірзавых ботах, у фуфайцы, у шапцы, як любіў пісаць Б. Сачанка, кучомцы, спіць у прыхадзе на нейкім тапчанчыку. Самагонка яўна мацнейшая за ранішні марозік.

Ідзём праз двор Зыгмунта Пятровіча Кужоўніка на мейсца, дзе быў кляштар. Паданне кажа, што шведы хацелі забраць скарбы, але іх не выдалі. І ўсіх яны павесілі, хто хаваў скарбы. Кужоўнік не дужа злосна скардзіцца, што гэтае лапікла, якое не ўараць, ні ўскапаць, умерана яму ў соткі. Да гэтага часу знаходзіць кахлю каляровую, вялізныя, дужа моцныя цагліны. Мне падняў з зямлі аскялёпак чырвонае кахлі. Равінскі просіць гаспадара пакінуць гэты кузлачок — можа, археолагі зоймуцца, можа, адгародзіць сельсавет.

З Кужоўнікам ідзём на котлішча Дудара. Ледзь не ўсю гару, дзе стаяла хата, зрылі, калі правялі дарогу. На прыступкі Кужоўнік кажа *ўсходкі.* Добрае слова, адразу ногі чуюць яго. Кужоўнік (з 1932 года, яшчэ рухавы, дужы) сказаў, што жонка недзе ў гасцях. І раптам мы пачулі голас (нагасцявалася не гарбатаю): «Ідзі дамоў, пісацель, мацькі тваю так і гэтак. Прыехалі сюды. Трэба людзей паважаць, калі жывуць. Як жывуць, тады не заўважаюць, а як памруць, тады падымаюць. Людзей павыганялі (гэта яна пра дачок Д.-Марцынкевіча), у чыстым полі век свой дажывалі». На слова не скупілася. Равінскі тлумачыў, што ён ім усім тут замінае, бо дрыжыць за кожны памятны куточак, а людзям трэба выганяць свіней, пасвіць кароў, на котлішчы добра рубіць ізрубы пад дачы, зносіць смецце. Нашчадкі заўсягды ўдзячныя, асабліва ў нас. Тут жа была школка, вучыўся Ядвігін Ш.[1], бацька ў яго быў лоўчым у графа Тышкевіча, здаецца.

Едзем далей. *Кроʹпіўшчына* — рэшткі маёнтка Зэляў. Спалілі партызаны — «беларускія сыны». Бярэ пачатак ручаінка Вяʹлік. Калгас тут жа ўзвёў кароўнікі, каб гной сцякаў у рэчку. Па-савецку, па-калгаснаму. Даволі вялікі кар'ер, па-хамску бралася зямля, дзе быў палац графа Тышкевіча. У стромінах кар'ера беражанкі-ластаўкі прастрэлілі сцены зямлі. Некалькі ліпак ацалела ад графскага парку.

*Тупаʹльшчына*. На магілах, дзе пахаваны Д.-Марцынкевіч, жонка й дачка, зноў-такі савецкі помнік. Ляжаць нябожчыкі галовамі зусім у іншы бок. Але хіба для камуністычных дзеячаў ад культуры ёсць нешта святое. Стаяў жа крыж. Знеслі. Могільнік быў абнесены каменнаю агароджаю — пайшло ўсё па загаду старшыні калгаса на кароўнікі. На яго мейсца жабрацкі штыкетнік. Каплічка. І падкоп пад сцяну зрабілі чырвоныя следапыты й цэментаваную падлогу ўзламалі — трэба былі труны. Цяпер так-сяк пабелена, прыбрана сціпла. Каля капліцы злева магілка

[1] Ядвігін Ш. (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч; 1869–1922), беларускі пісьменнік і крытык.

некалі багатай пані, якая фундавала Івянецкі кляштар, проста пясчаны пагурачак Вярыга-Дарэўскай. Відаць, з роду нашага слыннага паэта.

У Палацы культуры, дзе побач гноезборнік, вечар 100-годдзя Апалінара Пупкі. У прэзідыуме два ксяндзы-францысканцы (адзін даволі добра гаварыў па-беларуску), жонка, дачка, дырэктар музея крывавага Фелікса [Дзяржынскага], у зале купка школьнікаў. З раённага начальства нікога. Пупка казаў, што выразаў балваноў. Дык ён хацеў гэтым балванам удыхнуць беларускую душу. Канцэрт з Валожына. Увесь беларускі. Пачуў, як Дранько хоча напісаць шлягер («Цыганка, раз…»).

Абед у Вінцэнта Солтана. Бэнээфавец. Залатыя рукі. Пушчанец. Сапраўды беларускі гаспадар. Такіх бы болей — адрадзіліся б! Мастак Алег Раманоўскі (родам з Амсціслаўшчыны) казаў, што да беларушчыны прыгарнуў яго Караткевіч. Расказваў: бацьку Равінскага закатавалі партызаны, а самога Генадзя (ён жа з 1933 года) палохалі, клалі руку на калодку й секлі сякерай уздоўж пальчыкаў, каб бацька прызнаў сваю віну, якой не існавала, перад партызанамі. Тут мне прыходзіць на роздум, што Белавежская пушча — гэта ўсё-ткі дзікая мясціна болей для палявання магутаў свету гэтага. Налібоцкая пушча — клёк нацыі. Усе заваёўнікі, і варшаўскія, і крамлёўскія, высякалі паспяхова, як лес, так лепшую частку людзей, свядомых беларусаў. У свой час расійскія ўлады зрабілі медаль «За подавление польского мятежа». Давалі тым, хто выдаваў паўстанцаў. Пры гэтым вялікія прывілеі здраднікам, цёмным ці подлым. І нядаўна, казаў Равінскі, збіралі подпісы супроць таго, каб калгас купілі немцы, а паставілі іх пасля пад паперай супроць надання Налібоцкай пушчы статусу запаведніка. Равінскі расказаў, што яму адзін знаёмец раіў: «Бабу трэба раз на тыдзень ставіць ракам на дзве гадзіны, каб не забывалася, што яна скаціна». Крута. Джэнтльмэнства па-славянску. Яно спрадвеку было своеасаблівае.

*****

У халодным гатэлі
Пушчанскага краю,
Быццам высланы,
Каб астудзіць галаву,
Як зняверааны вецер,
Сам сабе давяраю,
Грэюся забыццём,
Успамінам жыву.
Забыццё — не асцё,
Ды нагадліва коле,
Успамін — не язмін,
Ды ўквячае сляды.

Муравой захінаццаме
Слова «ніколі»,
У мурах адгукаццаме
Слова тады…[1]

*Вечаровыя пацеры* — З панам Богам бяседа [магчымыя загалоўкі вершаў ці раздзелаў будучай кнігі].

* *Люцінка*. Пень ад ліпы Дуніна-Марцынкевіча, спаліў Чэрнік Восіп Пятровіч (у 1840 годзе пасаджана), старшыня сельсавета, абліў саляркай і спаліў. З мясцовым міліцыянерам сядзіць: «Давай будзем смажыць, прынясі кумпяк, звэндзім». Авечак гаспадар кліча: коцу-коцу.

*Усходкі* — прыступкі, быў кляштар, угароджаны ў соткі. Зыгмунт Пятровіч Кужоўнік. Каля помніка Марцынкевічу каровы й свінні чэшуцца…

*Тупальшчына*. Каплічка, дзе адпявалі Д.-Марцынкевіча.

100-годдзе Апалінара Пупкі: ксяндзы, жонка, дачка, бэнээфаўцы й дзетак купка. Выразаў балваноў, хацеў ім удыхнуць беларускую душу. На магілу. Па-польску [служба].

Абед да вечара ў Вінцэнта Солтана. Умее ўсё рабіць — і дрэва, і кафлю. Перарабляе дом. Сапраўдны пушчанец.

*15 лістапада, панядзелак*

Івянец. З раніцы ў лясніцтва. Дом, дзе жыў у вайну брат крывавага Фелікса з жонкай-немкай, дзе й былі расстраляныя немцамі. Ездзілі на лесапавал. Нам паказалі санітарную высечку. Пушчу рэжуць з 46-га года штодня. Нічога ўжо акрамя ймя не засталося. Надакучыла з дурнаватай камандай, у якой у галаве толькі, як выпіць дарма. Нашчадак савецкага асадніка з Сібіры Вадзім Купрыянаў ніякога дачынення да Беларусі, ні да нашае культуры не мае. Адно ведае: налівай! І гэтак укамплектавана ўся студыя. Кіно, толькі не смешнае. Суцэльная русіфікацыя-бальшавізацыя.

Знайшоў кнігарню, купіў томік Кітса[2], аднатомнік Міхася Стральцова й Бёля ў перакладзе Лявона Баршчэўскага. Смакую ўсіх маленькімі глыткамі. У гэтым свая асалода. «Она читала вместо книг Надгробья у церквей». Пасля Кітса й Міхась чытаецца. І паэт ён быў таксама выдатны. Ну, а перакладчык Лявон — чараўнік з Полацкае, святое зямлі. Набыткі розуму й думкі не знікаюць, перадаюцца. Як ні нявечаць, як не русіфікуюць Полаччыну, а яна дае свету беларусаў чыстае пробы, шчырае золата.

---

[1] Параўн.: Зялёны ўспамін: Забыццё — не асцё… (14.11.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 264.

[2] Кітс Джон (1795–1821 ), англійскі паэт.

Як Лявон. «Івянецкі зазімак»[1]. *Смуголае* ўсё скрозь (ушацкае). «І козы, як хрышчаныя людзі» (Марыя Рыгораўна).

*16 лістапада, аўторак*

Раманоўскага не знялі, бо ў яго жончыну цётку забілі. Пахаванне. Сказалі, што п’яная, змерзла. А праламаны чэрап, уся ссінячаная, у хаце ўсё перапорана. Нікому нічога не ў галаве. Навошта лішні клопат. Па дарозе паздымалі крыху павысяканыя рэшткі пушчы.

На працы. Дранько пачынае дробна хітраваць. Скажы проста, што трэба, зраблю. А то ўсе хочуць быць разумнейшымі за папову цялушку. Званіў Васілю. Ён крыху ачуняў, вылез з хваробы. Дамінічка рада была дзедзю. Спяваў песенькі ёй, пытаўся спрадвечныя нашыя, ці збаіць ёй казку пра белых авец (вось ён і канец), пра белага лася (вось яна і ўся), пра бая, які йшоў па сцяне. Падабалася. Гэта не Чукоўскі[2], на якім выхоўвалі й выхоўваюць інтэрнацыяналістаў.

*17 лістапада, серада*

На лятучцы гомелепат Кусянкоў сур’ёзна разважаў, як нам у выдавецтве трэба сустракаць прадстаўнікоў з Глыбокага (дзе яму й Шупеньку ўлілі ў рогі самагонкі), ледзь не з хлебам-соллю. Атрымалі грошы, а ў магазіны заходзіць страшна. Занадта дарага ўсё. Блізка галеча. Ноччу пазваніў Пісьмянкоў[3], каб вёў я вечар Янішчыц.

*18 лістапада, чацвер*

Да Навума. Капрызны робіцца. Бяруць гады. Сцэнар вечара перадалі. Без Аколавай[4] нічога не адбываецца. Дамініка спявала, што лета зімянее. Наватворы любіць. Па дзедзю пайшла.

*19 лістапада, пятніца*

На працы сустрэча з глыбачанцамі. Шчырыя беларускія душы. Але ўсім хочацца выступіць. Усё ўсім вядома, а робяць выгляд, што адкрываюць ісціну. Няма беларускай дзяржавы, а ёсць партыйнае быдла, якое яшчэ дагэтуль трымае ў сейфах свае партбілеты, той-сёй з іх успамінае беларускія словы. Уся думка, каб утрымацца ў крэсле. Беларушчыну яны

---

[1] Гл.: Зялёны ўспамін: Івянецкі зазімак (14.11.93, Івянец) // Евангелле ад Мамы. С. 265. У дзённіку верш прысвечаны А. Раманоўскаму.

[2] Чукоўскі Карней (сапр. Карнейчукоў Мікалай Васільевіч; 1882–1969), рускі дзіцячы пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1962).

[3] Пісьмянкоў Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч; 1957–2004), беларускі паэт. З 1990 г. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988).

[4] Аколава Валянціна Валянцінаўна (1954–2013), беларуская паэтэса.

на дых не прымаюць, бо ў крыві цячэ камуністычная зараза, дакладней, у іх ужо не кроў, а эрзац.

Была вечарына Янішчыц. Вёў вечарыну. Нават Гілевіч прыйшоў, баючыся растрэсці сваю ўяўную веліч. Перад вечарынай перачытаў Жэню. Магла быць выдатнейшай паэткай, але ў іншых умовах. Як і бальшына нашае паэзіі — фальклорна-этнаграфічнае замілаванне з публіцыстыкай, рэгламентаванай камуністычным рэжымам. І ў гэтакіх умовах здолела Жэня нешта сваё сказаць. Чытачам перадалося яе трапятанне, яе трымценне, яе ўтрапёнасць. А гэта шмат у жалезабетонных умовах двайной каланізацыі — расійскай і камуністычнай. Пасля вечарыны да мяне падышла філалагіня-студэнтка й сказала колькі добрых словаў кампліментарных. Расчуліла. Ведаю цану кампліментам, але ўсё ж прыемна. Асабліва, што маладая нашая змена.

*20 лістапад, субота*

Сёння дзень народзінаў у Валодзевай [Караткевічавай] сястры. Валя з Дамінічкай пайшлі. Пазваніў Васілю. Адам Мальдзіс […] дужа непрыгожа сябе паводзіць. Звоніць Васілю, што трэба ехаць у Варшаву, і яму толькі што сказалі, прытым пытаецца, ці казалі што Васілю. Гэта Фонд Сораса фінансаваў паездку. Ну й, вядома, калі прасілі грошай, напісалі, што едзе Быкаў. А пасля паехаў Адам і хто яшчэ трэба. Калі Васіль спытаўся ў Адама, ці ён паедзе, Адам запярэчыў, што не паспявае. Васілю праз колькі дзён спатрэбілася нешта ўдакладніць, звоніць Адаму, а Марыя адказвае, што Адам у Варшаве. Тады Быкаў пытаецца, а чаму так знянацку? На што Марыя тлумачыць: «Адам ведаў гэта задоўга й рыхтаваўся адпаведна». Адам верны член КПСС. Ім і застаўся.

*21 лістапада, нядзеля*

Дачытаў усяго Камейшу. Уражанне добрае. Паэт ён з лясным шумам, з зямлёй, з заляцаннямі. Адным словам — жыццялюб. Хай дае моцы яму Бог! Пачаў слова пра яго ў «ЛіМ». Не шкадую часу.

*22 лістапада, панядзелак*

У [час.] «Вясёлку». Забраў Дамінічку з садка. Гэта іншы свет, можна сказаць, будучы свет, куды дзеду ўжо й носа не ўсунуць. У садку, як у нейкае асобнае дзяржаве, жывуць тыя, растуць тыя, каму на нейкае імгненне будзе як бы належыць заўтра. На імгненне. Бо заўтра належыць толькі самому сабе. Бо заўтра толькі таму й існуе, каб падкрэсліць сёння. Разгубленасць і сантыментальнасць усё настойлівей бяруць мяне ў свае абшчэпы. І не вырвацца з іх. Яны апошнія, хто праводзіць будзе ў апошні шлях.

*23 лістапада, аўторак*

Трохі на працы. Дамовіліся, што Быкаву лепей будзе тры тыражы, чымся адзін масавы па аплаце. Канцы з канцамі зводзіць той, перад кім нацыя ў даўгу неаплатным. Хоць па Быкаву за межамі могуць меркаваць, што мы не такія ўжо рахманыя й пакорлівыя. Быкаў адзін за ўсіх думае, працуе. А гэта нялёгка.

Дапісаў слова пра Камейшу ў «ЛіМ»[1]. Знайшоў накід з Кактэбеля 73 года. У «дурноты» прыдасца: «Антэна: Прарваўся ў зімовага неба прарэх...» [у дзённіку].

*** [Без даты:] Бернард Шоу[2] казаў: «Геній робіць тое, што павінен; талент — тое, што можа». Васіль Быкаў і робіць тое, што павінен рабіць ён, што павінны былі б рабіць усе, хто валодае словам, але хоча яшчэ па інерцыі звацца інжынерамі чалавечых душ.

*24 лістапада, серада*

На працы. Наташа Семашкевіч папрасіла напісаць пра вешалку[3] для Дануты ейнай у школу.

Званіў Васілю. Цікава у нас атрымліваецца. [...] Кебіч падмяў пад сябе міністраў. Зрабіў дзяржаўных сакратароў па галінах. Па інфармацыі, нават у [...] Данілава над КДБ. І цяпер міністр КДБ і міністр [М]УС напісалі, як дэсідэнты, адозву, каб Вярхсавет іх ратаваў. Новыя нефармалы. Быў на студыі у Палякова.

*25 лістапада, чацвер*

Пакрыўдзілі. Даўно гэтага чакаў. Стаў бедны. Званіў Васіль, Саўмін разглядаў пытанне наконт звання народнага Чыгрынаву. Члену ЦК — зялёная вуліца. На чале яшчэ адзін член[...] — Сачанка. Як у нас казалі: пайшла сучка баразной.

*26 лістапада пятніца*

Да Арона Скіра. Ён мне зрабіў яшчэ парадкоўнікаў, даслоўнікаў Бяліка. Дзве паэмкі. Дзякуй яму. Трэба ж садзіцца за пераклад. Прыём у Ізраілі, хай на сумленні іхнім будзе. А Бялік — вялікі паэт. Вычытаў карэктуру «Полымя».

*27 лістапада, субота*

Валя перадала мне рэпрынтнае выданне «Живописной России» (наш том), дык там ужо на адвароце тытула: «Отпечатано с экземпляра бело-

[1] Гл.: Верасовая кніга (23.11.93) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 105.

[2] Шоу Бернард (Джодж Бернард; 1856–1950), англійскі драматург і грамадскі дзеяч.

[3] Гл.: Ён, яна, яно, яны: Вешалка (24.11.93) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 42.

русского писателя Бориса Саченко». Чаму б ужо, калі ты галоўны рэдактар Энцыклапедыі, не паставіў сваё палескае прозвішча ўверсе. Як бы аўтар. Чаго ўжо так сціпла сябе паводзіць палешуку, які прагне славы, як мурза зацыркі. Чым з глыбейшага балота чалавек, тым болей цягне яго на покут, дзе сапраўды прыстойныя людзі маюць права сядзець. Хворы чалавек паляшук.

[…] Быкаў расказваў, як КДБ праз 9-е аддзяленне Лечкамісіі «разжижала мазги» Сахараву[1], Салжаніцыну ды іншым. Быў і такі метад: стралялі ў твар з газавага пісталета дабаўкай сінільнай кіслаты. Імгненна паралізавала сэрца, а праз хуткі час выветрывалася. Гэтак, відаць, і Махно[2] знайшлі каля свайго дома з інфарктам (заключэнне) мёртвага. КДБ мудрае.

Перачытаў яшчэ банду ста нашых членаў-пісьменнікаў. Усе на падбор. Заключае Чаргінец[3].

*28 лістапада, нядзеля*

Сядзеў дома. Заканчваў беларускі варыянт слова пра Заборава[4]. Падумалася, якія ж камуністы былі спрытныя. Калі ўзяць прыгонныя песні народа, яны пра здзекі, пра пакуты. А песні пра савецкі прыгон, якія «запісалі» фальклярысты, якія напісалі кампазітары й паэты — пра радасць і шчасце.

*29 лістапада, панядзелак*

Званіў Васіль. Алексіевіч дужа неахайна паставілася да канкрэтных людзей, паблытаны ймёны, воінскія званні. Гэта элементарнае журналісцкае разгільдзяйства. Ускосна гэта ўсё на руку […] Чаргінцу. Угаварыў Васіля на суд не йсці. Латынь яшчэ вучыла: арол мух не ловіць. Алексі-

---

[1] Сахараў Андрэй Дзмітрыевіч (1921–1989), фізік-тэарэтык, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1953). З канца 60-х гг. адзін з лідэраў праваабарончага руху ў СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1954, 1956, 1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1953), Ленінскай прэміі (1957), Нобелеўскай прэміі міру (1975). У 1980–1986 гг. знаходзіўся ў ссылцы, пазбаўлены ўсіх званняў і ўзнагарод. Народны дэпутат СССР (1989).

[2] Махно (Міхно, Міхненка) Нестар Іванавіч (1889–1934), украінскі палітычны дзеяч, анархіст. У 1921 г. эміграваў у Румынію, жыў у Польшчы і Францыі. Памёр ад сухотаў.

[3] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). У 1987–1993 гг. у Беларускім упраўленні ўнутраных спраў па транспарце, у 1993–1996 гг. старшыня Камісіі па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінулых пры СМ РБ. Заслужаны работнік МУС СССР (1977).

[4] Гл.: Як у п’янку, уцягваешся ў Парыж… (28.11.93) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 223.

евіч варта было б прыпомніць Палявога[1], які Марэсьева[2] зрабіў Мярэсьевым (ці наадварот) і, дзякуючы гэтаму, ужо меў волю на прыдумку.

«Вершаліны…»[3]

*30 лістапада, аўторак*

Васіль усё-ткі схіліўся не йсці. Алексіевіч доўга даказвала, што яе ўсе кінулі. Ёй важна красавацца. Да гэтага часу яна не апусцілася да беларускае мовы нават на бытавым узроўні. Нарадзілася ў вёсцы. Што гэта азначае? Зацятасць? […] Адсутнасць пазіцыі — таксама пазіцыя.

*1 снежня, серада*

Прыходзіў Сяргей Галавацкі [Галавецкі].Тонкі, інтэлігентны. Добра, што ён робіць фільм пра Дубоўку. Прыйшлі да вываду: «Вызначаюць мастака Стыль і містыка». Нічога не атрымалася, каб у фільм увесці стрыечнага брата з Пастаўшчыны. Шкада.

На выступленне майго любімага Сёмухі па тэле, які дагаварыўся, што Куляшоў перакладаў Пушкіна, Лермантава[4] й Ясеніна лепей, чымся арыгінал, напісаў:

*Да праблемы*

Перакладчык трывае і вернасць, і здраду,
Ён кат і ахвяра, злодзей і чарадзей.
Патрабаваць адпаведнасці ад перакладу
Усё роўна што лебядзінай вернасці ад бл.дзей.

Званіў Блакіту. Бураўкін будзе ў Менску пасля Новага года, відаць. На міністра культуры сваталі шмат каго, у тым ліку й Законнікава. Добра, што яму хапіла мазгоў не пайсці […].

Зрабіў у «Вожык» [на С. Шушкевіча[5]].

---

[1] Палявой Барыс Мікалаевіч (сапр. Кампаў; 1908–1981), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1947, 1949).

[2] Марэсьеў Аляксандр Пятровіч (1916–2001), савецкі лётчык. Герой Савецкага Саюза (1943). Палкоўнік (1978). Кандыдат гістарычных навук (1956). У час Вялікай Айчыннай вайны яго самалёт быў збіты; 18 сутак цяжка паранены лётчык дабіраўся да сваіх. Пасля ампутацыі ног асвоіў пратэзы і дабіўся вяртання ў полк у якасці баявога лётчыка. Яго подзвіг апісаны ў кнізе Б. Палявога «Аповесць пра сапраўднага чалавека» (1946).

[3] Гл.: Смалістыя вершы (29.11.93) // Евангелле ад Мамы. С. 132.

[4] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік.

[5] Гл.: «Лягчэй, напэўна, Гімалаі зрыць…» (1.12.93) // Асобы markednaй пробы. С. 10.

*2 снежня, чацвер*

Прыйшлі лісты «Азбукі — вясёлы вулей»[1]. Можа, хутка будзе кніжыца. Але дарагая будзе да трасцы. Калі б раней выходзіла. У Купалаўскі [тэатр] — сюжэт для тэле з Тумашом Варанецкім. Спыталі, якая эпіграма мне падабаецца, адказаў, што не ўвайшлі. «Так патрэбна Гарбуку...» [у дзённіку].

Дамы з тэле русскочирикающие, околотеатральные.

Званіў Васілю. Прагілевіцкае «Наша слова», хоць правільней было б «Нашае слова», ніяк не можа супакоіцца, што на выставе Белага не было партрэта Ніла (назвалі ж бацькі Нінел — Ленін наадварот; брат Марат, сястра — Ідэя, апошні Мікола ў гонар Бухарына[2]) і Быкаў не назваў яго ў ліку апосталаў нацыі. Пачалі з падваротняў брахаць на Васіля. Васіль выказаў здагадку, што ў «Народнай газеце» надрукаваў вершык з рэфрэнам — прымерваецца да гімна. Сапраўды, конкурс завалілі. Купалаўскі варыянт даў не гімновы. Цяпер трэба, каб народ бухнуў у ножкі цыбатаму: «Бацька родны, дай гімн!» [...]

У метро дапісваў верш: «Каля»[3].

*3 снежня, пятніца*

У «ЛіМе» ў маленькім слове пра Казіка выкінулі Армію Краёву й пра ўказку з Масквы. Цэнзура бальшавіцкая па крыві рэдактуры цячэ. Затое [...] Яўменава[4] й [...] Грахоўскага далі, думаю, поўнасцю.

Кебіч з [Чарнамырдзіным] нейкую змову ўчынілі. Беларусь і папяровы тытул незалежнасці траціць. Камуністы яшчэ доўга будуць жыраваць. Наско[5] ў песню [я] напісаў прыпеў:

Колькі буду жыць,
Столькі буду я
Па табе тужыць,
Ластаўка мая.
Не вярнуць лісты
І вясёлы май.
Адляцела ты
Ў незваротны край.

---

[1] Барадулін Р. Азбука — вясёлы вулей. Мінск,1994.

[2] Бухарын Мікалай Іванавіч (1888–1938), савецкі палітычны і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1928). Рэпрэсаваны.

[3] Гл.: Каля (9.10–2.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 135.

[4] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі філосаф, пісьменнік. У 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[5] Наско Мар’ян Вікенцьевіч (н. 1932), беларускі кампазітар.

Прайграў. Добра гучыць. Увесь род таленавіты на музыку й на гарэлку. Наскі.

Васілю званіў Матукоўскі. У Вярхсавеце шырыцца лістоўка, дзе вершы Бураўкіна пра Леніна, пра партыю і ягоныя новыя выказванні. Партыя не любіла вераадступнікаў. Помсціць, бо раўнуе. Як благая жонка. [...]

*4 снежня, субота*

У мароза адлягло ад сэрца. Выпаў снег. Неяк асвятліў чарнату зямлі й душы. Паходы ў магазіны. Усё дарага. Учора перад сном нешта мільганула. Паспрабаваў гэта ў верш агарнуць: «Ці ўчула свой закот чало...»[1] Блакіт мае намер выдаць «вожыкаўскую» кніжачку эпіграмаў з шаржамі. Дапісаў яшчэ [у «Вожык» на В. Шчэрбу[2], І. Сярэдзіча[3]].

*5 снежня, нядзеля*

Дзень Канстытуцыі сягоння,
Вялікі дзень, святочны дзень.
Народ, што быў вякі ў прыгоне
І блукаў без пуця, як цень,
Ён вольны гаспадар сягоння[4].

Выходзяць дагэтуль рэштки культаўскіх вершаў.

Да Радзіка. Ён увесь у Італіі. Добра, што крыху свет пабачыў. У «Народнай газеце» перачытаў Нілавы вершы. Сапраўды, калі хоча Бог пакараць, адбірае розум. Галаву трымае, як шапку Манамаха. І без таго блізка пасаджаныя вочы прыжмурыў — імітуе, што глыбока думае. Пра вершы й казаць прыкра. Дры.ня ў духу сацыялістычнага рэалізму, у камуністычным духу. Толькі з новымі слоўкамі. І вяршыня — намёк на гімн. З рэфрэнам:

Дык не адступімся ж, людзі!
Справе не здрадзім святой,
І не пакіньма ў астудзе
Сэрца Радзімы сваёй.

---

[1] Гл.: «Ці ўчула свой закот чало...» (4 .12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 367.

[2] Шчэрба Віталь Венядзіктавіч (н. 1972), беларускі спартсмен. Алімпійскі чэмпіён (1992). Заслужаны майстар спорту СССР (1991). Заслужаны майстар спорту РБ (1994). Кватэру В. Шчэрбы абрабавалі і скралі медалі [памянёна ў эпіграме]. З 1996 г. жыве ў ЗША. Гл.: «Віталя свет увесь вітае...» (2 .06.93) // Асобы рознай пробы. С. 42.

[3] Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч (н. 1949), беларускі журналіст. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання, адначасова гал. рэдактар «Народнай газеты». Гл.: «У гневе праведным Сярэдзіч...» (4.12.93.) // Асобы рознай пробы. С. 31.

[4] З верша Я. Купалы «Дзень Канстытуцыі. 5 снежня» (1937).

Добрае, выдатнае практыкаванні ў лагапеда. Не трэба й каменьчыкаў ў рот набіраць. І абсалютна дакладна перагук з гімнам савецкай імперыі: «Хто нам акрыліць у заўтра — Шлях нам азорыць наперад?» Так і хочацца: «Сквозь бури светило нам солнце свободы и Ленин великий (было й Сталін) нам путь озорил..» Пераплюнуў лагойчык і Клімковіча[1]: «Партыя к шчасцю вядзе нас ўпярод».

*6 снежня, панядзелак*

На відэацэнтр. Неблагая стужка пра Налібоцкі край атрымалася. У метро з Пятром Драчовым. Разгаварыліся пра розных Шаранговічаў. Думаю, што мара Ніла, каб «о работе стихов от политбюро, чтобы делал доклады (Сакалоў, Слюнькоў)» і каб у падвалах КДБ допыты вяліся на беларускай мове ў лагойскім варыянце. Во гэта б было жыццё, во гэта была б незалежнасць!

*7 снежня, аўторак*

Званіў Пімену. Прыйшлі лісты ягонай кнігі. Сышліся ў думцы, што Ніл самы шчаслівы чалавек. Так і памрэ, лічачы сябе геніяльным і вялікім. Цыбатасць яшчэ не вялікасць. Сёння ў саюзе вечар Арсенневай. Кепска сябе пачуваю, не пайшоў. Ды яшчэ хто-небудзь весці [будзе] з кэдэбістаў. Яшчэ болей расхвараюся.

*8 снежня, серада*

На відэацэнтр. Трэба тэкст падганяць. Заходзіў Алесь Бадак. Падпісаў яму «Міласэрнасць плахі». З гадамі ўсё болей і болей хвалююць адносіны да цябе маладзейшых. Усё яна, наўмольніца старасць, напамінае пра сябе, каб не забыўся, каб адчуваў яе пільную ўвагу. Ад яе й сум, і цялячае замілаванне.

*9 снежня, чацвер*

Працягваю «Ушацкія показкі». У рэдакцыі «Зрок» узяў два часопісы з вершамі сваімі. Дом закадзіраваны. Адсюль і верш узнік: «Ціха ад піўняка да турмы…»[2].

*10 снежня, пятніца*

Званіў Васілю. Ніл у «Звяздзе» […]-гумар змясціў. Цікава, а дакладней, вусцішна. Дзеці, маці якіх нарадзіліся ў гады вайны, шукаюць, калі немцы занялі горад, калі мог дзед быць з бабай. А раптам маці ад немца.

---

[1] Клімковіч Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899–1954), беларускі паэт, лібрэтыст, крытык. Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР (1944).

[2] Гл.: Urbi et orbi: V. Ціха ад піўняка да турмы (9.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 210.

І, вядома ж, ад барона. А ў барона недзе замак. І ўнук — нашчадак прэтэндаваць можа на замак, на спадчыну. Шуфлікавасць па генкоду.

*11 снежня, субота*

Сойм БНФ. *Баршчэўскі:* «Праца 13-й сесіі, палітычная сітуацыя на Беларусі».

*Юрась Беленькі:* «Ратыфікацыя пагаднення аб уваходзе ў расійскую грашовую сістэму. Варыянты развіцця падзей».

*Валянцін Голубеў:* «Палітычны крызіс на Беларусі ў кантэксце міжнароднай палітыкі».

[Малюнак В. Быкава:]

— А хто там ідзе?

— Камуністыя.

— А хто іх вядзе?

— Нінел І.

Гэта намаляваў Васіль Быкаў на сойме БНФ. Вынікі дакладаў сумныя — Беларусь прадаюць Расіі з цяжкой рукі Кебіча й […] камуністых. Мальдзіс увесь заклапочаны. Намякнуў яму на Фонд Сораса. Вочы пачалі бегаць, як у Кебіча. […]

*12 снежня, нядзеля*

Крыху разбіраў сваю папяровую гаспадарку. Званіў Васілю. Пісьмо ў «Известиях», відаць, не ў нос Палоніку-Кебічу. Званіў ціхі Міхась Шыманскі[1] і ўсчуваў Васіля. У нас дэмакратыя — нейкаму Шыманскаму можна званіць Быкаву і ўсчуваць, бо гаспадар незадаволены. Званіў Георгі Колас. У «Свабодных навасцях»[2] даў артыкул супроць кэдэбіста Лужаніна. Караткевіч называў яго Лужынай. І правільна. Брудная, спадманная лужына. Пырскі ад яе яшчэ дасюль лятуць на добрых людзей.

Рабіў вершаваную прадукцыю пад «Зялёны ўспамін». Заўтра запіс. «Памяці ліпы Вінцука Дуніна-Марцынкевіча», «Параненае рэха», «Сухары надзеі»[3].

---

[1] Шыманскі Міхаіл Мікалаевіч (н. 1935), беларускі журналіст. У 1970–1994 гг. уласны карэспандэнт газ. «Известия» ў Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[2] «Свободные новости» — незалежная інфармацыйна-аналітычная газ. (з 1991). У 1994–1997 гг. — пад назвай «Свободные новости плюс».

[3] Гл.: Зялёны ўспамін: Памяці ліпы Вінцука Дуніна-Марцынкевіча; Параненае рэха; Сухары надзеі (12.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 266; 366.

*13 снежня, панядзелак*

Расію можна праздравить. Мае сваіх, расійскіх фашыстаў у асобе Вульфавіча[1]. Маці расійка, бацька — юрыст, як сам казаў. Колькі словаў сказаў у адкрыты эфір «Беларускае маладзёжнай». Палітыка — палітыкай, а лірыка лірыкай. «У»[2].

*14 снежня, аўторак*

На кінастудыю. Матэрыял пра Дубоўку. Карціна будзе. Радзік добра сказаў пра Жырыноўскага: гэты яўрэй перавешае ўсіх яўрэяў, каб даказаць, што ён рускі.

Напісаў адказы на пытанні Інстытута літаратуры АН пра Янку Купалу. Купалам трэба жыць — і ўсё!

*15 снежня, серада*

У выдавецтва заключыць умовы прыходзіў Арон Якаўлевіч Скір. Званю, пытаюся, ці ведае адрас, а ён адказвае: будынак выдавецтва стаіць на іхнім гародзе, тут быў іхні дом, тут у 41-м застрэлілі немцы маці Скіра. Як усё ў жыцці пераблытана, звязана. Чалавецтва жыве на касцях сваіх папярэднікаў.

Званіў Васілю. Хадзіў выступаць у нейкі ліцэй. Ніякой беларускасці, ніякой увагі й цікавасці. Саветызаваныя мазгі й настаўніцтва, і вучнёўства. Трое настаўнікаў гавораць па-беларуску. Рэшта й не прышла. Васіль сказаў, што беларуская літаратура патраціла дзесяцігоддзі, каб давесці, што ўмее пісаць пісьменна й прыгожа. Карпюка шмат хто знарочыста ўспрымаў як блазна, а ён пісаў смела, не дужа дбаючы пра аздобу. Пісаў пра тое, пра што абачлівыя мудрацы баяліся пісаць. Раіў я Васілю не хадзіць на такія сустрэчы. Сапраўды, гэта кіданне пэрлаў свінням. Не шануем мы свой набытак нацыянальны, Богам пасланы.

Дамінічцы на ёлку напісаў:

Добры вечар, Дзед Мароз!
Ты ялінку нам прынёс.
Развяжы свой мех вялікі, —
Што там ёсць для Дамінікі?
Мы табе за ўсё аддзячым.
Пасяваем і паскачам.

[1] Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч (н. 1946), расійскі палітычны дзеяч; юрыст. Доктар філасофскіх навук (1998). З 1993 г. старшыня фракцыі ЛДПР Дзяржаўнай думы РФ. У 1991, 1996, 2000, 2018 гг. балатаваўся на пост прэзідэнта РФ.

[2] Гл.: У (13.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 134.

*

Ёсць сад незвычайны,
Ёсць сад асаблівы.
Не спеюць там яблыкі,
Грушы ды слівы.
Растуць у тым садзе
І ў шуме, і ў гаме
Маленькія дрэўцы
З рукамі, з нагамі.
Сад поўніцца смехам,
Салодкім плачам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Садам дзіцячым.

Ці вывучыць. Нешта туга ёй вершы запамінаюцца. Не ў дзедзю пайшла.

*16 снежня, чацвер*

Прыходзіў Скір. Удакладненні ў рукапіс і ў дамову. Расказваў пра Гарбунова[1]. Сакратар партарганізацыі АН аб'яўляе, што АН выпаў гонар абраць акадэмікам члена ЦК, другога сакратара ЦК Цімоха Сазонавіча Гарбунова. І тут нейкі сапраўды вучоны фізік з Ленінграда просіць зачытаць спіс навуковых прац. Парторг на імгненне анямеў, чуючы нутром гнеў ЦК за правал такой адстаўной кандыдатуры. І рытарычна запытаўся: «Як можна задаваць такое пытанне?» Запытаўся і адчуў, што далей няма чаго сказаць, адказаць. Паўтарыў яшчэ раз й яшчэ раз сваё пытанне, і нарэшце прабіла яго думка: «Хто думае пра навуку, хто стварае ўсе ўмовы вучоным? Партыя. І якраз Цімох Сазонавіч Гарбуноў як сакратар ЦК ствараў умовы, мацаваў навуку. Так што ўсё, што зроблена нашымі акадэмікамі, нашымі вучонымі, можна лічыць ягонай працай». Усе ўсміхнуліся. І непісьменны Гарбуноў стаў акадэмікам. Скір заўважыў: «Калі Гарбуноў, седзячы ў прэзідыуме, нешта пісаў, пот выступаў на ілбе. Цяжка было пісаць».

Яшчэ быў выпадак. Жывапісец Цвірко[2] быў рэктарам тэатральна-мастацкага [інстытута]. Сядзяць яны са Скірам. Гавораць пра палітыку. З'яўляецца мурло, называе сябе інструктарам ЦК. Кажа, што на інстытут ідуць скаргі, што ў ім шмат безобразия. Цвірко адказвае: «Ідзіце і высняйце». Той цыкун наліваецца крывёй і падкрэслівае, што ён інструк-

---

[1] Гарбуноў Цімафей Сазонавіч (1904–1969), грамадскі, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. Акадэмік АН БССР (1959). У 1950–1960 гг. сакратар па ідэалогіі ЦК КПБ.

[2] Цвірко Віталь Канстанцінавіч (1913–1993), беларускі мастак, педагог. Народны мастак БССР (1963). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1967).

тар ЦК. Але Цвірко сядзіць на мейсцы. Інструктар выбягае й праз хвілін 20 вяртаецца. Ага, безобразие. І вядзе Цвірко й Скіра ў аўдыторыю, дзе заняткі праводзіць стары Волкаў[1]. Натуршчыца голая. Студэнты малююць. Цвірко пытаецца ў Волкава, што тут адбываецца, той па-глушэчы пытаецца: «Га?» Вылаяўшыся, Цвірко выходзіць. Назаўтра да рэктара з’яўляецца сакратар ЦК па ідэалогіі Гарбуноў і кажа, што оргвывадаў ЦК рабіць не будзе, інструктар пагарачыўся. Але не адыходзіцца. Тады Цвірко пытаецца ціха ў сакратаркі, у якой аўдыторыі самая прыгожая натуршчыца. Вядуць Гарбунова. Як зайшоў, так і ўтаропіўся ў пэўную кропку. Рэктар адцягвае сакратара ЦК, той адмахваецца, толькі чырванее. Як азадак. Студэнты хіхікаюць. Тады Цвірко становіцца спіной да натуршчыцы а тварам да сакратара ЦК, той выглядвае з-за пляча рэктара. Ледзьве вывеў.

Яшчэ, як касірка з бухгалтэрыі АН наладзіла відовішча для Скіра. У дзень выплаты акадэмікам. Гарбуноў прыйшоў з авоськай з 2-ма бутэлькамі з-пад кефіру. Дае яму пачак грошай, пытаецца: «А 10 капеек?» Касірка кажа пачакаць, бо няма. Неакалькі разоў напамінаў пра 10 капеек. Трымала яго каля касы 40 хвілін. Акадэмік, савецкі. З гегемонаў.

Казлову даў ідэю афармлення зборніка. Дакладней, просьбу. «Вечаровыя пацеры…»[2]. І ў «дурноты»: «Кожны сам: Хто лепей, Нясмелая ці прасталытка…» [у дзённіку].

* *Мая душа дзяржаваю ўсплывала.*

*

Калёсы на колы,
А лёсы на кругі свае —
Павяртаецца ўсё спакваля.

*17 снежня, пятніца*

На відэацэнтр. Прымалі «Зялёны ўспамін». Ёсць заўвагі. Вадзім, вядома, у культуры на падхваце. Яшчэ чарпак не даверылі. На працы клопат з Ганадам. Дранько на вачах начальнічнее, цягне кволенькую, ср.нецькую элітку. У яго яшчэ ўсё наперадзе. Дай яму Бог таго, чаго ён хоча і чаго заслугоўвае. Атрымаў зарплату. Як складанае слова накшталт *зар*барак (заразны), дык і плата, выходзіць, заразная. Дужа туга штодня з грашыма. Выходзіць зборнік «Беларусь мяне збеларушвае». Заказаў звыш 100 экз. І будзе праблема выкупіць, бо ці 1,5 тысячы кожны экз. Дажыўся! І ў страшным сне не магло прысніцца. Добра сустракаю свае 60!

---

[1] Волкаў Валянцін Віктаравіч (1881–1964), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1955). Прафесар (1957).

[2] Гл.: «Вечаровыя пацеры…» (16.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 413.

* Дамініка: «Яна заглыбіні'лася...»

*18 снежня, субота*

Крыху пераварушыў блакноты й паперы. Колькі мог ад мамы запісаць! Не запісаў. Толькі ўрывачкі. І паміраць буду, шкадаваць не перастану. Ушацкія показкі, відаць, азагалоўлю «Здубавецця». Казалі: вярзець здубавецця. [...]

* Дамініка: «Кот есць мышэй, а мышы ж не ведаюць, што ён есць, падыдуць — а ён цап!»

*** [«Здубавецця»:]

*На трактары ж...*

Ушацкая пасляваенна бальніца. Хірург Цэмухаў, вядомы сваім умельствам рэзаць і сшываць, а яшчэ болей, відаць, любоўю да моцных словаў, перад аперацыяй пытаецца ў маладзіцы:

— Чаго гэта ў цябе жывот такі чорны, ці ж паленавалася памыць?

— А як жа яго я адмыю, калі ў мяне мужык трактарыст?

Пакуль яшчэ наркоз не ўвабраўся ўсілу, хірург пытаецца ўдагон:

— Дык што ён па табе на трактары ездзіць?..

Наркоз не дае маладзіцы адказаць.

*Прыехалі...*

Прыехалі: сын у белых штанах, нявестка ў басаножках. Леглі спаць. Бацька зашыў басаножкі, а маці пафарбавала штаны.

*Шэфства*

Зайцы ўзялі шэфства над ваўкамі. Іх абавязалі ўзяць. Галодныя ваўкі: «Шэфы! Дзе вы? Мы галодныя, ужо нам палуднаваць хочацца». Грамадская нагрузка жыцця часам каштуе.

*19 снежня, нядзеля*

Здаецца, скончыў «здубавецця»[1]. Званіў Васілю. Чытаў яму «БЗВ»[2]. Раіў даць у «ЛіМ». Яшчэ рабіў Анатолю Беламу ў «Полацак»: «Няма кладачкі...»[3]

[1] Барадулін Р. Здубавецьця. Мінск: Выд. ТАА «Паліфакт», 1996.
[2] Гл.: БЗВ (19.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 78.
[3] Гл.: Няма кладачкі... (19.12.93) // Тамсама. С. 92.

*20 снежня, панядзелак*

Гэтага наплыву людзей даўно не памятаю. Панядзелак — тлумны дзень. Вярцінскі распавядаў, што да яго прыехаў школьны настаўнік матэматыкі. У нямецкае пасольства па нейкую кампенсацыю. Дае грошы, каб вучань купіў яму гарэлкі. Анатоль даў яму гарэлку так. Тады настаўнік папрасіў, ці не мае Анатоль шкарпэткі, бо ў яго падраныя, а купіць не можа, а ўжо хутка на той свет, а ў драных шкарпэтках у труне ляжаць, ці галанож, няёмка. Знайшоў Анатоль яму дзве пары шкарпэтак. Дажыліся мы. Вярцінскі, дарэчы, пацвердзіў, што Ніл, як і казалі, купіў дзве машыны. Навошта круціць яйцамі? А то падкрэсліў з трыбуны бальшавіцкага Вярхсавета, што яму як сакратару саюза была просьба, каб уступіў сваю машыну звычайнаму пісьменніку; а ён, бачыце, незвычайны — бяздарны (у душы ведае гэта!). Пра Сачанку Вярцінскі сказаў, што ўсёй сям'ёй з братамі, якія былі й не былі вывезены ў Германію, ціхім сачанкам атрымлівае [нямецкія] маркі. Прыходзіў Яўген Кулік — аддаў яму колькі словаў пра Лявона Баразну. Кулік — апошні магіканін-бяссрэбранік. Жыве святым духам і светлай ідэяй Беларушчыны.

*21 снежня, аўторак*

У выдавецтве, відаць, з падачы гомелепата Кусянкова тэрмінова выдаюць нявыданую парт]…] Кірэенкі. І ЦК няма, а гомельска-партыйная шайка дзейнічае. На чале з «тлустым» пісьменнікам Шамякіным. Балота калі пойдзе ў наступ, калі з берагоў выйдзе — ніякія дамбы прыстойнасці не ўтрымаюць! Званіў Васілю, і ён заўважыў, што Ніл у «Звяздзе» выступае, каб падкрэсліць, што ён нічога агульнага з БНФ не мае. Вазьміце мяне, камуністы! Я нілісты, я Ленін наадварот. […] Знайшоў у паперах (20.10.91), трэба ў нізку «Места»: «Пад'езды да раніцы…»[1].

Успомніў ушацкую: я сваю Марынку хоць пасярод рынку. […] А я ўвайшоў у смак і пішу «здубавецця». Можа, хоць трошкі ўдасца, што называецца, напісаць партрэт Ушаччыны. Сумныя вершы стукаюцца ў галаву. «Ад пошты адлік свой шлякаты…», «Акрайчык возера…»[2]. Аматарствам робіцца занятак літаратурны. Як некалі. Як ва ўсім цывілізаваным свеце. І добра, і дрэнна. Бо ў болей ці меней багатых краінах паэзія — далікатэс. А ў пасавечанай галечы, як дарагая прыправа да мяса, якога няма.

*22 снежня, серада*

Паўдня блукаў, пакуль знайшоў, дзе прарэнтгенаваць зубы. І платныя клінікі — савецкія. Саўкі (шуфлікі) задуманы надоўга.

---

[1] Гл.: Urbi et orbi: II. Пад'езды ў цёплых воллях, як страх… (21.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 209.

[2] Гл.: «Ад пошты адлік свой шлякаты…»; Акрайчык (21.12.93) // Тамсама. С. 131; 130.

Падпісваў ліст у «Известия». Званіў Васілю.

*23 снежня, чацвер*

На працы фальклорны шляхціц Панізнік распавядаў пра Латвію. Веян здае кватэру ў Рызе, а жыве ў Латгаліі. Рада Латвіі хоча наладзіць нейкія сувязі. Але пасрэднікам будзе Сяргей, усё выглядаць будзе самадзейнасцю. Мы з Сёмухам толькі паўсміхаліся. Паўсюль прафанацыя. Арон Скір таксама казаў, што рыбакі ёсць сярод яго аднапляменнікаў, якія ў моры крыві яўрэйскага народа ловяць тлустую рыбу. Пісаў у «Вожык» [на В. Быкава]. З Валянцінам Рабкевічам пасядзелі над «Трыкірыем». Зрабіў слушныя заўвагі. Тонкі й прыродны знаўца мовы. Такіх ужо дужа мала засталося. А Дамініка ўжо рыфмуе з сэнсам: «Стаяла ў лесе хатка, У ёй жыла Ягатка».

* Дамініка: «А ў лісы хатка была, А ў ёй Ягатка жыла… Бязрукая галава».

*Васіль Быкаў*

Распні! Бо ён прарок чужы,
Хай Быкаў змоўкне на крыжы.
Сярпком ці малатком з рукі
Гнаць бальшавіцкія цвікі.
Прарокі ёсць у нас,
Яны
Каля Крамлёўскае сцяны[1].

*24 снежня, пятніца*

Праз увесь Менск па шпрыцы. Аптэкі й не дзяржаўныя, і не прыватныя — савецка-хамскія, сівалапістыя. Сустрэў Тараса. Робіць тэлефільм па дакументах кінаархіва. Ягоны тэкст. Канцэпцыя. Напомніў, каб сказаў, як партызаны планава па ўказцы Масквы знішчалі беларускае настаўніцтва. Бачыце, з немцамі супрацоўнічалі, калі вучылі літары ці лік да дзесяці. Сказаў, што напомніць. Зайшла гаворка пра Арсенневу. Тут Тарас нясе разам з Букчыным і Чыкіным. «А яна пісала антысеміцкія вершы і гэтым на млын немцаў ліла ваду». Колькі не пераконваў, нічога. Валі дома сказаў. Яна правільна разважыла: «А калі ў Саюзе антысеміцкая прапаганда так ці іначай вялася, што — гэта таксама на млын немцаў?» Усё-ткі яўрэям мілей расійскі бот — мацней выспятка даваў. Званю Васілю. Кажу пра размову з Тарасам. І ён пацвердзіў, што тут Валянцін будзе ліць ваду на млын Чыкіна. Развітваючыся, кажу павіншаваць Ірыну Міхайлаўну з Калядамі, Васіль адказвае, што яна Каляды свае (яна ка-

---

[1] Гл.: «Ён не прарок, бо ён чужы…» (23.12.93) // Асобы рознай пробы. С. 5.

талічка) не святкуе, бо якраз на Каляды яе бабулю ў 37-м расстралялі ў Курапатах.

*25 снежня, субота*

Святыя Каляды! Усё-ткі мае Каляды й па-каталіцку, і па-ўніяцку сягоння. Нейкае святло ў душу ліецца.

*Калядніца*

Святыя Каляды.
Калеюць калоды.
Цяплеюць пагляды
Ад Боскай лагоды.

Каб свет не нудзіўся,
Блукаючы горка,
Хрыстос нарадзіўся,
Сагрэлася зорка.

Калядная зорка
Душу саграе,
Нібыта гаворка
Хрыстова жывая.

Ідзём, як з паходняй,
З крывіцкаю мовай
Дарогай Гасподняй
Пад зоркай Хрыстова!

Папрасіў мяне днямі святар Лявон Альгердавіч Ліпень напісаць нешта каляднае для кальвінісцкага збору беларускім дзеткам. Дык вот і напісаў гэты вяршок. Ліпень да рэзкага катэгарычны, але я люблю яго [...]. Калі выходзілі з хаты, ён у мяне запытаўся, а як у мяне з Богам? На іншага б пакрыўдзіўся, а на яго не магу — занадта прамы. Яшчэ й пра нечысць пісаў у святы дзень: «Апора: А камуніст — апора дыктатуры...» [у дзённіку].

Вечарам Дамінічка ў маім пакоі шчабятала, малявала. Паказвала на партрэты й пазнавала — Быкаў, Караткевіч, Купала. Пра Купалу раптам: «Купала? А можна пра яго спяваць? А калі ён прыйдзе да нас у госці?» Гледзячы на партрэт мамы маёй: «А вун Кулiначка, мая залатаінькая».

*26 снежня, нядзеля*

Дамініка з раніцы спявала: «Лебедзь кружыцца, як мяцеліца». Хадзіў да Пятра Ісаевіча з зубамі. Званіў Васілю. Ён пра карычневых: «Гэта проста чырвоная фарба выгарала ад старасці». Як і ВААП [УААП] (у нас

ён атрымаў цэлы паверх у новым доме), пошта, і сувязь, і Саюздрук — падраздзяленні КДБ. Цяпер палітыка высокіх цэнаў, каб не было сувязі з дэмакратамі з той жа Масквы. «Правда» і «День» будуць ісці рэгулярна. А астатняе — не.

Званіў святару Лявону Альгердавічу Ліпеню. Цікавыя рэчы распавядаў. Трэба будзе неяк падысці да іх.

*27 снежня, панядзелак*

На працы сустрэў свайго любімага Лявона Баршчэўскага. Якая чысціня, якая вышыня, які інтэлект! Чалавек полацкай зямлі. І гэта ўсё. У рэдакцыі быў сіямскі мудрэц Сіпачок. Ідзе да Б. Сачанкі працаваць. Разам будуць пляткарыць, займацца расстаноўкай кадраў. Сіпачка вабіць, відаць, зарплата. Вялікі перакладчык дзённіка дзядзечкі Хо[1]. Яшчэ трэба перакласці дзядзечкаў Ха й Ху, і даволі беларускаму чытачу, каб яго яшчэ меней стала.

На кінастудыі Цвяткоў прымаў фільмы. Пра Дубоўку цяпер завецца «Ля берага човен чакае мяне…». Прынялі добра. Рэжысёр [Галавецкі] малады, а значыць, таленавіты. Фільм пра БНР (75-я ўгодкі) неблагі. Шмат парт[…] Процькі, якая ў перадачы пра Купалу па тэле сказала, што ў Менску мала помнікаў крываваму Вовіку Леніну.

Задумалі Халіп[2] і Палякоў [фільм] пра Быкава ў выглядзе пытанняў герояў быкаўскіх аповесцяў аўтару. Пазваніў Васілю. Супроць хадульнасці. Прапануе вясной цэлы фільм зняць на возеры пры вогнішчы, пры туманку, пры сонцы каля возера. Напрыклад, каля возера Горадня — любімага ягонага. Там рэшткі паганскага капішча. Можа, яшчэ дубы захаваліся. Узроўе. Лес. Высвечваць твары, нараджэнне думкі. Мяне гэта ўзрадавала.

Пісаў чытачам «Мы и время»: «Товарищ!: Выбірай без перабору…» [у дзённіку].

*Аб'ява*

Я лепшы з найлепшых,
Я там толькі, дзе
Дол лаўравым высланы лістам.
І не ў БНФ я,

[1] Хо Шы Мін (сапр. імя Нгуен Тат Тхань; 1890–1969), дзяржаўны і палітычны дзеяч В'етнама і міжнароднага камуністычнага руху. Хо Шы Мін. Турэмны дзённік. Мінск: 1985. Пер. Я. Сіпакова.

[2] Халіп Уладзімір Трафімавіч (н. 1939), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, драматург. У 1987–1998 гг. кіраўнік студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» Кінастудыі «Беларусьфільм».

І не ў «Грамадзе».
Лічыце мяне камуністам!

Чытаў Васілю. Падабалася. Раіліся, дзе надрукаваць. Цікава, што «Свободные новости» пасля публікацыі пра Лужаніна, пра Грахоўскага не хочуць даваць. Відаць, гаспадары з КДБ (незалежнай ад КДБ думкі дужа мала) паківалі пальчыкам таму ж Уліцёнку[1]. Айзенштадт незадаволена матэрыялам Георгія Коласа пра Віт. Вольскага-Зэйдэля. Бо там Георгі даў толькі дваіх з пяці й двое яўрэяў фактычна. Генерал КДБ Віт. Вольскі быў з яўрэйскіх баронаў.

Прыйшоў сігнал «Беларусь мяне збеларушвае»!

*28 снежня, аўторак*

Прыходзіў Яўген Кулік. Гаварылі пра тыя прагаліны ў гісторыі нашае, якія трэба запаўняць і творамі. Між іншым, Яўген напомніў пра эпас. Беларускі эпас. А некалі даўно малады Караткевіч мне маладому прапаноўваў напісаць эпас. Цяпер, відаць, сілы не хопіць. А жаданне не згасла. Карціць.

*29 снежня, серада*

У нашай Ірыны Зудавай[2] дзень нараджэння 24-га, адзначалі сёння. «На дзень нараджэння» [у дзённіку]. Вечарам хадзіў да Навума. Папрасіў яго пачытаць рукапіс Скіра. Бо Навум добры стыліст і выключны знаўца расійскі (расійскае мовы). П'яны Куляшоў некалі распавядаў пра Твардоўскага. Ужо пасля вайны, калі Твардоўскі грымеў славай і звінеў грашыма, быў амаль іканапісны, з Сібіры ўцяклі брат і бацька. Жылі недзе пад Масквою. Бацька пераапрануўся жабраком, прыходзіў да сына, званіў, сын выносіў пачкі грошай і кідаў у бацькаву торбу, але ні разу ў дом бацьку й на парог не пусціў. Эпоха й пясняр эпохі.

*30 снежня, чацвер*

У выдавецтве сустрэча Новага года. П'яненькая адна пыталася, чаму ў мяне халодныя вочы. Што мне іх — падаграваць трэба? Мала застаецца працаваць. А наша рэдакцыя такая душэўная, хатняя.

*31 снежня, пятніца*

Ледзь знайшоў ялінку Дамінічцы. На Камароўцы — каб галінка. Званіў Васіль. Сказаў: «Ні радыё, ні газеты прыемных навінаў не перадаюць,

---

[1] Уліцёнак Аляксандр Леанідавіч (н. 1954), беларускі журналіст, грамадскі дзеяч. Заснавальнік і рэдактар газ. «Свободные новости» (з 1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[2] Зудава І., мал. рэдактар рэдакцыі збораў твораў і выбраных твораў.

адзін ты». Бо ў нас ужо ёсць карэктура апошняга, 6-га тома Збору твораў Васіля Уладзіміравіча. Хочам да юбілею выдаць увесь збор.

«Бурштынавы тост»[1].

Пазваніла Ілона з Пецярбурга. Голас нейкі загнаны, спалоханы. Абяцала прыехаць. І хлусіць, а хочацца ёй верыць. Гэта ж мая крывінка. Мая дачушка бедная.

Радасць Дамінічкі ад ялінкі пераўзышла ўсе мае ўявы. Шчабеча, вішчыць, крычыць, смяецца. Гэта нешта з прадоння свядомасці ў малых выплывае, жадае акрэсліцца. Невытлумачанае ўсё наогул у прыродзе чалавека. Бог ведае толькі.

[1] Гл.: Бурштынавы тост (31.12.93) // Евангелле ад Мамы. С. 240.

## Змест



УВАГА: У папярэднім выданні: Р. Барадуліна «Дзённікі і запісы. Выпуск 5. 1989–1991» (Мінск: «Кнігазбор», 2018) зноскі № 4 (с. 23), № 2 (с. 44), № 3 (с. 133) лічыць ПАМЫЛКОВЫМІ. А таксама: на месцы зноскі № 3 (с. 270) на асобу А. Казловіча павінны стаяць звесткі: Казлоў Анатоль Сяргеевіч (н. 1962), беларускі празаік і эсэіст. У 1990–1992 гг. заг. аддзела публіцыстыкі і нарыса час. «Полымя», у 1992–2003 гг. заг. аддзела прозы час. «Маладосць». Сапраўдныя даты жыцця А. В. Вольскага (1924–2002; с. 139).

Укладальнік прыносіць свае прабачэнні *(Н. Давыдзенка).*

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**
*Выпуск 6. 1992–1993*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, І. Сляповіч*

Падпісана ў друк 14.05.2019. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. 14,30 арк.
Ум. друк. 23,01 арк. Наклад 120 асобнікаў. Зак. 179.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.




Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з’яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org




Міжнароднае грамадскае аб’яднанне «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by